РАМАН
АБ
ТРЫВОЖНЫМ
МАЛЕНСТВЕ

МУЛЯР
ПРА СВАЙГО ТАВАРЫША

СТАРОНКІ
ЖЫЦЦЯ
ЯКУБА КОЛАСА

РОЗДУМ
АБ
ЛІРЫЧНАЙ ПРОЗЕ

ДА
ЖЫЦЦЯПІСА
АКАДЭМІКА КАРСКАГА

ХАКЕЙ
У ГАРАЧЫ ЖНІВЕНЬ

ЯК ЛЮДЗІ
НАВУЧЫЛІСЯ
ПІСАЦЬ



10

КАСТРЫЧНІК

Мінск 1966

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**Заснаваны ў 1953 годзе** — **№ 10 КАСТРЫЧНІК 1966**

Выдавецтва «Звязда»

## У НУМАРЫ:

Вокладка **Г. Скамарохава.**





**Вера ВЯРБА**



# ЯБЛЫНЯ

**Я хацела пасадзіць яблыню**
**белую-белую**
**Ля хаты на кручы высокай,**
**Каб сонца і яблыня**
**парой сціпэлай**
**Глядзеліся ў вокны.**
**Дзе той дом,**
**у якім шукала спакою,**
**Салаўіныя гаі,**
**вясновыя спевы?**
**Прытуліўшыся**
**дзіцячай шчакою,**
**Стаю ля дрэва.**
**Мары пераблыталіся з яўным.**
**На далёкім прадвесні**
**Засталася ты,**
**мая яблыня,**
**Лебядзіная песня.**

●

Яшчэ нічога не сказана
Аб самым сваім,
галоўным.
Ісціна —
вочы завязаны —
Абыходзіць з кубкам поўным.
Яшчэ нічога не пеpажыта.
Кожны раз адкрываеш нанова
І зямлю гэтую,
і дрэва,
і жыта,
Адкрываеш новыя словы.
Адкрываеш чалавека іншага,
Якога не ведаў дагэтуль,
І хочацца ператварыцца ў вішню,
Абсыпаную першацветам.
О, шчасце маладосці дзіўнае!
Глыбокае, як неба.
Сэрца працягваеш наіўнае,
Бы лусту хлеба.

## Я СУМУЮ ПА МОРЫ

Калі пачынаецца мелодыя
Птушынага хору,
Калі горад настоен водарам
Летняга бору,
А лета
яшчэ не надыходзіла,
Я сумую па моры.
Я сумую па моры,
як рыба глыбінная,
Я сумую па колеру
зялёна-сіняму,
Я сумую аб часе,
што адмервае маятнік прыбою,
Я сумую аб шчасці,
калі стану сама сабою.
Я сумую па моры,
па забыцці,
Якое прыходзіць так рэдка ў жыцці,
Калі выблытваешся з былога,
як з павуціння,
Выплываеш новай лодкай у пуціну.
Выплываеш у хвалі,
У зялёныя далі,
Ад берагу гарачага,
Ад кахання страчанага.
Я сумую па моры,
як птушка па дому,
Сумую сумам па ўсяму зямному,
Што прыходзіць і адыдзе,
у зямлю ляжа,
Пра што мы не ведаем,
а мора не скажа.
Я так люблю свой горад!
І — сумую па моры...

●

Калі пачынаецца каханне? —
Наіўнае пытанне!
Хто ў гэтым разумее?
І я сустракаю,
чакаю,
забываю,
І, пэўна,
кахаць не ўмею.
Толькі думаю
(з якой прычыны?)
Пра чалавека —
з такімі сумнымі вачыма.
Чаму я нарадзілася так позна!
Аб вайне мне расказваюць абеліскі.
Васільковым полем
у кананаду грозную
Прайшла дзяўчына ля маёй калыскі.

●

За ўдзячнасць гэтае сустрэчы,
За асалоду пачуцця
Пражыта столькі недарэчных,
Балючых дзён майго жыцця.

Я назаву сябе шчаслівай
За праблiск сонечны надзей.
Ёсць у кахання справядлівасць,
Якой не знойдзеш у людзей.

Ёсць у кахання паслядоўнасць
І глыбіня, і вышыня.
А мы так любім павярхоўна
Ў турботах сённяшняга дня.

Страх не дарэмна сэрца мучыць,
Што памыляешся часцей.
Я знаю: ты мяне навучыш
Быць і сур'ёзней, і прасцей.

І будзе мне з тваім каханнем
У колькі раз пражыць цяжэй.
Ты гэтым толькі мне жаданей,
Бо шчасце з горам даражэй.

Алесь СТАВЕР



# ПАД КАНВОЕМ

Раман

Мал. **Ф. Бараноўскага**

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

Маці ніяк не магла ўцяміць усяго таго, што так нечакана здарылася.

Яна сядзела на купіне, босыя ногі былі ў ліпкай зялёнай твані, іх пякло, рукі і твар джалілі камары. Яна, здаецца, нічога не чула. Яе не палохалі зыркія ракеты, якія час ад часу крэмзалі цёмнае, мутнае, як балотная вада, вячэрняе неба. Яна толькі ўзнімала галаву і ледзь уздрыгвала, калі недзе каля Вускрам'я гухкала нямецкая гармата і снарад, разануўшы над лесам, узрываўся зусім блізка. Але страху маці не адчувала. Яе гнялі цяжкія думкі. Дзе сыны? Дзе яны, мілыя, любыя хлопчыкі?..

Яна цяжка ўзняла галаву, паглядзела навокал — на кусты, на чорныя выбоіны, на траву. І на траве і на лістах алешніку цямнелі кроплі гразі, кусты былі паламаны: тут толькі што прайшла аблава.

Позірк маці міжволі спыніўся на цёмнажаўтаватай пралысіне ў траве. Мураўіны шлях... Маці спачатку безуважна глядзела, як мурашкі заклапочана і мітусліва снавалі па стаптанай траве. Але неўзабаве нейкая незвычайная цікавасць, выкліканая мітуснёй мурашак, ледзь-ледзь наблізіла маці да рэчаіснасці.

«Куды яны спяшаюцца? Перасяляюцца, мусіць?..» — падумала маці і павяла позіркам па мураўіным шляху ўправа. Крокі за два ад сябе, у кусце крушыны, яна ўбачыла высокі і шурпаты, як яловая шышка, мурашнік. Крушыннік за гэтыя два дні людзі пратапталі, ён асеў у гразь, мурашнік падмок, і таму жыхары яго рашылі перасяліцца. А куды ж яны? Маці паглядзела ўлева і ўбачыла, што пралысіна ідзе між кустоў і канчаецца паміж маладых сасёнак. Там сушэй. Хаця ж і там — балота... І колькі пакручастых дарожак пройдуць мурашкі, пакуль дойдуць да сушэйшага месца...

Маці цяжка ўздыхнула і з нейкай асаблівай увагай зноў абвяла позіркам лес. Ёй кінуліся ў вочы белыя прысадзістыя бярозкі-харашухі. У тых мясцінах, дзе куля прабіла альбо параніла іх, пеніліся сокам. З бярозкамі перапляталіся купчастымі галовамі алешыны, між якімі гонка высіліся крушыніны, набухлымі пупышкамі будучага суквецця, бы напаказ, выстаўляліся рабіны. Над усёй гэтай зелянінай магутныя кашлатыя яліны, сівыя, як мудрацы, таямнічыя і непасягальныя ў сваёй вечнай маўклівасці.

Зелянець бы вечна вось так і расці гэтаму лясному царству... Дык жа гэтае прарэзлівае шаргатанне снарадаў, гэтыя жудасныя выбухі, гэтыя глыбокія чорныя сляды чужынцаў на гразі, жывыя раны на целе дрэў і бясконцая неўтаймаваная мітусня мурашак.

Можа таму магутныя яліны мерна пакалыхвалі шапкамі, нібы з дакорам,— і як маці здалося,— быццам і яны, як жывыя, таксама абураны тым, што так многа непатрэбнага і нядобрага творыцца на зямлі.

Думкі маці вярнуліся да ранейшага, трывожнага і балючага, і сталі яшчэ больш пакутлівыя і цяжкія.

«Як мае там хлопчыкі цяпер у гэтай неразбярысе?..— з болем падумала яна.— Дзе яны?! Дзе Коля? Дзе Шура? Дзе Юрка?..»

З думак маці не выходзіў той момант, калі хлопцы кінуліся ўрассыпную ўцякаць ад фашыстаў. Чаму яна не папярэдзіла іх, каб не разбягаліся? Аб гэтым яна падумала толькі цяпер.

І яна зноў і зноў уяўляла Колю, Шуру і Юрку, калі яны ішлі сюды, у Ельнік. Вось яны бягуць перад ёй адзін за другім. Босыя ногі вязнуць у жоўтую гразь, па твары сякуць дубцы алешніку, бярэзніку. Зрэдку стрэнецца сасна: там сушэй. Колькі крокаў па пульхным, мяккім дзірване, і — зноў гразь, гразь цяжкая, ліпкая, патыхае гнілатою. Прыходзіцца нізка згінацца пад высокімі ялінамі: густыя лапкі перашкаджаюць бегчы.

Коля, самы большы, бяжыць наперадзе, за ім Шура, потым Юрка, самы меншы. Юрка часта спатыкаецца і — рукамі ў гразь да локцяў... За плячыма ў Колі і Шуры хатулі. У Шуры хатуль лягчэйшы, чым у Колі, але намнога большы: увесь час з'язджае з пляча. Шура на хвілю прыпыніцца, паправіць, але праз імгненне хатуль спаўзае на бок. Маці хоча спыніць Шуру, перавязаць яму хатуль, ды нельга: сцежка вузкая, ззаду бягуць людзі. Сысці ўбок, адстанеш ад кагалу — тут няцяжка і згубіцца ў гэтым балоцістым лясным гушчары.

Бегчы было б лягчэй, калі б на сцежцы былі толькі людзі. Мужчыны вядуць за аброць коней, жанкі — кароў. На коней і кароў нагружаны мяшкі, пасцілкі. Між іх — дзеці, грудныя, двух-, трохгадовыя,— усе, хто не можа бегчы па гэтай ліпкай, чорнай, як дзёгаць, гразі.

Шура выцірае з ілба пот, на хаду расшпільвае кажух. Лета, а ён у кажуху... Днём у кажуху — душна, затое ўначы — хораша, цёпла. Калі на ўзруб'і разбіралі вазы і хавалі пад карчы — куды восі, куды колы, куды аглоблі, збрую таксама схавалі там — Шура не хацеў браць кажух. Але яна, маці, сказала, што ў лесе ён не перашкодзіць.

Усе апраналі, што хто мог. Залоўка Сарафіна дык аж пяць спадніц на сябе нацягнула — няхай не прападае адзежына. Яна бегла недзе ззаду. Маці чула, як яна ўскрыквала, пляскаючыся ў гразь. Сарафінін малы Алёшка едзе, прывязаны, на карове, Піліп, большы, і сярэдні, Міколка, бягуць за ёй.

Маці бачыла, як Шура на хаду адарваў некалькі воўчых ягад, узяў у рот. Адзін раз Шура адвярнуўся, паглядзеў на маці. Яна бачыла, што пот ліўся з яго твару градам.

Маці стала вельмі шкада Шуру. Але як яна магла яму памагчы? Не возьмеш на рукі — не маленькі... А бегчы трэба. Толькі — куды?.. Ці доўга яшчэ? Маці ведала, што рынуліся ўсе ў глыб лесу, бліжэй да ракі Бярозы. А ці далёка гэта? У гэтым напрамку рынулася некалькі сямей. Некалькі спынілася, адбегшыся недалёка ад узруб'я:

* Раман друкуецца са скарачэннямі.

рашылі пачакаць, прыслухацца. Астатнія яшчэ ўчора разабралі вазы і пайшлі ў бок Ваўчы.

— Мужчыны! Гэ-эй! Чаго перціся? Адхаўкаемся! — раптам недалёка ад маці азваўся Андрэй, які чамусьці меў вясковую мянушку Брэйт. Энергічны, хударлявы, ён выдзяляўся сярод іншых маргаўчан сваім спрытам, а таксама стараўся быць разважлівым і памяркоўным.

— Прысядзем, адпачнем, абмазгуем...— сказаў Андрэй і спыніўся на купіне, ля тоўстай смалістай яліны.— Ты, падла! Сaступіся! — штурхнуў ён у бок худога буланага коніка.

Людзі садзіліся дзе папала — на корч, на карэнні, на вываратні. Шура спыніўся ля зваленай трухлявай тоўстай яліны, прысеў. Маці апусцілася побач з ім. Сеў і бацька. Вярнуўся Коля — ён забег далёка ўперад — дужэйшы, большы. Не было толькі Юркі. Ён недзе знік.

— А вунь ён жарабочка ловіць...— сказаў Коля.

Калі Першая антыфашысцкая партызанская брыгада Радзіёнава ў снежні 1943 года ішла ад Вілейкі ў Чашніцкі раён, Коля з Юркам злавілі шустрага жарэбчыка, які, відаць, адбіўся ад маткі і, збегаўшыся, надрыўна рзаў і кідаўся каля вёскі. Цэлую зіму яны даглядалі яго, а як пачалася блакада, не схацелі аднаго пакідаць у вёсцы. Вадзіцца з ім узяўся Юрка.

— Пусці яго, сын, да нашага Сіўца,— паказаў бацька на невялічкую паляну, куды высунуліся коні і каровы.

— Скаціну ў кусты заганіце: самалёт замеціць! — пачула маці побач з сабой трывожны голас Пакаміся, швагра Мікалая Падусухі.

З першай сусветнай вайны прынёс ён дамоў гэтае слова і заўсёды замест «пакуль» казаў «пакамісь». Яго за гэта ў Маргавіцы ніхто па імю і не называў, а звалі проста — Пакамісь.

Мікалай Пакамісь і Андрэй Брэйт схапілі дубцы і кінуліся да жывёлы. За імі Шура з Колем. Затрашчалі галіны, захрумсцела трава, зачвякала гразь — коні і каровы былі ўжо ў чашчобе...

Хто дзе — на купінах, на карчах — людзі сядзелі доўга. Сядзелі, маўчалі...

Сонца падбіралася ўжо да паўдня. Было ціха. Лес не абстрэльвалі. Толькі недзе далёка сакаталі кулямёты і гухкалі гарматы.

— Што будзем рабіць? — азваўся проста так да ўсіх Пакамісь.

— Нада быць напагатове,— адказаў Брэйт.— Праслухаем, дзе што робіцца... Дый пададзімся бліжэй да ўзруб'я, пад Вускрам'е ці пад Ваўчу.

— Андрэй! Пахадзіў бы ты тут непадалёку, разгледзеў усё: дзе? як? Можа і тут перасядзім...— загаманілі жанкі.

— Яно так, — падтрымаў іх Пакамісь.— Пакамісь куды ісці, дык агледзецца добра нада.

— Гэта можна,— узняўся Брэйт.— Толькі вы тут будзьце. Калі што — я прыскочу...

І Брэйт знік у чашчобе.

А праз хвіліну ўсё закруцілася, завярцелася навокал. З гэтай жахлівай хвіліны маці мала што помніла, мала што цяміла, хаця ўсё жахлівае адбылося сёння, нядаўна, толькі што. Помнілася, быццам нехта страшным, немым голасам крыкнуў: «Немцы!» Здаецца, Андрэй Брэйт крыкнуў... А потым усе — і малыя і дарослыя — раптам сарваліся з месца, нібы іх магутным выбухам падкінула, пабеглі хто куды. Затрашчала, загуло балота...

Маці помніла, як на імгненне між кустоў яна ўбачыла чорны Шураў кажушок.





— Шурачка! Сынок! Будзь са мной!

Але Шура, мусіць, не пачуў, бо не аглянуўся, не спыніўся, а яшчэ шпарчэй сігануў у гушчар. А потым...

Маці не змагла бегчы: падгіналіся ногі. Асунулася каля карча. Заплакала...

У балоце раптам на момант стала ціха-ціха, як перад бурай. Нібы ўсё вымерла раптоўна. Нават лісце асін і бярэзніку не шавялілася... Так было... ці так маці здалося? Яна жахнулася ад гэткай нямой цішыні. І раптам зноў стрэлы... Блізкія. Гучныя. І крыкі... непанятлівыя... чужыя. І тады якраз над ёй нахіліўся Сяргей, муж. Яна спачатку не пазнала яго. Твар ягоны быў белы, як палатно. Вочы гарэлі якімсьці жахлівым агнём, бегалі. Рот раскрыты. Зубы цахкалі. Губы,— збялелыя, ні крывіначкі,— дрыжалі.

— Бяжы, Хрысціна... дагоняць! — крыкнуў Сяргей затоена, з жахам, і паспрабаваў падняць яе за плечы.

Матнула цяжка галавой:

— Не, Сяргей... Не магу... Абрываецца сэрца... Няхай нас зловяць... Каб толькі хлопцы ўцяклі...

Карова густа дыхнула на яе, памкнулася лізнуць шчаку.

— На чорта табе цялуха, Сяргей...— адмахнулася маці.— На чорта табе... Нада было табе хлопцаў глядзець...

Сяргей прамаўчаў, палахліва азіраючыся вакол, пільна ўглядаючыся ў гушчар.

— Пабяжым, Хрысціна... Пабяжым... Нас злавіць тут могуць.

— Няхай зловяць. Не магу... Ногі адняліся...— у знямозе прашаптала маці.

Яна паспрабавала ўстаць, але Сяргей штурхнуў яе ў плячо і сам шлёпнуўся каленямі ў гразь і адразу лёг ніцма ў карычневую ад іржы лужыну...

— Хавайся... Ідуць...— прашаптаў ён і адламаным вострым канцом палкі пырнуў карову пад пахвіну.

Жывёліна рванулася ўбок і плюхнулася ў вялікую цёмную лужыну, нібы таксама зразумела, адчула небяспеку і схавалася...

Маці пахіснулася на бок і ўраз убачыла, як між ялін мільганула зялёная постаць... Адна... Другая... Далей таксама ішлі: трашчала сучча, хлюпала гразь... Блізка, побач, прaракатаў аўтамат... Кулі, як восы, упіліся ў яліны. Пасыпалася кара. Трэск, хлюпанне хутка аддаляліся. Зноў прaракатаў аўтамат. Але ўжо крыху далей, чым першы. Потым хлюпання і трэску не стала чуваць. Прагучала чужая, рэзкая гаворка... Потым зноў гулка праляскатаў аўтамат. Зноў ціха. І зноў стрэлы, але ўжо далекавата...

Бацька ўзняўся, сеў побач.

— Кажыцца, прайшлі... О, свалата!..

— Што? — азвалася маці.— Яны ж пайшлі туды, куды хлопчыкі нашы пабеглі...

— Дзе там... Можа звернуць яшчэ. Яны ланцугом пайшлі — вот бяда.

Памаўчалі, прыслухоўваючыся.

Стралялі далёка ўжо.

Магутны гул бамбавозаў раптам заняў балота, і яно, здаецца, задрыжала, загуло ад рокату матораў. І маці ўбачыла раптам, як цераз яе, кругом яе, паводдаль яе па Ельніку сiганулі распластаныя чорныя крыжы — цені ад бамбавозаў. Маці не ўзняла галавы, не глянула на бамбавозы, але адчула: прайшлі яны нізка-нізка,— аж дрэвы зашамацелі, як бы крыламі краналіся іх... І адразу за ракой Бярозай, каля Паліка можа, тупа завухкалі ў балоце частыя выбухі. Маці ніколькі не збаялася ўсяго гэтага,— не раз было такое. Але і гул бамбавозаў, і тупое вухканне прайшлі праз яе душу і нібы выхапілі, забралі з сабой многае з перажытага раней, даўней, абабілі ўсё другараднае, і маці пачала думаць цяпер толькі пра адно: дзе яе сыны? Ці жывыя яны хаця зараз? Дзе хлопчыкі?.. І як жа яна не ўгледзела іх? У яе ж пяць сыноў было. Першы, Уладзімірка, памёр яшчэ году не было, перад калгасамі яшчэ. Тады нарадзіліся Коля і Шура. Вечна работай была забіта, Шуру ў жніво на полі прычакала. У прыполе дамоў прынесла... А меншы, Юрка, знайшоўся, як калгасы пачыналіся. Траіх узгадавала. Перад вайной яшчэ знайшоўся адзін сынок, Іванька. Разумны хлопчык быў. Не дагледзела. Два з палавінай гадкі было, як памёр...

«Няхай бы і я з Іванькам тады памёрла...— цяжка ўздыхаючы, падумала маці.— Не знала б ні гора, ні балота гэтага... Няма як жыць, няма як...»

Бацька таксама мучыўся ад таго, што няма хлопцаў. І каб крыху адвесці пакуты, ён стараўся заняцца чым. Уставаў, хадзіў глядзець, ці добра навязана карова, хаця і так яно бачна было. Тупаў навакол па трысці, па карчэўю, шукаў сушэйшае месца, хаця ведаў, што калі б і знайшоў яго, то ніхто туды не пойдзе. І потым зноў садзіўся на гнілое бервяно. Нават адламаў гнілую плашку, пастукаў канцом палкі па сэрцавіне і, адчуўшы моц дрэва, разважыў, што ў Ельніку расце добры лес для будоўлі. Але такая думка мільганула імгненна, і ён нават папракнуў сябе, што з'яўляюцца такія думкі ў гэткую ліхую часіну, і зноў пачаў думаць пра сыноў. Але тое, што здумалася пра лес, пра будоўлю, ужо было неадчэпным. Само сабой прыгадалася, як зімой ён з Шурам валіў сосны на хату. Прыгадаў выпадак, калі Шуру ледзь не забіла сасна. І як гэта выйшла тады?.. Толькі яны падрэзалі сасну, адбегліся — Шура ў адзін бок, бацька ў другі,— як раптам бацька ўбачыў Шуру пад камлём спіленай сасны. Аказваецца, яна папала наперакос між двух сасонак. Камель далёка занясло ўбок, і — падмяла Шуру. Адкуль тыя сілы браліся і як не надарваўся бацька, калі падняў камель. З-пад камля выпаўз Шура. Жывы. Цэлы. Толькі нагу абадрала — дома агледзелі... Э-ха... Нанесла гэта вайна гора і малым і дарослым. А тут яшчэ і сам многа лішняга рабіў... Перад самай вайной пачалі будаваць істопку і канец пуні — прыбудоўка да хлява. Нахлынула вайна. І на чорта было канчаць гэтыя пабудовы... Дык не. Цягаўся з лесам, закончыў, а праз год усё з дымам пайшло...

Бацька пацёпаў плячыма. Нямала цяжару прыйшлося знесці гэтым плячам. Перад калгасамі жаніўся ён, аддзяліўся — будаваўся. Сястры Сарафіне будавацца памагаў. Потым істопка і пунька. Усё ж гэта трэба было ўзяць ды ўзяць... Бацькавы далоні былі грубыя, тоўстыя, скура была, як на ступні.

«Адхлыне блакада. Дасць бог, перажывём вайну, прыйдуць нашы, і зноў будавацца нада будзе...— падумаў бацька.— Каб толькі сынкі вярнуліся...»

Думкі зноў ішлі ў адным кірунку. Колькі гора перанеслі! А каму гэта патрэбна было?.. Знішчыла гэтая саранча ўсё... І коней сагналі, што ў Ельніку маргаўчане пакідалі. Мусіць, ніводнага каня ў Маргавіцы не засталося... Нашы прыйдуць, і як без коней разводзіць гаспадарку?.. Саматугам прыйдзецца. Рыдлёўкамі поле ўскопваць прыйдзецца. Грамадой сходаем... Бацьку ўспомнілася, як да вайны

грамадой карчавалі на Масцішчы лес, звозілі каменне. Усё ўручную. І такую дзялянку — мора выкарчавалі! Лён і грэчка там потым трубой віліся...

Што б ён ні думаў, то ўсё роўна яго думкі сыходзіліся да сыноў. Бацька яшчэ доўга, апусціўшы галаву, сядзеў на карчы, разважаў, як і дзе шукаць сыноў.

З бярэзніку раптам выйшаў босы, абарваны хлапчук, без шапкі.

— Ці відзілі дзе маю маму? — горка спытаў ён.

— Не, не відзілі,— адказала маці.— А як жа ты астаўся ад яе?

— Як немцы ішлі, мы разбегліся... Яны стралялі па нас... І я не знаю, дзе мая мама дзелася...— стрымліваючыся, каб не заплакаць, ціха прамовіў хлапчук.

— Дык будзь з намі, дзіця,— сказала маці.

— Не. Пайду іскаць сваю маму.

І хлапчук знік...

— Чыё гэта дзіця? — спытаў бацька.

— Кажыцца, з Бераснёўкі. А чыё — не знаю,— адказала маці.

— Ох, людцы мае, людцы! Якое гора найшло на нас...— цяжка ўздыхнула яна.— Колькі людцаў па свеце басцяюцца. Дзеці ішчуць бацькоў, бацькі — дзяцей. І кожны дзень гэтак... Недзе гэтак, можа, і мае хлопчыкі ходзюць і ішчуць мяне...— і яна заплакала наўзрыд.

— Хрысціна, што ты... Не нада. Пасівела ты... Пашалей самую сябе,— пачаў суцяшаць яе бацька.— Можа блакада скора скончыцца... Дасць бог — увідзім сваіх сынкоў...

— Дзе ж мы іх увідзім?..— ціха прамовіла маці.— Сколькі людцаў найшло сюды, а іх няма...

Маці ўсё магла дапусціць. Можа хлопцы далёка збеглі, можа з кім бадзяюцца па лесе, можа заблудзіліся дзе. Толькі не маглі яны папасці да немцаў. Усёй сваёй мацярынскай істотай яна не хацела гэтага, старалася не думаць аб гэтым, урэшце — не верыла, што так можа здарыцца...

«Дзе ж яны будуць адны? — думала маці.— Нічога не відзілі, нідзе не былі: ці сумеюць найці выхад, калі дзе адны апынуцца? Няшустрыя такія... Ды ўжо й няхітрыя зусім...»

Маці ў думках гаварыла з Колем, Шурам і Юркам, лагодзіла іх, жадала ім толькі шчасця.

Яны стаялі перад ёй, як жывыя.

Вось старэйшы з іх, Коля. Яму васемнаццаць год. Кругленькі, нізкаcontainerрослы. За гэта некалі вясковыя хлапчукі дражніліся, называлі яго Пупсікам. Маці вельмі злавалася і не раз сварылася на іх. Затое як рада была яна, што Коля быў не па ўзросту залішне сталы. Больш Коля гнаўся за бацькам, любіў мужчынскія работы. Маці яго ўжо не чапала — няхай вучыцца гаспадарыць. І бацьку аднаму цяжкавата — няхай Коля слухаецца бацьку і памагае яму...

Шура быў не такі. Ён больш маці слухаўся і памагаў ёй. Бывала, і пасуду памые, і ў хаце падмяце, і нават жыта жаць памагаў ёй. І так спрытна ў яго руках серп хадзіў — усе ў Маргавіцы дзівіліся. Маці была рада за Шуру. Не было ў яе памочніцы,— хлопцы нарадзіліся,— дык хоць адзін ёй паслухмяны быў.

Толькі ўжо надта далікатным Шура ў сям'і лічыўся. У ядзе пераборлівы быў. Набралася маці клопату з ім, пакуль крыху выцягнуўся, памацнеў... Як жа ён там будзе цяпер?.. І хваробы да Шуры чапляліся, як дзядоўнік да штаноў...

А больш за ўсё маці непакоілася за Юрку,—той зусім дзіця яшчэ,— як ён дзе, бедны, маецца?..



Бацька ўзняўся, пахадзіў паблізу. А як вярнуўся, дык расказаў маці, што бачыў некалькі маргаўчан і бягомльцаў. Ён пытаўся ў іх пра дзяцей — ніхто нідзе не бачыў ні Колю, ні Шуру, ні Юрку...

Маці яшчэ больш загаравала...

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

У той страшны дзень Шура ўвесь час быў у нейкім незвычайным напружанні. То яму здавалася, што муліць плячо рубец кашулі, то каўнер ціснуў горла. То раптам яму здаўся цяжкім кажух, і Шура са злосцю кінуў яго на корч. Расшпіліў каўнер кашулі. І адразу плечы абсыпала плойма камароў. Сацін быў вынашаны, разрэджаны, і мноства як бы іголачных уколаў апяклі плечы, грудзі.

Шура зварухнуўся, апрануў кажух, захінуўся, сеў на купіне.

Наўпроць пад ялінай сядзелі Коля і Юрка. Бацькі побач не было. Ён воддаль, у кустах, пасвіў каня і карову.

Маці парадкавала хатулі — падлажыла пад іх ламачча, каб не замачыліся, падышла да Шуры, села побач, пагладзіла яго па галаве.

— Гляджу я на цябе, сынок, і нешта цяжка мне на сэрцы робіцца...— усхліпнула яна.

Шура засаромеўся і зазлаваў — ён не любіў, калі маці выказвала да яго такую слёзную пяшчоту...

Ён павольна ўзняўся і пайшоў да жарэбчыка, які стаяў ля густой алешыны і боўтаў галавой у куст, бaронячыся ад камароў. Жарэбчык уткнуўся мордачкай у Шуравы грудзі, потым шыяй пачаў церціся аб кажух.

Побач стаяў Андрэеў конь. Ён не скуб траву, а стаяў, узняўшы галаву, і, як здалося Шуру, спуджана глядзеў у той бок, куды пайшоў Андрэй. «Сумуе, відаць, па гаспадару»,— толькі паспеў падумаць Шура, як раптам з гушчару выскачыў сам Андрэй. Кашуля на ім была расхрыстана, твар збялелы. Ён хаўкнуў ротам, нібы захліпаючыся, і крыкнуў:

— Немцы!

Шура адчуў, як у твар ударыла гарачыня, ногі самі адарваліся ад зямлі. Рынуўся ўперад, пераскочыў некалькі купін і, абдзіраючы аб галлё твар, рукі і ногі, пабег напрасткі. Спачатку бачыў і чуў: з бакоў, ззаду, перад ім беглі людзі, жывёла. У нетрах трашчала, нібы ішоў буралом. Шура не бачыў, дзе бацькі, дзе браты... Ён раптам змеціў збоку ад сябе вялікі куст маліннiку. Мільганула думка зашыцца туды. Сігануў убок, зачапіўся за корань і паляцеў потарч у гразь. Хуценька ўзняўся, ступіў і праваліўся да пояса ў дрыгву. Выбраўся, кінуўся ўправа. Наперадзе затрашчала галлё, мільганула жахлівая постаць. Шура спыніўся, ногі адзервянелі, сталі цяжкімі, стопудовымі, не падняць, нібы ўраслі ў зямлю...

— Хальт! Хэндэ хох!

З-за куста выйшаў здаравенны фашыст у зялёным плямістым маскіровачным халаце, з аўтаматам, прыстаўленым да жывата, у гумавых ботах вышэй кален...

Хвіліну Шура стаяў, як укапаны. У вачах замітусіліся, забегалі зялёныя, сінія кругі. Фашыст, убачыўшы, што перад ім хлапчук, не рынуўся да Шуры, а пайшоў павольна, з цяжкасцю выцягваючы ногі з гразі. У руцэ ў яго быў даўгі лазовы дубец. Раптам збоку шаснулі кусты, захрумстала гразь — прама на фашыста наляцелі дзядзька

Мікалай, Андрэй і некалькі хлапчукоў. Ад нечаканасці яны аслупянелі. Фашыст крута павярнуўся і з размаху трэснуў лазовым дубцом дзядзьку Мікалая па галаве. Дзядзька Мікалай пахіснуўся, прысеў... Фашыст — адкуль у яго браўся гэткі спрыт — коршунам кінуўся на Андрэя. Той засланіў твар правай рукой, і ўдар дубца прыйшоўся па руцэ...

Шура,— нібы штурхнуў хто яго,— кінуўся назад, пераскочыў цераз дзве калдобіны і, адчуўшы моцны ўдар у грудзі, падляцеў уверх, чмякнуўся ў гразь.

— Хальт!

Перад Шурам стаяў фашыст, не той, грузны, малады, нізкаваты, а другі, худы, з абвіслымі мяшкамі пад вачыма, старэйшы і крыху вышэйшы за першага. Ён быў таксама, як і першы, у зялёным плямістым халаце, у гумавых ботах вышэй кален. На грудзях вісеў аўтамат. У руцэ ў фашыста быў таксама даўжэзны дубец. Фашыст стаяў перад Шурам, як прывід...

Ад разгубленасці Шура не бачыў, што збоку ад яго стаяў і другі, і трэці фашыст, і чацвёрты. І многа яшчэ. Ён не бачыў, што злавілі не толькі яго, дзядзьку Мікалая, Андрэя і іншых хлапчукоў,— злавілі і многіх іншых аднавяскоўцаў — жанчын, дзяцей. Усё адбылося вельмі хутка, імгненна. Ён убачыў аднавяскоўцаў толькі тады, калі фашыст, штурхануўшы яго, паказаў яму ісці. У лесе трашчала — фашысты ганяліся за людзьмі і білі дубцамі. Людзі кідаліся хто куды, правальваліся ў гразь, фашысты даганялі іх і збівалі. Некаторыя хаваліся пад карчы — іх выцягвалі і білі. Фашыстаў было вельмі многа — сышліся два сустрэчныя ланцугі. За мужчынамі, якія спрабавалі ўцякаць, гналася два-тры фашысты. Нарэшце ўсіх стоўпілі ў гурт, акружылі і пагналі шпарка, подбегам. «Што з намі зробяць?..» — трывожна шапталі жанчыны. Малыя дзеці ледзь спраўляліся ісці за маткамі. Мужчыны, збітыя фашыстамі, таксама адставалі. Фашысты падганялі іх злосным гырканнем, ударамі дубцоў і прыкладаў.

— Шнэль! Шнэль, партызан!

Шура бег збоку. Перад ім, сагнуўшыся, таптаў балота дзядзька Мікалай. Справа ад дзядзькі спяшаўся Андрэй. Правая рука яго была ў крыві.

— Шнэль! Шнэль! — падганялі фашысты. Яны таксама ішлі подбегам, дубцамі краталі дрыгву, абапіраліся, нешта ўсё гергеталі.

Гушчар расступіўся, і перад людзьмі адкрылася нешырокая, але доўгая лугавіна, перарэзаная ўдоўж рэчкай.

— Ваўчэнская рэчка...— сказаў дзядзька Мікалай.

Шура ішоў упрытык за дзядзькам.

Ля рэчкі Шура ўбачыў многа жанчын і дзяцей. Іх злавілі раней. Калі падышлі бліжэй, Шура пазнаў многіх аднавяскоўцаў. Але больш былі з іншых вёсак — Вускрам'я, Брадка, Ваўчы. Былі тут і жыхары Бягомля. Людзі стаялі, панура апусціўшы галовы. Плакалі дзеці, маленькімі кулачкамі мурзаючы па твары...

— Сюра! — пачуўся раптам дзіцячы голас.

І хоць Шура не бачыў, хто яго аклікнуў, але па голасе адразу пазнаў меншага брата Юрку. Гэта ён картавіў. Некалі малым яшчэ зваліўся з услону, спалохаўся, ад таго і пачалося...

Юрка кінуўся Шуру на шыю і горка заплакаў.

— Дзе мама, тата? — спытаў яго Шура.— Тут?

— Няма. Не ведаю. Я згубіў іх у лесе.

— А Коля? І яго тут няма?

— Няма і Колі... Можа, забілі?..— захліпаў Юрка.



— Кінь румзаць! І не гавары абы-што! — узлаваўся Шура.

Бераг страсянуў гром станковага кулямёта, кулі са свістам прайшлі над галовамі людзей. Заглох на хвіліну дзіцячы плач...

— Зэццэн алес! — крыкнуў фашыст.

Людзі борздзенька паселі на мокры бераг. Садзіліся надзвычай таропка, нібы даўно думалі гэта зрабіць, ды забыліся, а зараз стараліся як мага хутчэй выправіць сваю памылку. Старыя жанчыны хрысціліся і шапталі малітвы. Гучна заплакалі дзеці.

Шура з Юркам селі каля самага берагу.

У абодвух канцах лугавіны, як акінуць вокам, была процьма фашыстаў. Яны галёкалі, лавілі коней і кароў, што выбягалі з лесу, іншыя, распрануўшыся да пояса, мыліся ў рэчцы.

Чатыры фашысты заляглі з ручнымі кулямётамі. Загаласілі жанчыны. Некаторыя дарослыя пачалі развітвацца.

Падбіраўся вечар. Ад лугавіны патыхала холадам. Над рэчкай задрыжаў туман. Дрэвы пачалі зліваццa ў адну суцэльную паласу, лес стаў суровы, непрыступны. Плойма камароў вісела над людзьмі, мінуты нельга было праседзець спакойна, усе махалі рукамі, шлёпалі па шчаках, па нагах. Рукі, ногі і твар гарэлі ад камарыных укусаў.

Калі пачало змяркацца, фашысты загадалі людзям устаць. Пастроілі ў калону. Жанчыны бралі на рукі дзяцей, у некаторых былі яшчэ за плячыма і хатулі.

— Пажамы мне ўскінуць на плечы мяшок,— сказаў Юрка.

— Што ў цябе тут?

— З пуд зіта. А дзе твой хатуль?

— Мой? Не знаю. Кінуў. Я адразу яго кінуў, нават і ўзяць не паспеў, як пусціліся бегчы... Толькі бацінкі пры мне асталіся.

— Ай, Сюра, Сюра...— заківаў галавой Юрка.— Чаму ты кінуў? Сьто мы есці з табой будзем?

— Кінь ты шкадаваць! — выгукнуў Шура.— Можа яшчэ і не прыйдзецца есці... Дай, я твой панясу...

Шура хацеў узяць у брата хатуль, але Юрка так рашуча адхіліў яго рукой, што пярэчыць не было сэнсу. У гэтым жэсце Шура адчуў штосьці нечаканае. Так звычайна бацька адхіляў Шуру, калі ён браўся падняць бервяно за таўсцейшы канец. Шура са здзіўленнем паглядзеў на брата. Босы, у зрэбных штанах з выцертымі каленямі, у пацёртай шапцы, з-пад якой ледзь не да плеч звісалі доўгія льняныя валасы, Юрка нагадваў сабой не дванаццацігадовага хлопчыка, а нізкаpослага сталага мужчыну. У вачах яго не было ні дзіцячай бестурботнасці, ні жвавасці. На Шуру глядзеў чалавек, стомлены жыццём і бязмерна заклапочаны.

Вялікая калона мужчын, жанчын і дзяцей расцягнулася па вільготнай дарозе ўздоўж Ваўчэнскай рэчкі. Абапал калоны — фашысты. Іх многа, многа. На тварах сеткі ад камароў. Зараз не падганяюць, б'юць мала каго. Ідуць, пасвістваюць — гоняць палонных.

— Шнэль! Шнэль фэрфлюхтар! — чуецца з абодвух бакоў.

Дарога пайшла лесам, пад гару. Зусім сцямнела. Ноч росная, халодная, дрыжаць над лесам зоры...

Фашысты пачалі галёкаць, пераклікацца, абапал калоны засвяцілі кішэннымі ліхтарыкамі. Над галовамі людзей, над лесам успыхвалі ракеты. Са страшным і рэзкім віскам разанулі паветра снарады. Ірваліся далёка, глуха, недзе за ракой Бярозай, у балоце.

— Сюра, давай уцяцом...— шэпча Юрка.

— Добра... Не аставайся ад мяне... Старайся за мной трапіць...

— Я буду за табой, браток... Не астануся... Не бойся...



— Дай,— Шура бярэ брата за руку.— Буду вясці.

Лясная дарога пайшла між сасняку.

— Шнэль! Шнэль! — гучней загалёкалі канваіры.

— Сюды... За гэту сасоначку...— падштурхнуў Шура брата.

Яны сіганулі ў драбняк і залеглі.

— Гальт, фэрфлюхтар нох маль! Цурык! Цурык! — залемантавалі канваіры.

Здрыгануліся сосны ад блізкага выстралу, загуў па лесе гулкі тупат ног, і яркае святло ліхтарыкаў заліло сасняк, уцекачоў.

Шура ляжаў бокам, абшчапіўшы галаву рукамі. Ён бачыў, як ля яго спынілася адна пара гумавых высокіх ботаў, потым другая, трэцяя. У душы ў яго пахаладзела, дыханне заняло, нібы хто шалікам сціснуў горла. Чыясьці жорсткая здаровая рука схапіла за каўнер кажуха, цела адарвалася ад зямлі, патыліцу апёк моцны ўдар, і Шура зноў упаў на зямлю, але хуценька ўсхапіўся на ногі.

— Чаго ты, малец, кідаешся? — пачуў Шура злосны Андрэеў голас.— Чуць мяне не збіў.

— Ён не кідаецца,— сказаў побач дзядзька Мікалай.— Гэта яны яго так. Дзе надумаліся ўцякаць... На віду ў немцаў...

Шура прыпыніўся, азірнуўся.

— Гей, фэрфлюхтар нох маль! Шнэль! — балюча штурхануў яго ў плечы канваір.

— Ідзем, ідзем, дзіця...— пацягнуў яго за руку дзядзька Мікалай.— А то заб'юць яшчэ...

— Дзе Юрка? — дрыжачым голасам сказаў Шура.

— Недзе ззаду, сярод людзей,— адказаў дзядзька Мікалай.— І яго гэтак кінулі. Давай сюды. Хавайся між нас. А то яны бегаюць, як сабакі...

Людзей пагналі шпарчэй. Шура ішоў і ўвесь час азіраўся — дзе Юрка... Вяскоўцы спагадліва пазіралі на яго і хуценька апускалі вочы ўніз, нібы ім сорамна было за тое, што яны не зналі аб лёсе Юркі, яго брата.

Мінулі невялікае поле, зноў ішлі лесам, але толькі вельмі рэдкім. Затым пачалі сустракацца лазовыя кусты, грунт пацвярдзеў, сосны зусім разбегліся — каб адна. Людзі пачалі спатыкацца аб камені, у выбоінах-каляінах. Дарога ішла па адхоне: вялікі пакаты адхон перасякаў дарогу. Унізе — цемната, уверсе — поле, неба, мутнае, цяжкае, бязрадаснае, як чужое, і далёкае, далёкае...

Неўзабаве ступілі на шашу. У мяккім блакітным змроку летняй ночы цямнелі пустыя хаты, зямлянкі. Увайшлі ў вёску.

— Ваўча...— сказаў дзядзька Мікалай.

Па вуліцы снавалі грузавікі, танкі, бронемашыны, трашчалі матацыклы. Каля хат стаялі гарматы, цягачы. «Адгэтуль нялёгка будзе ўцячы...» — думаў Шура.

Нявольнікаў падагналі да возера. Спынілі, акружылі.

Шура прыглядаўся да людзей — шукаў Юрку. Юркі не было.

Фашысты аб нечым раіліся. Затым адцяснілі людзей да дзвюх сяліб, што стаялі абапал вуліцы ля возера. Загналі — каго ў хаты, каго ў хлявы. Замкнулі. Ад стомленасці ўсе, дзе хто стаяў, там і засынаў.

Шура трапіў у невялікі хляўчук. Там было цёмна і смуродна. Праціснуўся да дзвярэй — яны былі высока ад зямлі і не было падваротні — лёг на бок, тварам да вуліцы. Дыхаць стала лягчэй. На двары ўбачыў двух фашыстаў. Яны ляжалі за ручнымі кулямётамі. Адзін кулямёт быў наведзены на хату, другі — на хлеў. Страта баць-

коў і братоў, стомленасць, голад, усё перажытае за дзень так прытупіла пачуцці ў Шуры, што ён глядзеў у рулю кулямёта, і страх зусім не кранаў яго душы. «Дзе Юрка?» — думаў Шура, а вейкі яго зліпаліся. «Юрка жывы. Ад першага стрэлу куля прайшла зверху, міма... А болей стрэлу не было... Можа заўтра ўбачу»,— разважыў Шура. Сон нячутна агортваў яго. Шура паклаў руку пад галаву і неўзабаве заснуў моцна-моцна, як забіты.

Прачнуўся, калі сонца было высока над хлевам. І прачнуўся не ад таго, што выспаўся, адпачыў. Прачнуўся ён таму, што дзверы хлеўчука былі расчынены і зыркія промні сонца лезлі яму проста ў вочы. А яшчэ не давалі спакою людзі. Яны то выходзілі з хлеўчука, то заходзілі туды. І амаль кожны чапляўся нагамі за Шуру. Асабліва дзеці. Тыя проста садзіліся на яго, як на бервяно, і перакульваліся.

Шура ўзняўся, страсянуў пясок з кажуха і выйшаў на двор. Тут было поўна людзей. Люд сямейны. Жанчыны кармілі малышоў. Кармілі хто чым мог. Маладыя партызанкі пелянaлі немаўлят.

Крокаў за пяць ад хлява сядзела цётка Сарафіна са сваімі дзецьмі. Яна жавала сухар і мякіш давала пяцігадоваму Алёшку і шасцігадоваму Міколку. Яны елі жавалку і запівалі вадой. Піліп — яму было дзевяць год — грыз сухар сам.

Цётка Сарафіна, апранутая ў дзве курты, каўняры якіх тырчалі з-пад расшпіленай суконнай паддзёўкі, сядзела пасярод двара. Спадніцы яе рассціляліся па траве. Кругом цёткі трое хлапчукоў.

Шура падышоў да цёткі Сарафіны.

— На, пляменнічак, хоць гароху з'еш. Каб раней — дала б сухарык. А то ўсё з'елі... Сядзь каля нас, сірацінка...

«Сірацінка». Гэтае слова балюча разанула Шуру па сэрцы. Ён востра адчуў сваю адзіноту. Сціснула грудзі трывога за бацькоў, за братоў, і ён ледзь не заплакаў. Ён павольна апусціўся на траву між Піліпам і Алёшкам.

— Не бядуй... Бацька і маці ў Ельніку асталіся... Калі тут няма іх, дык учора немцы не злавілі. Можа, дасць бог, і саўсём не злавюць,— сказала цётка Сарафіна Шуру.— Дасць бог, дык яны і немца ў вочы не ўбачаць. Не перадрыжаць столькі, як мы тут.

— А я, як увідзіў немца, дык ані не спужаўся...— залепятаў малы Алёшка.

— Сціхні, а то немец пачуе, дык заб'е,— махнула на Алёшку рукой цётка Сарафіна.

— За што ён мяне заб'е? — пакрыўдзіўся Алёшка.— Я ж не плачу. І ў балоце ад камароў не плакаў.

— Няхай толькі зачэпяць,— абурыўся шасцігадовы Міколка.— Наш татка з вайны прыйдзе і іх усіх паб'е...

— Сціхніце вы, каб вам заняло! — усклікнула цётка Сарафіна.— Вось у мяне рукавок ёсць. Я табе насыплю гароху,— павярнулася цётка да Шуры.

— Не нада,— паспрабаваў адмовіцца Шура.

— Як не нада! — абурылася цётка Сарафіна.— Ты ж мне як роднае дзіця. Няхай будзе. Яшчэ дзякуй скажаш.

— Добра. Я пасля вазьму,— нарэшце згадзіўся Шура.— Няхай паляжыць у хатулі,— сказаў ён.— Мне вады хоць глыток... У роце сушыць...

— Вады, мама, і мне! І я дужа піць хачу! — залепятаў Алёшка.

— І я! І я! — падхапілі Міколка і Піліп.

— Падажджыце, дзеці.



Цётка Сарафіна ўзняла з хатуля кацялок і пайшла да возера. На вуліцы вартавы перагарадзіў ёй дарогу, а як убачыў, што яна хоча абысці яго, злосна адштурхнуў і пачаў кулаком біць у плечы. Хлапчукі закрычалі, заплакалі і кінуліся да маці.

— Пан, вады дзеці просяць! — паказала цётка Сарафіна на хлапчукоў і на возера.

— Цурык! — гаркнуў фашыст і прыцэліўся на яе з вінтоўкі.

Цётка Сарафіна пасунулася, паспяшыла назад. Фашыст зарагатаў.

— Пацярпіце, дзеткі! Хай яму гэта наша вадзіца стане атрутай!..— абхапіла цётка сваіх хлапчукоў.

Хлапчукі, румзаючы і выціраючы кулачкамі вочы, пахавалі галоўкі пад крысо матчынай паддзёўкі, як кураняты пад крыло квактухі.

— Цётка! Цётка Сарафіна! — раптам пачуўся ўзбуджаны дзіцячы голас, калі цётка з хлапчукамі была ўжо каля хатуля, дзе сядзеў Шура.

Цётка Сарафіна азірнулася.

— Вунь Юрка ваш! — сказала яна Шуру.— Цераз вуліцу глядзі. Стаіць вунь каля плоту.

Шура ўскочыў, падбег да варот. Фашыст, што стаяў ля варот, прыставіў да яго грудзей штык.

— Гей, цурык!

— Пан, мой брат...— узмаліўся Шура.

— Брат? Брудэр? — азваўся фашыст.

— Я брат! Сюра мой брат! — крычаў цераз вуліцу Юрка.

— Брат... Брудэр... О, гут! Ком гін! — махнуў фашыст на Юрку, і Юрка кінуўся цераз вуліцу да Шуры. Брацікі абняліся і заплакалі.

— Юрачка! Шурка! Ідзіце сюды! — паклікала цётка Сарафіна.— Не плачце. Што будзе, тое будзе...

Выціраючы рукамі слёзы, брацікі падышлі да цёткі Сарафіны, прыселі на траве.

— Дзе ты быў? Я цябе шукаў, шукаў,— спытаў Юрка.

— А я за цябе баяўся,— адказаў Шура.

— Ай-яй! Чуць не ўцяклі мы. Каб адразу пабеглі — уцяклі б... А то паваліліся, пaляглі, а немцы ўвідзілі нас... Я б не лёг. Дык я зачапіўся за пень і паваліўся...

— Дурні! — сказала цётка Сарафіна.— Калі б вы не паваліліся, дык яны б вас забілі... Добра, што жывыя асталіся.

— Жывыя то жывыя...— разважаў Юрка.— Ды хатуль я там кінуў... Немец не даў мне яго ўзяць.

— І добра, што не даў. На чорта нам той хатуль.—буркнуў Шура.

— Ты нейкі... абы-што,— сказала яму цётка Сарафіна.— Як гэта «на чорта»? Юрачка добра кажыць. А што есці будзеце?.. Я во які хатуль цягаю. Пуды два гароху, можа, было... Ні ў Ельніку, ні як гналі ў Ваўчу, не кінула... А што дзеткам есці?.. І сухарыкаў два акрайцы ў паддзёўцы было. Цяпер так прыгадзіліся. Ну нічога, дзеткі. Няма хатуля, дык няма... Сварыцца не нада... Плакаць і бедаваць тожа не нада... Дасць бог дзень — дасць і пішчу... Неяк пераб'емся — абы жывымі астацца... Каля мяне будзеце голад сунімаць... Вы дзяржыцеся каля мяне. А то бацькі і мацеры няма тут, дык прападзіцё...

— Добра,— адказаў Юрка.

Шура змоўчаў. Ён моўчкі падаўся да групы мужчын-аднавяскоўцаў, што сядзелі каля хаты. Там быў Андрэй, а таксама дзядзька Хведар, сусед. Мужчыны аб нечым шапталіся. Босы Шура нячутна

падышоў да іх па збітай траве, і яго слых улавіў некалькі слоў:

— Да Саўскага бору дабрацца. А там са сваімі не прападзём. Жалезнякоўцы там ёсць...

Калі Шура прысеў каля мужчын, яны змоўклі. Шура пасядзеў хвіліну і, убачыўшы, што ён перапыніў якуюсь важную размову і што мужчыны з непрыязню пазіраюць на яго, устаў, адышоўся ад іх, прысеў на камень.

«Ага! Вы ўцячы рашылі...— думаў Шура, украдкам пазіраючы на мужчын.— Я буду сачыць за вамі. Я не адстану ад вас...— цвёрда рашыў ён.— Да Саўскага бору... Там партызанскія зямлянкі... І я пападу ў партызаны...»

На вуліцы, наўпроць двара, спынілася чатыры крытыя брызентам машыны. З машын высыпала плойма фашыстаў. З аўтаматамі і ручнымі кулямётамі, яны акружылі двары. На рукавах у іх былі нашыты чарапы, пад чарапамі — крыж-накрыж косці...

Убачыўшы чарапы і косці, Шура пабялеў ад страху. Ён ведаў, што такія нашыўкі на рукавах насілі толькі «смертнікі»... Гэта яны ў першую блакаду 1943 года спалілі жыхароў з вёсак Войберавічы, Асінавік, П'яны Лес, з некалькіх вуліц мястэчка Бягомля, расстралялі вускрамскіх мужчын. А ў вёсцы Дабрунь шмат людзей пакідалі ў калодзеж і закідалі гранатамі, а астатніх загналі ў хату, перастралялі і спалілі. Ніхто не змог выратавацца... Уся вёска была знішчана.

Шура бачыў, як карнікі схапілі з дзесятак мужчын, загадалі насіць з машын ахапкі саломы і класці кругом будынкаў. Больш за ўсіх насіўся паджары цыбаты карнік, правае вока ў якога было завязана чорным. Ён выцягнуў з машыны каністру і абліў газай платы і вароты. Потым загадаў усім карнікам заганяць людзей у будынкі. Карнікі, як груганнё, накінуліся на людзей, зараўлі, залемантавалі, білі ў плечы мужчын прыкладамі. На двары ўзняўся дзіцячы плач, галашэнне жанчын, крык.

— Шура, Юрка, Піліп, Міколка, Алёшка! — гукнула цётка Сарафіна.— Будзьце са мной! Мусіць, спаляць нас, як летась бягомельскіх людзей...

Алёшка і Міколка заплакалі. Залілася слязьмі і цётка Сарафіна. Шура стаяў і думаў, як быць. Успомніўся Ясь Гарота з Бягомля. Летась, у першую блакаду, фашысты заманілі бягомльцаў з Ельніку, сагналі ў недабудаваную хату, перастралялі, аблілі хату бензінам, падпалілі і паехалі. Ясю куля трапіла пад левую сківіцу і выйшла праз вока. Ён моўчкі праляжаў між забітых, пакуль паехалі фашысты. Затым выпаўз у бульбу, праляжаў усю ноч... Раніцай яго знайшлі...

«Калі будуць забіваць нас цяпер, то павалюся першым, да стрэлу...— падумаў Шура.— Можа застануся жывы... Выпаўзу, як Ясь. Праб'юся хоць да каго. Ёсць жа ў лесе людзі, партызаны...»

Раптам да варот падляцела легкавая машына. Адтуль выскачыў сярэдняга росту пажылы афіцэр, выхапіў з кабуры наган і стрэліў угору. Карнікі спыніліся. Афіцэр сказаў ім нешта, паказваючы наганам у бок Бягомля, сеў у легкавушку і паехаў...

Карнікі выгналі ўсіх людзей на вуліцу, паставілі ў чатыры рады. Два тлустых фашысты хадзілі перад радамі і на выбар штурхалі некаторых людзей у грудзі. Яны павінны былі ісці следам за карнікамі. Адабраныя развітваліся з родзічамі.

Калі адабраных збіралася многа, іх адводзілі да возера. Там на беразе ляжала вялікая груда рыдлёвак. Кожнаму давалі па адной.

Шура ад штуршка ледзь не ўпаў, адступіў крокі на два, утрымаўся на нагах. Развітвацца яму не было з кім — цётка Сарафіна з дзецьмі і Юрка былі ў другім радзе. Устрывожаны, ён паклыпаў следам за карнікам, а потым разам з іншымі пайшоў да возера. Рыдлёўка Шуру папалася цяжкая, гламаздаватая.

— Алес гей ін аўто! Шнэль! — загадаў грузны карнік у акулярах.— Арбайтэн! — сказаў потым ён, калі нявольнікаў падагналі да машын.

Пагрузіліся хутка. У кожную машыну села па два карнікі з аўтаматамі.

Шура трапіў якраз у адну машыну з Андрэем і дзядзькам Хведарам. Стала весялей на душы. З мужчынамі ён не прападзе, яны добрае задумалі... Толькі невядома яшчэ, куды іх павязуць... Можа далі лапаты, каб сабе магілу вырылі!.. Але не выходзілі з галавы думкі пра бацькоў, пра Колю, пра Юрку: «Што зробяць цяпер з імі, з Юркам, з цёткай Сарафінай, з дзецьмі?..— мучыўся Шура.— Іх, мусіць, аставілі там, каб спаліць...»

Калі машыны крануліся з месца, Шура ўбачыў, што эсэсаўцы пагналі ўсіх тых людзей, што засталіся на вуліцы, зноў у двары. Шура бачыў, як эсэсавец у акулярах штурхнуў дзядзьку Мікалая. На павароце ўжо Шура паспеў убачыць, што апошнімі пакінулі вуліцу цётка Сарафіна з дзецьмі і яго брат Юрка... Юрку ён пазнаў па шэрым армяку...

Машыны ад'ехалі кіламетры тры да Ваўчы, спыніліся. Нявольнікам загадалі вылезці. Падагналі да шашы (ехалі палявой дарогай) і загадалі зарываць перакопы.

— Шнэль арбайт! — падганялі карнікі...

Перакопы... Шура сам іх рыў вясной разам з іншымі аднавяскоўцамі і партызанамі. А зараз і раўняць дарогу давялося. Але для каго... А чаму фашысты зарываюць перакопы? Летась не рабілі гэтага... Рыдлёўка вырываецца з рук: даюць знаць стомленасць, голад. Знясілены, Шура спатыкнуўся і паваліўся... Эсэсавец выхапіў у яго з рук рыдлёўку і загадаў насіць з поля камені, кідаць у роў. Разам з ім насіў камені і Андрэй. Рука яго, перавязаная нейкай анучай, акрывавілася, і ён насіў камені ў падале кашулі. Падол трымаў левай, здаровай, рукой. Іншыя мужчыны цягалі ў роў ламачча.

Зарывалі равы. Набліжаліся да Бягомля. Пад вечар былі каля мястэчка. Тут, на скрыжаванні дарог Бягомль — Барысаў і Мінск — Віцебск, давялося папрацаваць вельмі многа. Засыпалі два перакрыжаваныя равы, доўгія, глыбокія і шырокія.

На змярканні пад'ехалі чатыры машыны. Нявольнікаў пасадзілі ў кузавы і зноў павезлі ў Ваўчу. Зараз ужо ехалі па шашы. Калі ад'язджалі ад Бягомля, Андрэй зірнуў на ўсход і сказаў:

— Да Маргавіцы рукой падаць... А зайсці туды — не зойдзеш... Гэта ж Маргавіца ад Бягомля ўсяго метраў дзвесце... за кусцікамі...

Хутка былі ў Ваўчы. Зноў апынуліся на тым самым двары.

Ахапкі саломы густа ляжалі каля будынкаў...

Шура абышоў увесь двор, але ні цёткі Сарафіны, ні брата Юркі нідзе не знайшоў. Яго паклікаў дзядзька Мікалай.

— На... табе Сарафіна, цётка твая, перадала рукавок гароху,— сказаў ён.

— А дзе цётка? Дзе Юрка? — ледзь не заплакаў Шура.

— Няма іх тут. Пайшлі.

— Як пайшлі? Куды?

— Прыехаў удзень той самы нямецкі афіцэр, што быў уранні, зайшоў у двор, павыганяў баб з малымі дзецьмі і сказаў, каб ішлі

куды хочуць. Сарафіна ўзяла дзяцей і пайшла. І Юрка ваш з ёй пайшоў...

— І ніхто іх на зачапіў?

— Не.

— А чаму ты, дзядзька, не пайшоў?

— Ішоў. На вуліцы дагналі і вярнулі... Яшчэ і кухталёў надавалі...

Ноч. Другая ноч у палоне. І зноў Шура спаў у хляве.

Прачнуўся ён раніцай ад моцных штуршкоў. Над ім стаяў дзядзька Мікалай.

— Уставай! Усіх выганяюць на вуліцу. Многа немцаў панаехала...

Шура ўсхапіўся на ногі, і першае, што ён убачыў у хляве,— шырокі падкоп пад сцяну. Былі адкочаны два камяні з падмурку. Проста ад хлява ў бок аселіцы, да кустоў лазы адна баразна бульбы была выцерта. За аселіцай адразу густы лес... Уцяклі... Яго пакінулі... Не прасачыў... Праспаў... І Шура дзюбнуўся тварам у зямлю, заплакаў.

— Вылазь адтуль! — крыкнуў з дзвярэй дзядзька Мікалай.— У хлеў немец бяжыць!.. Заб'е!..

Шура каўзануў пад сцяну і з-за хлява выбег на двор. Дзядзька Мікалай быў ужо там. Ён схапіў Шуру за руку і пацягнуў на вуліцу.

Яны былі ўжо ў калоне, калі з хлява выбег карнік з завязаным правым вокам. Падбег да другога, у акулярах, і аб чымсьці яму далажыў. Той выслухаў, злосна аблаяў яго і паказаў рукой на калону. Затым сам прайшоўся ўзад і ўперад каля калоны, павыганяў адтуль жанчын з малымі дзецьмі, якіх прыгналі ўчора вечарам.

На вуліцы засталося чалавек сорак. Тут былі людзі з розных вёсак. Стаялі на вуліцы аж да паўдня. У Шуры зусім самлелі ногі. Балела левае калена, хворае з дзяцінства.

У поўдзень нявольнікаў акружылі моцным канвоем і пагналі. Уперадзе гналі жывёлу — коней, кароў, тарахцелі падводы. На падводах было ўсё: ручнікі, пасцілкі, мяшкі збожжа, аконныя рамы, адаробкі, калаўроты і нават паламаныя цабэркі.

— Ці не ў Германію гэткае барахло вязуць?..— сказаў дзядзька Мікалай.

Бязлітасна пячэ сонца. Дарога пыліць. Гоняць не бальшакамі, а вузкімі палёснымі дарогамі. Фашыстаў многа. Ідуць з закасанымі рукавамі. Вінтоўкі і аўтаматы трымаюць напагатове. Узначальвае канвой фашыст з завязаным правым вокам.

— Хоць з адным вокам,— каб і яно яму аслепла! — ды ён адсюль нікога жывём не выпусціць...— гаворыць дзядзька Мікалай.

Шура ідзе побач з дзядзькам. Пот засцілае яму вочы, шчыпле цела. Кажух Шура быў зняў (нёс на руках, але цяжка, млеюць рукі, надзеў на плечы), ідзе так,— усё роўна ўвесь мокры. Памкнуўся быў зусім кінуць кажух, але ўспомніў, як уночы добра ў ім,— а невядома, дзе яшчэ быць давядзецца,— рашыў ісці ў кажуху. Ісці ўсё цяжэй і цяжэй. Шура кульгае, падскоквае, як падбітая птушка. Фашысты паказваюць адзін другому, як ён ідзе, і гучна рагочуць...

Каля вёскі Баяры спынілі на прывал. Прыселі недалёка ад лесу. З лесу выйшла згорбленая бабулька. У руках у яе быў невялічкі хатулёк. Падышла да нявольнікаў развязала хатулёк-хусцінку, высыпала на траву праснакі і пачала раздаваць людзям.

Раздала праснакі, пажадала здароўя, сабралася і зноў пайшла ў бок лесу.

Фашысты сядзелі паводдаль і ўміналі кансервы з хлебам...



Калі бабулька адышлася метраў паўсотні, фашыст з завязаным вокам ускочыў на ногі, выцер рукавом рот, схапіў вінтоўку, прыцэліўся. Грымнуў стрэл. Бабулька ўпала ніцма. Упала адразу, моўчкі, павольна, нібы пакланілася зямлі.

Шура глядзеў на гэта, і ў яго душы ўсё траслося. Першы раз ён бачыў, як забілі чалавека. Забілі спакойна, з ахвотай, нібы стралялі не па чалавеку, а па вераб'ю...

З вачэй у Шуры сыпаліся слёзы, праснак, што дала бабулька, так і засеў у горле...

Фашысты паднялі нявольнікаў, пагналі далей. Прайшлі вёскі Баяры, Дубавік, Асінавік, Вітунічы. Ва ўсіх вёсках не было ні душы, і вёскамі гэтыя паселішчы толькі называліся. Замест хат, тырчалі разваленыя печы, чарнелі папялішчы ды зрэдку відненіся зямлянкі, парослыя бур'янам.

І на дарозе нідзе нікога не сустрэлі.

Пад вечар перайшлі раку Поню.

Шура ўвесь час думаў, каб уцячы. Але калі перайшлі Поню, зразумеў, што ўцячы будзе вельмі цяжка. За Поняй пачыналася Заходняя Беларусь, мясціны, незнаёмыя для Шуры.

Каля вёскі Нябышына, якую фашысты летась, у блакаду, разбамбілі і спалілі дашчэнту, нявольнікаў спынілі на прывал. Нябышына — апошняя вёска Бягомльскага раёна.

Вёска да леташняга стаяла на высокім пагорку, каля ракі Поні. Цяпер гэты пагорак быў спаласаваны траншэямі і дотамі. З дотаў выскоквалі людзі ў нямецкай вайсковай форме. Яны падбягалі да нявольнікаў і на рускай і ўкраінскай мовах пачалі распытваць, адкуль, куды гоняць. Нявольнікі адказвалі неахвотна, стараліся адчапіцца ад іх. Яшчэ з леташняй блакады помнілі «народнікаў». Летась у Бягомльскім раёне многія з іх лютавалі не горш за фашыстаў. А сёлета раптам так падабрэлі, нават самі ў размову ўступілі з нявольнікамі, спачуваюць. Але памагчы, параіць, як вырвацца з палону, ніхто з іх не браўся.

Дзядзька Мікалай і Шура сядзелі крышку наводдаль ад гурту.

— Мусіць, гэтыя сукіны сыны пачулі нешта нядобрае для сябе,— кінуўшы на «народнікаў», па-старэчы, уголас разважаў дзядзька Мікалай.— Мусіць, прыпякло ім, што яны так пацяплелі...

Ветру не было амаль. Адчувалася цёплае дыханне зямлі. Прырода жыла сваім вечным, непарушным жыццём. І не верылася, што ў гэты час на зямлі адны людзі здзекуюцца з другіх, што існуе смерць, гора, жудасць.

Мусіць, аб гэтым надрыўна плакала на беразе Поні адзінокая кнігаўка. Яна кідалася недалёка ад гурту, быццам была не пад неабсяжным блакітным небам, пад якім ёй, птушцы, ляці,— куды хочаш, а таксама запалонена ў малой цеснай клетцы... Можа яна паранілася аб калючы дрот, якім быў абнесены пагорак, ці яе гняздо растаптаў каваны бот чужынца...

На пагорку загалёкалі фашысты. «Народнікаў» — як ветрам здзьмула...

Канваіры зноў пагналі нявольнікаў далей...

Позна ўвечары прыйшлі ў вёску Восава. Начавалі ў вялікай пуні.

На золку рушылі ў дарогу. Каля паўдня былі ў Докшыцах. Іх спынілі на прывал у двары касцёла. Двор абнесены каменнай высокай сцяной. Жалезныя рашотчатыя вароты. Каля варот два вартавыя з аўтаматамі. Астатнія фашысты пайшлі ў мястэчка.

— З усяго свету людзей сагналі,— уздыхнуў дзядзька Мікалай.

— Шпрэхэн фэрботэн! Вір шыссэн мусэн! — закрычаў і моцна грукнуў некалькі разоў прыкладам вінтоўкі ў дзверы вартавы.

Людзі замерлі. Шура скурчыўся, крысом кажуха накрыў босыя ногі, сашчапіў рукі, крыху сагрэўся так і заснуў.

Ледзь толькі развіднелася, дзверы расчыніліся, у пуню зайшоў фашыст з гумавым бізуном.

— Алес ауфштэйн! Шляфэн фэрботэн! — загадаў фашыст.— Алес зітцэн мусэн!

Хто спаў чутка, адразу прабудзіўся і сеў, таго фашыст не чапаў. А хто яшчэ ляжаў — фашыст з усяго размаху біў гумай па падэшвах ног. Ад удару чалавек ускокваў, як апалены, і стукаўся галавой у дошкі, бо ярусы былі вельмі нізкія. Фашыст гучна рагатаў. Калі ўсе паселі, ён, закінуўшы рукі за спіну, два разы прайшоўся ўздоўж нараў. Да кожнага нявольніка ён пільна прыглядаўся, наўпроці некаторых спыняўся на хвіліну, але не зачапіў нікога. Потым спыніўся каля дзвярэй, сцебануў гумай па блішчастай паглянцаванай халяве і, сказаўшы «гут», выйшаў. Дзверы пакінуў расчыненымі.

Шура зняў з плячэй кажух, кінуў на нары і выйшаў з пуні. Ён убачыў вялікую агароджу з калючага дроту. Спачатку на метр адзін ад другога ішлі два рады калючак. Рады былі пераплецены між сабою таксама калючкамі. Утварылася калючая сцяна ў метр таўшчынёй. На метры два ад гэтай сцяны ўзвышаўся яшчэ рад калючага дроту. Між сцяной і гэтым радам праходжваліся ўзброеныя фашысты. Агароджа мела квадратную форму. Па вуглах — вышкі. У кожнай з іх блішчала каска і штык фашыста. Каля замкнёных варот таксама стаяў узброены вартавы. Ля самай агароджы слалася грунтавая дарога да вялікага сяла, што віднелася ў лагчыне. На высокім дарожным слупе вісела дошка з надпісам «Лібараўшчына».

З крайняй пуні, дзе спаў Шура, із двух астатніх пачалі выходзіць людзі. У двух пунях былі цывільныя, у трэцяй — ваеннапалонныя. Шура жахнуўся, убачыўшы ваеннапалонных і тых нявольнікаў, якія былі прыгнаны ў канцлагер раней. Некаторыя з іх не маглі ісці самі — іх падтрымлівалі таварышы. Іншыя, асцярожна ступаючы, нібы папечанымі нагамі, падыходзілі да новых нявольнікаў, прасілі даць хоць маленькую скарыначку хлеба. Палонныя былі азызлыя ад голаду.

Шура раздаў увесь рукавок гароху. Сабе пакінуў толькі адну жменю, усыпаў у кішэнь кажуха. У рукавок запхнуў бацінкі.

З сярэдняй пуні і з той, дзе былі палонныя, выносілі мёртвых.

Калі на двор выйшлі ўсе нявольнікі, фашысты загадалі разысціся, і больш чым палову людзей загналі зноў у пуні. Прыйшоў перакладчык і сказаў, што ўсім адразу выходзіць на двор строга забараняецца...

Шура застаўся на двары. З раніцы ў Шуры вельмі смактала пад грудзьмі: хацелася есці. Потым голад перабіўся, ахапіла млявасць. Сонца смаліла горача. Яно здавалася нейкім чужым, назойлівым...

Шура прысеў пад пуняй і задрамаў. У сне ён бачыў маці. Быццам яна стаіць у Ельніку на купіне і кліча яго да сябе. А ён праваліўся ў багну аж па грудзі і ніяк вылезці не можа...

Разбудзіў Шуру дзядзька Мікалай.

— Уставай! Зараз будуць есці даваць! — сказаў ён.— Тут не трэба зяваць, а то памрэш з голаду.



Шура працёр вочы. Сонца было высока. Шура ўбачыў, як шэсць ваеннапалонных пад канвоем прыцягнулі да варот на двухколцы жоўтую ад іржы бочку. Двое палонных трымалі бочку, каб яна не звалілася, а чацвёра цягнулі саматугам двухколку. Вартавы адчыніў вароты, прапусціў ваеннапалонных. Бочку саставілі ў цэнтры двара. Да яе падышоў фашыст з чарпаком. Нявольнікі кінуліся да бочкі. Утварылася доўгая, праз увесь двор, чарга.

— У што ты будзеш браць? — спытаў дзядзька Мікалай Шуру.— Я яшчэ каля Баяр падхапіў сабе бляшанку з-пад кансервы... Пабегай тутка і ты... Можа дзе знойдзеш...

Шура ўсхапіўся, кульгаючы, абшнырыў двор і неўзабаве наўпроць вышкі знайшоў алюмініевую бляшанку. Відаць, яна доўга валялася ў гразі, бо была ўся, асабліва знутры, чорная, закарэлая. Шура падбег да вадакачкі, вымыў, спаласнуў бляшанку вадой. Не памагло — гразь прысохла. Тады ён узяў востры камень і таропка выскраб банку, змыў, працёр пяском, зноў вымыў. Падбег да бочкі і заняў чаргу. Нявольнікі і ваеннапалонныя атрымоўвалі чарпак баланды — хто ў бляшанкі, хто ў бутэлькі, адбітыя зверху, а іншыя — нават ў прыгаршчы.

Дайшла чарга атрымаць сваю порцыю стравы і да Шуры. Фашыст плюснуў яму чарпак баланды. Палавіна разлілося... Шура адбегся да пуні, прысеў і зазірнуў у банку. Там плёхалася нейкая зялёная вадкасць. З чаго яна была прыгатавана — нельга было разабраць. Пакаштаваў і ледзь не задыхнуўся: дзёсны, язык, нёба абпаліла нейкая вострая гарачыня, нібы хто паклаў яму ў рот жменю крапівы. Яшчэ раз глынуў, больш не змог. Сплюнуў, памкнуўся выліць жыжу, але да яго падбег ваеннапалонны, выхапіў з рук банку і адным махам асушыў яе.

— Дзякуй, сынок... Пабудзеш тут, дык і не гэткую брыду з'ясі... Голад — не цётка...— сказаў ваеннапалонны.— Гэта сёння яшчэ можна цярпець... А іншы дзень прывязуць такое, што на пяць метраў нельга да бочкі падысці — так смярдзіць...

Шура падышоў да вадакачкі, выпіў вады, зайшоў у пуню і лёг на нары, падаслаўшы пад бок кажух. Страшэнна хацелася есці, але спажываць жменю гароху ён не адважыўся, рашыў — хай будзе на чорны дзень... А цяпер яшчэ былі сілы цярпець.

Надвячоркам прыгналі новую групу нявольнікаў. Размясцілі іх таксама ў крайняй пуні — на нарах яшчэ было месца.

Сярод іх быў адзін юнак з Беразіно-Ліпскага. Цэлы вечар ён спяваў песні... Асабліва спадабалася Шуру, як ён спяваў «Церскую паходную»: «То не тучи — грозовые облака по-над Тереком-рекою залегли...» Усім нявольнікам гэта песня спадабалася. Жанчыны і дзяўчаты — іх было многа ў пуні — плакалі і прасілі юнака праспяваць «Церскую паходную» яшчэ і яшчэ. Ён спяваў, пакуль фашыст пастукаў прыкладам у дзверы і загадаў змоўкнуць.

Назаўтра ўсіх нявольнікаў перапісалі. Запісвалі прозвішча і імя.

Зноў замкнулі вароты. Нуда. Голад. Страх смерці. Раз у дзень зялёная баланда... На трэці дзень Шура вымушаны быў праглынуць варыва.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

Гісторыя пасля гэтыя векапомныя падзеі запісала так.

Раніцай 23 чэрвеня 1944 года на поўначы ад Віцебска рушылі ў

наступленне войскі 1-га Прыбалтыйскага фронту, а з паўднёвага боку Віцебска рынуліся на прарыў фашысцкай абароны войскі 3-га Беларускага фронту.

У той жа дзень загуло, загрымела пад Магілёвам: гэта пайшлі ў бой войскі 2-га Беларускага фронту.

Пачалася славутая ваенная аперацыя савецкіх войск па разгрому самай буйнай фашысцкай групы армій «Цэнтр», якая займала фронт ад Полацка да Ковеля.

43-я армія 1-га Прыбалтыйскага фронту і 39-я армія 3-га Беларускага фронту, прарваўшы абарону ворага, хлынулі ў абхват Віцебска і 25 чэрвеня на захадзе ад яго акружылі пяць фашысцкіх дывізій. Двое сутак — 26 і 27 чэрвеня — ішлі крывавыя баі з акружанымі фашыстамі. Разграміўшы ўшчэнт фашысцкую групіроўку, савецкія воіны рушылі ўперад, у напрамку на Бешанковічы, Лепель.

Не змяншалі свайго наступальнага парыву і іншыя арміі 3-га Беларускага фронту. 5-я, што прабівалася на Багушэўск і 11-я гвардзейская, якая наступала на паўночным усходзе ад Оршы, сакрушылі бетаніраваную абарону фашыстаў і шуганулі ў глыб прарыву. Услед за імі ў бітву была ўведзена 5-я танкавая армія, якая рушыла на Барысаў.

49-я армія 2-га Беларускага фронту скрышыла глыбока эшаланіраваныя ўмацаванні фашыстаў, збудаваныя па рэках Проня, Бася, Рэста і Дняпро, і 28 чэрвеня вызваліла горад Магілёў.

Жорсткія баі ішлі ў гэты час і на Бабруйскім напрамку, дзе наступалі войскі правага крыла 1-га Беларускага фронту, якім памагала Дняпроўская ваенная флатылія. А пасля прарыву савецкае камандаванне вырашыла яшчэ ўвесці ў бой конна-механізаваную групу. Сакрушаючы ярасцнае супраціўленне фашыстаў, войскі правага крыла 1-га Беларускага фронту 27 чэрвеня акружылі ў раёне Бабруйска пяць варожых дывізій, што былі ў складзе 35-га і 41-га танкавага карпусоў 9-ай фашысцкай арміі. Дзень і ноч над акружанымі фашыстамі грымелі эскадрыллі 16-й паветранай арміі, якая, напрыклад, толькі за адну гадзіну 28 чэрвеня абрушыла на іх 160 тон бомбаў і выпусціла некалькі дзесяткаў тысяч снарадаў.

29 чэрвеня так званы «Бабруйскі кацёл» быў ліквідаваны і вызвалены горад Бабруйск.

Савецкія воіны ўзялі ў палон каля Бабруйска 24 тысячы гітлераўскіх ваяк, захапілі вялікія ваенныя трафеі.

Такім чынам, за шэсць дзён жорсткіх і крывавых баёў фашысцкая абарона ў Беларусі рухнула.

У тыле ні днём ні ноччу не давалі спакою акупантам беларускія партызаны — ляцелі пад адхон варожыя эшалоны, як на калючках, адчувалі сябе чужынцы ва ўсіх акупіраваных гарадах і мястэчках рэспублікі.

Ні на хвіліну не спыняўся магутны і грозны наступ савецкіх войск. Разрозненыя рэшткі ўцалелых фашысцкіх зграй паспешліва адступалі. У дзікай лютасці яны змяталі ўсё на сваім шляху. Што не паспявалі ці не змаглі схапіць — знішчалі...

Неба засцілі пажары. Над разбітымі дарогамі віслі чорныя, густыя воблакі пылу ад грузавікоў, ад падвод, ад каваных ботаў чужынцаў, ад парэпаных ног нявольнікаў...

...Цэлы дзень фашысты гналі Колю ўздоўж ракі Бярозы. Гналі не аднаго. Былі мужчыны з Бягомля і шмат невядомых Колю людзей.

Побач ішоў Вадзім, віхрасты юнак, равеснік Колі. Толькі ростам крыху вышэйшы і шчуплы вельмі. Адкуль ён — невядома. Яго прыгналі ўранні. Чамусьці ён адразу сышоўся з Колем. Можа таму, што іхняга ўзросту сярод нявольнікаў не было... Усё мужчыны, маўклівыя, панурыя...

Коля таксама ішоў моўчкі. І нават калі Вадзім звяртаўся да яго, адказваў раздражнёна, рэзка, адным-двума словамі. Але Вадзім ані не крыўдзіўся на яго за гэта. Штосьці невядомае моцна прыцягвала Вадзіма да Колі.

Ля ракі Бярозы шырокія, як свет, заліўныя лугі. Сакавітыя мурожныя травы даўно ўжо выцягнуліся, наліліся вільгаццю і паніклі вяршкамі-пікамі ўніз.

Травы перастаялі... Ужо даўно тут павінны былі звінець косы, гучаць песні, расці копы свежага, духмянага мурагу...

Замест гэтага каторы дзень над лугам звіняць снарады, міны, ціўкаюць кулі, гучыць чужая мова.

Касцы ідуць без кос, без торбаў з лустай. А ззаду за імі не жанкі з граблямі, а чужынцы з аўтаматамі.

Мужчыны глядзяць на луг. Успамінаецца, як перад вайной прыходзілі сюды на сенакос, начавалі тут...

Іх гоняць паволі, часта спыняюцца. Ззаду многа фашыстаў. Усе ўзброеныя да зубоў.

Дарогі каля Бярозы амаль усе замініраваны партызанамі — фашысты ведаюць гэта. Таму ўперад яны пусцілі нявольнікаў. З бакоў не ідуць, але сочаць пільна.

Уранні адзін мужчына хацеў уцячы, сігануў у кусты. Адразу ўдарыла некалькі аўтаматаў. Уцякач зваліўся, перасечаны напалам. Трох мужчын раніла. Двух лёгка, яны ідуць, трэці ісці не змог, яго дабілі.

Удзень нявольнікі наступілі на міну. Зарад быў невялікі, — забіла аднаго і чатырох лёгка параніла. Зноў ідуць. Месцамі праходзяць каля агнявых гнёздаў фашыстаў. Яны замаскаваныя, у ламаччы ўсе. Не заўважыў бы, калі б не выбягалі кулямётчыкі адтуль. Прайшлі міма двух умацаваных пунктаў. Зарытыя ў зямлю браніраваныя каўпакі, доты, траншэі... Бачыў Коля ў адным месцы і тры танкі, зарытыя ў зямлю...

У жытнім полі каля адзінокай раскідзістай сасны спынілі, загадалі ўсім легчы ніцма проста на дарозе. Смаліць сонца. Перасохла ў горле. Толькі што мінулі лагчыну. Там ручай. Нявольнікам спыніцца не дазволілі.

Нявольнікі журботнымі, прагнымі вачыма глядзяць у бок лагчыны на яркую стужку ручая, аблізваюць перасмяглыя, патрэсканыя вусны, глытаюць сліну...

Коля лёг якраз ля самай сасны. Побач лёг Вадзім. Ён адразу заснуў. А Колю спаць чамусьці зусім не хацелася. І на душы было абыякава, пуста... Як бы і не было першай пакутлівай і доўгай ночы ў палоне...

Коля нават пачаў задумвацца над гэтым. Ён разважаў і так і гэтак — гэта ж перажыў шмат, павінен быў агарнуць сон, а яго не было... Чаму? Ён мала спаў і папярэднія ночы, чаму не спіцца зараз?.. Чаму?.. І колькі ні думаў Коля, колькі ні разважаў,—нічога не мог уведаць, што такое з ім... Спытаць у нявольнікаў Коля не хацеў. Бачыў: у кожнага сваё гора...

Хоць і цень, але душна — ветру няма. Коля склаў перад сабой рукі і стомлена паклаў на іх галаву. Ноздры казытаў пах травы. З думак не выходзіў учарашні дзень... Здавалася, гэта адбылося толькі што... Памяць перабірала перажытае.

Вось Коля выскачыў на лугавіну і адразу наляцеў на двух фашыстаў. Яны ляжалі ў акопе за кулямётамі і не чакалі, што хто-небудзь так раптоўна выскачыць з Ельніку. Глядзелі на Колю не то са здзіўленнем, не то са страхам. Секунду Коля стаяў наўпроць фашыстаў, глядзеў на іх, яны на яго. Раптам Коля падскочыў, нібы басымі нагамі ступіў на гарачы прысак, і сігануў назад у Ельнік.

Пераскочыў цераз куст ваўчыных ягад, завіляў між ялін, зачапіўся за вываракцень, шлёпнуўся ў гразь. Якраз у гэта імгненне над ім густым веерам прайшла кулямётная чарга. На галаву пасыпалася пасечанае лісце бярозак, кара ялін. І адразу ж узняўся лямант на чужой, незразумелай мове. Наперадзе затрашчала галлё. Коля прыціснуўся тварам да зямлі. Цяжкі ўдар у плечы прымусіў яшчэ глыбей зашыцца ў гразь. У той жа міг Коля падскочыў і ўбачыў, як рыжы фашыст замахваецца прыкладам, каб ударыць яго яшчэ раз. Коля адхінуўся і ад моцнага ўдару паваліўся, стукнуўся патыліцай аб корч, але адразу ўскочыў, бо падумаў, што ў гразі могуць прытаптаць і захлынешся: хай лепш застрэляць. Коля выпрастаўся і ўбачыў, як рыжы фашыст схапіў з балота яго хатуль і паласнуў кінжалам — мука пасыпалася ў гразь. І адразу да Колі рынуліся ўсе фашысты, штурхалі грэбліва, паказвалі ісці. І пагналі перад сабой кудысьці ўбок, улева. Крокаў праз некалькі ў прагалінах кустоў Коля ўбачыў, што ўперадзе гоняць некалькі мужчын. Злоўленых было не шмат, а канваіравалі іх фашысты цэлай зграяй. І яшчэ Коля ўбачыў, што вакол у лесе процьма фашыстаў — проста кішэў гушчар...

Жахліва і пакутліва прайшла першая ноч у палоне.

Пырснулі ранішнія промні. Да ракі фашысты прыгналі яшчэ адну вялікую групу мужчын. Сярод іх быў і Вадзім. У яго на плячы вісеў невялікі рэчавы мяшок, набіты сушанымі праснакамі. Ён адразу раздаў праснакі нявольнікам. Усім хапіла. Апошні праснак аддаў Колю. Прысеў ля яго. Пазнаёміліся — сказалі адзін аднаму сваё імя.

Да ракі сышлося многа фашыстаў, паставілі ў калону нявольнікаў і пагналі ўніз па цячэнню Бярозы.

Цэлы дзень на нагах. Калі і спыняліся, дык прысесці не дазвалялі. Іншыя зусім выбіліся з сіл. Асабліва цяжка было ісці Вадзіму. Ён, відаць, не адну ноч не спаў, хістаўся, як п'яны, і засынаў на хаду.

Колю прыходзілася ўвесь час падтрымліваць Вадзіма, каб не ўпаў, каб фашысты не прыкмецілі, што аслабеў так: застрэляць адразу, як толькі прыкмецяць...

А Коля сам — дзіўная рэч! — быў хоць бы што. Быццам не было страшнай ночы: ішоў роўна, спаць яму ані не хацелася і стомы асаблівай не адчуваў...

Ніколі з Колем такога не было, і ён пачаў нават непакоіцца,— можа што з ім нядобрае здарылася. А таго няўцям было, што непакоіцца тут не было з-за чаго, што такая ўяўная прысутнасць сіл ад празмернага нервовага напружання і што гэта скора пройдзе і наступіць стома...

— Оп алес! Відэр гей! — пачулася каманда.

Коля пабудзіў Вадзіма. Яны хуценька ўсталі.

Зноў паставілі ў калону і — адразу рушылі...

Павярнулі крута ўправа, пад вечар выйшлі на пясчаны бальшак.

Фашысты спынілі нявольнікаў, палічылі і, акружыўшы моцным канвоем, пагналі далей. Размінуліся з невялікай фашысцкай аўтакалонай. Дарога была разбіта, машыны часта спыняліся, не кожная ішла сваім ходам, многія былі на прычэпе.



Ужо сонца схавалася за лес, калі ўвайшлі ў Макаўе. На дзіва, у вёсцы было з дзесятак хат!

Нявольнікаў загналі ў вялікую хату, вокны і дзверы ў якой былі выбіты. Хата акружана дотамі, у якіх сядзелі фашысты. Коля паспеў убачыць, што і на страсе, каля коміна, сядзеў фашыст з ручным кулямётам.

На агародзе наўпроць хаты тырчалі дулы гармат.

Нявольнікі паселі на падлозе, шчыльна прыхінуўшыся адзін да другога. Некаторыя адразу задрамалі, у сне пачалі мармытаць, ускрыкваць, кагосьці гучна клікаць...

Коля ў знямозе апусціўся на падлогу, і адразу вочы звяла цяжкая стома. Коля раптам адчуў, што дрымота ахінае яго. Ён прытуліўся да Вадзіма, які, абшчапіўшы рукамі падагнутыя калені, ужо моцна спаў...

Пад раніцу Коля прачнуўся ад страшэннага гулу і грому...

— Я даўно будзіў-будзіў цябе — не дабудзіўся...— гучна крыкнуў яму на вуха Вадзім.— Ужо і не знаў, што рабіць.

Уся хата хадзіла хадуном. Дзесьці за вёскай пырскалі ў неба ракеты... На страсе хаты ўвесь час не змаўкаў кулямёт. Сярод гэтага гулу Коля чуў зрэдку далёкае раскацістае шматгалосае «ўра».

«Што такое? Ці гэта так мне здаецца?..» — думаў Коля, напружваючы слых.

Грымелі гарматы, тахкалі мінамёты. Людзі тулілі галовы, пальцамі затыкалі вушы, ад кожнага блізкага выбуху яшчэ ніжэй прыгіналіся да падлогі, бліжэй туліліся адзін да другога.

Грукат быў не аднастайны. Ён то ўзмацняўся, то спадаў. Калі грукат спадаў, то Коля чуў яшчэ і гул самалётаў.

«Чые? Эх, каб нашы!.. Няхай бы сюды кінулі адну бомбачку...» — падумаў Коля, як раптам на агародзе, дзе стаялі гарматы, бліснуў вялізны вогненны клубок, хату нібы падняло ўверх, хата скрыгатнула і асела. Выбуху Коля амаль не чуў, толькі адразу вушы як ватай забіла...

Стала ціха, як у мяшку. Толькі хату моцна калаціла...

Коля праглынуў сліну, паляпаў рукамі па вушах — адлягло, слых вярнуўся.

І толькі зараз ён дайшоў да думкі, што трэба спытаць у Вадзіма — можа той ведае, што такое творыцца вакол.

— Што гэта за гром?! Самалёты?! Нашы?! — гучна крыкнуў ён у вуха Вадзіму.

— Ага! На...ляцелі ноччу... да... гэт... Страляніна... пачалася,— абдаючы Колева вуха цёплым выдыхам і пасля кожнага слова глытаючы сліну, гаварыў Вадзім.— Уцяч... уцячы можна... Давай уцячом... Гром як... гром... уцяч...

— Давай! — махнуў Коля Вадзіму і прыўзняўся. Вадзім таксама прыўзняўся. Сябры пабраліся за рукі, быццам баючыся, каб хто з іх не сігануў без часу, і, напружыўшыся, уставіліся вачыма ў акно як бы чакалі ўдачлівай хвілі. Душа і ў аднаго і ў другога паступова налівалася, поўнілася рашучасцю, і нарэшце надышло такое, што хлопцы гатовы былі пачаць прабірацца між скурчаных пакутнікаў, затым кінуцца, пабегчы, папаўзці, як раптам у акне ўбачылі ўскудлачаную галаву нявольніка. Той рашуча і шпарка прыўзняўся, налёг грудзьмі на падаконнік, відаць, хацеў вылезці праз акно, і раптам тарганўся, схапіўся аберуч за галаву, прыўзняўся на ўвесь рост, пахіснуўся, як колас ад ветру, і рухнуў уперад. Падаконнік быў нізкі, і забіты зваліўся на двор.

Яшчэ гахнуў паблізу моцны выбух, і хату абдало святлом. Па сценах шаргануў пясок, хруснулі асколкі.

Сябры зноў прыселі. Прыхінуліся блізка адзін да другога. Да раніцы ўжо больш не звялі вачэй.

Пад раніцу кананада сунялася. Толькі кулямёты дзесьці за вёскай не змаўкалі да відна...

Раніцай з хаты ўсіх нявольнікаў выгналі на двор. Там Коля ўбачыў таго, што загінуў уначы. Гэта быў хударлявы мужчына сярэдніх год, без шапкі, у кароткай суконнай світцы карычневага колеру, у паношаных ваенных штанах, падвязаных знізу, босы.

Забіты ляжаў каля хаты, наўпроць акна. Па вопратцы і ростам ён быў вельмі падобны на партызана Бычка з Маргавіцы. Коля спачатку нават падумаў, што гэта Бычок ляжыць, але адразу ўспомніў — Бычка ж забілі летась, у першую блакаду, пад Ёськавай гарой. І пахавалі яго на маргавіцкіх могілках, калі вярнуліся з блакады...

Хутка ў двор прыгналі яшчэ мужчын і юнакоў.

І новыя нявольнікі, і фашысты, якія прыгналі іх, многія былі раненыя... Раны былі нядаўнія: кроў запяклася на павязках. Раненыя фашысты лютавалі асабліва жорстка. Яны, як сабакі, кідаліся на людзей і білі чым папала — кулакамі, прыкладамі, ботамі.

Коля з Вадзімам стаялі побач з барадатым дзядзькам, якога толькі што прыгналі сюды. Барада ў яго была белая, вялікая, як памяло. Сам ён яшчэ быў не стары. Відавочна было, што ён адгадаваў бараду наўмысля.

— Адкуль вы, сынкі? — ціха спытаў барадаты.

— Я з Лепеля. Чулі такі горад? — сказаў Вадзім.

— А я з Маргавіцы... што каля Бягомля... Вёска такая... Ведаеце? — зірнуў Коля на барадача.

— У Лепелі бываў. Служыў некалі кавалерыстам. І пра Бягомль чуў. І бываў неяк раз перад вайной. Па лес ездзілі. Ну, а пра Маргавіцу не чуў, не знаю... Я сам з-пад Заслаўя. Заслаўе вы, вядома, не ведаеце, можа не чулі нат.— Барадач пакруціў галавой.— А-й-я-я! Як людцаў зрушылі, паразганялі па свеце нячысцікі праклятыя!.. Чаго іх прынясло на нашу зямлю? Напасць такую.— Барадач крыху памаўчаў і, глыбока ўздыхнуўшы, сказаў: — У мяне сын недзе... Вашых гадоў якраз.... Адзін ён у мяне быў. Немцы як наляцелі аблавай, дык мы з дому выбеглі разам. За сялом нас абстралялі, мы і разбегліся. Я на Палік з партызанамі пайшоў, а ён... Не знаю, дзе ён, Максімка...— цяжка ўздыхнуў барадач. З мінуту ён зноў памаўчаў.— Колькі людцаў на Палік збеглася!.. Кішэла балота... А немцы як дадуць з арудзій ды мінамётаў. Сабраліся ўчора партызаны дый вольныя ды кінуліся ноччу на прарыў. Чуў, як грымела ноччу? — павярнуўся барадач да Колі.— Колькі партызан на полі палягло... Ай-яй!.. Але тут нашы самалёты наляцелі ды — як ударылі!.. Ну, гэтых сабак пабіла многа... А многа паабдзірала,— кіўнуў ён у бок раненых фашыстаў.— А мы ішлі з партызанамі, ды не ўсе ўспелі. Абаднела. Сядзелі ў лесе. Дзікуны гэтыя акружылі нас уранні, сцапалі і — сюды...

На вуліцу панаехала многа падвод — цэлы абоз. Худыя, загнаныя коні, запрэжаныя ў малыя сялянскія калёсы. Зрэдку ў абозе высіліся і ваенныя нямецкія фуры, у якія былі запрэжаны тоўстыя чужыя коні з падрэзанымі кароткімі хвастамі.

З вуліцы найшло многа ўзброеных фашыстаў, расштурхалі нявольнікаў, выбралі чалавек мо больш паўсотні, пераважна юнакоў і старых, і пагналі да абозу. Сярод выбраных былі Коля, Вадзім і барадач.





Колю пасадзілі на калёсы ў сярэдзіне абозу, далі ў рукі лейцы. Вадзіма і барадача пагналі ў канец абозу.

Ля вазоў праходзіў перакладчык і гаварыў падводчыкам, што яны павінны глядзець за коньмі, ехаць, куды ім загадаюць, і хай ніхто не падумае ўцякаць — адразу расстрэл.

Калёсы былі загружаны ўсялякай салдацкай амуніцыяй роўна з панарадамі. Але толькі пачаў Коля спераду калёс рассоўваць кацялкі, біклажкі, процівагазы, каб зручней сесці, як убачыў трубку палатна і вялікія маткі кужэльных нітак. Палатно і кужаль ляжалі на дне воза.

Коля хацеў яшчэ пакапацца, паглядзець, што ў возе ёсць, але да калёс падыходзілі два фашысты, і ён хуценька сеў і пачаў трымаць каня, нібы той не слухаецца яго і рвецца ісці, хоць конь і не думаў кратацца.

Фашысты, што падышлі да калёс, былі худыя, няголеныя. Мундзіры на іх абшарпаныя, пацёртыя, у гліне. Абодва хмурыя, злосныя. Коля ўпотай пазіраў на фашыстаў і думаў, што правільна сказаў барадач, назваўшы фашыстаў дзікунамі. Што ў іх чалавечага? І глядзяць спадылба, як зладзеі. У позірку — лютасць, жорсткасць, вочы блішчаць нейкім звярыным агнём. «Як у ваўкоў»,— падумаў Коля.

Фашысты ўзвалілі на воз чатыры скрынкі патронаў, потым паселі самі, звесіўшы ногі. Карабіны паклалі сабе на калені. На ўсіх астатніх вазах, загружаных ваеннай амуніцыяй і сялянскімі пажыткамі, таксама паселі фашысты.

І абоз рушыў.

Праехалі колькі двароў, перапоўненых нявольнікамі. Коля прыглядаўся да людзей, каб дзе ўбачыць каго знаёмага. З іншымі падводчыкамі перакліkаліся з двароў нявольнікі — сустракаліся знаёмыя. А Колю дык нікога не ўдавалася прыкмеціць. Як ён хацеў, жадаў убачыць каго знаёмага! Цяпер і далёкаму ў знаёмстве чалавеку ён быў бы рад, як роднаму бацьку. Хацелася сказаць усяго некалькі слоў. Што ён жыў-здароў і няхай дома не бядуюць па ім... Так іншыя падводчыкі гаварылі сваім знаёмым нявольнікам. А Коля сам сабе паўтараў гэтыя словы, а сказаць іх не было каму. Чужым людзям не скажаш — не пойдуць жа яны ў Маргавіцу дзеля яго толькі: у кожнага свайго гора хапае.

Падвода, уздрыгваючы на каменнях, павольна рухалася і рухалася далей. Ужо бачны быў канец вёскі. Коля ўжо і надзею страціў убачыць каго знаёмага. І раптам з апошняга двара:

— Глянь, Халімка! Ты казала, што нікога наскага няма! Во Коля едзе! Глядзі! Гэта ж з Маргавіцы, Хрысцінчын сын.

І да падводы падкацілася маленькая, тоўсценькая, кірпаносая жанчына.

— Цётка Ганна! — узрадаваўся Коля і аж падаўся ўперад, ледзь з воза не зваліўся. Два фашысты, што сядзелі на возе ля Колі, загардычылі і ўчапіліся рукамі за яго: спалохаліся, каб не ўцёк.

— Цётка Ганна! — гукнуў Коля.— Калі ўбачыце каго з нашых, то перадайце, што я жывы... І скажыце ім, што я скора вярнуся...

Цётка Ганна прайшла некалькі крокаў поруч з падводай. Яна б можа ішла і доўга, але з двара, адкуль яна выскачыла, выбег фашыст з аўтаматам, дагнаў яе, вярнуў і кухталямі ў плечы пагнаў назад. Паварочваючыся на хаду, цётка Ганна крычала Колю:

— Калі ўвідзіш каго нашых, сынок, дык скажы, што мы былі ў Макаўі. Нам сказалі, што нас некуды павязуць на машынах... Можа не ўвідзімся болей... Бывай, сынок!



— Чаму не ўвідзімся? Увідзімся! — крычаў Коля.— А як спаткаю каго з вашых, дык я скажу... Да скорай сустрэчы!

Падвода была ўжо за вёскай. Апошні двор з нявольнікамі засланялі іншыя падводы, што бясконцай чарадой цягнуліся праз усю вёску. Коля стаў на возе на каленях і, не выпускаючы лейцы з рук, глядзеў на той двор, куды фашыст з аўтаматам пагнаў цётку Ганну. Між конскіх галоў, праз густую сетку пылу Коля бачыў, што цётка Ганна дайшла да варотцаў, спынілася каля нейкай жанчыны,— відаць, гэта была тая Халімка, да якой звярталася цётка Ганна, калі ўбачыла Колю,— павярнулася і пачала махаць яму рукой. Фашыст з аўтаматам не перашкаджаў ёй. Ён спыніўся збоку і пільнаваў, каб яшчэ хто з нявольнікаў не выбег з двара. Бачыў Коля, што Халімка прыступілася да цёткі Ганны, штосьці сказала ёй, а потым таксама пачала махаць яму рукой.

Коля ведаў, што Халімка, як і цётка Ганна, была з Бягомля. Халімка — татарка. І жыла яна на Трактарнай вуліцы, у самым канцы, аж пад Муражынцам. І мужык у яе некалі быў таксама татарын. Абрагімам яго ўсе звалі.

Дарога павярнула ўправа. Чым далей ад Макаўя аддалялася падвода, тым усё больш і больш двор з нявольнікамі засланяўся доўгім старым хлевам пад рудой саламянай страхой. Коля, не адрываючы вачэй, увесь час глядзеў і глядзеў туды. Нарэшце паўз абоз і паўз сцяну пылу Коля ў апошні раз убачыў цётку Ганну і Халімку і памахаў ім рукой. Убачыў яшчэ Коля, што да жанчын падбеглі тры хлапчукі і таксама пачалі махаць яму рукамі... Два былі амаль такога росту, як Шура, трэці зусім малы...

Макаўе засталося далекавата ззаду. Дарога вяла на ўзгорак. Справа, удалечыні за полем, чорнымі папялішчамі і гарбамі зямлянак чарнела вёска Мсціж. На агародах сівеў быльнёг у рост чалавека. Яшчэ вясной 1942 года фашысты жорстка расправіліся з жыхарамі Мсціжы пасля таго, як партызаны разграмілі там першы ў раёне паліцэйскі гарнізон.

Злева ў вялікай лагчыне да ракі Бярозы слаўся дым: за лагчынай гарэў лес.

Колю ўспомнілася, як летась яны з Шурам узбіраліся за ракой на самую высокую яліну і аглядалі наваколле. Тады ўвесь раён быў засланы вось такім дымам. А калі ветру не было, дым у многіх мясцінах узнімаўся ў неба высачэзнымі сівымі слупамі: гарэлі вёскі.

Пераехалі ўзгорак. Уперадзе паказалася вялікае жытняе поле. Злева і справа ад поля цямнеў густы лес.

На полі, як свечкі, стаялі голыя бярозкі, многія паламаныя. Жыта ўсё стоўчанае, змятае. Густа чарнелі варонкі, выгарыны.

Ноздры забіваў пах гары. Коні пачалі фыркаць.

Дарога ішла праз поле. Коля ўбачыў, што на полі шмат забітых партызан. Яны ляжалі хто як: адны дагары, другія скурчыўшыся, іншыя ўпокат. Каля забітых хадзілі фашысты, забіралі зброю. Справа ад дарогі стаялі дзве машыны, фашысты насілі зброю туды.

За полем голым дуддзём бялеў беразняк. Пад'ехаўшы бліжэй, Коля ўбачыў узарваныя доты, апусцелыя акопы. Наводдаль ад дарогі, каля акопаў, ляжала многа забітых фашыстаў. Яны былі складзены ў вялікі рад. Жывыя фашысты ў споднім кашулях рылі для мёртвых яму.

Адразу за беразняком пачынаўся сасновы лес. Уздоўж дарогі жаўцелі траншэі, смалістымі канцамі сасновых накатаў бялелі доты. Доты стаялі густа. З амбразур тырчалі дулы кулямётаў.

Вузкія лясныя дарогі часта перакрыжоўваліся. Абоз увесь час браў управа.

Неўзабаве лес стаў разрывацца балотамі, парослымі бярозкамі і лазой. Хілілася долу шорсткая, пабітая рабаціннем трава. Колы чвякалі па гразкай каляіне, пераязджалі вялікія лужыны. Коля чуў, як фашысты, якіх ён вёз, часта гаварылі слова «Палік».

«Дык гэта той Палік...— думаў Коля.— А дзе ж тое возера?» Не ведаў ён, што да возера Палік па балоце не даедзеш, бліжэй да возера пачыналася дрыгва. Ды і ехалі не ў тым напрамку, далёка ўзялі ўправа.

Часам дарога ішла па ўзруб'і. Тады ехалі зноў міма дотаў і акопаў, у якіх сядзелі ўзброеныя фашысты. Умацаванні тут былі радзей. Гэта, відаць, была другая ці трэцяя лінія абароны.

Мінуўшы балоцістыя мясціны, павярнулі крута ўправа. Паехалі густым хмызняком.

Дзесьці далёка, на Паліку, узнялася страляніна.

Фашысты на падводах насцярожыліся, пачалі гыркаць на падводчыкаў, прыкладамі падганяць коней.

Матляючы галовамі, нехаця коні патрусілі рыссю. Колы застукалі па карэннях, калёсы пачало кідаць у бакі. Каб неываліцца, Коля ўчапіўся рукамі за поручні.

За хмызняком ішоў сасновы лес, потым зноў хмызняк.

У лесе было змрочна, ціха і пуста. Нават і птушак не чуваць было. Можа яны спалохаліся страляніны? Але ж і яна зараз супынялася. Толькі зрэдку дзесьці цяхкаў аўтамат і бахалі адзіночныя вінтовачныя стрэлы.

Коля паглядзеў навокал: змрочнасць і цішыня лесу наганялі журбу і цяжкі, пакутлівы смутак...

Раптам уперадзе, злева ад дарогі, Коля ўбачыў старога. Ён выпаўз з хмызняку, лёг каля дарогі. Твар яго быў у крыві. Фашысты схапіліся за карабіны, залязгалі затворамі.

— Дабіце мяне... Спасіце ад мук...— прастагнаў стары, калі воз параўняўся з ім.

Фашыст, які сядзеў ззаду за Колем, саскочыў з калёс.

Коля глянуў на фашыста і жахнуўся ад яго выгляду. Фашыст сядзеў на возе злосны, пануры. А тут раптам ажыў, загарэліся вочы, нібы ён толькі і чакаў ахвяру, нібы яму толькі гэтага і не хапала ў жыцці. Фашыст спрытна адскочыў, прыцэліўся і стрэліў...

Стары дзюбнуўся тварам у зямлю і застыў.

Забойца адцягнуў яго ад дарогі, дагнаў воз, сеў на сваё месца.

Другі фашыст, што сядзеў ззаду на калёсах, нахіліўся і паляпаў забойцу па плячы.

Па целе ў Колі прайшлі мурашкі. Слёзы падкатваліся да горла. Да болю ў руках камячыў лейцы.

Лесам ехалі доўга. Дотаў і акопаў больш ужо не міналі нідзе. Фашысты ўвесь час нерваваліся, самі падганялі коней, хаця тут было спакойна, не чутно стрэлаў.

У нагрэтым лесе пахне смалой, прэллю. Да ўспацелых конскіх жыватоў ліпнуць авадні, сляпні і пачырванелыя ад конскай крыві камары. Стомленыя коні ляніва бароняцца хвастамі ад крывасмокаў, цiснуцца ў бок хмызняку.

Неўзабаве ўперадзе між сосен паказалася белая паласа шасейнай дарогі. Пераехалі, адразу павярнулі ўлева. Далей ехалі ўздоўж канавы. Шасейка была зусім непрыгодная для транспарту: праз кожныя сто метраў шырокі і глыбокі папярочны роў.



Гады два таму назад па загаду акупантаў на сто метраў абапал дарогі лес быў высечаны. На яго месцы зелянеў цяпер густы, нізкі малады сасоннік...

Хутка лес расступіўся, і Коля скрозь маладняк убачыў на ўзгорку дзве малыя хаткі. Далей бялелі сцены касцёла, разбітага фашысцкай авіябомбай у пачатку вайны. Мястэчка Зембін.

Абоз выехаў на шасейку, калёсы гулка затарахцелі па бруку.

У Зембіне абоз не спыніўся. Павольна праехалі па пустынных вуліцах, міма папялішчаў, міма зямлянак. У акенцах зямлянак бачны былі спалоханыя дзіцячыя тварыкі. Але з зямлянак ніхто не выходзіў.

У цэнтры мястэчка ўзвышалася царква, ператвораная фашыстамі ў крэпасць. На страсе царквы зеўралі прабоіны, у таўшчэзных цагляных сценах чырванелі вялікія і малыя, як соты, ямкі — сляды партызанскіх штурмаў. Навокал царквы было многа дотаў, каля якіх сядзелі фашысты і глядзелі на абоз, як здалося Колю, з зайздрасцю.

Выехаўшы з Зембіна, абоз пайшоў па шасейцы.

Каля вёскі Весялова, што малымі хаткамі рассыпалася, як стада авечак, адразу за мастом на левым беразе ракі Бярозы, спыніліся на прывал.

Коля з'ехаў на абочыну, распрог гнядога коніка, пусціў пасвіцца каля дарогі. Тым часам два фашысты назбіралі ламачча, распалілі агонь. Адзін зняў споднюю кашулю і пачаў над агнём прудзіць вошай, а другі даў Колю вядро і паказаў ісці следам за ім.

Не даходзячы да моста, фашыст загадаў Колю спыніцца, а сам пайшоў да групы фашыстаў, адзін з якіх, відаць, быў знаёмы яму, бо з ім ён прывітаўся і перагаварваўся, калі абоз ішоў цераз мост. Коля бачыў, як фашыст адазваў ад групы свайго знаёмага, правёў яго на другі бок моста і таемна пачаў аб чымсьці расказваць. Коля стаяў з парожнім вядром у руках і крадком аглядаў наваколле.

Высачэзны доўгі мост дугой вісеў над ракой. Дарожны насып з двух канцоў моста быў вельмі высокі. Унізе насыпу абапал дарогі і на абочынах яе на адным і другім беразе ракі паўрасталі ў зямлю вялізныя доты, абнесеныя доўгімі клубкамі калючак. Коля стаяў якраз наўпроць уваходу ў дот і чуў, як там трашчаў радыёпрыёмнік.

І раптам да слыху Колі данесліся выразна гучныя словы:

«...савецкія войскі вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў горад Лепель...»

Шчоўкнуў пераключальнік, пачулася шыпенне, свіст, потым нейкая чужая, незразумелая музыка, падобная на скрып нямазаных колаў.

Коля быў, як у сне. Ад шчаслівага хвалявання ў яго перахапіла дыханне. Ён увесь ператварыўся ў слых. Але ў вушы лезла дзікая музыка...

«Вызвалілі Лепель...— з радасцю думаў Коля.— А ад Лепеля да Бягомля ўсяго пяцьдзесят чатыры кіламетры...»

— Ты чаго, хлопец, стаіш тут? — пачуў Коля збоку ад сябе грубы мужчынскі голас.

Ён павярнуў галаву і ўбачыў ля дота чалавека ў нямецкай форме.

«Народнік!.. Ён, мусіць, бачыў, што я слухаў прыёмнік...» — з трывогай падумаў Коля.

— Што ж ты маўчыш? — падышоў блізка да Колі «народнік».

— Прыйшоў па ваду... Вунь ён прывёў...— паказаў Коля на фашыста, які размаўляў з вартавым.
— Куды ён цябе, гэты вылюдак, прывёў? — узлаваўся «народнік».— Ці ён не ведае, што каля моста да ракі нельга падыходзіць? Што, у яго ўжо мазгі высахлі?.. Як у іхняга фюрара?..
Коля быў здзіўлены, што «народнік» так гаварыў пра фашыстаў... Але здзіўлення свайго нічым не паказаў. Зрабіў выгляд, быццам нічога не зразумеў.
— Слухай, хлопец,— зашаптаў у яго пад вухам «народнік».— Скажы, дзе ёсць партызаны?.. Не бойся мяне... Я сур'ёзна гавару... Скажы, хлопец, скажы...— узмаліўся «народнік».
— Не знаю...— паківаў галавой Коля. А потым, крыху памаўчаўшы, набраўся смеласці і ціха прамовіў: — У лесе... Дзе ж яны могуць быць... У лесе...
— Я ведаю гэта...— ціха прамовіў «народнік».— А як дайсці?.. Я не тутэйшы. Мясціны мне тут незнаёмыя. Нас нядаўна прыгналі сюды...
«Народнік» палахліва азірнуўся навокал і хацеў сказаць, мабыць, штосьці асабліва важнае. Але па шашы забухалі гулкія крокі каваных ботаў. Падышоў фашыст. Зверам глянуўшы на «народніка», гыркнуў на яго і штурхнуў Колю ў плячо.
«Народнік» адскочыў убок і, палахліва азіраючыся, таропка шмыгнуў у дот.
Фашыст прывёў Колю да калодзежа, які быў наводдаль ад дарогі, у вёсцы. Там ужо брала ваду некалькі падводчыкаў. Навакол стаялі з карабінамі напагатове фашысты.
Коля набраў вады. Сустрэў Вадзіма.
— У Лепелі, у тваім горадзе, нашы...
— Ну?! — радасна выгукнуў Вадзім.— Дык куды ж мы едзем? Чаго мы тут тырчым?.. Уцякаць трэба... Давай разам, Коля...
— Я толькі пра гэта думаю...— ціха адказаў Коля.
— Шпрэхен фэрботэн! — закрычаў ззаду фашыст, падскочыў да юнакоў і расштурхаў іх.
— Ты дзе едзеш? — крыкнуў Коля наўздагон.
— У хвасце. Другі ад заду,— адказаў Вадзім, ухіляючыся ад фашыста, які замахнуўся на яго карабінам.
Коля прынёс ваду. Фашыст наліў кацялок, паставіў у агонь.
У гэты час пачулася рэзкая каманда. Ля вазоў замітусіліся фашысты. Падводчыкі ўзялі да калёс коней.
Коля хутка запрог гнядога, сеў на калёсы. Раскідаўшы агонь і захапіўшы парожні кацялок, фашысты селі на воз тады, калі Коля выязджаў на брук.
Зноў абоз трохкіламетровай вужакай расцягнуўся па шасейцы.
Перад Барысавам, якраз наўпроць вёскі Сцюдзёнкі, шасейка спускаецца ў лагчыну, выгінаецца пяцікіламетровай дугой. Справа ад дарогі распрасцёрся аж да ўрочышча Дымкі роўны, як стол, луг, перавіты ракой Бярозай, яе прытокамі і рукавамі; злева — высокія хвалістыя ўзгоркі, зрэдку пакрытыя адзінокімі сасонкамі. Узгоркі стромка ўзнімаюцца ўверх толькі ад дарогі. А там, наверсе, выпростваюцца і даюць пачатак шырокім палеткам. Узгоркі вельмі даўнія. Яшчэ Напалеон некалі стаяў тут і ў падзорную трубу азіраў наваколле, выбіраў месца для пераправы свайго войска.
Было ціха навокал. Нібы ўсё вымерла ў прыгарадзе Слабодка, што пачынаўся там, дзе шасейка віхлястай змяёй узбіраецца на ўзгорак. І раптам Коля ўбачыў, як па бруку, уздоўж абозу, мільгануլі снапы іскраў. І толькі потым ужо Коля пачуў грукат буйнакалібернага кулямёта над галавой і гул самалётаў. Ён узняў галаву і ўбачыў на крылах самалётаў чырвоныя зоркі.
Абстрэл, налёт... Здавалася б, спалохацца трэба. Фашысты, як спружыны, адскочылі ад вазоў, палеглі хто ў канаве, хто на схіле ўзгоркаў, навёўшы карабіны на абоз, каб не разбегліся падводчыкі. А Коля сядзеў на возе і шырокімі ад здзіўлення вачыма глядзеў услед савецкім самалётам... І толькі тады, калі ўбачыў, што самалёты над Барысавам зрабілі разварот і зноў ідуць на абоз і што ўсе вазы апусцелі, саскочыў на брук і пакаціўся ў канаву.
Саскокваючы з воза, убачыў побач ля дарогі доўгі, глыбокі роў, што чарнеў наўскасяк ад шасейкі, адным канцом даходзячы ледзь не да канавы, а другім хаваўся ў густых лазовых кусціках. За кусцікамі сасняк, а там зноў кусцікі і адзінокія бярозкі. Надзея мільганула маланкай: роў метраў трыццаць, перакаціцца туды, праскочыць яго можна за секунду. А там — свабода! Коля нават прыўзняўся на руках... Раптам нейкая гарачая хваля абдала яго цела, рукі паслаблі, і ён цяжка паваліўся грудзьмі на траву. Павярнуў галаву — у канаве фашысты. Але яны не глядзяць нікуды — пазашываліся тварам у траву. А як там, у рове? Можа там купа вязкая? Не паспееш дабегчы, заўважаць...
Савецкія знішчальнікі зноў прайшлі нізка-нізка над абозам, нават лётчыкі відны былі. З аднаго самалёта ўдарыў буйнакаліберны кулямёт. Зніклі. Праз хвіліну знаёмы ўжо стук кулямётаў чуўся недзе за Барысавам.
Коля вылез з канавы і сеў на возе.
Ён бачыў, як фашысты, пазіраючы на неба, выпаўзлі з канавы. Многія, прыўзняўшыся, клікалі на дапамогу. Да іх падбягалі санітары, рабілі перавязкі і ўзялі да падвод. Некаторыя раненыя, седзячы на траве, самі бінтавалі свае раны.
Чатыры фашысты зусім не ўсталі. Іх паклалі ў рад ля канавы. Хутка былі вырыты ля дарогі чатыры яміны, і забітых фашыстаў пахавалі. Паставілі чатыры бярозавыя крыжы, павесілі каскі на іх. Нястройны залп страсянуў паветра.
Глядзець на мёртвых чужынцаў Колю было куды лягчэй, чым на жывых.
Падводчыкі і раненыя селі на свае вазы.
Раптам уперадзе абозу загалёкалі фашысты. Адразу з канца абозу многія пабеглі да пярэдніх падвод, што былі метраў за сто ад крайняй хаты Слабодкі.
Фашысты разбегліся каля дарогі, пачалі аглядаць кожную лагчынку, некаторыя саскочылі ў канаву і пачалі заглядваць пад маленькі дарожны масцік, на якім стаяла падвода.
Коля бачыў, як з-пад масціка фашысты выгналі падводчыка. Гуртам накінуліся на ўцекача, білі прыкладамі, кулакамі, а калі ён паваліўся, таптаді нагамі. Потым уразлад грымнулі стрэлы. Падводчык скурчыўся, крыху прыўзняўся, нібы хацеў сесці, каб пасłаць праклён забойцам, але не змог, рухнуў на зялёную маладую траву тварам дагары.
Праязджаючы міма забітага, Коля пазнаў яго. Ён быў з Бягомля. Коля ведаў толькі яго прозвішча — Дубок. Бачыў яго ўчора ўранні на Перасове. Дубка прыгналі разам з Вадзімам. Коля хацеў дамовіцца з Дубком разам уцякаць, але той трымаўся асабняком, сядзеў наводдаль, і Коля не рашыўся адкрывацца яму ў сваіх планах.

«Пажылы чалавек, а якое глупства зрабіў... Хіба так трэба было ўцякаць?..» — падумаў Коля, калі першая падвода параўнялася з крайняй хатай Барысава.

Барысаў гарэў. Густым бяскрайнім воблакам слаўся над разбураным горадам дым, зліваўся з перадвячэрнім змрокам, расплываўся навокал.

Коля бачыў, што па вуліцах бегалі фашысты з факеламі. На базарнай плошчы стаяла некалькі машын, на якія фашысты грузілі хатулі, чамаданы, сталы, крэслы, канапы, карціны.

На цэнтральнай вуліцы ў Стара-Барысаве абоз стаяў да ночы: на мосце быў вялікі затор. Першымі прапускалі падводы з раненымі.

Шырокая аўтастрада на Мінск была забіта падводамі, машынамі, пешымі фашысцкімі салдатамі. Далёка разносіцца ржанне коней, крыкі людзей. Чуюцца воклічы на розных мовах. З перарывамі грымяць стрэлы: то аўтаматныя — роўным рокатам, то адзіночныя — гучныя.

Фашысты саскокваюць з калёс на асфальт, б'юць коней, бягуць побач з вазамі. На вазы лезуць стомленыя, падбітыя салдаты. Тыя, што сядзяць на вазах, адштурхоўваюць нахабных. Адны і другія хапаюцца за зброю, але да перастрэлкі не даходзіць.

Падводы і машыны ідуць у некалькі радоў.

Коля бачыць, як падвода, што ідзе перад ім, выехала на сярэдзіну аўтастрады. Падводчык пагнаў каня ў галоп, каб выбіцца наперад. Раптам ззаду на падводу наляцела машына, пасунула перад сабой калёсы, затармазіла. Шафёр, высунуўшыся з кабіны, раве не сваім голасам на падводчыка. Фашысты, што сядзяць на калёсах, пагражаюць шафёру кулакамі, лаюцца, таўкуць падводчыка ў каршэнь. Падводчык скіроўвае каня ў канаву, потым зноў узбіраецца на абочыну магістралі і займае ў абозе сваё ранейшае месца.

І ўвесь гэты натоўп рухаецца, грыміць у блакітным змроку летняй ночы.

На захад... На захад пралятаюць афіцэрскія легкавікі. На захад грукацяць танкеткі, ім на дарозе не трапляйся — стопчуць.

Ужо некалькі паламаных калёс ляжаць у канаве. На абочыне замінаюць дарогу прыстрэленыя коні. Цераз канаву — задушаныя танкеткай два падводчыкі.

Коля глядзіць на перагружаныя паласатыя машыны, на падбітых, абыякавых да ўсяго фашысцкіх ваяк, і яму ўспамінаецца лета 1941 года.

Паўтара месяца дзень і ноч каля Маргавіцы па шасейцы Мінск — Віцебск грымелі фашысцкія калоны танкаў, грузавікоў. А потым з тыдзень ішлі роты веласіпедыстаў і абозы.

Але ці такое ўсё было, як цяпер?..

І на машынах, і ў абозах ехалі ў форме з іголачкі вясёлыя ўзброеныя да зубоў фашысты.

Толькі па адной шасейцы Мінск — Віцебск паўзла тады на ўсход, наступала незлічоная сіла. Ды хіба па адной шасейцы пёрлася столькі чужынцаў, столькі тэхнікі? І дзе ўсё гэта падзелася?..

Вось пляцецца побач з возам абарваны фашысцкі ваяка. За плячыма ў яго матляецца карабін. Каб не адстаць, ваяка трымаецца за поручні. Ён увесь час на кагосьці лаецца, кагосьці праклінае, але на яго ніхто не звяртае ніякай увагі. Ваяка ледзь цягне ногі, але і гэта таксама нікога не хвалюе. Сесці на калёсы нельга — няма месца.



Як ні стараўся забойца старога не пусціць нікога на воз, яму гэта не ўдалося. Да калёс падбег фашыст з крыжамі на грудзях, у новенькай адпрасаванай форме, відаць, старшы нейкі афіцэр. Тыцкаючы забойцу наганам у твар, ён сагнаў яго з калёс і, каб аблегчыць воз, раскапаў амуніцыю, выкінуў у канаву дзве трубкі палатна, маткі нітак і многа парожніх біклажак, кацялкоў. Напалавіну панарад апусцеў. Афіцэр пасадзіў пяцёх зусім падбітых фашыстаў. На іншыя падводы ён таксама пасадзіў па некалькі фашыстаў. Новыя ваякі адразу пачалі клявацъ носам. Мусіць, не першыя суткі яны беглі на захад. Конь чэпаў вельмі памалу. Коля скіраваў яго на асфальт — калёсы пайшлі лягчэй.

Ззаду, над Барысавам, і ўперадзе, недзе, відаць, пад Мінскам, чуліся выбухі, шугала крывавае зарава... Ад гэтага зямля навокал, здавалася, мае колер цэглы... Нават месяц, што вісеў над магістраллю, таксама, здавалася, пачырванеў...

Забойца старога штосьці мармытаў у сне, кідаўся, як ад удушша. Раптам ён падскочыў,— відаць, яму прысніўся страшны сон,— выхапіў у Колі лейцы і штурхнуў яго з воза. Коля паляцеў потырч на асфальт і ледзь не трапіў пад кола машыны, моцна ўдарыўся... Фашыст загадаў яму бегчы побач з возам, а сам пачаў прыкладам карабіна падганяць гнядога. Конь панатужыўся і патрусіў бягом.

Коля шлёпаў босымі нагамі па шурпатым асфальце. З правага боку — абоз, з левага — машыны. Машыны ідуць шпарка. Адна з іх кузавам балюча ўдарыла Колю ў плячо, абадрала скуру. Рану пякло, кашуля ліпла да раны. Калі сядзеў на возе, Коля не адчуваў так востра голад. А цяпер жывот падводзіла, слабелі ногі... Бегчы было вельмі цяжка. Коля адстаў ад падводы. Забойца старога ўвесь час не зводзіў вачэй з Колі, сачыў за ім... Убачыўшы, што Коля адстаў, фашыст дзіка вызверыўся і паказаў бегчы побач з падводай.

Коля сабраў сілы, паскорыў бег і ўчапіўся за поручні.

На світанні насустрач адступаючым з Мінска таксама паваліў вялікі паток машын і падвод. Вал, што ішоў з Барысава, спыніўся. З гадзіну стаялі на дарозе. Падводчык з суседняй падводы, хітра і ледзь прыкметна міргнуўшы, гучна сказаў Колю, што ў Мінску нашы. Фашысты чулі гэта, насцярожыліся. Чутка пайшла ад падводы да падводы.

«Пуджаная варона і куста баіцца». Пярэднія падводы павярнулі назад і ўліліся ў паток, што ішоў з Мінска.

Афіцэр з крыжамі на грудзях і ў новенькай адпрасаванай форме сабраў сваіх падначаленых, адвёў метраў пяцьдзесят ад магістралі, на ўзгорак, і яны пачалі там акопвацца.

На калёсах засталіся толькі раненыя два фашысты. Забойца старога загадаў Колю зноў сесці на калёсы, аддаў яму лейцы.

Раптам Коля пачуў гул, і ў тую ж хвіліну нізка над магістраллю пранеслася некалькі савецкіх знішчальнікаў. Выстралы іх кулямётаў зліліся з гулам машын. Знішчальнікі павярнулі назад, зноў прайшлі над магістраллю, густа паліваючы яе свінцом, і зніклі...

Некалькі машын ахапіла полымя. З машын, з падвод неслі забітых фашыстаў. Іх было вельмі многа. Загінула і некалькі падводчыкаў.

Падвода стаяла якраз на ўзгорку, і Коля ўбачыў, што на ўсёй магістралі машыны, падводы, з'язджаючы ў канаву, наязджаючы на людзей, пачалі разварочвацца. Раненыя адпаўзлі ў поле, задушаныя заставаліся на магістралі, іх растоптвалі.

Коля скіраваў каня цераз канаву, павярнуў улева і пагнаў уздоўж магістралі.

З узгорку бачна было, як уся гэта разнастайная беспарадачная аграмада выцягнулася і, аб'язджаючы палаючыя машыны, хлынула зноў на Барысаў...

Мінск апынуўся ззаду.

Па полі ехаць было цяжка. На магістралі ўтварыліся невялікія інтэрвалы, і Коля скіраваў гнядога цераз канаву. Калёсы затахкалі па ўзрытым асфальце.

Фашысты ўроссып ішлі абапал дарогі. Яны насцярожана пазіралі на неба, і варта было туркнуць дзе самалёту, як тыя, што ішлі, адразу прырасталі да зямлі, а тыя, што ехалі на машынах і на падводах, хто як мог, сыпаліся ў канаву, ціснуліся да кусцікаў.

Савецкія самалёты штогадзіны выныралі то з-за лесу, то з-за ўзгоркаў, то з боку сонца і з ходу палівалі магістраль свінцом. І знікалі гэтак жа хутка, як і з'яўляліся.

Па ўсёй магістралі гарэлі машыны.

У канавах і на полі ляжалі забітыя фашысты. Іх ніхто ўжо не хаваў: не было калі.

Каб не разбегліся і не ўцяклі падводчыкі, фашысты прывязалі іх вяроўкамі да калёс. Тоўстая брудная вяроўка сціскала Колю паясніцу, смылела на плячы рана.

У часе налётаў савецкіх знішчальнікаў рух на магістралі спыняўся, нібы ўсё замірала. Фашысты разбягаліся навокал, а падводчыкі ад страху зарываліся ў амуніцыю. Але ж ці так схаваешся ад куль? Некаторыя так і застывалі ў скурчанай позе.

Як толькі гул самалётаў заціхаў, фашысты, хто застаўся жывы, вярталіся да калёс, здымалі з вазоў забітых падводчыкаў і клалі ў канаву.

І зноў перад Колем плылі абгарэлыя, а то і цэлыя, пакінутыя фашыстамі машыны, трупы людзей і коней, жытнія палеткі каля магістралі, стаптаныя і збітыя людзьмі, коньмі, машынамі.

Наўпроць станцыі Жодзіна спыніліся. Далей нельга было ехаць: уперадзе збілася ў кучу безліч машын і падвод. Тут Коля агледзеў, што на возе ў яго амуніцыя пасечана кулямі. З пярэдняга левага каляса зляцела шына, у заднім правым калясе было выбіта дзве спіцы, калясо васьмярыла.

Дзесьці ля Барысава грымела кананада. Над магістраллю плылі воблакі чорнага, едкага дыму, засцілі вячэрні небасхіл.

Раптам з боку Барысава пачалі вылятаць машыны, затарахцелі падводы. Фашысты гналі коней у галоп, зварочвалі на поле і без аглядкі несліся ўздоўж магістралі.

— Ін Барысаў русішэ панцыр! — крычаў з адной падводы немец з забінтаванай галавой.

І ўсё навокал раптам закіпела, завірылася...

Грузавікі і танкеткі крута разварочваліся, сутыкаліся. З кабін высоўвалася ўскудлачаная, з перакрыўленымі тварамі шафярня і гучна лаялася на чужой мове. Разварочваючыся, грузавікі і танкеткі насядалі на падводы і то адкідвалі іх, то трушчылі. Перапуджаныя коні дзіка раўлі, станавіліся на дыбы і шарахаліся ўбок, іншыя вырываліся з вупражы і галопам несліся ў поле, агаломшваючы прастор дзікім, прарэзлівым іржаннем... Страшна, жахліва, жудасна...

Звон. Трэск. Хруст. Храп. Стогны. З вазоў вылятаі падводчыкі і седакі, вылятала ваенная амуніцыя, якіясь скруткі, скрынкі, бачкі, кадкі.



Гул. Крыкі. Стрэлы. Адзіночныя і чэргамі. То перарываліся, то разам з перарывістым рокатам матораў зліваліся ў суцэльны гром.

У Колі мільганула рашучая думка ўцячы, але адразу знікла. Ён убачыў недалёка ад сябе, як адкінула ад танкеткі падводу. Падводчык пераляцеў аж цераз канаву, а фашыст, мусіць, падумаў, што гэта падводчык сігануў уцякаць, і з аўтамата адразу навек прышыў яго да зямлі... Усё адбылося хутка.

Коля паспеў асадзіць свайго спуджанага гнядога, скіраваў у канаву, праехаў крыху, потым павольна ўзабраўся на асфальт.

І зноў увесь абоз павярнуў назад: памчалі на Мінск.

Па магістралі абоз шаргацеў да ночы. Фашысты на падводах сядзелі ўнураныя, наставіўшы каўняры, насунуўшы пілоткі на вочы, уціснуўшы галовы ў плечы.

Забойца старога, што сядзеў каля Колі, дык зусім сціснуўся ў камяк, сашчапіў рукі, прыціскаючы да грудзей аўтамат, і ўвесь час калаціўся ад страху, гучна цахкаў зубамі... Час ад часу ён сутаргава хапаўся за Колю,— ці то ад страху, ці то ад боязні, каб Коля не ўцёк.

Па магістралі ехалі, пакуль добра не сцямнела.

Ноччу конны абоз нечакана звярнуў з магістралі направа, адарваўся ад прыглушанага рокату крытых пераласых грузавікоў і танкетак, што нетаропка шоргаліся па асфальце ў абодва канцы...

І паехаў убок ад магістралі па вузкай палявой дарозе між збажыны, між лазовых кустоў, што цьмянымі купкамі сям-там трапляліся навокал. Фашысты раптам узрушыліся, прыўсталі на калёсах, пачалі прыкладамі падганяць коней.

І забойца старога таксама ажыў, выпрастаўся, пачаў прыкладам аўтамата таўчы ў зад гнядога.

Абоз рушыў галопам — калёсы пачало кідаць на калюгах, на выбоінах, з панарадаў падчас выкідвала што-небудзь з награбленага дабра ці з ваеннай амуніцыі. Што, у цемнаце нельга было разабраць — проста сігаў убок якісь цёмны скрутак і адкочваўся ад дарогі. Галопам ішоў абоз і па роўным і пад гару.

І гэтак усю ноч бесперастанку фашысты гналі коней, абоз галопам імчаўся ўсё далей і далей на захад...

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

Зыркія, празрыстыя промні сонца іграюць на аксамітных лістах маладых бярозак і алешын. Духмяная прахалода спачывае на разлапістых галінах ялін. Нават прыбітая нагамі асака выпрасталася, сцякла з яе іржавая вада,— асака пазелянела. Аер, чарот, пучкі асакі, схіліўшы галовы, стаяць каля маленькіх лапін вады. На вадзе плаваюць зялёныя водарасці, кішыць мноства ўсялякай драбнаты. Побач на карчы мурашнік. Мурашкі ладныя, чарнаватыя, не такія, як у бары. І мурашнік, і драбната ў лужынах шавеліцца, жыве. На лістах, на траве пераліваецца раса. Белымі кветкамі цвіце маліннік. На купінах-махавінах зелянее бруснічнік, таксама зацвітае. Над ім кружацца пчолы, садзяцца, а потым зноў узлятаюць і, абляцеўшы купіну-махавіну, зашываюцца ў мох пад тоўстай хвояй. «Відаць, гняздо іх там»,— падумаў Шура.

Уверсе, над усім зялёным царствам, заліваюцца стрыгнаткі, кнігаўкі, лясныя верабейкі.

Шура працягнуў руку, сарваў вяршок шчавука, пажаваў, сакавітая кісліня растала ў роце.

— Што ты ясі, сынок? На, перапечку са скварачкай з'еш,— падышла да яго маці.

Шура працягнуў руку і... прачнуўся...

— Мама! Е-е-есці...— просіць малое ў кутку вагона.

Шура не бачыць малога. У вагоне душнае паветра, нейкі змрок, хаця за вагонам — дзень. Ад цеснаты гэта. Колькі сюды людзей напхалі — хто яго ведае. Калі ў Параф'янаве заганялі ў вагоны, сесці не дазвалялі. Усіх агулам — і мужчын, і жанчын, і дзяцей — пхалі ў вагон, пакуль можна было стаяць. Добра, што мужчыны дадумаліся стаць ад дзвярэй шчыльнай сцяной, і такім чынам асталіся ў кутках свабодныя месцы. Гэта і дало магчымасць потым сяк-так размясціцца. Шура як толькі змог падкурчыў ногі пад сябе. Дзядзька Мікалай сядзіць, ашчапіўшы калені рукамі: інакш сесці нельга. Дрэмле. Шурава нага здранцвела, баліць. Шура пачынае павольна пакратваць яе,— дзядзька Мікалай прачынаецца. Ён толькі крышачку адсунуўся — Шуру палягчэла. Падняўся, рашыў пастаяць. Няхай дзядзька Мікалай падрэмле. Шура абапіраецца рукой аб сцяну,— так лягчэй стаяць. Дзядзька Мікалай зноў пачынае драмаць, але хутка ўсхопліваецца і зноў нікне галавою.

Не думалася, ніколі-ніколі не думалася старому Мікалаю, што яго, такога калеку, павязуць чорт ведае куды... Навошта ён каму, ламачына старая... Ажно не тое было...

У гэтую блакаду хапалі ўсіх. У пярэднім канцы вагона жанчыны з дзецьмі. Ім крышачку больш месца ўступілі. Хоць сесці можна, але затое дзяцей трымаюць на прыполе. Дзеці плачуць: «Пі-іць...», «Е-ес-ці...» У каго якая скарынка — даюць малым. Піць — няма. У Шуры жменя гароху — аддаў малым. Мацеркі не бралі, што і сам не адышоў ад усіх. Усё роўна аддаў.

Павольна стукаюць па рэйках колы цягніка.

Думкі ўсё бягуць у адным кірунку — палон, катарга.

«Так-так»... «Так-так» — пацвярджаюць колы.

Хочацца піць. Якая яна, вада, цяпер... Дома ў калодзежы заўсёды чыстая, празрыстая была і сцюдзёная, як лёд...

Душна. Пакутліва.

Хоць бы раз глынуць свежага паветра,— здаецца, крыху ажыў бы. Вагон-таварняк зачынены шчыльна. Зверху маленькае акенца густа заплецена калючым дротам. Праз дрот глядзець можна, але акенца вельмі высока — не дапнешся. Дарасламу — лацвей, ён зможа на дыбачках дацягнуцца да акна. А Шура не. Ён па гадах яшчэ малы. І ў дадатак малы ростам.

— Хачу дамоў...— плача малое ў кутку вагона.

— Г-гх...— прастагнаў дзядзька Мікалай. Стары, яму вельмі цяжка.

На плечы Шуру давіць здаровы дзяцюк Іван, ці, як яго называў ягоны сябар Павел, Жан. Іван да пояса голы. Шура крануў плячыма.

— Не крыўдуй, хлопец. Я во на руках трымаю.

Шура павярнуў галаву. Іван сядзеў, таксама падкурчыўшы ногі пад сябе, на руках у яго віснуў Павел. Ён крыху драбнейшы, слабейшы за Івана. Таксама без кашулі. Правая рука вышэй локця ў яго паранена. Перавязана нейкім шкуматом, шкумат прыкарэў, прыс да раны.



Шура толькі што з ім стаяў побач. Павел драмаў, а зараз і зусім знясілеў.

Учора гэтыя два юнакі доўга шапталіся між сабой. Шура чуў, як яны называлі прозвішчы камандзіраў партызанскіх брыгад. Партызаны?.. Дык як жа. Відаць, іх за цывільных прынялі? У першую блакаду некаторыя партызаны хавалі зброю і выходзілі з акружэння па адным. Можа і ў гэту блакаду так было?.. А хлопцы, відаць, рашучыя. Недзе папалі кавалак дроту, разламалі яго і пачалі драпаць падлогу. Але колькі так трэба, каб перарэзаць дошку. Дый Павел аслаб. Вяне на вачах. Паблядне́ў.

Направа ад Шуры Арцём. Мужчына гадоў пад сорак. Хто яго ведае, што ў яго на душы, але ён не ўнывае.

— Э-э, нічога, людзі,— уздыхае Арцём.— Не бядуйце. Справы ў паганых прышэльцаў зусім пайшлі на скрут. Яшчэ і мы зажывём па-людску. Эх... Закурыць бы...

Адразу чуецца некалькі галасоў:

— Выдумаў! Дзеці! І так няма чым дыхаць...

З вугла чуецца жаночы голас:

— Закуры, добры чалавек, закуры. Твае словы цэлую гару з сэрца здымаюць.

Арцём шорхае рукой па падлозе. Падлога брудная, месцамі ліпкая. Відаць, да гэтага тут вазілі жывёлу. Арцём знаходзіць некалькі саломін, крыша іх, бярэ наклейку ад іржавай кансервавай бляшанкі круціць цыгарку. Знайшлося крэсіва. Праціснуўся да акенца. Арцём высокі. Галава яго амаль нароўні з акенцам. Закурыў.

Шура з нейкай надзеяй глядзіць на Арцёма. Адкуль ён? Што за чалавек? Апрача дзядзькі Мікалая, усіх астатніх Шура ў вагоне ўбачыў упершыню.

Шура падняўся, прабраўся да акенца, стаў на нейчы хатуль, падцягнуўся, наблізіўся тварам да калючай сеткі. Такі рэзкі пераход ад змроку ў вагоне да празрыстага краявіду затуманіў зрок. Твар абдало свежым паветрам. Дыхаць стала лягчэй. І зрок паволі праясніўся.

Па шырокім гасцінцы ўздоўж чыгункі павольна сунуліся крытыя пераласым брызентам грузавікі і танкеткі з гарматамі на прычэпе, падскоквалі на выбоінах вялікія нямецкія калымагі, у якія былі запрэжаны па дзве-тры паркі вялікіх бясхвостых коней. Фашысты, што сядзелі на калымагах, увесь час падганялі коней доўгімі дубцамі. У патоку грузавікоў і калымаг трапляліся і сялянскія калёсы. Куды гэта?.. Няўжо адступаюць?.. Павольна перад вачыма Шуры праплыла калона фашыстаў, потым зноў танкеткі, грузавікі, абоз. Шура хацеў ужо вяртацца на сваё месца, як раптам убачыў вялізную калону ваеннапалонных і нявольнікаў. Мацеркі вялі за рукі дзяцей, некаторыя неслі малых у посцілках за плячыма. Чэпалі старыя. Абапал калоны вязняў густа ішлі фашысты з аўтаматамі напагатове. То адзін то другі фашыст урываўся ў калону, штурхаў вязняў, біў прыкладам у плечы.

У Шуры зайшлося сэрца. Ён раптам адчуў гнятлівую млявасць ва ўсім целе. Ногі непаслухмяна ссунуліся з хатуля. Асцерагаючыся, каб не наступіць на каго, Шура дабраўся да дзядзькі Мікалая, у знямозе апусціўся на падлогу.

Бачанае стаяла ў вачах. Паволі яно тушавалася, перайначвалася, і нарэшце ў памяці Шуры паўстаў малюнак, як сёння забіралі з Лібараўшчыны іх і як гналі на станцыю Параф'янава.

...Уранку ўсім нявольнікам загадалі выйсці на двор. Людзі па-

сталі гуртам, жанчыны з дзецьмі паселі пад пуняй. Па двары хадзілі эсэсаўцы з гумавымі бізунамі. Форма ва ўсіх была жоўтага колеру. Рукавы да локця закасаны. На рукавах вышэй локця белыя павязкі з чорнай свастыкай. Усе падпяразаны шырокімі карычневымі дзягамі з шэрымі пражкамі. На дзягах вялікія жоўтыя кабуры, тырчаць рукаяткі наганаў. Каля варот сабралася многа фашыстаў з аўтаматамі. Многія трымалі на ланцужках аўчарак.

Чакаць прыйшлося доўга. Нявольнікі пакутавалі ад невядомасці. Куды пагоняць? Што збіраюцца рабіць з няшчаснымі?

Усе ведалі, што з Лібараўшчыны ніхто не вяртаўся дамоў. Тут трымалі нядоўга. Потым альбо выганялі ў сасоннік і расстрэльвалі, альбо кудысьці звозілі. Расстрэльвалі пераважна тых, каго злавілі ў лесе, у партызанскай зоне. На гэты раз тут былі толькі такія...

Фашысты ходзяць надзьмутыя, злосныя, да іх не падступіцца, не спытаеш, куды яны пагоняць людзей. Ды і ўвогуле, хіба з імі можна гаварыць... Мужчыны ўсе ў напружанай суровасці. Жанчыны плачуць.

Нарэшце расчыніліся вароты, зайшоў перакладчык з эсэсаўцамі. Перакладчык у руках трымаў спісак нявольнікаў. Выкліканага нявольніка эсэсаўцы выганялі за вароты пад ахову тых, што з аўтаматамі.

Шура з дзядзькам Мікалаем стаялі ў сярэдзіне гурту. Шура туліўся за дзядзьку, думаў, што калі ён не будзе стаяць на віду, калі яго не прыкмецяць, то можа і не выклічуць. У Лібараўшчыне было жахліва, але далейшае яшчэ больш страшыла. Можа, тут і дачакаліся б паратунку? Тут усё ж недалёка ад сваіх краёў, можа, што якое будзе? Можа, партызаны выручаць?.. За ўсю вайну партызаны не раз грамілі гарнізоны ў Докшыцах, Даўгінаве, Вілейцы, Круляўшчызне, Параф'янаве. Вядома, і праз Лібараўшчыну не раз праходзілі. Можа і цяпер выручаць... Зімой пасля штурму Беразіно-Ліпскага безліч вызваленых партызанамі нявольнікаў ішло праз Маргавіцу. Шура сам бачыў іх. Можа і цяпер так здарыцца?

Пагаворвалі гэтай ноччу людзі, якіх прыгналі ўчора, што партызаны недзе тут блізка. Вядома, ёсць. Помніць Шура, як нястрымным патокам ішлі яны праз Маргавіцу і Бягомль у Заходнюю Беларусь напярэдадні блакады. Вялікая сіла ішла.

Яшчэ ж нешта цікавае на свеце адбываецца. Другія суткі грымяць гарматы на ўсходзе, недзе можа ў Бягомльскім раёне ці далей можа. Не фашысты, мусіць,гэта страляюць. Па кім там ужо страляць гэтак без канца?.. Партызаны прашмыгнулі між карных заслонаў. Многія атрады прарваліся з боем. Людзей фашысты разагналі па лясах. А кананада не змаўкае. Добрыя часы пачынаюцца. Каб толькі выжыць... Перад блакадай партызаны гаварылі, што нашы войскі вызвалілі Гомель, Рагачоў, шмат гарадоў на Украіне. Павінна прыйсці вызваленне. Можа гэта яно і пачынаецца?.. Штосьці і фашысты тояць непрыемнае для іх. Во чаму ж яны такія, як ведзьмары, усе.

— Зарачанскі Шура!

Гучна, на ўвесь двор, крыкнуў перакладчык і, выцягнуўшы шыю, пачаў азіраць нявольнікаў — дзе той, каго выклікаў.

У душы стала горача-горача, ногі раптам аслабелі, млявымі сталі. Шура ўчапіўся за дзядзьку Мікалая,— утрымаўся, устаяў, не паваліўся. Людзі зразумелі, што гэта выклікалі яго, расступіліся, думалі, можа, ён не ідзе ад таго, што няма як выйсці з гурту. У вузкі праход рынуліся два эсэсаўцы, адштурхнулі дзядзьку Мікалая, падхапілі Шуру пад пахі, выцягнулі за вароты і кінулі на зямлю. Узнімаючыся, Шура пачуў, як перакладчык крыкнуў:

— Падусуха Мікалай!

Пад канвоем двух эсэсаўцаў выйшаў за вароты дзядзька Мікалай, стаў каля Шуры.

Перакладчык выклікаў усё новых і новых нявольнікаў.

Нарэшце за варотамі стала больш людзей, чым на двары.

Высокі цыбасты эсэсавец раптам прарэзліва крыкнуў:

— Генуг!

Перакладчык і фашысты пакінулі двор.

У лагеры засталіся тыя, якіх прыгналі ўчора.

Вартавыя замкнулі вароты...

Адабраных нявольнікаў паставілі ў калону па чатыры.

...Акружаная эсэсаўцамі, калона пад гучны брэх аўчарак рушыла па грунтавой дарозе.

Шура ішоў збоку калоны. Уперадзе перад ім тупаў дзядзька Мікалай.

Нага ў Шуры не балела. Але ісці было цяжка — ён вельмі аслабеў у канцлагеры.

Уперадзе паказаліся нізкія хаты, абкружаныя гародчыкамі і садзікамі. Увайшлі ў вуліцу. Пясчаная няроўная вуліца была кароткая. Прайшлі яе хутка, і Шура ўбачыў на пуцях цягнікі. Ён пазнаў: гэта была станцыя Параф'янава. Ад злосці, што яму нідзе не ўдалося ўцячы і яшчэ невядома, ці ўдасца, Шура аж застагнаў... Павольна стукаюць па рэйках колы цягніка.

— Чаму так вяла цягнуць? — бурчыць дзядзька Мікалай.— Пакаміст завязуць, падохнуць можна тут.

Шура глядзіць на Івана. Іван, відаць, ведае.

— Ясна, чаму: партызан баяцца,— сказаў Іван і падміргнуў Паўлу.

Павел глянуў на сябра, уздыхнуў, усміхнуўся. Усмешка выйшла горкай, нядобрай. Усміхнуўся ён, каб уважыць Івана. Паўлу рабілася ўсё горш і горш. Ён ужо больш не памагаў Івану рэзаць падлогу. Параненая правая рука ў Паўла пачала пухнуць, рана загнаілася. Вастраносы дробны яго твар яшчэ больш пацямнеў.

Каля Івана спрабуе прымасціцца Арцём.

— Ну, дык як там цябе — Іван ці Жан — давай я табе памагу ў тваёй рабоце. А то бачу, што аднаму табе тут не справіцца.— І Арцём выняў з кішэні кавалак бляхі.— Убачыў я ў сваёй суседкі іржавую бляшанку,— гаварыў ён.— Вымаліў. Думаю, што будзе лепш, чым дротам...

— Паспрабуем,— згадзіўся Іван. І яны абодва ўзяліся за справу.

— Хоць бы да палавіны дарэзаць, а там выб'ем,— сказаў Арцём.

Жалезкі яны загарнулі ў шапкі — не так рукі парэжа — і шкрэблі, шкрэблі нястомна і без канца.

Пад вечар цягнік спыніўся на станцыі Маладзечна. Адамкнулі вагоны, дазволілі выйсці. Выйсці з вагонаў усе не змаглі. Застаўся там і Павел. Дзядзька Мікалай таксама. Шура прасіў яго выйсці, але ён толькі рукой махнуў, нічога не адказаў. Засталіся жанчыны з дзецьмі. Дзеці былі хворыя. Чуўся ціхі горкі плач маладой жанчыны. Быў цяжка хворы яе пяцігадовы сын. Яна трымала яго на руках і не адводзіла вачэй ад яго тварыка. Хлопчык ляжаў у лахманах, худзенькі, вочы яго былі закрытыя. Маці ахрыпла ад плачу і гора.

— Людцы! Яна ж нежывая! — збянтэжана ўсклікнула раптам адна жанчына ў канцы вагона.

— Хто? Дзе? — спалохана ўскочыў дзядзька Мікалай.

— Аднавяскоўка мая. Аўдоцця,— ужо ўсхліпваючы, адказала жанчына.— Я ведала, што ў яе парок сэрца. Муж у партызанах загінуў. От яна і занямпала... Ды хто ж думаў, што яна так хутка... Чую, стогне і стогне ўсю дарогу. Пытаюся, што? Не гаворыць... І вось... А што ж гэта робіцца!!.— загаласіла жанчына.

Дзядзька Мікалай паклікаў Арцёма. Яны вынеслі жанчыну з вагона.

Рашыў выйсці з вагона і Шура.

Калі ён стаў на зямлю і дыхнуў свежым паветрам, галава ў яго закружылася, у вачах паплылі кругі, закалацілася сэрца, і, каб не ўпасці, ён схапіўся за рукаў дзядзькі Мікалая.

— Трымайся, трымайся, хлопча... Дай я цябе пасаджу.

Дзядзька Мікалай памог Шуру сесці на рэйку. У вачах у Шуры крыху пасвятлела, ён пачаў дыхаць раўней. Агледзеўся.

Увесь вакзал быў ачэплены паліцыяй і жандармерыяй. Уздоўж вагонаў хадзілі эсэсаўцы, узброеныя аўтаматамі. Сутулы, гарбаносы эсэсавец спыніўся каля мёртвай і паказаў Арцёму і дзядзьку Мікалаю на машыну, крытую брызентам, што стаяла воддаль ад эшалона. Шура зірнуў у той бок. Задні борт кузава машыны быў адкінуты. Ламаючы рукі, ля машыны галасілі жанчыны. Фашысты адганялі іх прыкладамі. Адна жанчына была ў адчаі і кідалася да машыны. Фашыст моцна штурхнуў яе прыкладам у плечы, яна ўпала на рэйкі, потым імгненна ўсхапілася, кінулася да фашыста, схапіла яго за горла, пачала душыць. Фашыст ад нечаканасці дзіка ўскрыкнуў. Але другі эсэсавец з размаху ўдарыў жанчыну аўтаматам па галаве, жанчына рухнула на зямлю. Фашыст, якога яна душыла, ускінуў аўтамат і выстраліў у твар жанчыне. Эсэсаўцы падагналі двух нявольнікаў, тыя ўзнялі забітую і паклалі яе ў кузаў. Туды прынеслі мёртвую жанчыну са свайго вагона.

Шура бачыў, што машыну нагрузілі да верху. Эсэсаўцы закрылі борт, спусцілі брызент, разагналі нявольнікаў, і машына кранулася. Хутка яна знікла за будынкамі...

Гыркаючы, як сабакі, фашысты забегалі ўздоўж вагонаў. Зноў нявольнікаў загналі ў цялятнікі, але дзверы не замыкалі.

Шура сеў у дзвярах вагона, звесіў ногі. Побач прымасціўся дзядзька Мікалай. Ён вярнуўся ў вагон, кульгаючы, крывячыся ад болю. Дзядзька памалу закасаў калашыну, агаліў рану. Зірнуў Шура, і прыкра яму стала — не рад, што ўбачыў гора старога...

Да вагона падышоў сутулы, гарбаносы фашыст. Спыніўся перад дзвярыма вагона, гыркнуў на дзядзьку Мікалая, каб закрыў рану. Стары таропка апусціў калашыну. Фашыст угледзеўся ў нявольнікаў, паказаў на дзядзьку і Арцёма, загадаў дваім ісці за ім услед. Арцём моўчкі ўзняўся, ступіў да дзвярэй, кашлянуў моцна, каб звярнуць на сябе ўвагу сутулага фашыста, паказаў на нагу дзядзькі Мікалая:

— Пан! Гэты чалавек не можа ісці. Нага ў яго якая, во! Няхай сядзіць тут. Вазьміце другога каго. Крапчэйшага. Ну хоць яго мэжа,— паказаў Арцём на Івана.

— Маўчаць, гунд паршывы! — вышчарыўся сутулы фашыст.— Шнэль ком, швайнэ!

Арцём памалу вылез з вагона. За ім і дзядзька Мікалай асцярожна стаў на зямлю і, страшэнна кульгаючы, паклыпаў... Арцём





спыніўся, пачакаў дзядзьку, паказаў трымацца за яго. Стары адмахнуўся і пайшоў сам. Фашыст вёў іх цераз пуці наўскасяк. Рэйкі дзядзька Мікалай пераскокваў на адной назе, як верабей...

— Шнэль! Шнэль, швайнэ! — пагрозна гыркнуў сутулы фашыст і прыбавіў кроку. Дзядзька, чыкільгаючы, паспяшаў. Арцём падхапіў яго пад руку.

Шура бачыў: сутулы фашыст падвёў дзядзьку Мікалая і Арцёма да беленькага доміка, што стаяў сярод рэдкіх дрэўцаў каля пераезда. Перад домікам завіхаліся маладыя, бойкія дзеўкі. У белых кофтах, у чорных спадніцах, з белымі пярэднічкамі. Грудастыя. Яны падстаўлялі зялёныя бітоны на табурэтку каля акна. Адтуль маладая, пышная кухарка ў белым, нагнуўшыся цераз падаконне, налівала вядром у бітон якуюсь страву. Дзеўкі з бесклапотным гоманам бралі бітон, ставілі на дол, бралі наступны парожні.

Сутулы фашыст паказаў Арцёму і дзядзьку Мікалаю ўзяць адзін бітон са стравай і несці да вагона. Старыя ўчапіліся за бітон, паваласлі. Фашыст пайшоў ззаду за імі, нешта злосна гыркаў, але несці не памагаў. Ад цяжару дзядзька Мікалай сагнуўся крукам, але ішоў. Па роўным дзядзька ішоў яшчэ так сабе. Асабліва цяжка было яму пераступаць рэйкі; ён тады згінаўся ледзь не да самай зямлі. Фашыст пачаў падганяць яго.

Шура ведаў, як старому даецца кожны крок, і глядзеў на дзядзьку Мікалая з невыказнай жаласцю. Памагчы не мог — не дасць фашыст.

Міжволі позірк Шуры быў і на белым доміку. Хлапец бачыў: туды ў суправаджэнні фашыстаў падыходзілі па два нявольнікі з іншых вагонаў. Бралі бітоны, неслі.

Некаторыя маладзейшыя канваіры, рагочучы, памагалі дзеўкам састаўляць з табурэткі бітоны. Дзеўкі смяяліся, адпіхвалі немцаў у плячо. Тыя стараліся тады больш.

Дзядзька Мікалай і Арцём прывалаклі да вагона зялёны бітон з баландай. Ступня ў дзядзькі была ўся ў крыві: ад натугі з раны пацякло. Там, дзе ён ступаў, на чорнай жарстве заставалася цёмная пляма.

Сутулы, гарбаносы фашыст загадаў старым паставіць бітон воддаль ад вагона. Сам з алюмініевым чарпаком падышоў да дзвярэй і дзіка гыркнуў:

— Фрэсссэн, швайнэ! Шнэль! Шнэль, фэрфлюхтар нох маль!

Нявольнікі паспешліва вылазілі з вагона з бляшанкамі, з кацялкамі, ціха выстройваліся ў чаргу да зялёнага бітона.

— Шнэль, шнэль, дармаеды! Гультаі! — злаваў сутулы фашыст і, разліваючы ад раздражнення страву на зямлю, таропка плёхаў у пасудзіну нявольніка менш чым паўлітра цёплай, салёнай жыжы, у якой варылася бульба. Бульба, відаць, на кухні была вылаўлена не ўся, сяму-таму траплялася цэлая бульбіна або кавалачак. Згаладалыя людзі выпівалі страву адразу, амаль не адыходзячы ад бітона. Сутуламу фашысту гэткая нецярплівасць не спадабалася. Ён пачаў алюмініевым чарпаком адпіхваць людзей у грудзі.

Калі ўсе з Шуравага вагона атрымалі па порцыі бурды, сутулы фашыст зазірнуў у вагон і спытаў:

— Алес?

Людзі маўчалі.

Тады ён вярнуўся да бітона, выліў на зямлю астатнюю жыжу, якой яшчэ было многа, і загадаў Арцёму аднесці бітон. Астатнім — неадкладна залезці ў вагон. Нявольнікі, паглядаючы на пустыя пасудзіны, нехаця, адзін за адным, марудна патурыліся на свае месцы...

— Каб з цябе кішкі выліліся, гад смалены!.. Жалка было людзям аддаць гэтую поліўку. Выліў, смярдзюка!..— лаяўся дзядзька Мікалай, тупаючы да вагона. Пакутліва моршчачыся, ён палез у вагон. Прымасціўся каля дзвярэй, сеў спіной да нявольнікаў, каб не бачылі яго рану, закасаў асцярожна штаніну, ніжні край якой быў прамоклы ад крыві і ўпэцканы ў жарсцвяны шлак. Якаясь нявольніца падала дзядзьку цераз плячо шкумат, і стары, хукаючы на нагу, пачаў памалу выціраць рану...

Шура зноў прысеў у дзвярах вагона, спусціўшы босыя ногі, забедаваў. Баланда зусім не ўняла яго голад. Толькі яшчэ больш есці захацелася. У жываце вуркатанне пачалося.

Раптам каля эшалона ўзняўся шум, вэрхал: заплакалі дзеці, загаманілі гучна жанчыны.

Шура нагнуўся і паглядзеў у той бок, адкуль чуўся гармідар.

З перадапошняга вагона фашысты выганялі нявольнікаў і адначасова грузілі якіясь вялікія скрыні і цюкі.

Калі ўсе з перадапошняга вагона былі на зямлі, фашысты паставілі іх у строй, пералічылі і, штурхаючы прыкладамі, пагналі ўздоўж эшалона. Ля кожнага вагона ад таго гурту аддзялілі па некалькі чалавек і заганялі. Калі наблізіліся да Шуры, з гурту засталося ўсяго чатыры чалавекі. Ззаду стаяла бабулька, маленькая, згорбленая, якраз як Шурава бабка, Макарыха, якая памёрла летась увосень ад тыфу. Шура загледзеўся на гэтую бабульку,— у руках, прыціскаючы да грудзей, яна трымала тоўстую растрыбушаную кніжачку.

Сутулы, гарбаносы фашыст дулам аўтамата адапхнуў Шуру і зазірнуў у вагон.

— Гіе цуфіле мэншэн. Ком гіе айнэ альтэ фрау,— гыркнуў фашыст і загадаў бабульцы лезці ў вагон.

Шура працягнуў рукі. Бабулька падала яму кнігу і паспрабавала сама ўзабрацца. Фашысты глядзелі, як старая чарэпіцца, і рагаталі, але памагаць не збіраліся.

Дзядзька Мікалай, убачыўшы дарэмныя намаганні бабулькі, нагнуўся, узяў яе пад пахі і амаль уцягнуў у вагон.

— Дзякуй, дзякуй! Бог цябе паратуе, добры чалавек! — бабулька скоранька ўзнялася на ногі і таропка выхапіла ў Шуры кнігу.

Бабулька забралася ў кут, села на калені, разгарнула кнігу, перахрысцілася і пачала гучна, расцягваючы словы, чытаць.

Жанкі ў вагоне пачалі хрысціцца і, наколькі можна было ў цеснаце, падсоўваліся бліжэй да бабулькі, прыслухоўваліся.

Шура таксама прыслухаўся да бабулькі. І, як ні напружваў слых, нічога не разабраў, але здагадаўся, што бабулька чытае малітвы. Ён падняўся, пераступаючы дзяцей, зазірнуў цераз бабуліна плячо ў кнігу. Паспрабаваў чытаць. І асекся. Тэкст быў для Шуры зусім незразумелы, у словах сустракаліся невядомыя літары. Спытаць у бабулькі, што яна чытае, ён не адважваўся, бо, калі зазірнуў у кнігу, дык яна так пагрозна зірнула на яго, што аж мурашкі па целе прабеглі.

Вярнуўся да дзядзькі Мікалая. Запытаўся:

— Што гэта яна так чытае?

— Малітоўнік, сынку,— прыцішаным голасам адказаў дзядзька Мікалай.— Гэта святая кніга... Там і пра маю і пра тваю долю напісана.

Шура хацеў усумніцца, што магло пра яго долю там быць, але змоўчаў, не хацеў дзядзьку Мікалая крыўдзіць.

— Ах, усе гэтыя старанні перад богам, мусіць, пустыя...— раптам сказаў дзядзька Мікалай.— Усё на свеце перамяшалася... І смерць, і гора такое пайшло... Дзе той бог? Ці ён не відзіць гэтага? Чаму не астановіць бяду людскую?..

Шура аж рот разявіў ад нечаканасці.

Дзядзька ўзняў галаву, убачыў здзіўленне хлопца і заёрзаў на месцы.

— Што? Я што сказаў? — насцярожана спытаў ён Шуру.— Чаго вочы паказерыў? Як тая жаба балотная... Смаркач! Га? Чаго? — пытаюся. Ты глядзі ў мяне, багамаз! — прыгразіў ён Шуру.— Не прагаварыся! — азірнуўся на багамолку і ўжо амаль спакойна сказаў: — Яно тут чорт яго ведае, што цяпер на свеце робіцца... У немцаў на дзязе напісана: «З намі бог». А што яны вытвараюць... Такую крывавасць на зямлі развялі. Звяры гэта, а не людзі... Дзе ён там, той іх бог? Я ўжо думаў аб гэтым... І ў нас, мужыкоў, няма такога благагавення перад богам, як у даўнейшых людзей было. Цяпер так павялося: як трывога, дык і да бога... Ці яшчэ кажуць: «Пакуль гром не загрыміць, дык мужык не перахрысціцца...» Сам помніш, як летась у балоце за ракой чыталі,— кіўнуў на багамолку,— такія кніжкі. А так, дзе ты бачыў, каб хто з нас дужа лоб аб падлогу біў...— Хвіліну памаўчаў, махнуў рукой.— Ну, ты яшчэ малы. Расці. Падрасцеш — усё сам пазнаеш.

Шура зірнуў на бабульку, прыгледзеўся, і раптам штосьці знаёмае кінулася яму ў яе твары... Дзе ён яе бачыў? Памяць перабірала перажытае. У Ваўчы, можа, бачыў? Не. Там амаль усе былі знаёмыя. Такая бабулька выходзіла з лесу за Сцюдзёнкай. Яе забілі. Ага-а-а. У Лібараўшчыне... Багамолку прыгналі туды ў апошнія дні. І потым Шура бачыў яе часта. Па двары ўдзень яна ўсё хадзіла, моцна прыціскаючы абедзвюма рукамі малітоўнік да ўпалых грудзей... Быццам баялася, што ў яе мог хто адабраць яго... І там людзі збіраліся ўсё каля яе. Болей старыя і жанчыны.

І там — Шура ўспомніў — бабулька вечарам у пуні малілася часта гэтак доўга, як цяпер тут, у вагоне.

Голас бабулькі старэчы, але выразны і моцны, гучаў на ўвесь вагон. Шура адсунуўся крыху ад дзвярэй вагона: вецер пачаўся, халодна. Яшчэ раз прыслухаўся да бабулькі-багамолкі. Высока ўзняўшы дзвюма рукамі малітоўнік, яна закончыла спяваць якуюсь доўгую рэлігійную песню і зноў пачала чытаць малітвы...

І Шуру раптам захацелася патрымаць у руках сапраўдную кнігу, якія ён чытаў да вайны... Ён быў самы часты наведвальнік школьнай і раённай бібліятэк. Перачытаў усе творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Янкі Маўра, Міхася Лынькова, Аркадзя Гайдара, Жуль Верна, Марка Твэна, Майн Рыда, Фенімора Купера. А пра грамадзянскую вайну дык ён, відаць, не прапусціў ніводнай кнігі,— усё перабраў, калі быў у чацвёртым і пятым класах...

Затое за чатыры гады вайны Шура прачытаў усяго толькі адну кнігу — «Востраў скарбаў» Стывенсона. Шура ўзяў гэту кнігу пасля налёту паліцэйскіх на дзядзькаву хату. Вобыск яны там рабілі якраз за дзень перад тым, як пакінуць Бягомль.

Сястра дзядзькі — Наста — пайшла за раку ў ягады і ўцякла ў партызаны. З партызанамі ў яе было ўсё дамоўлена, і яны наўмысля інсцэніравалі ўяўны расстрэл Насты. Аблаялі яе пры жанках, здрадніцай назвалі, адвялі ў лес, выстралілі. Жанкі — маргавіцкія і бягомльскія — прыйшлі потым з ягад, і ўсе са страхам гаварылі: «Насту Паўлюкову партызаны забілі...»



Паліцыянты нарэшце дазналіся ад некага, што ўсё гэта была выдумка, і хацелі забіць Насцінага брата Сямёна Паўлавіча. Наляцелі, перавярнулі ўсё ў хаце, але дзядзьку не знайшлі: ён быў ужо таксама за ракой, сярод партызан... Са злосці, звяругі, усё перабілі, пазнішчалі ў хаце.

У дзядзькі вялікая бібліятэка была — паліцыянты пашматалі, парвалі ўсе кнігі. Толькі адну цэлую Шура знайшоў. З якой замілаванасцю ён яе чытаў!.. Ледзь не на памяць вывучыў.

Джыму таксама страшна было, як і Шуру. У якія небяспечныя сітуацыі трапляў і — жывы заставаўся... Джым ніколі духам не падаў. Трэба і яму, Шуру, такім быць. Тады ўсё скончыцца добра. І спадзявацца толькі на сябе, а не на бога. Джым жыў даўно, у той час, мусіць, усе ў бога верылі, і то Джым спадзяваўся толькі на сябе... А цяпер тым больш трэба так...

І Шуру ўспомнілася прыказка, якую маці часта любіла паўтараць: «На бога спадзявайся, але сам не зявай». Праўда. Толькі сам будзь сапраўдным чалавекам, тады перажывеш усялякія нягоды. Няўжо бабулька-багамолка пра гэта не ведае?.. Чаго гэта яна так маліцца ўсчала?..

Каля эшалона загула машына.

Дзядзька Мікалай высунуўся з вагона, паглядзеў у той бок, адкуль чуўся гул.

— Мусіць, гады, за адзін раз усіх мерцвякоў не пабралі... Яшчэ прыехалі...

Шура падсунуўся да дзвярэй вагона і ўбачыў, што на тым месцы, дзе нядаўна грузілі мёртвых нявольнікаў, спыніўся грузавік, таксама, як і першы, крыты брызентам.

Брызент раптам ззаду кузава адхінуўся, і адтуль выскачыла з дзесятак узброеных фашыстаў. Следам за імі адтуль вылецелі тры юнакі са звязанымі за спіной рукамі. Ні адзін не ўтрымаўся на нагах — відаць, іх выкінулі з машыны. З машыны выскачыла яшчэ некалькі ўзброеных фашыстаў. Яны схапілі юнакоў, паставілі на ногі, развязалі рукі. Акружыўшы іх шчыльным кальцом, падагналі да эшалона, спынілі каля апошняга вагона.

Шура памкнуўся выскачыць з вагона, каб пабегчы туды, але дзядзька Мікалай затрымаў яго.

— Куды ты ў агонь лезеш? Без цябе там абыдуцца.

Фашысты пастаялі, параіліся каля апошняга вагона, штурхнулі туды аднаго хлопца, і дзверы вагона адразу зачынілі і замкнулі. Двух хлопцаў пагналі ўздоўж вагонаў. Адзін, ніжэйшага росту, вельмі кульгаў на правую нагу...

Каля вагона, у дзвярах якога сядзеў Шура, хлопец, што кульгаў, спатыкнуўся і ўпаў. Фашысты накінуліся на яго. Крывячыся ад болю, хлопец узняўся і зноў пакульгаў. Шуру стала вельмі шкада яго. Штосьці такое роднае і блізкае нагадваў Шуру гэты юнак... Шура глядзеў услед хлопцам і думаў, што яго гэтак кранула...

Аднаго хлопца фашысты пасадзілі ў сярэдні вагон, а таго, што кульгаў, у першы. Сярэдні і першы вагоны адразу замкнулі...

— Алес ін ваген! — разявіўшы рот да вушэй, загарлапаніў сутулы фашыст. Астатнія фашысты забегалі, замітусіліся ўздоўж эшалона. Хто з нявольнікаў не паспеў ускочыць у вагон, таго фашысты збівалі прыкладамі.

Шура адсунуўся ад дзвярэй. Дзверы зачынілі.

— Каб яны так усё жыццё свету не бачылі, як яны яго ад нас засланяюць!..— са злосцю бурчаў дзядзька Мікалай.

Дзядзька пачаў корпацца ў хатулі. На чым свет стаіць кляў фашыстаў...

Арцём і Іван сядзелі моўчкі, нават пілаваць падлогу не браліся. Не было як — фашысты пачуць могуць. Калі хадзілі за бітонам, Арцём недзе знайшоў іржавы кавалачак пілкі.

— Нешта глядзеў я на вашу работу дый думаў: ці будзе толк, ці не?...— ціха сказаў дзядзька Мікалай.— Тут лёгка пад калясо трапіць...

— І то лепш, чым ехаць у Нямеччыну...— прыцішаным голасам адказаў Арцём.

— Канешне, шкада проста так пад калясо ўлучыць,— прамовіў Іван.— Ну, і не сядзець, склаўшы рукі, і дапускаць, каб нас везлі, як бараноў на бойню. А пад калясо я гатоў, абы толькі толк з гэтага быў. Помніш, Паўлік, нашага падрыўніка Саньку Марзянкова,— звярнуўся Іван да сябра. Павел кіўнуў галавой.— От гэта быў герой! — працягваў Іван.— Сапраўдны герой! Калі паміраць, дык толькі так! Атрымаў ён заданне залажыць міну на вузкакалейцы пад Докшыцамі. Пад носам у фашыстаў дапоўз да рэек, толькі пачаў работу, як з-за павароту «кукушка» — шась! Ну, ён што? Немцы выбеглі з дота, галёкаць пачалі. А цягнік тут як тут. І Санька ўзняўся на ўвесь рост і — бабух пад колы... Мы якраз у сакрэце ляжалі, бачылі. Паравозік усё роўна, як наравісты конь, уздыбіўся. А вагоны на яго. О, што там было!.. Пасля яго гібелі наша падрыўная група называлася групай Марзянкова...

— А то праўду дзядзька Мікалай кажа. Тут невялікая радасць трапіць пад калясо. Ну, але з намі гэта не здарыцца!..— закончыў Іван.

Ноччу залязгалі буферы, цягнік крануўся і павольна пасунуўся. Ехалі ноч і амаль да поўдня. Ноччу Іван і Арцём не спалі, пілавалі падлогу. Не кідалі яны свайго занятку і днём, калі цягнік ішоў.

На невялікім паўстанку цягнік спыніўся. Дзверы былі зачынены, у акенца глядзець не дазвалялі.

Арцём абхітрыў фашыстаў. Ён стаў наводдаль, узняўся на дыбкі.

— Ага-а, гады! Да абароны рыхтуюцца. Рыюць траншэі, доты робяць. Слухай, Іван! Калі хто з нас уцячэ ды спаткаецца з партызанамі ці арміяй нашай, дык расказаць трэба, што за Маладзечнам умацаванні будуюцца.

— Добра. Зірні, што там за эшалоны ідуць?

Вагон уздрыгваў ад гулу і грукату цягнікоў.

— Воінскія ўсё,— адказаў Арцём.— На фронт пруць. Горача стала... І пра эшалоны трэба не забыць.

— Не забудзем,— сказаў Іван.— Толькі б усё скончылася добра.

Апоўдні цягнік крануўся і ляніва папоўз на захад.

Іван і Арцём зноў узяліся за справу.

Пад вечар Шура пачуў, як Іван радасна ўсклікнуў:

— Усё! Прарэзаў!

Арцём памацаў рукой дошку.

— Добра. Тады і ў мяне нямнога засталося. Больш не буду. Гэтай ноччу выламаем і — уцячэм...

Шура шырока адкрытымі вачыма глядзеў на Івана і Арцёма. «Уцячы!» Гэта слова ні на хвіліну не выходзіла ў яго з галавы. Ад





таго часу, як яго злавілі, і пакуль трапіў у вагон, ён думаў, што ўцячэ. У вагоне ён спачатку разгубіўся, засумаваў, а цяпер зноў у яго сэрцы ўзнікла надзея. Шура яшчэ і яшчэ раз прыгадваў усе папярэднія дні палону і дакараў сябе, што не ўцёк раней...

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

У тую ноч, калі фашысты рванулі з магістралі, нямала коней з узмыленымі бакамі засталося ляжаць каля шляху. А Колеў гняды цэлую ноч шпарыў бягом і — хоць бы што...

Спыніліся ў сасновым ляску за Радашковічамі. Абоз далей не пайшоў. Фашысты загадалі распрэгчы коней. Вадзіма і яшчэ некалькі падводчыкаў пакінулі даглядаць коней, а астатніх, у тым ліку і Колю, выгналі з лесу, загналі ў доўгую неглыбокую, пароснай рэдкім лазняком лагчыну, што цягнулася ўздоўж гасцінца, і загадалі ўсім легчы на траву. Абапал нявольнікаў села па два фашысты з кулямётамі.

З усходняга боку ад лагчыны выспявала вялікае жытняе поле. Фашысты зялёнай плоймай рассыпаліся па ім. Нейкі час Коля бачыў іхнія каскі, чуў стук рыдлёвак аб камень.

Коля ляжаў недалёка ад гасцінца. Нясцерпна пякло сонца. Была рана, кашуля закарэла ад крыві. Хацелася есці. Душыла смага. Размаўляць не дазвалялі. Нявольнікі ляжалі моўчкі, кожны быў заняты сваімі думкамі.

Коля да драбніцы прыгадаў сітуацыю пад Барысавам і злаваўся на самога сябе, што не ўцёк. Штосьці такое недарэчнае сталася з ім тады. У апошняе імгненне, калі вось-вось бы сігануць у роў — раптам ледзь не абамлеў, здрэйфіў... А магло б усё добра скончыцца...

Момант выпаў удалы, і спрыту праскочыць роў у яго хапіла б.

«Не! Цяпер я такога выпадку не празяваў бы... Хай бы хоць што здарылася — рызыкнуў бы... Каб толькі ўлучыць дзе...— разважаў Коля.— Калі будзеш збірацца ўцякаць і думаць, хаця б не замецілі ды не забілі, то ніколі не ўцячэш. Рызыка патрэбна. Адважыцца на ўцёкі — усё роўна, што нырца даць. Як з бацькам некалі касіць хадзіў, дык не глядзеў, ці сцюдзёная вада ў рацэ і ці глыбока там, а з разбегу баўтыхнешся ў раку і — выплывеш каля другога берагу... Мусіць, і тут так... Чорт яго ведае!..»

Коля адчуваў, што тая нітачка перасцярогі, якая стрымлівала яго дагэтуль, парвалася, і ён быў гатоў пайсці на рызыку. Гэта ў душы так. У думках усё яшчэ падчас вагаўся, узважваў і «за» і «супраць» — вельмі ж не хацелася паміраць ні за што.

Вечарам з жыта выйшла яшчэ восем фашыстаў з аўтаматамі і селі кругом нявольнікаў.

Звечара Коля крыху падрамаў, а ў поўнач прачнуўся і не спаў да раніцы.

Цэлую ноч на ўсходзе крывавілася зарава — недзе гарэлі вёскі. А далей за заравам не змаўкала кананада. Калі прыкладзеш вуха да зямлі, здавалася, што страляюць вельмі блізка.

Недзе краем гулі самалёты.

Уранку нявольнікам пашанцавала. Ішла нямецкая машына, спынілася ў лагчыне, і з яе выгрузілі гару буханак хлеба. Усе буханкі былі заплеснелыя. Але гэта быў хлеб. Нявольнікі кінуліся да яго. Фашыст закрычаў на іх, і выпусціў цэлы дыск над галовамі галодных людзей. Нявольнікі паляглі зноў на траву. Фашысты раздалі частку хлеба — буханку на дваіх.

Коля адламаў кавалак, пачаў есці,— горкі, як палын. Браў у рот па маленечкім кавалку, разжоўваў яго і толькі тады глытаў.

Днём па гасцінцы пранеслася некалькі машын з раненымі фашыстамі, праехаў невялікі абоз — адны нямецкія ваенныя фуры. І коньмі кіравалі фашысты, падводчыкаў не было.

Наступнай ноччу прайшоў невялікі дождж, крыху пасвяжэла. А галоўнае — назаўтра зноў заблішчалі лужынкі каля лазовых кусцікаў,— нявольнікі маглі хоць крыху прагнаць смагу.

Пад вечар трэцяга дня з усходняга боку паказалася многа ўзброеных людзей. Яны ішлі разгорнутым строем.

Фашысты павыскоквалі з жыта, узнялі нявольнікаў і, прыставіўшы да жывата аўтаматы, пагналі насустрач невядомым людзям. Калі ўзброеныя людзі былі блізка,— Коля ішоў у пярэдніх радах і ўбачыў, што гэта былі таксама фашысты,— заднія ваякі спыніліся і заляглі ў канаве, па баразнах. Фашысты сышліся з нявольнікамі і пачалі іх зганяць у гурт. Тады тыя ваякі, што заляглі, убачыўшы, што насустрач ім ішлі свае, павыскоквалі з канаў і баразнаў, падбеглі, штосьці перагаварыліся, і ўсе разам — і тыя, што былі ў жыце, і тыя, што прыйшлі ад Радашковіч,— загналі нявольнікаў зноў у лагчыну, пакінулі вартавых, а самі рассыпаліся па жыце.

Увечары Коля пачуў кананаду зусім блізка, недзе за Радашковічамі, а потым яна змоўкла і пачулася ўжо далёка справа. Там грымела ўсю ноч. Усю ноч Коля не мог заснуць. Бо, апрача кананады, уночы недзе за жытнёвым полем, на якім акапаліся фашысты, узнялася кулямётная страляніна, скаланалі зямлю выбухі снарадаў. Там грымеў бой да самай раніцы.

На світанні фашысты павыбягалі з жыта і пагналі нявольнікаў у лес запрагаць коней.



Запрагаючы свайго гнядога, Коля ўвесь час стараўся ўбачыць Вадзіма, але яго паблізу не было. А ў лесе не на полі — здалёку не ўбачыш.

Падводы адна за другой выязджалі на гасцінец. Гняды рахмана выйшаў з лесу і па гасцінцы рушыў бягом. Язда па роўнай дарозе закалыхвала. Ды і бяссонная ноч дае сябе знаць. Думкі блытаюцца, павекі зліпаюцца. Коля задрамаў.

Прачнуўся ён ад моцнага ўдару ў спіну і гучнага крыку. Крычаў немец. Крычаў і нацягваў ляйчыну, каб скіраваць каня ў аб'езд.

Коля працёр вочы і ўбачыў, што дарога завалена трупамі фашыстаў. Калёсы пачало кідаць. Пярэднія падводы выкіроўвалі на другі бок дарогі — аб'язджалі трупы. Коля з усяе сілы нацягнуў левую ляйчыну.

Навокал стаялі абгарэлыя коміны, уздоўж дарогі чарнелі папялішчы, дзе-нідзе вырываліся языкі полымя. Гар, смурод — няма чым дыхаць. Дым шырокімі пластамі рассціласцца навокал. Калёсы ледзь не ўдарыліся аглобляй у невысокі слуп, на якім уверсе была прыбіта жоўтая бляха.

На скрыжаванні вуліц Коля зноў убачыў многа забітых фашыстаў. Адкуль гэтыя трупы?.. Толькі тут яны ляжалі не ў рад, як там, на абочыне, а абы-як. Наводдаль, на тратуары, ляжаў малады партызан з ручным кулямётам. Партызан быў без шапкі, у чорных суконных штанах, якія навыпуск усунуты ў хромавыя боты. Гімнасцёрка на грудзях партызана была чорная ад крыві.

Цяпер Коля зразумеў, адкуль узяліся трупы фашыстаў і дзе так уночы грымела страляніна.

Дарога пайшла ўздоўж чыгункі. Злева па чыгунцы грымелі цягнікі. Больш ішло на захад. На ўсход час ад часу пралятаді цягнікі з гарматамі, танкамі, узброенымі фашыстамі.

Неўзабаве ўперадзе Коля ўбачыў невялікі абоз, які рухаўся вельмі павольна. Яшчэ здалёку яго здзівіла, што не відно было коней у абозе. Як пад'ехалі блізка, Коля ўбачыў, што ўсе калёсы ў гэтым абозе цягнулі італьянскія ваеннапалонныя.

Усе італьянцы былі азызлыя ад галаду. Мундзіры іх нагадвалі шматкі рыззя. На нагах у некаторых неяк яшчэ трымаліся атопкі. Кожную падводу цягнула па дзесяць-пятнаццаць чалавек, прывязаных вяроўкамі да калёс. Большасць калёс была загружана калючым дротам, астатнія — цэментам у цёмна-жоўтых папяровых мяшках.

На некаторых падводах на мяшках з цэментам сядзелі фашысты.

Абапал саматужнага абозу ішоў моцны канвой — эсэсаўцы з аўтаматамі напагатове. У руках некаторых былі гумавыя бізуны.

Абагнаўшы ваеннапалонных італьянцаў, Коля некалькі разоў азіраўся. Яму не верылася, што ён сваімі вачыма бачыў такое жудаснае відовішча.

Успомнілася, як зімой партызанскія агітатары прыязджалі ў Маргавіцу і, расказваючы аб падзеях на фронце, гаварылі, што Італія выступіла супраць фашызму, аб'явіла вайну Германіі.

Прыгадаў Коля і партызана-італьянца, які прыязджаў на сходы. Шыракаплечы, чарнамазы, ён прыцягваў увагу вяскоўцаў. Ён быў вельмі ветлівы і просты. Любіў дзяцей. Бяда толькі, што не разумеў ні па-руску, ні па-беларуску.

Пад вясну ўжо маргаўчане пачулі ад партызан сумную вестку: італьянец Альфрэда загінуў у баі.

Колькі цудоўных людзей загінула! Колькі пакутуе цяпер! Каторы

год гарыць зямля, каторы год ліецца кроў людзей, і ўсё дзеля таго, каб чалавек мог вольна жыць і працаваць на свеце. Гэта ж законнае права чалавека. А як дорага яно даецца...

З гэтымі думкамі Коля ўехаў у Маладзечна.

На рыначнай плошчы зрабілі невялікі прывал.

Каля абозу зрэдку праходзілі жыхары горада. Да Колі падышла згорбленая бабулька з кіёчкам у руцэ.

— Куды ж яны вас вядуць, сынок? — выціраючы слёзы, спытала яна.

—Не знаю...— адказаў Коля.

— Ах, ірады! Ах, гадаўё! Яны ж вас да калёс прывязалі!.. Каб на іх нячыстая сіла прывязалася! — успляснула рукамі бабулька.— І нашто ім людцы? Нашто яны за сабой усіх цягнуць? Нядаўна на станцыі было многа гэткіх, як вы...— усхліпнула бабулька.— Яны ў вагонах запёртыя былі... Павезлі іх некуды...

Бабулька азірнулася.

— На, сынок, кавалачак хлеба з'еш...— працягнула яна з-за пазухі акраец, загорнуты ў анучку.

— Гіб мар! — крыкнуў фашыст. Ён падскочыў да бабулькі, выхапіў хлеб і прагнаў старую прэч.

Акраец хлеба фашысты падзялілі папалам і з прагнасцю з'елі.

За Маладзечнам дарога нейкі час ішла таксама ўздоўж чыгункі. Толькі цяпер чыгунка была ўжо справа. Потым яна зусім прапала з вачэй. Свісткі цягнікоў чуліся недзе далёка, за пералескамі.

У вёсцы Лебедзева, што саламянымі стрэхамі танула ў садах, дарога ўзяла крута ўправа.

Адразу за вёскай абмінулі калону савецкіх ваеннапалонных.

Перад вачыма ў Колі праплыла жудасная карціна.

...З закручанымі назад рукамі, звязаныя па чатыры ў рад, палонныя ішлі павольна. Усе няголеныя, пачарнелыя, без пілотак. Гімнасцёркі на плячах і штаны былі залатаны і зашмальцаваны. Спод гімнасцёрак абарваны, рыззё звісала махрамі. У некаторых палонных за плячыма былі прывязаны на аборынах парваныя шынялі. Дзягі ні ў аднаго палоннага Коля не ўбачыў.

Нянавісць да фашыстаў гарачай хваляй паліла Колева сэрца.

Як ехалі ля ваеннапалонных, Коля пільна прыглядаўся да іх, чамусьці думаў убачыць каго знаёмага, але нікога не пазнаў.

Абоз ішоў хутка. Часам даводзілася спыняцца. Дарога тут была забіта транспартам, пешымі фашыстамі. Якраз, як на магістралі за Барысавам. Толькі тут больш парадку і арганізаванасці.

Коля разумеў, што фашысты пацярпелі вялікае паражэнне, што яны спешна адступаюць. Толькі навошта яны гоняць з сабой столькі людзей? І Коля ўспомніў, як гаварылі мужчыны некалі, што, калі тапелец ідзе на дно, ён цягне за сабой усё жывое.

Уперадзе зноў паказалася чыгунка, прагрукатаў цягнік. Мінуўшы купку беразняку, Коля ўбачыў рэдкія станцыйныя будынкі і некалькі хатак, крытых саломай. Паўстанак. На пераездзе ля будкі стрэлачніка Коля прачытаў: «Пруды».

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

Бясконца — то пералескі, то лугавіны. Пералескі Арцём бачыў праз калючку, а лугавіны адчувалі ўсе: у вагон патыхала сырасцю,



холадам. Дзіўная рэч: вагон зачынены, акенцы маленькія, а так цягне сырасцю! Людзі курчыліся, ціснуліся адзін да другога.

У вагоне жаласліва плакала маладая жанчына. Памёр яе пяцігадовы сын. Яна трымала яго на руках і люляла, як жывога...

Мужчыны сядзелі, паўтульваўшы галовы ў плечы. Іншы падчас цяжка ўздыхаў, іншы доўга адкашліваўся. Астатнія сядзелі, апусціўшы рукі, паніклыя, панурыя, здаецца, абыякавыя да ўсяго на свеце.

Толькі Іван з Арцёмам увесь час завіхаліся з пілкай. Ужо засталося рэзаць мала. Яны спачатку хацелі выламаць падрэзаныя дошкі, але перадумалі. Каб не рабіць трэску, рашылі дарэзаць да канца. Рэзалі пілкай, працавалі на перамену. Калі рэзаў Іван, Арцём стаяў ля акенца і ўзіраўся ў ноч.

— О! Тут самы раз уцякаць...— сказаў Арцём, пільна ўзіраючыся праз калючку.— Пайшлі лугі і лугі... І лазняк... А далей лес цямнее. Скарэй ты канчай,— нагнуўся ён да Івана.

— Зараз...— ціха адказаў Іван, націскаючы абедзвюма рукамі на дошку. Адрэзаны кавалак дошкі хруснуў, шухнуўся ўніз, шаснуў па шчэбеню. У падлозе зачарнела дзірка.

— Хто першы? — спытаў Арцём.

— Дай я!..— рашуча рвануўся ўперад Іван.

— Давай!.. З богам!.. Толькі асцярожна...— параіў Арцём і пацалаваў Івана.

— Павел, дружа, а як ты? — занепакоіўся Іван.— Можа, ты першы палезеш? Я памагу...

— Не, браце. Бывай! Я не магу... Руку зусім адняло... Увесь бок пячэ,— з болем у голасе прамовіў Павел.— Ідзі ты. Шчасліва табе...

Паўлаў голас сарваўся. Сябры абняліся, пацалаваліся.

Іван спусціў ногі ў дзірку, павісеў крыху на локцях, затым спусціўся яшчэ ніжэй. На краях дзіркі з хвіліну былі бачны яго рукі, затым яны каўзанулі ўніз, пад вагонам чмякнула, пырснула знізу ў падлогу шчэбенем, і зноў пачулася толькі аднастайнае павольнае пастукванне колаў..

— Ну, удачна...— уздыхнуў Арцём.— Бывайце, братцы! Не памінайце ліхам...

Арцём каўзануў у дзірку, асунуўся адразу ўніз, павіснуў на руках.

Марудна ішлі хвіліны, на краях дзіркі віднеліся рукі Арцёма. Здавалася, яны прыраслі да падлогі.

Над дзіркай нагнуліся дзядзька Мікалай, Павел і Шура.

— Мо памагчы? — дакрануўся да рукі Арцёма дзядзька Мікалай.

З-пад вагона пачулася незразумелае мармытанне. Здзіўляў слых аднастайны шоргат, мусіць, ногі Арцёма цягнуліся па шчэбеню. Прыняў адну руку, хвілін колькі трымаўся на другой. Адпусціў. Пад вагонам штосьці зашумела, і — сцебануў па душы жудасны крык... І зноў цішыня, толькі аднастайна тахкаюць колы...

Дзядзька Мікалай, Шура і Павел нагнуліся над дзіркай, прыслухаліся. Ні гуку. Унізе толькі бегла шэрая паласа шчэбеню.

— Царства яму нябеснае...— прамовіў дзядзька Мікалай.— Калі што, дык хаця б насмерць адразу... Не дай бог, калі будзе мучыцца дзе на дарозе...

У вагоне абудзіліся ўсе. Ціснуліся да дзіркі. З затоенай трывогай глядзелі на дзядзьку Мікалая.

— Што там?.. Дзе ён?.. Што вы маўчыце? — загаманілі жанчыны.

— Нічога... Спакойна... Прыкусіце языкі!..— не падымаючы галавы, адказаў дзядзька Мікалай.— Ну?! — буркнуў ён.— Хто яшчэ?..

— Я! — рынуўся Шура ўперад.

— Чорт цябе знае! Дзіця... Што мне з табою рабіць? — прыгледзеўся да Шуры дзядзька Мікалай.— Ат! Лезь!.. Толькі глядзі, галаву пад калясо не сунь...

Шура спусціў ногі ў дзірку, пасунуўся ніжэй, павіснуў на локцях.

— Калі ўдачна выкінешся, не стой, разявіўшы рот... Ідзі ў вёску, папрасіся, каб прыхавалі... На хутар не ідзі...— параіў дзядзька Мікалай.

Шура дрэнна разумеў, што гаварыў дзядзька. Ён вісеў на локцях, напружанае цела прабіраў страх. Босыя ногі ледзяніў сыры, золкі вецер. Ногі цягнула ўніз. Пальцы ног шарганулі аб шчэбень, востры боль працяў усё цела. Шура падкурчыў ногі і рашыў падаць клубком.

У гэтае імгненне заскрыгаталі тармазы, загрымелі буферы, вагон некалькі разоў тарганула, цягнік спыніўся.

Дзядзька Мікалай паспеў схапіць Шуру за плячо. Шура адпусціў рукі ад краёў дзіркі, але павіснуў на руцэ дзядзькі Мікалая. Шура адчуў, як дзядзькава рука пацягнула яго ўверх, калені балюча стукнулі аб край дзіркі. Працягнуў рукі, учапіўся за дзядзьку, стаў на ногі.

— Усё... Позна...— са стогнам выдыхнуў гэтыя два словы дзядзька Мікалай і рэзка, нібы са злосцю, адхінуў Шуру ад дзіркі.— Што будзем рабіць? Як захінуць дзірку? Чым? — звярнуўся ён да Паўла.

— Нічым...— рашуча адказаў Павел.— Я на сябе прыму. Я скажу, што гэта я прарэзаў. Што будзе, тое будзе.. Я ўсё роўна не выжыву. У мяне, мусіць, гангрэна...

— Не, дзяцюк... Не гарачыся... Давай падумаем...— сказаў дзядзька Мікалай.

Шура нейкі час стаяў нерухома, ён не паспеў уцяміць усяго таго, што адбылося. Затым, калі пачуў гаворку дзядзькі Мікалая і Паўла, уразумеў, што здарылася штосьці нечаканае. Чаму спыніўся цягнік? Калі будуць аглядаць вагоны, дзірку ўбачаць. Што будзе?.. Лепш загінуў бы пад коламі цягніка...

— Сядзь!.. Чаго ты выцягнуўся, як бацян? — сказаў дзядзька Мікалай.

Шура пакорліва апусціўся побач з дзядзькам.

За сцяной вагона чулася лаянка фашыстаў. Брахалі сабакі. Трашчалі матацыклы. Каля вагона раз-пораз прабягалі фашысты. Стук іхніх каваных ботаў жудасна аддаваўся ў сэрцах нявольнікаў.

Світала.

Паласа сонечнага святла прабілася праз калючку і ўпёрлася светлым лапікам у процілеглую сцяну.

Дзядзька падняўся, стаў на хатуль і зазірнуў у акенца.

— Паўстанак тут нейкі... Будынкі...— не адрываючы позірку ад акенца, сказаў ён.

— Няхай сабе... Сядзі ты, чалавеча... Не высоўвайся...— пацягнулі за крысо дзядзьку Мікалая жанчыны.

Стары паслухаўся, прысеў.

На паўстанку не сціхала. Гул. Воклічы. Гэты жудасны шум набліжаўся. Людзі чакалі яго так, як чакаюць прысуду. Шум набліжаўся вельмі павольна. Неўзабаве нявольнікі пачулі, як загрукалі дзверы вагонаў.

Дзверы раптам адскочылі ўбок, на ўсю шырыню. Перад дзвярыма



стаялі фашысты. Некаторыя былі ў касках, некаторыя трымалі на рамянях аўчарак. Сутулы фашыст з шэрым тварам як мог спрытна ўскочыў у вагон.

— Алес вэг, фэрфлюхтар нох маль! — вышчарыўся фашыст.

Павел нахінуўся і лёг на дзірку. Людзі ўзнімаліся і павольна ссоўваліся з вагона. Фашыст штурхаў іх у плечы. Павел заставаўся ляжаць. Хутка вагон апусцеў. Не кранулася з месца толькі маладая жанчына з мёртвым малым на руках і Павел.

— Варум лігст ду гір? * — крануў яго наском бота фашыст.

Павел маўчаў.

Фашыст нагнуўся і, як каршун, схапіў Паўла за грудзі, пацягнуў да дзвярэй. Ля дзвярэй ён спыніўся, азірнуўся і... убачыў, што падлога прарэзана. Фашыст дзіка ўскрыкнуў, нібы на яго лінулі раптам варам, выпусціў Паўла і кінуўся да дзіркі. Як па загаду, у вагон ускочыла яшчэ з дзесятак фашыстаў. Завылі аўчаркі.

Павел ляжаў у дзвярах, калі фашысты шуганулі цераз яго. Ён злаўчыўся і з усяе сілы садануў нагой у жывот маладому, але надта тоўстаму, менш паваротліваму фашысту. Трапіў пад дыхавіну. Фашыст выкаціў вочы, хаўкнуў разы два ротам, як рыбіна, якую толькі што выкінулі з рэчкі, адкінуўся назад і цераз галаву бразнуўся на зямлю.

Павел абапёрся здаровай рукой аб падлогу, узняўся, стаў на ўвесь рост і з лютай нянавісцю глянуў на тоўстага фашыста, што, крывячыся, павольна ўзнімаўся з зямлі.

Тоўсты фашыст стаў на ногі, раптам ажывіўся, выхапіў з кабуры наган, гыркнуў на фашыстаў, што былі ў вагоне,— тыя рассыпаліся па вуглах,— ускінуў руку і два разы стрэліў у грудзі Паўлу.

Павел ляжаў дагары, з адкрытымі вейкамі, не варушыўся... Вочы яго былі сінія-сінія, як блакіт неба... Позірк быў здзіўлены, нібы ён хацеў спытаць, за што яго забілі...

Сутулы фашыст з шэрым тварам пералічыў усіх нявольнікаў.

— Цвай гефілен унд цвай гешвандэн ін дзізэр нахт.**— сказаў немцам, што стаялі побач. Затым, штосьці гардыячучы, абвёў сваю бараду рукой ад правага вуха да левага,— Шура зразумеў, што гутарка ў іх ідзе пра Арцёма,— паказаў у той бок, адкуль ішоў эшалон, потым на кола вагона і правёў рукой наўскасяк ад левага пляча да паясніцы. Немцы слухалі яго, ківалі галовамі і рагаталі...

Фашысты загадалі ўсім нявольнікам сесці. Паставілі двух вартавых з аўтаматамі, і ўся зграя рушыла да наступнага вагона.

Толькі цяпер Шура заўважыў, што яго ногі ў крыві. Параніў аб шчэбень і шпалы. Але болю чамусьці ніякага не адчуваў.

Эшалон разасобілі. Трэба было перагнаць у тупік прарэзаны вагон. Шура заўважыў, што там стаяў ужо адзін: з аднаго канца ў яго быў вялікі тамбур. Шура задумаўся, дзе ён бачыў гэткі вагон, і ўспомніў: гэта быў апошні вагон у іхнім эшалоне. У Маладзечне да хваста эшалона падагналі трох юнакоў. Шура прыгледзеўся і ўбачыў, што ў сцяне вагона, процілеглай ад тамбура, бялеў двума краямі вялікі пралом.

Два фашысты з аўчаркамі адсунулі дзверы вагона, махнулі рукой, і адтуль таропка вылезла з дванаццаць жанчын і дзяцей. Тых двух юнакоў, што пасадзілі ў Маладзечне, сярод іх не было. Падагналі астатнія вагоны, сфармавалі эшалон. Шура і дзядзька Мікалай трапілі ў сярэдні вагон.

---

* Чаго ляжыш ты тут?

** Два загінулі і два зніклі гэтай ноччу.



Скрыгатнулі і зачыніліся дзверы вагона, загрымела засаўка, стукнула пломба. Заняло дыханне ад цяжкай, непрыемнай духаты...

У Шуры закружылася галава, ён ледзь не ўпаў, але паспеў абамкнуцца камусьці на плечы. Цесната — не ступіш. Калі б упаў — наваліўся б на людзей.

— Сюды пераступай, хлопча! Тут можна прысесці.

— Аркадзь, бліжэй да акенца яго... Гэта ён з непрывычкі. Падыхаў на двары, вот і ап'яніла тут. Каб вады глыток яму...— кругом загаманілі жанчыны.

Шура ўзняў вочы. Перад ім стаяў адзін з тых трох хлопцаў, якіх пасадзілі ў Маладзечне. Ён трапіў у сярэдні вагон, таму і не ўцёк. Гэта яго жанчыны называлі Аркадзем.

— Ну, давай, давай сюды! Калі каму на нагу наступіш, крыўдзіцца не будуць...— працягнуў Аркадзь абедзве рукі Шуру.

Вагон раптам ірванула, з хвіліну ён торгаўся па рэйках, нібы вагаўся на вялізным маятніку, затым крануўся з месца. Метраў колькі праехаў — зноў спыніўся. Залязгалі буферы, аглушальна ўсхліпнулі свісткі маняўровых паравозаў. Зноў паехалі, толькі ўжо шпарка. Але ненадоўга. Вагон калыхнуўся і стаў, як укапаны. Потым раптам крануўся і зноў шпарка пабег.

Ад кожнага штуршка людзей кідала ў бакі, яны налятапі, стукаліся адзін аб другога. А вагон торгаўся... Здавалася, хтосьці наўмысля тузае вагон, каб памучыць і без таго змардаваных людзей.

— Гэта яны так, відаць, робяць перастаноўку вагонаў,— прамовіў Аркадзь.

— А няхай бы іх скарэй на той свет пераставіла,— выказаў сваё чарговае пажаданне фашыстам дзядзька Мікалай.

І зноў цяжкае, зацятае маўчанне. Толькі ціхі плач дзяцей.

Шура адразу прыкмеціў, калі ўлез у вагон,— тут мужчын не было. Апрача Аркадзя. А так усё жанчыны з дзецьмі і некалькі дзяўчат. Яны сядзелі ў пярэднім кутку вагона асобна, групкай.

Калі вагон пераганялі і рэзка кігікалі свісткі паравозаў, гаварыць не было як: не перакрычаць шум і гам. Зараз вагон стаяў на месцы, але дарослыя маўчалі. Дзядзька Мікалай падмяў хатуль пад сябе, прыхінуўся спіной да дзвярэй і аб чымсьці цяжка задумаўся. Аркадзь сядзеў суровы, зацяты.

Гулка стукаюць колы на стыках рэек. У вагоне гусцее змрок, але духата радзее: бадзёры ветрык прарываецца праз калючыя краты.

Шура з Аркадзем сядзяць блізка, прыхінуўшыся адзін да другога і накрыўшыся Шуравым кажухом. У Аркадзя на плячах толькі адна кашуля, у клетку, паркалёвая, уся парваная. Цёмна-сінія штаны таксама парваныя. Падэшвы бацінак стаптаныя да лісцінкі.

Шуру чамусьці ўспомнілася, што ў такіх жа клёшных штанах — толькі чорнага колеру і не парваных — былі Іван і Павел. І яшчэ паверх кашуль у іх была вопратка: у Івана шэры паношаны пінжак, у Паўла — куртка-фізкультурка з цёмна-жоўтага аксаміту... Арцём быў у галіфэ, у ботах, на плячах выцертая паддзёўка на ваце. Прыгадаў Шура і шапку Арцёма, такую шэрую, памятую, з паламаным казырком. Іван і Павел былі з непакрытымі галовамі...

Ужо было цёмна ў вагоне, калі радзей пачалі стукаць па стыках рэек колы, заскрыпелі тармазы — эшалон пайшоў памалу. Каля заплеценага калючкай акенца зачмыхалі паравозы. Людзі задыхаліся ад дыму. Забухаў цяжкі, прыглушаны кашаль...

Эшалон спыніўся. Аркадзь учапіўся рукамі за край акенца, падцягнуўся ўверх.

— Станавіся мне на плечы...— ссутуліўся Шура.

Аркадзь павіснуў на руках, напружыўся, але доўга ўтрымацца так не змог, стаў Шуру на плечы.

— Вялізная станцыя... Паравозаў, саставаў процьма,— сказаў Аркадзь.— Што за станцыя? Вакзал. Немцаў, як сабак. Ага! Там вывеска... Што напісана — не разбяру... Цёмна...

Аркадзь пільна прыглядзеўся да шыльды. Да вакзала павольна сунуўся паравоз. Якраз наўпроць шыльды качагар адкрыў топку. Яркі сноп святла лізнуў вялікія чорныя літары.

— «Ліда»,— прачытаў Аркадзь...— О, свалата! Куды нас зацягнулі ўжо! — гаварыў Аркадзь, спускаючыся на падлогу і нагамі шукаючы вольнае месца, каб не наступіць на каго.

Эшалон загналі ў тупік.

Аркадзь зноў учапіўся за край акенца, падцягнуўся. Крыху павісеў так, паварочваючы галаву ўправа і ўлева, і зноў спусціўся на падлогу.

— Фу, чорт вазьмі! Не даў бог росту...— пашкадаваў ён.

— А што там? — запытаў у яго Шура.

— Даўжэзны састаў. Канца і пачатку не відно. Адны платформы амаль. А на платформах станкі. Мусіць, нейкі завод наш вывозяць,— адказаў Аркадзь.— Чакай,— спахапіўся ён,— наўпроць нас таксама вагон такі стаіць... Дзе твой горб? — нахіліўся ён да Шуры.— Я яшчэ раз пагляджу.

Аркадзь стаў Шуру на плечы і блізка прыхінуўся тварам да калючкі.

— Здароў, браток! — аклікнулі Аркадзя з вагона, што стаяў наўпроць.— Адкуль вязуць? Можа растоўскія ёсць ці бранскія?

Аркадзь напружыў зрок, прыгледзеўся.

— Што ж маўчыш, браток? — спытаў усё той жа голас.— Не бойся. Свае мы. У такім купэ, як і ты, едзем. Сам бачыш.

— З Беларусі мы. Тут ёсць з-пад Барысава, з Полацка...

— Эй, друг! — гукнуў з-за калючак густы, моцны бас.— Можа ў цябе курыва ёсць? Ці скарынка хлеба заваляласся? Падкінь сюды. Нам пяты дзень нічога не даюць...

— Нам таксама,— крыкнуў Аркадзь.— Але мы духам не падаем.

— А мы што? Хто сказаў, што мы падаем духам?!

— Э-э-эх! Закурыць бы цяпер!..— цяжка ўздыхнуў дзядзька Мікалай і пашарыў рукой вакол сябе, нібы ён толькі што згубіў у вагоне цыгарку.— Дзіця! Слухай! — звярнуўся ён да Аркадзя.— Злезь! На, падай ім сушаную перапечку...

Аркадзь узяў сухар і зноў стаў Шуру на плечы.

— Братцы! — гукнуў ён.— Прасуньце рукі праз калючку і лавіце сухар...

— Не можам, браток... У нас на руках кандалы... Мы закаваныя.

— Адхіліцеся. Я кіну сухар у акно. Можа, трапіць у вагон...

Людзі адышліся ад акенца.

Аркадзь прасунуў руку між калючак і кінуў сухар. Перапечка бразнулася ў сетку калючак, адскочыла і шарганула на чорную, пасыпаную шлакам зямлю.

— Гэ-эх! Ладна... Не трэба, браток, кідаць...

— Вэк, русіш швайн! — зароў раптам унізе фашыст.

Вогненны струмень шугануў уверх перад вачыма Аркадзя. Гул аўтамата ён пачуў потым. Рыўком адштурхнуўся ад акна і паляцеў на людзей. Адразу ўсхапіўся і пацініснуўся да Шуры.



— Алес шляфэн! Нікс шпрэхен! Вір шісэн ін ваген мусэн! * — прагарланіў за сцяной фашыст. Праз хвіліну шорганне ботаў яго прыглухла, аддалілася: відаць, адышоўся ці спыніўся паводдаль. Цішыня, мёртвая, жудасная, стаяла нядоўга. Яе ўзарвала песня. Спявалі ў суседнім эшалоне.

— Зінген аух фэрботен! Хальт! ** — закрычаў фашыст.

Песня не змаўкала, песня мацнела, песня расла...

Дробны гул аўтамата пракаціўся ля вагона. Калі з аўтамата страляюць побач, чарга здаецца гулкай.

— «Ты вахту не кончил, не смеешь бросать...» — спявалі яшчэ гучней.

У вагоне пачалі ўсхліпваць жанчыны.

Напрасно старушка ждёт сына домой,
Ей скажут — она зарыдает...
А волны бегут от винта за кормой,
И след их вдали пропадает...

Узрушаны да глыбіні душы, Шура сядзеў на падлозе вагона, моцна прытуліўшыся да Аркадзя. Думаў пра сваіх братоў, бацьку, маці... Дзе яны цяпер?

Ён успомніў, як у 1943 годзе, пасля першай блакады, яны вярнуліся ў Маргавіцу. Голад. Усё спалілі, знішчылі фашысты. Самалёты з чорнымі крыжамі насіліся нізка над абгарэлай стаптанай зямлёй, абстрэльвалі кожную жывую істоту. Карнікі часта ўрываліся ў партызанскі раён, забівалі ўсіх, хто трапляў ім на вочы. Жыць было цяжка і страшна. Але неяк жылі. Дзяліліся апошнім кавалкам хлеба, адзін другога падтрымлівалі. Затое хоць паветрам вольна дыхалі... А тут...

Степь да степь кругом,
Путь далек лежит,—

спявалі зноў.

У снежні 1943 года маргаўчане пакінулі свае зямлянкі і накіраваліся за раку Бярозу. Фашысты тады расчышчалі зону ад партызан для пракладкі вузкакалейкі Параф'янава — Лепель. Карныя батальёны шырокім фронтам ішлі адначасова з Лепеля і з Докшыц. Партызаны не здавалі ні аднаго кіламетра без бою. Фашысты пусцілі ў ход усё: авіяцыю, танкі, артылерыю. Вёска Маргавіца не пападала ў зону праходу фашыстаў, але ж ніхто з вяскоўцаў аб гэтым не ведаў. Усе думалі, што пачалася зімовая блакада. А ад блакады дзе дзенешся? Толькі за раку Бярозу, у густыя, вечныя лясы былога Бярэзінскага запаведніка. Дзядзька Мікалай хадзіў тады за Вускрам'е, да ракі, на Перасоў — гэта такое месца, дзе звычайна перапраўляліся цераз Бярозу. Паглядзеў, вярнуўся назад і расказаў: пераправіцца нельга. Лёд тонкі яшчэ — па ім не пяройдзеш, праломіцца. А лодак няма... Паехалі ў аб'езд, пад Барысаў, на вёску Броды. Там быў партызанамі зроблены мост. Дарога вялікая. Ехалі чацвёра сутак. Выехалі з Маргавіцы, калі зямля была голая. Выпаў вялікі снег. Павольна рухаліся па снезе падводы. На падводах — хатулі, малыя дзеці; ззаду, за падводамі, навязаныя на абрэць каровы; абапал падвод і старыя і малыя — усе, хто можа ісці сам. Начавалі ў лесе, спалі проста на снезе. Аднойчы днём за вёскай Недаль на полі на бежанцаў наляцеў фашысцкі самалёт. Ніхто не паспеў убачыць, адкуль ён узяўся, вынырнуў нечакана, як груган, з-за лесу. Людзі рассыпаліся па полі пад бабкі жыта: у тую восень не паспелі звезці ўсе снапы з

* Усім спаць! Не размаўляць! Будзем страляць па вагоне!
** Забараняю спяваць! Стой!

поля. Сцярвятнік паласнуў з кулямёта два разы па абозе і паляцеў. Забіў малое дзіця, якое было ўхутана ў рызманы на падводзе...

И набравшись сил,
Чуя смертный час,—

тужліва даходзілі словы песні.

— Дзе немец? Чаму ён не галёкае? — здзівіўся дзядзька Мікалай.— Ускоч ты, паглядзі,— звярнуўся ён да Аркадзя.

Аркадзь ускочыў Шуру на плечы, зазірнуў у акенца і адразу хуценька сеў на сваё месца.

— Што? — спытаў дзядзька Мікалай.

— Прысланіўся да вагона, стаіць, слухае...— прыцішаным голасам адказаў Аркадзь.

— А-а-а, сабака! І ў яго душа нейкая ёсць...— прамовіў дзядзька Мікалай.

Тое, што сказаў Аркадзь, вельмі здзівіла Шуру. «Значыць, і немцы могуць быць людзьмі...— думаў ён.— Можа некалі нямецкія салдаты і былі людзьмі?.. А чаму яны так азвярэлі?.. Што зрабіла іх такімі? Чаму яны так многа жудасці і страху прынеслі нам? Чаму яны вязуць нас, галодных, у зачыненых вагонах?..»

Ты, товарищ мой,
Не попомни зла
И в степи глухой
Схорони меня...

Пахаваць каля дарогі прасіў дзядзьку Мікалая ягоны дваюрадны брат Барыс Лагавы. Ён памёр ад тыфу за вёскай Недаль, якраз перад самым налётам фашысцкага самалёта. Пасля абстрэлу дзядзька завёз дваюраднага брата ў Недаль і без труны пахаваў на могілках. І пасля яшчэ ў дарозе не аднаго чалавека пахавалі: ад тыфу памерлі.

А перад ад'ездам цэлую восень сыпняк браў у магілу маргаўчан. Не пераносілі хваробы ўсё больш людзі маладыя. Са старых увосень памерла толькі адна Шурава бабуля Тацяна, ці, як яе называў Шура па дзеду, баба Макарыха.

Шура ўспомніў, што цэлы месяц яны жылі летась зімой у лесе. Бывала, заснеш на снезе каля агню, уночы агонь патухне, а ты спіш адубелы... І дзіва — ніхто не захварэў тады...

Вярнуліся ў Маргавіцу толькі пасля таго, як фашысты правялі вузкакалейку Параф'янава — Лепель і ўстанавілі ўздоўж яе ўмацаваныя гарнізоны. Аблавы на людзей былі часова тады спынены — той год вельмі снежная зіма была...

А жене скажи,
Что в степи замёрз...—

і Шура пачуў грукат вагонаў, скрып колаў. Спачатаку падумаў, што крануўся іхні эшалон, аж не, вагон быў на месцы.

Песня раптам абарвалася...

— Бывайце, братцы!.. Хто вернецца на Радзіму, перадайце прывет ад маракоў-балтыйцаў!..— пачулася з суседняга эшалона.

Каля акенца шугануў чорны комін паравоза, потым перастук колаў пачаў аддаляцца, заглухаць, і неўзабаве стала зусім ціха. Толькі каля вакзала падчас пралятаў фашысцкі воінскі эшалон ды хрыпла ўскрыкваў дзесьці, нібы спалоханы дзяркач, маняўровы паравоз.

Прачнуўся Шура, калі ўжо віднелася. Цягнік ішоў. Са столі ў многіх мясцінах часта капала вада — ліў спорны дождж.

Людзі задзіралі галовы, шырока раскрывалі раты, стараліся злавіць хоць кроплю, радаваліся дажджу...



Наўпроць Аркадзя вісеў тонкі струменьчык. Аркадзь лавіў яго ў прыгаршчы і паіў малых дзяцей. Калі Шура прачнуўся, Аркадзь сабраў поўныя прыгаршчы і даў яму. Шура з прагнасцю выпіў, на душы ў яго крыху пасвяжэла...

Праехалі Ваўкавыск, як аб гэтым у часе кароткага перапынку праз калючку даведаўся Аркадзь у старога чыгуначніка, які шпарка праходзіў уздоўж саставу, пастукваючы малаточкам на доўгай ручцы па колах вагонаў і правяраючы буксы.

Нявольнікі ўсе былі мокрыя да ніткі. На падлозе стаялі лужыны, асабліва каля акенца: праз яго ляцелі густыя пыpскі вады.

Усе ў вагоне падняліся, ехалі стоячы,— цяпер ужо не радаваліся дажджу...

На шчасце, дождж неўзабаве пачаў сціхаць... За акенцам, праз калючку, мільганула далёкае, заплаканае сонца.

Эшалон ішоў даволі шпарка.

— Гэ-эх!..— прастагнаў Аркадзь.— І дакуль мы так ехаць будзем? Мець бы такую сілу,— ён развёў рукамі,— разламаў бы, разбіў усё к чортавай мацеры!.. Быў бы са мной мой ППШ, я б ім паказаў, хто такі Аркадзь Вячэрнік!..

Аркадзь стаяў каля дзвярэй між дзядзькам Мікалаем і Шурам.

— А што, каб нам узяцца ды пераламаць па адным дроціку ўсю гэтую калючую сетку? — спытаў Аркадзь дзядзьку Мікалая, паказваючы на акенца.— Такім дажджом уночы мы з Шурам маглі б выкінуцца. Каўзанулі б у канаву і — гайда ў лес!..— дадаў Аркадзь.

— Кінь ты, дзіця, пустое малоць...— махнуў на яго рукой дзядзька Мікалай. Чым ты іх пераломіш? Зубамі? У тым вагоне хлопцы падлогу прарэзалі, за Маладзечнам сiганулі ўніз, і то адзін пад калясо ўлучыў... А праз акенца — адразу б галовы скруцілі...

Хвілін колькі ўсе маўчалі.

— От бачыў я каля Беразіно-Ліпскага аднаго адчайнага...— задумліва сказаў Аркадзь.— Якраз я толькі прыйшоў туды з-пад Барысава. Хаджу па балоце, шукаю партызан. А перад гэтым па тых мясцінах толькі што немцы прайшлі. Заходжу на адзін востраў і бачу там... людцы мае!.. Сямей некалькі перабіта, перарэзана насмерць... І малыя, і старыя ляжаць... І хатулі параскіданы — што дзе... Толькі я стаю і думаю, што рабіць,— калоціць мяне ўсяго,— як гляджу: гоніць сюды хлопчык карову. Карова падышла, шчыпле траву, а хлопчык як кінецца да забітай, ды як закрычыць: «Мама! Мамачка мая!» У мяне так і паплыло ўсё перад вачыма. Стаю, як пень. Адумаўся, гляджу: захлынецца ад гора дзіця. Падышоў, узяў яго пад рукі. Адвёў, прыселі на купіну. Сунімаю, як магу. «А ты што, адбегся, як яны ішлі?» — пытаюся. «Не,— гавора,— я пасвіў карову каля дарогі. Там, недалёка ад вёскі...» Патроху ён і расказаў мне, што відзіў, як дзве машыны сталі на дарозе, павылазіла з іх немцаў многа-многа і пайшлі ў лес. Думаў, не знойдуць іхнюю стаянку. Аж знайшлі. Яны ў балоце дужа шнырылі, каля дарог не, там можна было хавацца смела. Сядзіць сабе гэты хлопчык — яго Валерыкам звалі — відзіць: трое партызан высунулася з драбнячку і штосьці на дарозе закапалі, пясок пагрэбалі. Ясна... Міна... Ну, ён чуў, як у балоце стралялі, думаў, партызаны тыя з немцамі б'юцца... Аж тут вось што...

Пасядзелі мы з ім. Тады Валерык усхапіўся і цягне мяне да дарогі. Ну, думаю, адвяду яго ад гэтага месца. Пайшлі. Каля лесу ён кажа: «Пасядзі тут у сасонніку. А я мігам збегаю дамоў. На агародзе, каля ліпак, у мяне схаваны аўтамат. Я вазьму яго і прынясу

сюды». Не пускаў. Вырваўся, пабег. Сядзеў я доўга там. Беразіно-Ліпскае відна было. Валерык адтуль родам быў... Віджу: ідуць з вёскі многа, многа немцаў. А наперадзе Валерык... Праціраю вочы — ён ці не ён? Ён... Ну, у мяне і сэрца ў пяткі... Што, думаю, рабіць? І раптам — як грымне! Так метраў трыста ад мяне. Я аж падскочыў. Дым, пыл!.. Пакуль пыл разышоўся, нямецкія чатыры машыны пад'ехалі. На дарозе жывых некалькі і раненых засталося. Ну, іх забралі. І пабітых многа забралі... А Валерыка не відзеў я. Не прыкмеціў... Не знаю — ці яны забралі яго, ці там не было ўжо каго браць... Паехалі машыны, пайшоў я на тое месца — толькі шматкі нямецкай адзежы знайшоў... Во якія цяпер дзеці бываюць! — закончыў Аркадзь расказваць.

— А табе, хлопец, колькі год? — спытаў яго дзядзька Мікалай.

— Семнаццаты.

— Тожа пакамісь недалёка ад дзяцей адскочыў.

— Я ўжо не дзіця. Я ўжо другі год ваюю,— з гордасцю адказаў Аркадзь: — Ага! Дык я не скончыў,— успомніў ён.— Толькі я адышоўся ад дарогі, гляджу — нямецкі аўтамат ляжыць, прыклад пагнуты... Схапіў я аўтамат, гляджу — ражок патронаў...А тут машыны немцаў... Я падпусціў іх блізка ды — як разануў! Не ведаю, колькі забіў, але забіў. Закрычалі яны. Страляць пачалі... А ў мяне патроны кончыліся. Я аўтамат у руку ды ў лажок, ды ў лес, у балота... Ну, хадзіў двое сутак па лесе. Згаладаў... Аўтамат кінуў — на чорта ён быў мне, пусты. І добра, што кінуў. Каля Вілейкі нарваўся на засаду. Схапілі і прывезлі ў Маладзечна. Каб аўтамат быў са мной, расстралялі б адразу, я гэта добра знаю.

Дождж ужо даўно перастаў. У вагоне пачала збірацца духата. Шура і Аркадзь распрануліся да пояса. Яны сядзяць зноў пад акенцам. Сядзяць, як браты, размаўляюць: так пасябравалі за адны суткі. Праўдзівая прымаўка ёсць такая: «Сябры пазнаюцца ў бядзе»...

— Слухай, братачка,— звярнуўся Шура да Аркадзя,— ты толькі не абідзься на мяне. Скажы мне, чаму ў цябе няма пазногцяў? Я ўсё хацеў спытаць, ды не рашаўся...

— Чаго абіжацца...— горка ўсміхнуўся Аркадзь.— Ты тут ні пры чым. Гэта, брат, так фашысты мяне аформілі. Вось і ўсё, што я табе скажу. А больш нічога расказваць не буду, калі б ты і прасіў дужа.— Аркадзь насупіў бровы, спахмурнеў і, цяжка ўздыхнуўшы, прамовіў: — Гэта, брат, цяжкая гісторыя...

Аркадзь заплюшчыў вочы, адкінуўся да сцяны вагона, задумаўся. У памяці міжволі паўстала пераметае.

Паслаў камандзір атрада іх, шасцярых аўтаматчыкаў, гэтай зімой, якраз на каляды, на заданне — узарваць бензасклад каля Барысава. Усім было па шаснаццаць гадоў. Ноччу ў маскхалатах па снезе падпаўзлі, перабілі вартавых, падпалілі склад і ўдачна вярталіся. Камусьці ўздумалася зайсці ў Сцюдзёнку, да Аркадзевых бацькоў. Зайшлі. Пагасцілі, адсвяткавалі каляды і ляглі спаць: стомленасць і чарка бралі сваё ды і гарнізон далекавата — чаго баяцца... Спалі не ў адной хаце, а ў розных, па адным.

Ноччу чуе Аркадзь, нехта яго моцна ў бок штурхнуў. Прачнуўся, бачыць — поўная хата фашыстаў. Яны па слядах з сабакамі за імі ішлі. Загадалі апрануцца, выйсці на вуліцу. Добра, што Аркадзь аўтамат пад сяннік схаваў. Двух партызан, у якіх знайшлі аўтаматы, адразу расстралялі на вуліцы. Чатырох пагналі ў Барысаў. Катавалі, здзекаваліся паўмесяца — ніхто не прызнаваўся. Там і злупілі Аркадзю пазногці: іголкі ў пальцы заганялі. Білі гумай. Затым пагналі на расстрэл. Але не толькі іх чатырох, а чалавек дваццаць яшчэ з імі — жанчыны, мужчыны.



Хацелі ў дарозе ўцячы, але не змаглі — вельмі моцны канвой быў. Загналі за Барысаў у роў, ударылі з ручных кулямётаў. Аркадзя раніла ў левую нагу вышэй калена. Ён страціў прытомнасць і паваліўся, як мёртвы.

Калі апрытомнеў, фашыстаў не было. Воддаль па дарозе ішла пажылая жанчына. Паклікаў. Яна завяла яго да сябе ў Слабодку, прыгарад Барысава. Паведаміла бацькам. Ноччу бацька прыехаў па яго, завёз дамоў. Цэлую зіму лячыўся ў пограбе пад хатай. Як рана зажыла, уцёк з дому ў партызаны.

Кінуўся на Палік. Там блакада. Ну, і бадзяўся па лесе...

— Папаўся я ў лапы зноў да іх — ну ты ведаеш як,— павярнуўся Аркадзь да Шуры.— Загналі ў Маладзечна і там зноў білі. Дапытваліся, адкуль і хто...— Ён крыху памаўчаў, а потым прадаўжаў: — Не прызнаўся. Гавару, што з вёскі Крайск, з-пад Плешчаніц. Адбіўся ад людзей. Заўсёды так: калі дапытваюцца — не прызнавайся — лепш будзе. Там і сустрэўся з хлопцамі гэтымі двума. Яны з-пад Мінска недзе. От хлопцы рызыкоўныя!..

Колы радзей затахкалі на стыках рэек.

Аркадзь ускочыў на ногі, падцягнуўся на руках, прыліп да акенца.

— Станцыя... Якая? Беласток! — напружаным голасам сказаў Аркадзь.— А горад які разбіты!.. На пероне хлапчукі-чысцільшчыкі ботаў бегаюць са шчоткамі... Дзіўна неяк... А немцаў колькі!— прамовіў ён і апусціўся на падлогу.— Чорт з імі! Неахвота глядзець на гэтых фрыцаў...

Цягнік тарганууся, цахнуў буферамі і спыніўся.

(Далей будзе).

**У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ**

**апавяданні Васіля БЫКАВА**

**і Аркадзя КАНДРУСЕВІЧА,**

**аповесць Міхася СТРАЛЬЦОВА**

# «АДЗІН ЛАПАЦЬ, АДЗІН ЧУНЬ»



Уладзімір ВАСЬКО

●

# ДЗЕ ЛІПЫ ЦВІТУЦЬ

Быў вечар. Плыў месяц.
Спявалі на дрэвах птушкі.
На срэбраных крыллях
з аселіц
Плылі ў вёску частушкі.

Быў ліпень. Шумелі ліпы.
Бялелі ў дзяўчат сукенкі.
Гарэлі вусны ў Ліды,
Свяціліся вочы ў Аленкі.

Ёсць дом свой і горад вялікі,
Шмат вуліц і тратуараў.
Ды толькі не пахнуць ліпы,
Не бачу знаёмых твараў.

Хутчэй бы туды паехаць,
У той кут, дзе смяюцца
рэчкі,
Дзе ліпы цвітуць, дзе месяц
Зоркі пасе, як авечкі.



●

Бліскала ў Нёмане рыба.
Скачучы над вадой.
Ішла над рэчкай Марына
Русалчынаю хадой.

Паромшчык пытаў
з таго боку:
— Куды ты лодку пагнаў?
А я яе гнаў, яй-богу,
Туды, дзе была яна.

О, як надхапілі хвалі,
Празрыстыя хвалі нас.
О, як яны заспявалі
У той незабыўны час.

Паромшчык прыціх з дакорам,
А рыба скакала кругом.
І пахла аерам і морам,
І ўсё блішчэла дабром.

# СУСЕДКА

Калі я пішу ці рашаю задачы,
І ў вокнах маіх твой цень
прамільгне.
Ты хочаш, напэўна, каб я
цябе ўбачыў,
Каб як спадабацца
бяздушнаму мне?
І, праўда, я доўга сачу за табою,
Пакуль цябе жвавы натоўп
праглыне.
Я хлопец рухавы, з жывою душою,
Дык хіба глядзець забаронена мне?
Але, калі я ад акна адвярнуся,
Усплывае паходка дзяўчыны другой,
І я сам сабе прысягаю, клянуся,
Што болей не буду сачыць
за табой.
Дзяўчына, дзяўчына у чорных
панчохах,
Ты лепш не хадзі каля вокан
маіх,

Бо з гэтага, мусіць,
                не выйдзе нічога
Ні ў студзені лютым,
                ні ў цёплым маі.

●

Выйдзі летняю ноччу на ганак,
Сон аддай свой бабулі сівой,
Заглядзіся на ўсмешкі маланак,
Захапіся прыродай жывой.

Я адчую твой подых гарачы,
Бо наперад акно адчыню,
І да дзеда сівога, няйначай,
Доўгім кіем свой сон праганю.

Будзе ціха-ціхутка наўкола,
Зможам ў сад і на рэчку пайсці,
Будуць хмары у зрэбных прыполах
Дождж па небе да вёскі нясці.

Дзесьці зорка ўпадзе у бяздонне,
З лісця капне на вусны раса...
Як далёка антычнай Мадонне
Да цябе, майго шчасця сляза!

□□□

Мікола ГРОДНЕЎ



# АПОШНІЯ СЛЁЗЫ

Апавяданне

Пасля таго, як закончыў інжынерны факультэт, працуючы ўжо на будоўлі, я часта думаў, каб сустрэцца з Канстанцінам Вікенцевічам Варванком, маім былым школьным настаўнікам. Гэта ж ён адбіў ад мяне дзяўчыну, якую я некалі кахаў.

Загадзя я не ўяўляў, аб чым мы будзем размаўляць. Мне ўспомніліся ўрокі алгебры і геаметрыі, калі Канстанцін Вікенцевіч то ў рыпучых хромавых ботах, начышчаных да бляску, у вайсковых галіфэ і гімнасцёрцы, то ў цёмна-сінім бастонавым пінжаку і шырокіх, па той модзе, штанах, у лакіраваных чаравіках, гладка паголены, нават падпудраны прыходзіў у клас. Але чаму ён так франціўся, прызнацца, ніхто не ведаў. Я здагадваўся. У нашым дзевятым класе былі прыгожыя дзяўчаты. Па адной і ў мяне сохла сэрца. Звалі яе Валя. Яна была невысокага росту, стройная, з прыгожым кругленькім тварам, карымі вачыма. Яна была надзвычай уважлівая да мяне. Бывала, калі не рашу задачу, Валя падасць мне свой сшытак і скажа: «Хоць перапішы гатовае...»

Крыўдна было толькі адно: чаму Валя фарбавала бровы? Можа б я і запытаў у Валі, навошта, яна гэта робіць, але Вадзім Зарэмба, самы вялікі хлопец у класе, неяк сказаў на перапынку: «О, калі б не вайна, нашы дзяўчаты ўжо ў інстытутах вучыліся б». Я падумаў: і сапраўды, усе мы дарослыя людзі, то чаму б Валі не фарбаваць бровы!

Але што тыя бровы! Ці за іх я кахаў Валю? Для мяне не было большага шчасця, калі яна адказвала ўрок. Мне здавалася, што гаварыла яна куды цікавей, чым Раіса Антонаўна, выкладчыца літаратуры, чым нават Бэла Давыдаўна — наш класны кіраўнік.

Канстанцін Вікенцевіч заўсёды ставіў Валі «пяцёркі». Не за яе мілы галасок, а заслужаныя. Яна магла даказаць любую тэарэму і рашыць кожную задачу. Прызнацца, мне было сорамна перад Валяй за мае «тройкі» па матэматыцы.

Вярнуўся я з вайны са шрамам пад левай лапаткай, затое ўзмужнелы і радасны. Такая вайна закончылася! А тут новая задача. Фашысты вёску спалілі, маці ў зямлянцы хворая, хату трэба будаваць. А коні ў калгасе худыя, заезджаныя. Пакуль прывязеш з лесу сасну, дык ужо трэція пеўні спяваюць. Толькі пакладзеш галаву на падушку, а тут маці ў школу будзіць. Школа не ў сваёй вёсцы, а ў Жураўлянах, за восем кі-

Мал. В. Шрамякова

ламетраў. Памыеш твар халоднай вадой, перахопіш якой нішчымніцы, кніжку пад паху — гайда. Калі было тыя хатнія заданні выконваць...

А тут першы ўрок — алгебра. Пасля званка ўвесь клас, ды што клас — уся школа замрэ... Не дай бог, Канстанцін Вікенцевіч пачуе ў якім класе голас... Перад усім класам зняважыць. Калі на дзяўчыну, то скажа: «Чаго, як кнігаўка, ныеш!», на хлопца: «У заапарк пашлю, от там і гаркай!» А то ўпікне, што табе ўжо трэці дзесятак, пара сваіх дзяцей у школу выпраўляць, а не самому штаны праціраць на школьнай лаўцы.

Яму ніхто не мог пярэчыць, хоць і крыўдна было слухаць такія словы.

Па ціхім калідоры, нібы ў бязлюдным падвале, чуваць, як жвікаюць дырэктаравы боты. Мы стаім за партамі навыцяжку. Як толькі Канстанцін Вікенцевіч пакажацца ў дзвярах, мы ўсе хорам грымнем:

— Дзень добры, Канстанцін Вікенцевіч!

Ён маўчыць, пакуль не падыдзе да стала і не агледзіць, як хто стаіць. Варта было Вадзіму Зарэмбе, стоячы смірна, дакрануцца да парты рукамі, як дырэктар пытаўся: «А ты што, стала быць, без падпорак і стаяць не ўмееш?» Калі ўсе выцягваліся ў струнку, Канстанцін Вікенцевіч бадзёрым, павышаным голасам адказваў:

— Добры дзень!

Усе садзіліся за парты і глядзелі на Канстанціна Вікенцевіча, на яго новы касцюм, на яго сыты, задаволены твар, які расплываўся ва ўсмешцы. А ён глядзеў толькі на Валю. У позірку яго было нешта нахабнае, і мне гэта вельмі не падабалася.

Шалясцелі лісты класнага журнала.

— Стала быць, каго няма ў класе? — пытаў у дзяжурнага Канстанцін Вікенцевіч.

Усе былі.

— Хто не выканаў хатняе заданне?

Я падняў руку.

— Антось Варакса, да дошкі...

Заклаўшы рукі за спіну, Канстанцін Вікенцевіч, рыпаючы хромавымі ботамі, з форсам дайшоў да задняе парты і адтуль прадыктаваў мне ўмову задачы.

— Рашайце.

І зноў рып-жвік, рып-жвік па класе.

Я падумаў крыху, пачаў рашаць. Раптам чую:

— Не гарадзіце глупства, Варакса!

Я паспрабаваў рашаць па іншай формуле і зноў чую:

— Практыкавацца, стала быць, дома трэба...

А за спіной рып-жвік, рып-жвік. Вось ён ужо поруч са мной.

— А фігура, геаметрычна раўназначная з дырэктаравай...

Ён, мабыць, спадзяваўся, што пасля гэтых яго слоў увесь клас зарагоча. Але ўсе маўчалі. У класе ўсе былі пераросткі.

Тады Канстанцін Вікенцевіч нахіліўся над класным журналам і абвясціў:

— Стала быць, кол!

Пасля ўрокаў, калі выйшлі са школы, Валя сказала:

— Я разумею, Антось, чаму табе цяжка рашаць задачы. Ты забыўся формулы па алгебры за восьмы клас.

Калі мне трэба было паварочваць на другую вуліцу, яна спытала:

— Можа, зойдзем да мяне? Ці ты дадому спяшаешся?



Я хацеў запытаць, чаго ісці да яе, але Валя растлумачыла:

— Пойдзем да мяне, паабедаем і разам будзем рыхтаваць урокі.

Да самага вечара мы з ёю рашалі разам задачы. Нарэшце яна пераканала мяне, што я не такі ўжо і дурны, як пра сябе думаў.

Калі пачало цямнець, Валя пайшла праводзіць мяне.

Вечар быў харошы, ядраны. На ноч бралася на замаразкі. І хоць Валя не забылася накінуць жакет, аднак час ад часу пацепвала плячыкамі.

— Можа вернешся? — пытаўся я.

А яна адказвала:

— Яшчэ трошкі пройдзем.

Нарэшце зусім сцямнела. Мы спыніліся пасярод дарогі. Я асцярожна прытуліў Валю да сваіх грудзей.

— Гэта каб не холадна было табе,— сказаў я, а ў самога сэрца як не выскачыць...

Раптам з-за ўзгорка бліснуў сноп яркага святла, і мы пачулі, як затарахцеў матацыкл. Валя памкнулася збочыць, але я затуліў яе сабою і не крануўся з месца.



Матацыкл праехаў міма, развярнуўся і пашыбаваў проста на нас. Рэзкае святло біла нам у вочы.

— Што за нахабства! — хацеў быў крыкнуць я, але тут матор заглух і мы пачулі голас:

— Стала быць, навукі юнашаў пітаюць...

Валя адскочыла ад мяне. А я стаяў, бы аглушаны. Адкуль ён узяўся? Чаго ён тут? Пакуль я сабраўся з думкамі, Канстанцін Вікенцевіч як з-за пляча сякануў:

— Стала быць, так ён вучыць алгебру... Хе-хе-хе! Ці не пара дадому, жанішок?

Мяне закалаціла ад злосці, я гатовы быў ударыць яго, але Валя шапнула мне: «Не трэба, Антось... Мы ж усё-такі вучні».

Я пацiснуў яе руку, павярнуўся і пакрочыў сваёй дарогай.

Назаўтра ў школу я не пайшоў.

На наступны дзень Канстанцін Вікенцевіч выклікаў мяне да дошкі і прапанаваў даказаць тэарэму. Пасля таго, як я начарціў паралелаграм, Канстанцін Вікенцевіч зларадна хмыкнуў і сказаў:

— На дошцы я бачу контуры адкормленай свінні, а не геаметрычную фігуру.

Нехта хіхікнуў на задняй парце. Я памкнуўся перачарціць паралелаграм.

— Не трэба! Стала быць, тэарэму даказвайце на гэтай свінні.

Што ж, на свінні, дык на свінні. Я пачаў даказваць тэарэму.

— Не гаварыце глупства,— перабіў Канстанцін Вікенцевіч.— Тэарэму не знаеце.

Ён прайшоўся па класе. Нешта падумаў і сказаў:

— Ну, а цяпер апошняе сказанне,— і прадыктаваў мне задачу.

Ад умовы ў мяне вочы палезлі на лоб. Я адмовіўся рашаць.

— Што ж, стала быць, кол!

Калі я сеў на сваю парту, Канстанцін Вікенцевіч зноў падняў мяне.

— У вас, таварыш Варакса, адсутнічаюць элементарныя паняцці аб матэматычных навуках,— ён гаварыў здзекліва, з насмешкай.— Стала быць, вы не падрыхтаваны да дзевятага класа. Вам трэба пачынаць з азоў. Чуеце, з азоў трэба пачынаць! І нягледзячы на тое, шаноўны таварыш Варакса, што вам трэці дзесятак, аднак мне давядзецца вас пасадзіць у сёмы клас. Не ў восьмы, стала быць, а ў сёмы...

На перапынку я выйшаў на школьны двор. «Сёмы клас», «сёмы клас»...— гучала ў вушах. Калі празвінеў званок, я пайшоў вуліцай і ў школу больш не вярнуўся.

У тую восень я перасяліў маці з зямлянкі ў новую хату і паехаў у горад. Паступіў працаваць на завод і адначасова вучыцца ў школу рабочай моладзі. Вясной здаў экзамены і быў пераведзены ў дзесяты клас. А яшчэ праз год атрымаў атэстат сталасці і ў тое ж лета вытрымаў прыёмныя экзамены на інжынерны факультэт.

Часта ўспамінаў я Жураўляны, маці, Валю. Нарэшце выбраў час і паехаў да маці. Больш як тры гады не быў дома.

Калі я прыехаў дадому, маці дастала з куфэрка тую вайсковую фуражку, якую пакінуў у школе, і падала мне.

Нагаварыўшыся з маці, я пагаліўся як мае быць і пайшоў у Жураўляны, каб сустрэцца з Валяй. «Калі яе не будзе,— думаў я,— то вазьму адрас і напішу ліст».

У Жураўлянах я сустрэў Вадзіма Зарэмбу. Ён таксама вучыўся ў інстытуце.



Я пацікавіўся, дзе хто вучыцца з нашых аднакласнікаў. Ён пералічыў усіх студэнтаў.

— А Валя замужам,— дадаў ён.

— За кім?

Я адчуў, што бялею.

— За дырэктарам?

— Стала быць, за ім,— усміхнуўся Вадзім.

Такога я не чакаў.

— А ў яго ж была жонка...— чужым голасам прамовіў я.

— З той развёўся,— уздыхнуўшы, адказаў Вадзім.

З той пары мінула дзевяць гадоў. Да мяне дайшлі чуткі, што Канстанцін Вікенцевіч цяпер выкладае матэматыку ў сельскай школе. І вось выпадак прывёў мяне якраз у тую вёску.

●

Я спытаў у хлапчука, дзе жыве Канстанцін Вікенцевіч Варванок.

— Ідзіце гэтай вуліцай. Па правую руку самы прыгожы дом — там і жыве Канстанцін Вікенцевіч.

Цвілі сады. У вішнёвай і яблыневай квецені стаялі дамы. Дзе ж самы прыгажэйшы?

Ён стаяў амаль на самым краі вёскі, на шэсць белых вокан, з блакітнай верандай, на цагляным падмурку і пад шыферным дахам. Пад вокнамі адцвітала чаромха. Пажаўцелыя пялёсткі асыпаліся на зямлю. Яны падалі рэдка, а калі дыхне ветрык, быццам нехта са жменькі сыпне.

Я спыніўся ля палісадніка. У двары загаўкаў сабака, і праз якую хвіліну шырока расчыніліся дзверы веранды, на парозе паказаўся грузны чалавек у паласатай піжаме. Мякка ступаючы, ён сышоў з прыступак ганка і, склаўшы рукі на поўным жываце, суха прамовіў:

— Я вас слухаю.

Я пазнаў Канстанціна Вікенцевіча. Нейкі момант мы глядзелі адзін аднаму ў вочы. Я зняў капялюш. Канстанцін Вікенцевіч маўчаў.

— Дзень добры, Канстанцін Вікенцевіч,— я падаў яму руку.

— Добры дзень...— з нейкай асцярогай ён таксама падаў мне сваю руку. Яна была мяккая і халодная.

Я нагадаў яму Жураўляны, дзевяты клас.

— Варакса, стала быць... Так, так, памятаю,— а твар па-ранейшаму чэрствы.— Вы да мяне па справе? Даведка можа якая спатрэбілася, ці...

— Я праездам тут. Рашыў наведаць вас. Вы ж мой настаўнік.

— Тое, што вы рашылі наведаць, за гэта, стала быць, дзякую.— Ён крышку ажывіўся, але потым з тым жа незалежным выглядам дадаў: — А тое, што я ваш настаўнік, дык вы былі дрэнны мой вучань. Я памятаю, як вы замест паралелаграма начарцілі свінню. Але гэта «дела давно минувших дней»... А цяпер дзе вы, стала быць, зарабляеце на хлеб?.. Праходзьце, прысядзьце тут, на лаўцы...

Я ўзышоў на веранду і прысеў побач з Канстанцінам Вікенцевічам.

— Дык, стала быць, дзе вы звілі сваё гняздо?

— Працую на палескай будоўлі. Электрастанцыю будуем.

— Ага, стала быць, на будоўлі... Якая ж у вас спецыяльнасць?— з крывой усмешкай запытаў ён.



— Я працую інжынерам на будоўлі...
Канстанцін Вікенцевіч усім тулавам *павярнуўся да мяне:*
— У вас вышэйшая адукацыя?
— Я закончыў політэхнічны інстытут.
— Стала быць, вы ўлічылі мае педагагічныя парады... А наогул, я і тады заўважыў, што ў вас... гм... нешта такое ёсць...
Тым часам на двары пачуўся жаночы голас:
— Пылі, пылі... пылі...
Закудахталі, засакаталі куры. Закакохкаў певень...
«Няўжо Валя?» — сэрца маё затахкала часта-часта...
У хляве завішчала свіння, нібы ўшчаміўшыся ў плот, і са двара зноў пачуўся той жа жаночы голас.
— Канстанцін! А, Канстанцін!
Ён не варухнуўся і, не зважаючы на покліч, запытаў у мяне, дзе я закончыў сярэднюю школу.
Я наважыўся адказаць, але жанчына гукнула ўжо голасна і злосна:
— Аглух ты, ці што?..
Праз які момант адчыніліся дзверы і ўвайшла Валя. Яна была



па-ранейшаму стройная, прыгожая, але ў вачах затаіліся трывога і сум. З-пад белай у гарошак касынкі выбіваліся пасмы русых валасоў. Відаць, не было часу прывесці іх у парадак. Яна нават не звярнула ўвагі на чужога чалавека і адразу кінулася на Канстанціна Вікенцевіча:
— Сядзіш сабе, як пан, а мне хоць гвалт крычы са свіннёй!.. Перагародку паламала і да цялушкі ўлезла...— Голас яе раптам абарваўся: яна глядзела на мяне.— Ты, Антось?
Я падняўся.
Густая чырвань разлілася па яе твары. Яна хуценька падабрала валасы, апусціла рукі і не ведала, што рабіць. Я падаў ёй руку і моцна-моцна паціснуў яе шурпатую далонь. На вачах у яе выступілі слёзы.
— А я не пазнала цябе, Антось... Не пазнала...
— Стала быць, што там здарылася ў хляве? — скрозь зубы спытаў Канстанцін Вікенцевіч.
Валя з дакорам зірнула на яго.
— А чаму не запрашаеш госця ў хату? І мне нічога не кажаш...
— Стала быць...— Канстанцін Вікенцевіч нешта хацеў сказаць і асекся.
— Дык хадзем у хату,— Валя шырока адчыніла дзверы.— Калі ласка, Антось...
Я пайшоў за Валяй, Канстанцін Вікенцевіч — за мной.
Хата была вялікая, на некалькі пакояў. Мяне запрасілі ў залу. Там было ўтульна і чыста. Пад нагамі ляжаў зялёны дыван. Ля прысценка стаяла канапа. На круглым стале — букет бэзу. Але букет завяў, і асыпаліся пялёсткі.
— Вось тут мы і жывём,— уздыхнуўшы, сказала Валя. Крышку памаўчала, потым дадала: — Ужо шэсць гадоў...
Па яе вачах відаць было, што яна хацела сказаць яшчэ нешта, але Канстанцін Вікенцевіч, важка апусціўшыся на канапу, уставіў сваё:
— У гэтым катэджы, стала быць, адзін недахоп: тэлевізара няма. Але праз месяц вось на гэтым месцы,— ён паказаў рукой,— будзе стаяць «Рэкорд».
Валя сядзела на крэсле неяк насцярожана. Здавалася, што яна чужая ў гэтай хаце. Яна ніяк не ўзрадавалася, што на месцы прыёмніка будзе стаяць тэлевізар. Па яе твары было відаць, што нават свая легкавушка і верталёт не ўзрадавалі б яе.
— Не спяшаешся, Антось? — спытала раптам Валя.— Паабедаем разам. Ты, Канстанцін, можа, у краму сходзіш?
У маім чамаданчыку была бутэлька каньяку. Я паставіў яе на стол. Канстанцін Вікенцевіч наважыўся падняцца, але, заўважыўшы маю бутэльку, сказаў:
— І ў нас стаіць амаль поўная пляшка... маскоўскай.
«Навошта было спяшацца выстаўляць свой каньяк,— упікнуў я сам сябе.— Хай бы схадзіў у краму, а я па-шчырасці пагаварыў бы з Валяй».
Праз колькі хвілін на стале з'явілася закуска. Апроч гарэлкі, у Валі было ўсё дамашняе: кілбаса, вяндліна, сала, масла, сыр. Нават хлеб быў свой, дамашні. Палуднуючы, я сказаў:
— У цябе ўсё смачнае, Валя. Ты нават магла б працаваць у нашым рэстаране...
Валя ўсміхнулася, а Канстанцін Вікенцевіч, зірнуўшы на мяне з-пад ілба, спытаў:

— Ваша жонка часам не працуе ў рэстаране?
— Няма ў мяне жонкі,— адказаў я.
Гаворка не клеілася.
Валя паднялася з-за стала і спытала ў мяне:
— Ты доўга будзеш тут у нас, Антось?
— Паеду зараз...
— Паедзеш...— ціха і з жалем прамовіла яна.
Я чакаў, мо і яшчэ што скажа, але яна павярнулася і пайшла за перагародку. Толькі галавой кіўнула на развітанне.
Палявая дарога прывяла мяне да чыгуначнага паўстанка. Я прысеў на лаўку ў невялікім кветніку і прапусціў адзін і другі пасажырскі цягнік. І сам не ведаў, чаго чакаў...
На перон выйшлі людзі. Вось-вось павінен прыйсці яшчэ адзін пасажырскі. Семафор быў адкрыты. І ў гэты час я ўбачыў Валю. Яна бегла да мяне. Касынка з'ехала на плечы, каса расплялася, русыя валасы расчэсваў вецер.
— Ты яшчэ не паехаў? Я так і думала...
Яна кінулася мне на грудзі і горка заплакала.
— Нялюбы ён мне...
Я не мог адразу супакоіць яе і даў ёй выплакацца, бо ведаў, што яна плакала апошні раз...



**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ**



Голуб устрывожаны, нясмелы,
У яго вялікая бяда:
Галубятня сіняя згарэла
І няма ні хаты, ні гнязда.

Верабей крычыць яму: «Паслухай,
Гора мы крынічнаю зап'ём.
Будуць нам — каноплі, будуць мухі,
І шпакоўня светлая, як дом.

А цяпер па нашаму закону —
Там бяры, дзе толькі можна браць —
Паляцім з табой на падаконнік
Крошак і зярнятак падзяўбаць».

«Верабей, ты ўсё яшчэ ранейшы,
З выдраным, абшарпаным хвастом.
Ды за племя ваша я вышэйшы
Чэснаю сваёю прастатой.

Не цягаў авёс ніколі ў коней,
І ніхто мяне не дакараў,

Што займаў чужыя я шпакоўні
І каноплі я бязбожна краў.

Чэсным хітраваць нідзе не трэба.
Калі што, то добра знаю я:
Для мяне высокае ёсць неба
І, як камень, цвёрдая зямля...»

І пайшоў, маўклівы і нясмелы...
Узмахнуў крылом і ў неба ўзмыў
Над сваёю хатай абгарэлай
І туманам ранішнім, як дым.

●

Настаўнік гаварыў тады пра мужнасць,
Калі дзяцей да вокан кінуў крык:
Раз'юшаны, упэўнены і дужы,
Дзяўчынку падымаў на рогі бык.

Маланкай цень мільгнула праз дарогу,
І ў садзе каля тоненькай ракі
Ляглі на разгарачаныя рогі
Дзве смелыя мужчынскія рукі.

Сямён Сцяпанавіч!
На могілках, дзе светла
Ад гонкіх дрэў і восеньскай травы,
Задумаўся я над магілай гэтай:
Чаму, чаму у ёй ляжыце вы?

Вянкі, вянкі...
Я рады, колькі можна,
Што справядліва лічыць наш народ
Важней пустых стагоддзяў асцярожных
Парою дваццаць неспакойных год.

●

Тармазі, машына! Я прыехаў.
Закрычаў яшчэ нябачны птах —
Коціцца гарошынаю рэха
Над кустамі, нават па кустах.

Як паводка, разлілося лета.
Рыбінай уздрыгвае рака.



Я гукаю: «Света! Дзе ты, Света?» —
Лесніка адзіная дачка...

І сябе гукаю: «Толя! То-ля!»
І сярод маліннiку стаю.
Як не пазнаю я лес і поле,
Так сябе цяпер не пазнаю.

Адчуваю стрыманасць і сілу,
Холад першых восеньскіх снягоў,
І усё, што некалі бурліла,
Ападае ў рамкі берагоў.

●

Добра ўсё ж забыцца на хвіліну
І пабыць хоць міг з самім сабой.
На цябе нахлыне і адхлыне
Думак растрывожаны прыбой.

Бачыце: бяроставая кварта
Серабром бялее у руках...
Што нам варта і чаго не варта —
Прачытай у будучых вяках.

Толькі дзе, скажыце, кніжка тая?
Можа з гэтых, бежавых, акон
Ты ужо, ужо цяпер чытаеш
Таямнічы клінапіс вякоў.

Хто нябачны растрывожыў ранак?
І чаму упарта зноў і зноў
Вогненныя літары маланак
Гром збівае ў пліты важкіх слоў?

Пра любоў і рэўнасць я чытаю
І чамусьці уяўляю сад,
І цябе я маем уяўляю,
Што забег у хмуры лістапад.

●

Снегу, як на мельніцы, завозна,
Снегу — тры паверхі над зямлёй.
Толькі усё роўна ўсё адносна
Ў параўнанні з леташняй зімой.

Я гляджу вачамі маладымі:
На зямлі, у небе і ў вадзе
Жорсткі і спрадвечны паядынак
Заўтрашняга з сённяшнім ідзе.

Ніна МАЕЎСКАЯ



# СМАК ГАЛАНДСКАГА СЫРУ

Апавяданне

Мал. Г. Скамарохава

Андрэй прыехаў надвячоркам. Анюта сустрэла яго на пероне люднага вакзала. Яны пацалаваліся, і Анюта засаромелася, азірнулася, ці няма знаёмых. Ісці яны не спяшаліся: да інстытуцкага інтэрната, дзе жыла Анюта, было рукою падаць.

— Вось мы і дома,— сказала яна, калі яны праціснуліся праз натоўп у вестыбюлі, дзе былі танцы пад радыёлу.

Анюта адчыніла пакой.

Андрэй акінуў вачыма тры амаль аднолькавыя ложкі, тумбачкі, завалены кніжкамі стол.

— У вас часта так? — Андрэй кіўнуў галавой на дзверы.

— Што? Танцы? Не. Толькі ў суботу і нядзелю. Былі зусім забаранілі, бо хлопцы пабіліся... А цяпер проста чужых не пускаюць. Бачыў, якая там варта стаіць? І цябе маглі не пусціць...

— Мяне, да мае жонкі? Ды я іх!..— Андрэй зрабіў ваяўнічы выгляд. Анюта засмяялася.

— Мы з табой таксама пойдзем на танцы,— сказала нясмела яна, баючыся, што Андрэй не згодзіцца.— Я надзену сваю новую сукенку.

Яна дастала яе з шафы, блакітную, з зіхатлівымі палоскамі, бы прашытую сонечнымі промнямі.

— А ты надзень зараз.

— Зараз? Тады адвярніся.

— Паўгода, як мы пажаніліся, а я ўсё павінен адварочвацца. Не буду!

Андрэй сеў і знарок утаропіўся ў Анюту. Яна засмяялася і знікла за дзвярыма, пабегла да дзяўчат.

Праз колькі хвілін Анюта зноў з'явілася ў пакоі. Андрэй прыўзняў бровы: яна здалася яму незвычайна прыгожай.

«Калі паспела і прычоску ўзбіць?!» — здзівіўся ён.

Дагэтуль ён не думаў, як будзе развітвацца з Анютай яшчэ на тры гады. Раптоўна нахлынула рэўнасць да ўсіх тых незнаёмых хлопцаў, якія будуць глядзець на яе, калі ён паедзе. Стала сумна.

Анюта разгубілася. Яна стаяла ля парога і здзіўлена пазірала на яго.

— Ну, што ты спахмурнеў? Табе не падабаецца мая сукенка?

Нейкую хвіліну ён сядзеў, нізка апусціўшы галаву. Потым расправіў плечы, бы скінуў з сябе цяжар слабасці, пагладзіў яе па валасах і прыгарнуў да сябе.



— Ты мне прабач,— спахапілася Анюта, выслабаняючыся з яго рук,— я ніяк не прывыкну быць жонкай... Гэта ж трэба табе даць памыцца з дарогі, частаваць...

Яна пачала хуценька накрываць на стол.

...Анюта і Андрэй выраслі амаль разам, у невялікім гарадку, што летам патанаў у зеляніне. Гулялі ў няхітрыя дзіцячыя гульні. Дзяўчынку гадаваў дзед. Бацькі загінулі ў часе вайны. Яна не памятала іх. Дзед ёй ніколі не расказваў пра іх, баяўся, каб не ачарсцвела ад гора дзіцячае сэрца. А на яе допыты ён адказваў, што выгадаваў яе з маленькай гарошынкі, як Дзюймовачку, а калі злаваўся, казаў: «Сарока на хвасце прынесла». Дзед суправаджаў яе ўсюды, баючыся, каб хто-небудзь не сказаў нічога дрэннага дзяўчынцы.

З Андрэем яны жылі па-суседству. Дзед дазваляў гуляць ім разам. Андрэй сам не ведаў, калі гэта сяброўства перайшло ў каханне. Можа тады, калі Анюта занядужала, ляжала на ложку бледная, худая, з упалымі вачыма.

Анюта трызніла: яна прасіла кавалачак галандскага сыру. Дзед, высокі, худы, з белай, клінком бародкай, папрасіў Андрэя абысці магазіны: можа, дзе і ёсць сыр...

У тыя пасляваенныя гады галандскі сыр быў раскошай.

Была вясна, беглі па вуліцах, спяшаліся ручаі. Андрэй абышоў усе самыя дальнія магазіны. З радасцю і надзеяй нёс дзвесце грамаў галандскага сыру, загорнутага буфетчыцай у кавалачак газеты, нёс, бы самае дарагое лякарства. Яму здавалася, што Анюта цяпер абавязкова паправіцца. З таго ці не з таго,— але Андрэю здавалася, што абавязкова з таго,— Анюта акрыяла. І ён пачаў берагчы яе ад дрэннага слова і позірку...

Гэты раз Андрэй не напісаў, чаго прыедзе. Анюта не пыталася. Думала, засумаваў па жонцы, хоча пабачыцца. Андрэю ж уручылі павестку ваенкамат. Усю дарогу ён думаў, як аб гэтым скажа Анюце, а выйшла проста нават нечакана для самога сябе.

Анюта выслухала яго спакойна.

— А што тата? Ён хіба нічога не можа зрабіць? — спакойна і дзелавіта спытала яна.

Андрэя ўразіў і гэты яе спакой і дзелавітасць. Ён адмоўна пакруціў галавой.

— Ты проста не прасіў яго...

Раптам твар яе стаў заклапочаны.

— Напішы яму, Андрэй. Напішы, пакуль не позна..

— Навошта? — яшчэ больш здзівіўся Андрэй.— Гэта ж абавязак мой, Анюта. Ты разумееш, абавязак перад Радзімай...

— Але ж год твой ужо адслужыў,— прыводзіла доказы Анюта.

— Мне далі магчымасць скончыць вучобу.

— Я прашу цябе, напішы...

Андрэй перабіў яе, не даслухаўшы:

— Дзікавата ты разважаеш, Анюта. А каб была вайна, ты таксама б мяне ўгаворвала не ісці?

— Але ж вайны няма,— сказала Анюта, і голас яе задрыжаў, бы надарваная струна. Яна кінулася ніцма ў падушку і заплакала. Андрэй дастаў з кішэні плашча цыгарэту і закурыў. Ён вачыма шукаў попельніцу і, не знайшоўшы яе, скруціў з кавалачка газеты кулёк, каб стрэсці попел. Ён ківаўся па пакоі, як маятнік. «Як яны жывуць у такім маленькім пакоі? Ды яшчэ, Анюта гаварыла, жыве адна дзяўчына «зайцам», спіць з усімі па чарзе...»



Анюта плакала. Андрэй ведаў, зараз яна прыгажэйшая, чым бывае заўсёды. Ёй да твару слёзы. Ён бачыў, як плачуць другія жанчыны: у іх чырванеюць вочы, нос, дрыжаць вусны. Анюту ён ніколі не бачыў такой. У яе слёзы былі, бы вясновы дождж: набяжыць хмара, лінецца буйны-буйны, і — зноў чысты блакіт... А можа ён ніколі не бачыў яе ў горы?

Цяпер нешта другое было ў яе настроі. І Андрэй на момант разгубіўся. Ён не ведаў, як яе супакоіць: адарваць ад падушкі, узяць на рукі, цалаваць. Нешта стрымлівала яго. Ён марудзіў, вагаўся. Яго насцярожылі яе словы, яе паводзіны.

Раптам ён паклаў руку ёй на плячо і сказаў:

— Ты хацела ісці на танцы...

— Я перадумала,— глуха, у падушку, адказала яна.

Андрэй адчуў па яе адказу, што яна чакала не гэтага, не тое ён гаворыць.

А за дзвярыма, у нізкім з калонамі вестыбюлі, іграла радыёла. Жаночы голас быў пранікнёны і сумны. Жанчына дакарала, казала, што не стане яму пісаць. Крыху пасумуе і перастане, а потым... потым забудзе зусім. «Няўжо гэта так проста?» — падумаў Андрэй, і ў яго зашчымела сэрца.

Анюта не ўзнімала галавы. Плечы яе ўжо не ўздрыгвалі, але ўсё яшчэ калаціўся на шыі завіток валасоў. Яна думала, думала, думала. Як зрабіць, каб Андрэй застаўся? Як не пусціць яго? Яна сама напіша, напіша неадкладна... Ён добры, ён усё зразумее. Анюта ўспомніла, як на вяселлі ён прытуліў яе да сябе і сказаў: «Калі будзе табе калі-небудзь цяжка, калі хто цябе пакрыўдзіць,— пішы мне. Я заўсёды памагу». Анюта цяпер ухапілася за яго словы: «Ён зможа, ён усё зможа... Яго ж паважаюць і цэняць у горадзе... Я папрашу яго!..»

Сама не заўважыла, як высахлі слёзы. Толькі моцна разбалелася галава.

Андрэй прыўзняў Анюцін твар ад падушкі. Яна прыжмурыла вочы, бы ад яркага святла.

— І не надаесць ім круціць адно і тое ж па дзесяць разоў...— прамовіла Анюта.— У мяне ажно галава забалела.

Андрэй як бы чакаў яе слоў.

— Табе трэба прайсціся па вуліцы,— сказаў ён, бо самому хацелася пакінуць гэты душны пакой. Здавалася, там, на вуліцы, ён скажа ёй нешта галоўнае, вельмі патрэбнае. Андрэй сеў насупраць, узяў у далоні яе твар, хацеў зазірнуць ёй у вочы, але яна прыкрыла іх павекамі, густымі, крыху прыпухлымі. Потым лёгка адштурхнула яго, сказала:

— Сапраўды, трэба хутчэй на вуліцу. У мяне так баліць галава... Душна..

Андрэй дастаў з шафы яе лёгкае, з букліраванай тканіны, паліто.

— Я сама,— запратэставала яна.

Яны не дагаварваліся, куды ісці. Проста пакрочылі па вуліцы ад інтэрната і доўга блукалі па горадзе. Гайдаліся, рассявалі святло вулічныя ліхтары. Дзьмуў вецер. Ён шастаў у дрэвах, ганяў сухое,



скручанае лісце. Анюта не любіла асенні вецер, пранізлівы, парывісты і калючы. Ён, бы розгамі, сек яе па твары.

Андрэй прытуліў Анюту да сябе. Яму здавалася, што так схавае яе ад гэтага халоднага ветру.

Яны ішлі моўчкі. Вецер цішэў: цяпер ён быў не такі рэзкі. Налятаў і стомлена, бы падбітая птушка, ападаў на зямлю. Доўга не мог адарвацца ад яе, потым крыху ўзнімаўся і падаў, чапляючы крыламі сухое лісце. Яно шамацела. А дрэвы стаялі амаль нерухома. Па небе павольна ішлі хмары, нізкія і шэрыя, здавалася, яны чапляюцца за антэны, шпілі дамоў. Андрэй падняў галаву.

— Будзе дождж,— сказаў ён.

Анюта зірнула ўгару.

— Ужо капае,— прамовіла яна і выцерла далонню шчаку.

Дождж хлынуў разам, буйны, бы вясною. Анюта і Андрэй ажно разгубіліся. Яны прыціснуліся да сцяны дома і прайшлі ў пад'езд.

— Побач кафэ,— сказала Анюта.— Мы можам крыху пасядзець, ды і ты нічога не еў з дарогі.

У кафэ было людна. Здавалася, што ўсіх загнаў сюды дождж, і яны нехаця пілі каву з каньяком або проста размаўлялі. Анюта сядзела, апусціўшы вочы. Як ні стараўся яе развесяліць Андрэй, але гэта яму не ўдавалася. На яго смяшкі яна толькі скептычна крывіла вусны.

Андрэй адчуваў і сам, што яго жарты не дасціпныя. Але ён хацеў нечым разварушыць Анюту. Яму хацелася, каб яна глянула, як раней, на яго шырока раскрытымі, чыстымі вачыма. Але яна не падымала вейкі, бы трымала пад павекамі празрыстыя пацеркі слёз і баялася, каб яны не выкаціліся. Вейкі яе толькі ўздрыгвалі.

— Ты ўпарты...— сказала яна.— Я напішу сама!

Яна палажыла перад сабой лісток паперы.



Андрэй падсунуў ёй бутэрброды з сырам.

— Твае любімыя,— сказаў ён.

Бутэрброды былі не свежыя. Тонкія скрылькі сыру завялі, пачалі сохнуць, бы лісце ўвосень. Анюта неахвотна жавала.

— Ведаеш, я амаль не люблю яго. Калі доўга не ем, хочацца, а паспытаю, і сыр страціў свой смак...

— Гэта забываецца дзяцінства,— дадаў Андрэй.— Зараз многае ты б не ела, што здавалася смачным тады, нават бульбу з тоўчаным семенем.

Яны памаўчалі. Пэўна, кожны ўспомніў смак свайго дзяцінства.

— А ты памятаеш Зоню? — спытаў раптам Андрэй.

— Зоню? Толькі зараз мне здалося, што ў гэтым імені ёсць штосьці нямецкае,— здзівілася Анюта.

— Дзі Зоннэ — сонца,— пацвердзіў Андрэй.

— Я хадзіла гуляць да гэтага «сонца», бо ў яе былі такія прыгожыя лялькі. Але я не памятаю ні лялек, ні Зоні, ні яе маці, якая працягвала заўсёды кавалачак сыру. Сыр быў такі смачны, што мне хацелася як мага болей трымаць яго ў роце. Я не жавала, а смактала. Зоніна маці смяялася. Яна гаварыла: «Скажы свайму дзеду, няхай ідзе да нас: будуць і вам даваць паёк — цукеркі, галандскі сыр». Я прыходзіла дадому і прасіла дзеда пайсці да іх. Але дзед злаваўся. Ён мяне спачатку ўгаворваў, потым, калі я пачынала капрызіць, біў папружкай. Я тады не разумела, чаму ён не хоча пайсці да іх. Яшчэ мяне мучыла думка, чаму гэта сыр называецца галандскім? Але і пра тое, і пра другое баялася пытацца ў дзеда.

Анюта ажывілася. Можа ад успамінаў ці ад кавы з каньяком, якую яна толькі што выпіла, яна сагрэлася, заірдзеліся шчокі.

— Цікава, а дзе цяпер Зоня? Кім яна стала? Што робіць? Што думае? — нібы сам у сябе спытаў Андрэй.

— Я ніколі не сустракала яе. Ды і чамусьці ніколі не думала пра яе. Толькі памятаю гэта ўжо крышку ясней, чым астатняе... Неяк ранняй вясной, напэўна, я ўжо тады хадзіла ў чацвёрты клас...— Анюта паморшчыла лоб, бы хацела дакладна прыпомніць час.— Я баялася глянуць у акно. Ля нашага дома стаяў вялікі натоўп. Усе некаму гразілі, крычалі нешта дзеду, які выйшаў на ганак, ірвалі частаколіны. Мне было страшна. Здавалася, зараз усе яны кінуцца на дзеда, пачнуць яго біць, хоць і не ведала, чым так прагнявіў гэтых людзей мой дзед, самы лепшы на свеце. Дзед нешта гаварыў, але яны яго не слухалі, некалькі чалавек ужо адчынілі веснічы. А з нашага двара выйшла жанчына. На плечы яе была накінута вялікая хустка ў клетку. Яна была падобна на квактуху, якая распусціла крылы, каб схаваць куранят, якія туліліся да яе, прадчуваючы бяду. Зоня ішла, учапіўшыся ў матчын падол. Я пазвала яе, хацела выбегчы, але пабаялася. Людзі расступіліся, далі ім дарогу. Потым я даведалася, што гэта вярнулася Зоніна маці. Калі адступалі немцы, яна паехала разам з імі, а потым вярнулася...

Анюта круціла ў руках ручку. То адкрывала, то закрывала яе, пакуль расказвала пра Зоню. Не заўважыла сама як выпэцкала ў чарніла рукі.

— Заўсёды ў мяне цякуць ручкі...— сказала яна, узяла прыгатаваны для пісьма лісток паперы, выцерла рукі і скамячыла яго.

Яна сядзела, задумліва падпёршы рукамі галаву. Там, знадворку, мыў шыбы дождж, звінеў у вадасточных трубах.

Але кафэ пачало пусцець. Андрэй і Анюта сядзелі моўчкі. Раптам ёй успомнілася цішыня, непрывычная цішыня. Яна вылезла з акопа, які быў выкапаны ў садзе. Кругом дыміліся ямы, ды каля хаты моцна мяўкалі кацяняты. Анюта падумала, што яны галодныя, і пазвала. Але кацяняты, бывала такія ласкавыя, нават не звярнулі ўвагі на яе голас.

— Не заві,— сказаў дзед, яны паглохлі.

Анюта хацела пазбіраць кацянят у прыпол. Брала іх у рукі, але яны, як дзікія, кідаліся ад яе. Яна расплакалася. Плакала, што кацяняты, яе любыя кацяняты, болей не пачуюць, як яна будзе іх зваць піць малако, не будуць лашчыцца да яе.

Анюта падбегла да дзеда, папрасіла ў яго малака. Але той нічога не адказаў, пасадзіў яе побач і доўга гладзіў па галаве дрыжачай рукой.

Яна не ведала тады, што ў баі за гарадок загінуў яе бацька...

Андрэй сядзеў насупраць Анюты. Ён глядзеў ёй у вочы і раптам заўважыў, што яны глядзяць некуды ў пражытае. Потым уздрыгнулі, напоўніліся слязьмі.

— Навошта толькі гэтыя войны...— задумліва прагаварыла Анюта.— Навошта людзі забіваюць адзін другога?

— Я вярнуся жывы, вайны ж няма,— супакоіў яе Андрэй.

Ён узяў у свае яе працягнутыя рукі.

Яна кіўнула яму галавой.

— Праз паўгода я папрашу накіраванне да цябе.

Яна вачыма спытала яго згоды. І ён адказаў ёй вачыма.

Кафэ было амаль пустое. Пажылая буфетчыца прыбірала сталы. Яна скоса зірнула на запозненых маладых людзей. Анюта і Андрэй падняліся. Анюта сабрала талеркі, кінула ў іх скамечаны лісток паперы, і яны пайшлі.

Ноччу яна некалькі раз падхоплівалася, усё баялася, каб не праспаць праводзіць Андрэя. Ёй сніліся сны. Быццам надзела яна новую сукенку і пайшла на танцы ў вестыбюль. Яна ішла, і ўсе расступаліся перад ёю, давалі дарогу. Яна ішла да вялікага люстэрка, якое стаяла ля праціглеглай сцяны. Падняла вочы на свой адбітак у люстэрку. І — які цуд! Гэта была не яна, а бліішчастая ёлачная цацка, якую вось-вось расціснуць у гэтай цеснаце.





Алег ЛОЙКА

●

# КАЛІ Ў ТАВАРЫША НЯГОДА

Тужлівых жураваў чароды,
Над логам — сполахі рабін...
Калі ў таварыша нягода,
Мо скажаце мне, што рабіць?..

Ідзе, нічога не гаворыць,
Нясе пакутную тугу,
А я не здатны на ўгаворы,
А я суцешыць не магу.

О, як хоць кроплю, хоць паўкроплі
Ад болю сябра прыгубіць?!
Нямыя ў небе птушак кропкі,
Над логам — сполахі рабін...

Ляціце, жураўы, без гора!..
Ярчэйце, гронкі, у лагу!..
Пайду я з сябрам моўчкі поруч
І гэтым, пэўна, памагу.



●

Электронная музыка
Кліча, вабіць мяне,
Бачу і ўдзень зоркі ясныя
На акне,
Бачу і ўдзень, як туманіцца
Млечны Шлях,
Як да галактыкаў цягнуцца
Дрэва, птах.

Гукі чымсьці знаёмыя,
Чымсьці не,
Электронная музыка
Кліча, вабіць мяне.
Словы блакітныя ўспыхваюць:
«Старт!.. Старт!..»
Мы на міг адрываемся
Ад касмічных карт...

Не гаснуць і ўдзень зоры ясныя
На маім акне,
Электронная музыка
Кліча, кліча мяне!..

●

Заўсёды трошкі таямніцай
Была ты для мяне і ёсць:
Чагосьці светлага крыніцай,
Перад якім я — толькі госць.

Прывабнай зоркай з яснай высі
Сышла ў мае семнаццаць год.
Узяць падручку баючыся,
Цябе праводзіў да варот.

Ты і дагэтуль — таямніца,
І, можа, шчасце ў тым і ёсць,
Каб не напіцца з той крыніцы,
Перад якой ты — вечны госць!..

●

Калі ўстае ў маўчанні зала,
За сэрца цішыня бярэ,
І бачу: не адзін памалу
Слязіну неўпрыкмет утрэ.

Што перажыў народ, агораў,
Усё сягоння ў ёй адной:
Было, як мора, наша гора,
Спамін аб ім — малой слязой.

Ды ўзваж яе — ці стане сілы
Усё хоць бы ў думках перажыць?
Стаім над безліччу магілаў,
А сэрцы, нібы ў віражы,
Над папялішчамі мільёнаў,
Над патаптанай марай іх
І над апошнім іх праклёнам,
Якога водгалас не сціх.

Усё ў маўчанні строгай залы,
Усё ў скупым мігценні слёз,
Пра што сказалі, не сказалі,
Пра што сказаць яшчэ — наш лёс.

# У НАСТУПНЫХ НУМАРАХ

## вершы Міколы АРОЧКІ, Віктара ГАРДЗЕЯ, Міхася КАЗАКОВА, Івана КАЛЕСНІКА, Пятра ПРЫХОДЗЬКІ.

Эдзі АГНЯЦВЕТ



# ДЫЯЛОГ

І доўга спрачаліся Ён і Яна,
Ніяк не маглі пагадзіцца:
— Мая ты Зямля,
Бліскавіца,
Любоў,
Трывога,
Паходня
і Радасць.
Не мог бы на свеце я жыць без цябе!
— А я? —
І яна не ўступала:
— Ты — Поўдзень мой ясны,
Пачатак
і Мір,
і Прамень,
І Род чалавечы,
і Пошук.
— Паслухай, тут ёсць неразгаданы край:
А Сэрца,
а Зерне
і Сонца?

А Шчасце і Свята?
Як вызначыць тут?
Сама ты не ведаеш, бачу!
Жанчына мудрэйшай бывае ў жыцці:
— А гэта — мы разам з табою.

●

*Аркадзю Куляшову,*
*Максіму Танку.*

Я помню ветрагонаў маладых.
О, як шумелі гэтыя задзіры!
На паядынках жартаў агнявых
Скрыжоўвалі славесныя рапіры.

А вочы разгараліся смялей,
Калі здалёк праходзіла жанчына.
Прачніся, Бёрнс,—
напэўна, сам Фіндлей
Мог пазайздросціць гэтым хітрым кпінам!

Скажыце, людзі, пэўна, гэта сон?
Мне не пазнаць насмешнікаў вясёлых.
Ну, проста дзіва!
Што за лексікон:
«Мікстуры»,
«працэдуры»
і «уколы»?

Што за напасць? З якіх яна планет?
Не ведаю,
што здарылася з вамі?
Байцу навошта слова «пацыент»?
Вам трэба быць год да двухсот байцамі!

Я вельмі паважаю дактароў.
Услаўлю іх,
але з адной умовай:
Да нашых добрых не хадзіць сяброў!
Яны жывуць на станцыі Здаровай.





# ПЯСНЯР РЭВАЛЮЦЫІ

Эжэн Пацье, аўтар тэксту славутага гімна «Інтэрнацыянал», нарадзіўся ў 1816 годзе ў беднай сям'і і сам усё жыццё быў пралетарыем. Першую сваю песню «Няхай жыве свабода» ён напісаў, калі яму было чатырнаццаць год. Ленін называў Пацье «адным з самых вялікіх прапагандыстаў пры дапамозе песні».

Актыўны дзеяч рабочага руху 60-х гадоў і I Інтэрнацыянала, Эжэн Пацье быў членам Парыжскай Камуны. «Інтэрнацыянал» ён напісаў у парыжскім падполлі ў чэрвені 1871 года, а ў 1888 годзе гэты тэкст быў пакладзены на музыку кампазітарам П. Дэгейтарам. Насычаны рэвалюцыйным пафасам, «Інтэрнацыянал» садзейнічаў распаўсюджанню ідэй Камуны па ўсім свеце і стаў міжнародным пралетарскім гімнам, гімнам Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і камуністычных партый іншых краін.

Пасля разгрому Камуны Эжэн Пацье вымушаны быў эміграваць за граніцу — спачатку ў Англію, потым у Амерыку. У 1880 годзе ён вярнуўся на радзіму, у Францыю, і памёр у страшэннай беднасці.

Ніжэй мы змяшчаем поўны тэкст «Інтэрнацыянала» на беларускай мове.

**Эжэн ПАЦЬЕ**

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ

Паўстань, пракляццем катаваны!
Паўстань, хто з голаду век пух!
Бурліць наш розум узбунтаваны,
Няволі кліча рваць ланцуг!

Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім
І свет на новы лад збудуем:
Хто быў нічым, той стане усім!

Ніхто не дасць самохаць волі —
Ні бог, ні цар, ні багатыр.
Даб'ёмся самі лепшай долі...
Дабро для ўсіх — наш правадыр!

Каб не згібаці плеч пакорных,
Каб волі дух лунаў у нас,—
Адважна плаўма сталь у горнах,
Пакуль у кузні жар не згас!

Уласць гняце, закон хітруе,
Кроў з бедных ссуць падаткі, чынш.
Нішто багатых не турбуе,
Правы гаротных — смех адзін!

Даволі жыць чужою ласкай,
Закон аб роўнасці давёў:
«Няма правоў без абавязкаў
І абавязкаў без правоў!»

Нікчэмны ў торжышчы ўсёўладным,
Капальняў, фабрыкаў паны,
Чужую працу толькі складны
Па-зверску рабаваць яны.

У скрыні, склады сытай банды
Дабро працоўнае пайшло,
Хай жа бядак даб'ецца праўды:
Каб што здабыў — яго было!

Цары паілі нас маною,
Дык нам спакой, а ім вайна.
Супроць вайны пайдзем вайною:
Душа ў салдаты ні адна!



Калі ж уладзяць з намі гулі —
Пагоняць нас на бой за іх,—
То будуць знаць, што нашы кулі
Пачнуць страляць па іх саміх.

Мы ўсе работнікі, сяляне —
Сусветны рой працаўнікоў —
Мець будзем на зямлі ўладанне,
А дармаеды — прэч! Далоў!

Жывіцца целам нашым годзе,
Усім трутнём і груганом!
Для нас, паўстаўшых, сонца ўсходзе,
Свяціць нам будзе век вяком!

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб у лучнасці братняй
Узняўся людскі род!

Пераклаў з французскай мовы
Янка КУПАЛА.

# ФОТАЛЕТАПІС КАСТРЫЧНІКА

З фондаў Дзяржаўнага музея БССР.



Першамайская дэманстрацыя ў г. Віцебску ў 1917 годзе.



Л. І. Арціменкаў, старшыня Пліскага валрэўкома.



Пролетарии всех стран соединяйтесь

1918 1921

Революционный Военный Совет Отдельной Кавказской Рабоче-Крестьянской Красной Армии (бывш. XI армии) в ознаменование исполнения трехлетия героической борьбы за раскрепощение трудящихся и защиты Социалистического Отечества вручает настоящую Грамоту Красному Воину Армии ......

как символ исполнения своего долга перед Рабоче-Крестьянским Отечеством.

Грамата Рэўваенсавета за подпісам Арджанікідзе, Мяснікова і другіх членаў Рэўваенсавета, уручаная чырвонаму воіну з Беларусі Лешанову Анісіму Сяргеевічу ў 1921 годзе.

## ФОТАЛЕТАПІС КАСТРЫЧНІКА.

# І ПЕСНЯ ЗМАГАЛАСЯ

Старадаўнія рымляне запэўнялі, што музы маўчаць, калі грыміць зброя. У Вялікую Айчынную вайну гэтую прыказку абвергла жыццё — на ўзбраенні савецкага народа былі і музыка, і верш, і песня... Да штыка прыраўноўвалі сваё баявое пяро пісьменнікі. Ад іх не адставалі і кампазітары.

У першыя ж дні вайны ў дзеючай арміі апынуліся беларускія кампазітары У. Алоўнікаў, І. Любан, Д. Лукас, Л. Абеліёвіч, А. Папоў. Глыбокі савецкі тыл прытуліў шэраг дзеячоў музычнай культуры Беларусі. Толькі М. Крошнер (аўтар музыкі да балету «Салавей») і М. Шнітман (аўтар шматлікіх харавых песень) трагічна загінулі ў мінскім гета.

Беларусь стагнала пад ярмом гітлераўцаў, але з першых дзён фашысцкай акупацыі жыла надзеяй на вызваленне. Жыла і змагалася, каб наблізіць час вызвалення. І як жа важна было шчырым паэтычным словам, задушэўнай песняй падтрымаць гэтую надзею, узняць баявы дух усенароднага змагання супраць варожай навалачы!

Гнеўныя, усхваляваныя выступленні Янкі Купалы ў ліпені 1941 года на старонках «Правды» і «Известий», яго прамовы па радыё, звернутыя да роднага народа, глыбока запалі ў душы беларускіх кампазітараў і былі тым каталізатарам у іх творчым жыцці, які прыспешыў стварэнне першых ваенных песень. Купалаў верш-заклік «Беларускім партызанам», коласавы «Голас зямлі» і «Запытай ты сябе, чалавеча» натхнялі беларускіх песнятворцаў. Беларуская песня ўжо ў першыя месяцы вайны станавілася ў строй — яна гучала на фронце і ў партызанскім лагеры, усяляючы ў сэрцы людзей веру ў перамогу над ворагам, надаючы воінам сілы, мужнасць і адвагу.



Кампазітар І. Любан і прафесар А. Бясмертны на фронце.

Кампазітар-песеннік Р. Пукст быў у складзе адной з франтавых брыгад. Там ён напісаў першую, прысвечаную народным мсціўцам, песню «Партызаны» на словы В. Лебедзева-Кумача, якая ў трывожны снежань 1941 года ўжо выконвалася хорам. Шчыра так, прапікнёна пад стрыманы акампанемент баяна гучала гэтая песня:

Что ты смотришь, родимый товарищ,
Бородою оброс я небось?
Нам в лесу, средь боев и пожарищ,
На себя посмотреть не пришлось.

Песню палюбілі на фронце, яна перакінулася праз пярэдні край да партызан, стаўшы народнай. Пасля вызвалення Беларусі ад акупантаў варыянт гэтай песні быў запісаны ў в. Азершчына, дзе яе спяваў хор пад кіраўніцтвам Т. Лапацінай.

І. Любан, знаходзячыся на Заходнім фронце, пасябраваў з камісарам палка М. Касенкам. У творчай садружнасці яны стварылі некалькі песень, якія адразу былі падхоплены франтавымі ансамблямі.

Беларуская песня гучала і ў са-




Фрагмент рукапісу песні Р. Пукста «Партызаны».

вецкім тыле, дзе працаваў Ансамбль песні і танца БССР на чале з кампазітарам С. Палонскім. Ён напісаў для ансамбля хор «На захад» (словы М. Машары), песню пра Сібір на словы А. Смердава. Хор «На захад» быў цёпла прыняты грамадскасцю за напеўнасць, выразнасць і палымяны запал.

Кампазітары, што эвакуіраваліся ў савецкі тыл, завязвалі творчыя сувязі з рускімі і ўкраінскімі паэтамі. Так, у М. Аладава ўзнікла песня пра барацьбу ўкраінскага народа за вызваленне роднай зямлі ад акупантаў, у М. Шнэйдэрмана — песня пра подзвіг панфілаўцаў-гвардзейцаў. Вельмі актыўнае творчае жыццё было ў М. Аладава. У першыя месяцы вайны з-пад яго пяра выходзяць дзве песні на словы А. Кузняцова («Нам не быць пад фашысцкай пятою!» і «Тры багатыры»), «Песня аб працоўным уздыме» на словы В. Цімохіна і песня «Фронт і тыл» (тэкст А. Атавіна). Дзве апошнія адлюстравалі патрыятычную еднасць воінаў і працаўнікоў, якія памаглі каваць перамогу над ворагам. У песнях жа на словы А. Кузняцова была выказана клятва сакрушыць ворага, чаго б тое ні каштавала.

Першыя поспехі на франтах — разгром немцаў пад Масквой, гістарычная перамога над Сталінградам — паклікалі да жыцця новыя рытмы. Беларускія кампазітары ствараюць баявыя паходныя песні асобных воінскіх часцей і партызанскіх злучэнняў. М. Аладаў піша «Беларастаўскую чырвонасцяжную» (словы С. Баранава), М. Шнэйдэрман «Казахстанскую кавалерыйскую» (словы Б. Тураўскага) і «Песню партызан-камароўцаў» (словы А. Астрэйкі). У гэтых песнях баявы наступальны дух, жыццесцвярджальны аптымізм.

Жывы водгук у сэрцах беларусаў, што змагаліся на самых розных франтах, мелі песні А. Багатырова «Мы вернемся» (словы М. Танка) і «За родную Беларусь» (словы А. Астрэйкі), песня Р. Пукста на купалаў верш «Беларускім партызанам» ды песня М. Шнэйдэрмана «Мы ідзём, Беларусь» (тэкст Б. Тураўскага).

У пераважнай большасці песні ваенных год былі мужныя, суровыя, валявыя. А багацце інтанацый заклiку і востры пунктірны рытм збліжалі іх з масавымі рэвалюцыйнымі песнямі. З'яўляліся і песні, афарбаваныя ў мяккія, лірычныя таны, інтанацыйна блізкія беларускаму народнаму меласу. Тут варта назваць хоць бы такія, як: «Калі над Радзімай» А. Багатырова (тэкст П. Броўкі), «Помню, помню тыя росы» І. Любана (тэкст К. Крапівы), «Песня партызан» (словы А. Бялевіча) і «Клятва партызан» (словы А. Астрэйкі) Я. Цікоцкага, «Праз лясы, балоты і паляны» М. Аладава (словы М. Танка) ды «Ой лясы мае, паляны» Р. Пукста (словы А. Астрэйкі).

Пра жанравую разнастайнасць беларускай ваеннай песні сведчыць плённы зварот некаторых яе стваральнікаў да сродкаў сатыры. Па сваім характары сатырычныя песні нагадваюць шырока вядомыя ў грамадзянскую вайну і пасля яе чырвонаармейскія жартоўныя песні і куплеты. Высмяяць з самым з'едлівым сарказмам фашысцкіх няўдалых ваяк імкнуцца М. Аладаў у песні «СС» і «Пра храбрага рыцара» (словы А. Кузняцова), «Свінцовыя галушкі» (словы С. Баранава), М. Шнэйдэрман у сатырычных прыпеўках «Старыя песні на новы лад» (словы А. Разапкіна) і ў песні «Чым гэта скончылася» (словы А. Безыменскага). Для гэтых песень характэрны жартаўлівыя інтанацыі і ажыўлены, пабудаваны на вострых рытмах акампанемент, зроблены ў крыху прыпеўкавай «баяннай» манеры. Часам адносна сур'ёзная мелодыя запеву спалучана з задзёрыстым, смяшлівым прыпевам, што робіць песню вельмі эфектнай.

Калі гаварыць пра апошні перыяд Вялікай Айчыннай вайны, калі зара перамогі занялася над усёй Беларуссю і былі вызвалены першыя раёны, дык у творчасці беларускіх кампазітараў ён быў характэрным паваротам да ўслаўлення гераізму савецкіх воінаў-вызваліцеляў і партызан. Гэтаму садзейнічала і праведзеная ў 1943 годзе Цэнтральным Камітэтам КПБ сустрэча беларускіх кампазітараў, якая накіравала іх творчыя намаганні ў рэчышча агульнапалітычнай задачы таго часу — вызвалення Беларусі.

Выражэннем усенароднай радасці і сыноўняй любві да Радзімы былі песні Перамогі, пабудаваныя на мелодыях, блізкіх народным як па інтанацыі, так і па ідэйнай скіраванасці. Гэта і «Вялікі дзень» В. Яфімава на словы А. Астрэйкі, і напісаныя на тэксты П. Броўкі «Шуміць наша слава» А. Багатырова ды «Зямля Беларусі» Я. Цікоцкага, і дзве песні Р. Пукста «З рускім народам» на словы П. Глебкі ды «У яркім сузор'і» на словы М. Танка, і песня М. Шнэйдэрмана «Перамога», якую ён напісаў на тэкст В. Лебедзева-Кумача.

Ішлі пошукі не толькі новых тэм, але і новых жанравых асаблівасцей. У драматычных маналогах, лірычных роздумах, сатырычных сцэнках вялікую ролю сыгралі выразныя рэчытатыўна-дэкламацыйныя звароты, раптоўныя тэсітурныя зрухі, ладавыя і рытмічныя кантрасты («На скрыжаванні» Я. Цікоцкага, «Праклён ворагу» і «Леў і кот» М. Аладава). Для лірычнай песні-раманса, як правіла, характэрна меладычная напеўнасць, большая блізкасць да інтанацый беларускай народнай лірыкі («Любы мой, прыйдзі» Р. Пукста).

Для многіх песень характэрна тыпізацыя вобраза лірычнага героя з народа, ад імя якога вядзецца апавяданне. У такім вобразе звычайна падкрэсліваюцца не столькі індывідуальныя, колькі агульнанародныя рысы характару-тыпу. Адсюль і ўзнікла інтанацыйнае набліжэнне музычнай мовы да плачаў-галашэнняў у Я. Цікоцкага ці да беларускіх жаночых балад у А. Багатырова. А побач — заліхвацкія, імклівыя прыпеўкі ў М. Аладава, І. Любана, Р. Пукста, як, напрыклад, яго «Разлюлі-люлі маліна» на словы К. Крапівы.

Пераважным жанрам усё ж была харавая масавая песня гераічнага зместу. Значная іх частка была напісана ў рытме паходнага маршу: «Пра Андрэя Арлова» М. Аладава, «Калі над Радзімай» і «Мы вернемся» А. Багатырова, «Беларуская партызанская» І. Любана, «Песня мінаеўцаў» Р. Пукста, «Песня беларускіх партызан» Я. Цікоцкага і некаторыя з тых, што ўжо называліся. Для гэтых песень характэрны тэмы allegro, allegro moderato, tempo di marciale, сольны запеў для мужчынскага голасу, двух- ці трохгалосы харавы падхват.

Імкнучыся да выяўлення нацыянальнай характэрнасці, кампазітары знаходзяць і новыя, своеасаблівыя прыёмы рытмічнага разгортвання прыпеву, як у песні А. Багатырова «За родную Беларусь» на словы А. Астрэйкі. Ідучы за тэкстам і адступаючы пры гэтым ад «літары» страявога рытму паходных песень, кампазітар смела спалучае чатырохчацвяртныя і шасцічацвяртныя такты, выходзяць па-за традыцыйныя памеры. Пры гэтым не парушаецца дух імклівай кавалерыйскай песні. А ў выніку — яркая, маляўнічая песня-абразок.

Вольнае чаргаванне памераў асабліва прыкметна ў песнях С. Палонскага. Можа таму такія яго хоры, як «Будзем сеяць, беларусы» (словы П. Броўкі) і «Песня пра Сібір» (словы А. Смердава), хоць і маюць выгляд бясспрэчных харавых плакатаў, для масавага выканання зацяжкія, як і кожны шасцігалосы, а капэльны хор з элементамі інтанацыйнай пераклічкі.

Шырокі наступ Савецкай Арміі ў 1944 годзе, калі было завершана вызваленне Беларусі, паставіў на парадак дня новыя задачы і ў музычным мастацтве. Беларусь-партызанка, як суверэнная сацыялістычная дзяржава побач з усім Саюзам ССР і Украінскай ССР выходзіла на міжнародную арэну, як краіна-пераможца. Сярод іншых клопатаў перад кампазітарамі Беларусі быў і самы неадкладны — стварэнне дзяржаўнага гімна БССР. Урад рэспублікі абвясціў конкурс.

Адна за другой пачалі з'яўляцца гімнавыя песні. Пры многіх сваіх вартасцях, яны ў большасці сваёй усё ж не адпавядалі цалкам патрабаванням, што вызначаліся ўмовамі конкурсу. Яны былі цяжкія для запамінання і спявання, у іх не ставала эмацыянальнай яскравасці і мастацкай завершанасці. Конкурсная камісія рэкамендавала да выканання песні М. Аладава і

Н. Сакалоўскага на словы М. Клімковіча «Мы беларусы» (пазней быў на гэты тэкст напісаны гімн яшчэ і П. Падкавыравым), песні С. Палонскага і А. Багатырова на словы П. Броўкі «Шуміць наша слава», песня Р. Пукста «З рускім народам» на словы П. Глебкі і яшчэ некалькі.

Шырокая грамадскасць і музычная крытыка спынілі свой выбар на песні Н. Сакалоўскага «Мы беларусы». Выразная і простая мелодыя ў рытме шэсця, якая мае характэрныя адзнакі паходнага марша, наяўнасць гімнічнага слаўлення, уласцівая беларускім народным лірычным песням меладычная распеўнасць забяспечылі адзінадушнасць прынятага пазней рашэння аб зацверджанні песні «Мы беларусы» Дзяржаўным гімнам Беларускай ССР.

У першым сваім варыянце мелодыя мела толькі 16 тактаў, што адпавядалі першай страфе тэксту. У такім аднастрофным варыянце без вылучанага прыпеву песня была апублікавана ў 1946 годзе. Пазней Н. Сакалоўскі дапоўніў і ўзбагаціў мелодыю, дадаўшы блізкую па складу да асноўнага напеву мелодыю прыпеву на словы: «Нас аб'яднала Леніна імя». У гэтым новым, разгорнутым варыянце песня была апублікавана ў двух масавых зборніках.

Стварэннем нацыянальнага гімна як бы завяршаецца перыяд беларускай ваеннай песні, хоць гераіка Вялікай Айчыннай вайны і неўміручыя подзвігі беларускіх партызан і сёння жывяць творчую фантазію песеннікаў-паэтаў і кампазітараў. Не выпадкова ж, мусіць, мелодыі многіх песень, створаных у ваенную пару, зноў сустракаюцца ў оперных сцэнах («Песню беларускіх партызан» Я. Цікоцкі ўключае ў III дзею оперы «Алеся»), у мелодыях сімфоній, араторый і кантат (Трэцяя сімфонія Я. Цікоцкага, кантата А. Багатырова «Беларусь», асноўную мелодыю якой складае трохдольны варыянт гімнічнай песні «Шуміць наша слава»).

Характэрная і такая яшчэ рыса, як самастойнае вырашэнне кампазітарамі рознай індывідуальнасці аднародных творчых задач. Звярнуўшыся да верша Я. Купалы «Беларускім партызанам», А. Багатыроў паказаў сябе як эпік і драматычны кампазітар, здольны на вялікую энергічнасць выражэння ідэі твора. Тады як Р. Пукст стварыў на гэты тэкст шырокую мелодыю тыпу сучаснай масавай народнай песні ярка нацыянальнага складу, П. Падкавыраў свае пошукі скіроўвае на выяўленне драматычнага зместу праз падкрэсліванне моўных інтанацый. Нявыпадкова запеў яго песні інтанацыйна надзвычай блізкі да народнай песні, створанай на купалавы словы партызанамі Палесся.

Творчы вопыт ваенных гадоў узбагаціў беларускіх кампазітараў адчуваннем грамадзянскага пафасу барацьбы за лепшую будучыню чалавецтва, за мір ва ўсім свеце. З'явіліся асабліва ўсхваляваныя, патэтычна заклікальныя інтанацыі, стаў смялейшы зварот да багацейшых скарбаў беларускай народнай песні. Гераічны подзвіг савецкага народа ў гады яго цяжкіх выпрабаванняў надоўга становіцца адной з важнейшых тэм у творчасці беларускіх кампазітараў.

**Лідзія МУХАРЫНСКАЯ,**
**Макс ШЫФРЫН,**
**музыказнаўцы.**

# МОЦНАЯ ДУХАМ

У сваёй кнізе «Моцныя духам» Герой Савецкага Саюза Д. Мядзведзеў сярод кагорты бясстрашных ровенскіх падпольшчыкаў называе імя Марыі Жарскай.

Марыя Жарская — наша зямлячка. Мне асабліва дарагая памяць аб ёй, таму што разам прайшло наша дзяцінства ў вёсцы Крывічы на Старобіншчыне.





Пасля заканчэння сямігадовай школы яна паехала ў Луганск, дзе стала працаваць трамвайным кандуктарам. Там выйшла замуж і разам з мужам пераехала ў горад Роўна, дзе іх застала вайна.

У першых баях з фашыстамі загінуў Марыін муж. Застаўшыся з малым дзіцем на руках, Марыя не разгубілася — пачала думаць, як бы ўключыцца ў барацьбу з ворагам. У той час яна працавала на шчотачнай фабрыцы і, звязаўшыся з партызанскім падполлем, пачала выконваць яго заданні.

Калі я быў у адпачынку ў роднай вёсцы, бацька Марыі — васьмідзесяцігадовы калгаснік сельгасарцелі «Бальшавік» Парфен Малахавіч Жарскі — вельмі прасіў мяне дазнацца больш падрабязна пра жыццё яго дачкі ў той суровы час. Я даў слова, што выканаю гэтую просьбу.

Трохгадовая перапіска з архівамі прынесла мне сякія-такія новыя звесткі. Выявілася, што Марыя працавала ў групе аднаго з відных арганізатараў і кіраўнікоў ровенскага падполля Цярэнція Фёдаравіча Новака, якому ў пярэдадзень 20-годдзя нашай вялікай Перамогі было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза. Ён і яго памочнік Іван Дубоўскі пацвердзілі, што іменна пра гэтую жанчыну, актыўную змагарку ровенскага падполля, расказваецца ў кнізе «Моцныя духам».

...Каля самага Роўна ў першыя месяцы фашысцкай акупацыі з'явіліся партызаны. Іх бачылі на легкавой машыне ў вопратцы нямецкіх салдат і афіцэраў, а таксама на сялянскіх фурманках з паліцэйскімі павязкамі на рукавах. З гаражоў пачалі знікаць нямецкія аўтамашыны, з сейфаў — сакрэтныя дакументы...

Гебітскамісар горада Роўна доктар Беер адмовіўся ад шыкоўнага «мерседэса» і пачаў ездзіць у браневіку. Для навядзення парадку ў Роўна з Берліна прыбыў вядомы гітлераўскі кат і карнік обергрупенфюрар войск СС генерал фон Дэм Бах Залеўскі.

У горадзе былі вывешаны загады, якія папярэджвалі пад пагрозай смерці, што «кожны, хто выйдзе ўначы на двор, будзе расстраляны», «будзе расстраляны і той, хто, ідучы праз мост, будзе трымаць рукі ў кішэнях», «будзе расстраляна ўся сям'я, якая пусціць начаваць невядомага чалавека»...

А партызаны рабілі сваю справу. Невядомы, апрануты ў форму гітлераўскага афіцэра, перад будынкам рэйхкамісарыята застрэліў імперскага чыноўніка Ганса Геля і яго ад'ютанта Курта Вінтэра. Потым у гестапа паведамілі пра знікненне камандуючага асобай арміяй генерала фон Ільгена, пра забойства вярхоўнага суддзі Украіны Альфрэда Функа.

Як могуць дзейнічаць партызаны ў горадзе? — задавалі сабе пытанне гестапаўцы.— Хто дае ім прытулак? Дзе яны дастаюць нямецкія дакументы?..

Чалавекам, які рабіў усе гэтыя небяспечныя справы, была Марыя Жарская.

Узяўшы на рукі сваю двухгадовую дачку Ніначку, яна нярэдка сама хадзіла ў разведку. Гэта была бясстрашная жанчына.

Калі агенты гестапа натрапілі на след падпольшчыкаў і былі арыштаваны Іван Луць, Марыі даручылі выявіць праз сувязных, ці выпадковы гэты арышт і што намераны гестапаўцы рабіць далей. Яна выканала і гэтае заданне. Ёй давялося выведаць, што ноччу пачнуцца арышты.

Ці паспее яна папярэдзіць таварышаў? Марыя спяшалася колькі было сілы. За пятнаццаць хвілін да прыходу гестапаўцаў Марыя Жарская папярэдзіла людзей, якім пагражаў арышт. Аднак самой ёй не ўдалося выратавацца. Калі яна вярнулася на кватэру, там ужо гаспадарылі фашысты. У іх руках была маленькая Ніначка.

Гітлераўцы пачалі катаваць маці. Усё гэта — на вачах дзіцяці. Што давялося Марыі перажыць у гітлераўскім засценку, пераказаць цяжка! Ёй абяцалі волю, калі яна выдасць падпольную арганізацыю. Ні катаванні, ні здзекі не зламалі волю Марыі Жарскай. Потым яе таварышы бачылі, як яе разам з іншымі патрыётамі павялі на смерць. Пра ўсё гэта мне напісалі Марыіны таварышы па зброі.

Землякі з павагай адносяцца да бацькоў Марыі, у якіх у гады Айчыннай вайны на фронце загінулі яшчэ тры сыны: Аляксандр, Нестар і Уладзімір.

У школе, дзе вучылася камсамолка Марыя Жарская, ёсць куток славы, у якім захоўваюцца дакументы пра яе подзвіг.

**Мікалай КУЗНЯЦОЎ,**
**мічман запасу.**

# 1906 — 1966



НАША ДОЛЯ

**Наш родны край.**

Край наш родны, край наш родны!
Гразь, балота ды пясок.
Чуць дзе трохі луг прыгодны...
Хмызнік, мох ды верасок.
А туманы, як палеткі,
Засцілаюць лес и гай...
Ой ты, бедная старонка!
Ой, забыты Богам край!
Наше поле кепска родзиць;
Бедна тут жыве народ.
У грязи ен, бедны, ходзиць;
А працуе — льецца пот.
Пазираюць нудна вески,
Глянешь — сэрца забалиць.
На двары паленья, трэски;
Куча сметнику ляжыць.
Крыж хилены пры дарози;
Купка тополеў сухих...
Ціхо, нудна, як у вастрозі,
Як на могилках яких.
А як песня запяецца,
Колькі у песни той нуды!
Уцякаў бы, бег, здаецца,
Сам не ведаючы куды.
Край наш родны. Бедна поле!
Ты глядзиш, як сирота,
Нудна ты, як наша доля,
Як ты, наша цемнота!

*Якуб Колас.*

**Шэсцьдзесят гадоў таму назад толькі што арганізаваная дэмакратычная беларуская газета «НАША ДОЛЯ» змясціла на сваіх старонках першы верш ЯКУБА КОЛАСА «Наш родны край». З тае пары і да самай смерці слова беларускага народнага песняра нястомна працуе на карысць і славу свайго народа. Разам з ім яно рвала ланцугі няволі, ладзіла новае грамадства і культуру, абараняла ў гадзіну ліхалецця, ствapала для будучых пакаленняў гісторыю яго пошукаў і здзяйсненняў.**

# НА НІВЕ АСВЕТЫ

У заяве, адрасаванай у Прадметную камісію Беларускага дзяржаўнага універсітэта ад 28 верасня 1923 года, Якуб Колас — ён у той час толькі што вярнуўся з Куршчыны — пісаў: «Прашу назначыць мяне асістэнтам на кафедры беларускай мовы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце». Педагагічную працу Якуб Колас вельмі любіў. Яго лекцыі былі сапраўдным святам для студэнтаў.

Летам 1923 года Канстанцін Міхайлавіч, адмовіўшыся ад адпачынку, прыняў прапанову Наркамасветы паехаць у Слуцк і прачытаць на палітыка-педагагічных курсах методыку і граматыку беларускай мовы. З 4-га па 29-ае ліпеня ён прабыў у Слуцку. Праўда, граматыку беларускай мовы сам ён не чытаў, а толькі ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва найбольш падрыхтаванымі настаўнікамі-курсантамі, якія і вялі практычныя заняткі па граматыцы.

Выехаў Канстанцін Міхайлавіч з Мінска ў Слуцк разам з беларускім літаратарам Язэпам Лявонавічам Дылам, які цяпер жыве ў Саратаве (Язэп Лявонавіч на курсах чытаў гісторыю беларускай культуры). Па дарозе Якуб Колас цішком прызнаўся Язэпу Лявонавічу, што ўзяў з сабою паэму «Новая зямля». Язэп Лявонавіч узрадаваўся такой нечаканай навіне і папрасіў Канстанціна Міхайлавіча пачытаць паэму. Чытанне зацягнулася далёка за поўнач і калі закончылася, то добрыя людзі ўжо і ноч разабралі. «Я доўга сядзеў у нейкім здранцвенні, — прызнаецца Язэп Лявонавіч. — Не мог нічога сказаць. У маёй памяці паўставала леснікова пасада, раніца ў нядзельку, клёцкі, звараныя на бярозавіку дзядзькам Антосем... Адным словам, перад маімі вачыма праплывала мая родная і мілая Беларусь, яе дарагія мясціны...» Потым Язэп Лявонавіч намякнуў Канстанціну Міхайлавічу, што добра было б, каб ён прачытаў паэму слухачам курсаў. Якуб Колас хітравата ўсміхнуўся і заўважыў: «А можа няварта?..» А пасля, падумаўшы, дадаў: «Там паглядзім...»

Праца на Слуцкіх настаўніцкіх курсах захапіла Якуба Коласа. Курсы былі добра арганізаваны, слухачы ахвотна наведвалі заняткі.



Якуб Колас. 1924 год.

У пісьме да жонкі Марыі Дзмітраўны ад 4-га ліпеня Колас дзеліцца сваімі ўражаннямі:

«Чытаў я дзве гадзіны. Першая гадзіна была адведзена пад граматыку, другая — пад методыку... Слухалі незвычайна ўважліва. Я вельмі рад, што захапіў з сабою методыку. Курсы тут пастаўлены незвычайна грунтоўна. Дысцыпліна на курсах самая строгая. Кур-

Другія беларускія настаўніцкія курсы ў г. Слуцку. 1921 год. Другі злева ў першым радзе Якуб Колас.



сантаў 150 чалавек, і ходзяць усе да аднаго... Я ўспеў сёння па граматыцы зрабіць дыктоўку. Сыткаў 70 пераглядзеў... Няграматна напісана ў двух. Чатыры напісалі зусім граматна. Большасць — здавальняюча, многа — добра...

Раней месяца я ніяк не ўпраўлюся... Сёння ў мяне такое самапачуццё, што я не каюся, паехаўшы сюды».

Язэп Лявонавіч Дыла расказвае, што слухачы курсаў былі неаднолькавыя як па ўзросту і сацыяльнаму паходжанню, так і па сваіх поглядах. Некаторыя з іх адкрыта выступалі супроць беларускай мовы. Аднойчы адзін з такіх слухачоў, ужо даволі пажылы чалавек, падышоў да Якуба Коласа і сказаў: «Вось вы, Канстанцін Міхайлавіч, усё чытаеце і чытаеце нам беларускую мову, гаворыце, каб мы яе вывучалі і любілі, а на ёй не напісана ніводнага твору, ну... напрыклад, як «Яўгені Анегін». Якуб Колас уважліва паглядзеў на яго і сказаў: «Пачакайце, паважаны таварыш! Не ўсё адразу. Пройдзе колькі часу, і на нашай мове будуць напісаны выдатныя рэчы». Потым задумаўся на некалькі хвілін і паўтарыў: «Не ўсё адразу...»

А назаўтра, 8 ліпеня, а 9-ай гадзіне на літаратурным вечары (літаратурныя вечары сістэматычна наладжваліся на курсах) Якуб Колас выступіў з чытаннем «Новай зямлі». І калі ён пачаў:

«Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы»,—

слухачы адразу неяк насцярожыліся, а потым у зале настала цішыня... Калі чытанне першага раздзела было закончана, бурныя воплескі ўскалыхнулі залу. Усе крычалі: «Брава! Брава!.. Яшчэ! Яшчэ!..» Канстанцін Міхайлавіч, уважліва абвёўшы вачыма слухачоў, пачаў новы раздзел:

«Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
Блінцы пякліся на сняданне...»

Потым, успамінаючы гэты вечар, Якуб Колас пісаў у лісце да Марыі Дзмітраўны:

«Учора вечарам чытаў першы раз «Новую зямлю». Адзін слухач курсаў, непрыхільнік беларускасці, зазначыў беларусу: «Я не ведаў, што па-беларуску можна так пісаць. Зарэжце мяне, калі я не навучуся беларускай мове». Прачытаў шэсць першых раздзелаў».

Канстанцін Міхайлавіч прачытаў слухачам палітыка-педагагічных курсаў у Слуцку ўсю «Новую зямлю». Ды не толькі на курсах чытаў яе Якуб Колас, але і на гарадскіх вечарах. І ўсюды слухачы з вялікай прыхільнасцю ставіліся да яе і былі вельмі ўдзячны паэту за такі цудоўны мастацкі твор.

Як успамінае Язэп Лявонавіч Дыла, на курсах быў яшчэ і такі выпадак. На адной лекцыі па методыцы роднай мовы Якуб Колас атрымаў запіску: «Чаму да гэтага часу няма падручніка па методыцы беларускай мовы?» Канстанцін Міхайлавіч адказаў: «Будзе!.. Хутка будзе!..» І стрымаў сваё слова. Яго «Методыка роднае мовы» выйшла з друку ў 1926 годзе.

Як педагог, Якуб Колас выступаў супраць тых «тэарэтыкаў», якія лічылі непатрэбнымі для новай школы вучэбныя праграмы і падручнікі. Ён крытыкаваў негрунтоўнасць комплексных праграм і прапагандаваў прадметную сістэму выкладання ў школе.

У 1925 годзе Народны камісарыят асветы БССР накіроўвае Якуба Коласа ў Калінінскую і Аршанскую акругі праводзіць культурную работу па беларусазнаўству. Паводле пасведчання, выдадзенага паэту Наркаматам асветы ад 16 сакавіка 1925 года, у гэтых акругах Канстанцін Міхайлавіч павінен быў чытаць лекцыі, весці гутаркі па гісторыі беларускай літаратуры, чытаць свае творы і іншыя ўзоры прыгожага беларускага пісьменства. Народны камісарыят асветы БССР прасіў «усе савецкія і грамадскія ўстановы дапамагаць Міцкевічу ў выкананні ўскладзенага на яго задання».

17 студзеня 1926 года Канстанцін Міхайлавіч падае ў дэканат педфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта заяву: «...з прычыны майго нездароўя я змушан прасіць дэканат звольніць мяне ад выкладання беларускай мовы на педагагічным факультэце БДУ». У хуткім часе гэтая просьба Якуба Коласа была задаволена. Пазней ён пакідае працу і ў Беларускім педтэхнікуме. Але не пакідае цікавіцца работай школы.



**Якуб Колас** (у другім радзе першы справа) **і Янка Купала** (другі справа) **сярод дзеячоў беларускай культуры.**

З фондаў Літаратурнага музея Якуба Коласа.

У сваіх шматлікіх артыкулах («Школа і дарожнае будаўніцтва», «Нашы савецкія дзеці», «Шануйце і любіце сваю родную мову», «Задачы савецкай школы» і інш.) ён дзяліўся з настаўнікамі сваім багатым педагагічным вопытам, заўсёды падкрэсліваў пачэсную і адказную іх ролю ў справе выхавання маладога пакалення.

І сёння наша моладзь, як і ўвесь савецкі народ, ганарыцца Якубам Коласам не толькі як выдатным пісьменнікам і грамадскім дзеячом, але і як руплівым, добрасумленным педагогам — сейбітам разумнага, добрага, вечнага.

**Мікола БАЗАРЭВІЧ.**

# З АРХІЎНЫХ ПАЛІЦ

У Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР паступілі новыя матэрыялы, якія датычаць жыцця і творчасці Якуба Коласа. Пісьмы Коласа да літаратуразнаўцы Л. Бэндэ адносяцца да 1941—46 гадоў. Бэндэ, які жыў тады ў Ленінградзе і працаваў над кнігай пра творчасць Коласа, не раз звяртаўся да народнага паэта з просьбай удакладніць некаторыя моманты яго біяграфіі, а таксама творчай гісторыі «Новай зямлі», «Дрыгвы» і «Сымона Музыкі». Якуб Колас адказваў яму, як правіла, на рускай мове, таму што беларускую Бэндэ ведаў слаба.

Л. Бэндэ атрымаў ад народнага паэта дзевяць лістоў. Найбольш цікавыя з іх шэсць, якія падаюцца ніжэй.

**Клара НЕКРАШ,**
**старшы навуковы супрацоўнік архіва.**

*Уважаемый*
*тов. Бенде!*

*Сижу на заседании облисполкома. Прочел Ваше письмо. Отвечаю лаконически, так как чувствую себя плохо. Впервые был мобилизован*

в 1914 г., когда происходила общая мобилизация. Болтался с месяц в казарме Серпуховского полка в Минске. Проектировалось зачисление в 240 рабочую дружину, но по ошибочному толкованию циркуляра министра просвещения был уволен из армии и состоял учителем в г. Пинске (1914—1915 г.).

В 15-м году выехал в Московскую область (губ.) Дмитриевского уезда, Стариковская школа. 6 сентября 1915 там же был вторично призван в армию в г. Москву. Находился в 55 запасном баталионе. В начале 16-го года откомандировали в Александровское военное училище. Выпустили прапорщиком 1-го мая 1916 г. Поехал в г. Пермь в 162 запасный полк. В конце июля 1917 г. был отправлен на фронт в Румынию начальником эшелона дезертиров. В конце сентября 1917 года был эвакуирован в тыл по болезни (заболел малярией, желтухой, обнаружен процесс в легких). В Румынии находился в г. Бакео, но недолго. Из Бакео был направлен в село Кородул. Зачислен был в 282 Александрийский полк. Из Кородула совершил переход по тылам в 120 километров. Во время перехода и был эвакуирован. Направился в Курскую губ. в г. Обоянь, где проживала семья (жена, два малолетние сына). В конце 1917 г. по декрету Советской власти, как учитель, был уволен из рядов старой армии и вовсе уволен по болезни. Из старой армии уволен в чине подпоручика.

В Минске работал в терминологической Комиссии, затем с преобразованием Комиссии в И-т бел. культуры состоял членом Инбелкульта, а затем и академиком Ак. Н. БССР. С 1922 года работал также и в Белпедтехникуме по 1927 г.

За время пребывания в Минске избирался раза два в ЦИК БССР, был делегатом на 7 и 8 съездах Советов. Раза два или три был избран в члены минского городского Совета. Сейчас состою членом областного Совета трудящихся. Сижу на заседаниях. Иногда выступаю. Кроме того, избран и в депутаты Вер. Сов. БССР. По моей инициативе создана комиссия для распланировки моего родного села, сгоревшего в мае 1940 г. Много работал и уделял внимания по части отстройки села (Николаевщина).

Работаю над поэмой, которую предполагаю закончить в этом году. Поэма печатается в «Полымі».

В общество любителей рус. словесности избран в 1926—27 г., точно не помню. Встречи с А. М. Горьким были в 1928, 1934 гг. Т. Сталина видел несколько раз на съездах, но беседовать с ним не довелось.

Пусть другие кое что скажут. А я как мог написал на Ваши вопросы.

Всего лучшего
Я. Колас.
31 III 1941 г.

9 VI 1942.

Дорогой товарищ!

Случилось так, что Ваше письмо, совершив большие путешествия, пришло ко мне только вчера. В Казани происходила только сессия Академии. В то время я был в Москве, куда был вызван в январе из Ташкента. После Всеславянского митинга, на котором я выступал, я поехал обратно в Ташкент, в котором я нахожусь с 14 августа прошлого года. Ваши сообщения очень интересны. Верю — когда-нибудь встретимся и поговорим обо всем. В Ташкенте я написал сборник стихов «Голос земли». Он будет напечатан в Москве и на днях выходит из



печати здесь. Сейчас начал писать повесть, названия которой еще не дано. Тема — события войны, партизанское движение. Из Минска я ничего не успел захватить. Все рукописи, еще не опубликованные, книги, письма и даже сберегательная книжка и орденская погибли в огне. О Купале ничего не знаю. Писал ему. ...Живет он в районе Казани. Всего лучшего. Пишите. Один мой сын на войне. Известий о нем не имею.

Всего лучшего
Я. Колас.

3 II 1943 г.

Дорогой Лука Афанасьевич!

Сегодня, накануне своего отъезда в Москву, получил Ваше письмо. Во-первых, сердечно поздравляю Вас, как и всех ленинградцев, с падением немецкой блокады, с полной ликвидацией гитлеровских головорезов в районе Сталинграда. Можно сказать словами Пушкина: «Но явно счастие боевое служить уж начинает нам». В эти великие дни, насыщенные славой Красной Армии, приятно для каждого советского человека сознавать, что вся гитлеровская европейская каолиция вместе с его Германией зашаталась, как смертельно раненое чудовище, под ударом молодой Советской державы.— Сегодня, кроме других вызывов, получил телеграмму т. Пономаренко. Просит приехать в Москву и если возможно с М. Д., по важным делам. Я написал поэму «Суд в лесу». Она представлена на премию. Сколько пробуду в Москве, сказать не могу. Весной предполагаю переезжать поближе к родной земле. Эта мысль у меня созрела еще в прошлом году. Если у Вас есть запасной экземпляр «Сымона Музыки» в Ленинграде, вышлите в Москву на Союз писателей (Воровского 52) для меня. Привет от моих домашних — М. Д,. Данилы, Михася.

Всего лучшего
Я. Колас.

Дорогой
Лука или Василий Афанасьевич!

Вы простите мне, но я точно не знаю, как звать Вас. Получил Ваше письмо. Отвечу на интересующие Вас вопросы.

1. Поэма «Суд в лесу» напечатана в 1942 году или в начале 43 в Москве на белорусском языке. К сожалению, не имею свободного экземпляра, чтоб переслать Вам. Обратитесь к Глебко* Петру Федоровичу. Он работает в издательстве, м. б. поможет Вам.

2. Вы спрашиваете, в какой мере автобиографична «Новая земля». Это строго автобиографичная поэма, как по тем лицам, которые в ней описаны, так и по тем событиям, о которых рассказывается в поэме. Мысль о написании поэмы зародилась в 1910 году, когда я находился в заключении в крепости. Там же написано и несколько глав поэмы в том же году — Ляснікова пасада, Раніца ў нядзельку, Як дзядзька ездзіў у Вільню. К сожалению, у меня пропали те тетради, в которых записаны первые главы поэмы. В написании поэмы были большие перерывы. Они объясняются условиями моей жизни. Не всегда была у меня возможность для письма. «Сымона Музыку» я начал писать в 1911 г. Не помню, при каких обстоятельствах меня заинтересовала одна мысль — непонимание толпой истинного художника. Многие одаренные натуры из народа погибают, не развив своего дарования, как художники. Вот

Адрес: Москва, гостиница «Якорь», ком. № 45.

*это был исходный пункт для «С. М.». Эту поэму в первой редакции я закончил в 1918 г., «Н. З.» закончена в 1922 г. Около 5—6 глав поэмы написаны сначала до 1921 г.*

*Вот, кажись, и всё, что Вы от меня просите. За время нынешней войны написаны стихи, вошедшие в сборник «Голос земли». Этот сборник напечатан в русском переводе и более полный на белорусском языке под тем же названием. Сейчас заканчиваю довольно большую поэму — уже написано 3.000 строк. Называется она «Адплата». На фоне партизанской войны в этой поэме показан человек, связавший свою судьбу с немцами. Он не окончательно пал, но он так запутался, что не видит для себя выхода. Вот фон моей новой поэмы.*

*Чувствую себя не особенно здоровым. Повышенное давление крови, усталость.*

*Что у Вас? Над чем работаете? Какими располагаете материалами? Нельзя ли использовать их для нашего общего служительства культуре?*

*Напишите. Всего наилучшего*
*Якуб Колас.*

*22 VI 1944 г.*

*23 IV 1946 г.*

*Дарагі таварыш Л. А.!*

*1. Дальбог не помню зараз тыя даты, якія вы хочаце паставіць на сваё месца. Мне здаецца, што Вы размеркавалі зусім правільна. Але ці варта так падрабязна выкладаць гэтыя малазначныя факты?*

*2. Адозву да настаўнікаў пісаў не я, а другі настаўнік, які на суд не быў прыцягнуты. Жук — яго фамілія. Аб гэтым я даведаўся пасля суда, ды маўчаў.*

*3. Пісьмо я сапраўды пісаў, не памятаю толькі, куды.*

*4. У Верхмень быў перакінут у пачатку 1906 г. у студзені. Лічыўся там настаўнікам да жніўня 1906 г. У гэтым жа годзе і пісаў пісьмо, якога Вы не знайшлі.*

*5. Быў з'езд настаўнікаў вясною 1907 г. у Вільні, але слядоў ад яго не ведаю. Я быў на гэтым з'ездзе калі працаваў у «Нашай Ніве». З «Н. Д.» перайшоў у «Нашу Ніву» па той прычыне, што «Нашу Долю» закрылі, а замест яе пачала выходзіць «Наша Ніва».*

*«Другое чытанне» за нямногімі выключэннямі — арыгінальныя артыкулы. Некаторыя артыкулы запазычаны з другіх хрэстаматый.*

*Выбачайце, што так лаканічна пішу, бо перада мною цэлы стус пісем, на чытанне якіх бадай не хопіць цэлага тыдня.*

*Усяго лепшага*
*Я. Колас.*

*Дорогой Л. А.!*

*Простите, что сразу не ответил на Ваше письмо, был очень занят. Прежде всего отвечу на Ваши вопросы.*

*1. Где и когда я встретился с дедом Талашом. Если не изменяет мне память, я впервые встретился с героем своей повести в Минске, в здании Академии наук, когда Академия помещалась на Ленинской улице. Это было в 1934 году, после того, как была написана повесть. Дед Талаш прочел её и решил повидать меня. Мы говорили с ним о повести. Дед немного критиковал мои промахи. Так, например, в повести дед назван мной Григорием. На самом же деле его зовут Василием (Исаковичем). Я также перепутал и имена его сыновей. Он также не был согласен со мной и в том, что он убежал от 3-х конвоировавших его польских солдат. Дед упрямо стоит на том, что их было 5. Так было записано и моим сослуживцем, встретившемся случайно с Талашом и записавшим его рассказ. В записанном со слов деда рассказе не было Галинича, Невидного, многих персонажей поляков. Сцена с диким кабаном это рассказ моего отца, слышанный мной еще в детстве. Дед Талаш на это сказал: «Тут надо понимать, как нашу жизнь».*

*Учета написанных статей нет. Я было собрал их, в 1943 г. передал в из-тво (белоруск.). Дальнейшей судьбы их не знаю. А ведь написал я много всевозможных статей на самые разнообразные темы. Если их собрать, то получился бы солидный том.*

*В Минске еще не был. Собираюсь туда в ноябре. Октябрь хочу провести в доме отдыха Академии наук СССР.*

*Было бы очень интересно, если бы Вы выступили с докладом на темы, над которыми Вы работаете. На днях А. Н. БССР переезжает в Минск, как и все наши учреждения. Вопрос о Вашем участии в работах и-та языка и литературы удобнее будет разрешить в Минске. Хорошо было бы послушать Ваше сообщение, какими материалами и документами располагаете Вы для истории белорусской литературы.*

*Я заканчиваю поэму «Адплата». Планировал закончить ее в сентябре, но в конце сентября пришлось заняться неплановой работой.*

*Вот, кажется, и всё.*

*Жму руку, желаю успехов*
*Я. Колас.*

*Дзень сённяшні — дзень заўтрашні*

# КАРОЛЬ БУДОЎЛІ

**Пра свайго таварыша**

Пра Васіля Нікіценку, брыгадзіра вядомай у Салігорску камсамольска-маладзёжнай брыгады, кавалера ордэна «Знак пашаны» і вышэйшай камсамольскай узнагароды — «Пачэснага знака ВЛКСМ», спрэчка ўзгарэлася ў аўтобусе. Рослы хлопец з калматымі бровамі напорыста гаварыў свайму суседу:

— Ты, Міша, яго не ведаеш, то і памаўчаў бы. А я з ім з першага дня на будоўлі...

— Яго ўзнялі для праформы, — настойваў сусед. — А ён — нічога асаблівага... Проста — чалавек...

— Дурня не ўзнімеш. Тут, браток, ты загнуў, — павучальна заўважыў пажылы сусед. — Я ведаю Васіля. Ён працаваў праходчыкам на трэцім ствале. Чалавеку ордэны дарэмна не даюць. Заслужыў, значыць. Работай...

— Ат, работнік! — махнуў рукою той, каго назвалі Мішам. — Толькі раз'язджае па з'ездах ды языком працуе. Брыгадзір жа! Усе брыгадзіры ў каралях ходзяць...

— Слухай, браток, — пацягнулася да яго пляча нечая рука, — нешта ты ўсіх разносіш. Я таксама брыгадзір — значыць і ў мой ага-



Выпускніца Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута **Ніна ГОЛЫШАВА** нарадзілася ў 1939 годзе ў вёсцы Харошая Вахамскага раёна Кастрамской вобласці. Яшчэ ў кастрамскім мастацкім вучылішчы, якое яна скончыла ў 1960 годзе, Ніна шмат працавала на пленэры. Сваю дыпломную работу «Карагод» яна таксама пісала на пленэры, насыціўшы яе сонечным святлом і яркімі фарбамі.

**ПЕРШЫЯ ТВОРЫ**



Дыпломная работа выпускніка Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута **Міхаіла МЕРАНКОВА** — «Год 41-ы». Нарадзіўся малады мастак у горадзе Паркамуна Луганскай вобласці ў 1936 годзе. Пасля заканчэння Ялецкага мастацкага вучылішча працаваў настаўнікам, служыў у Савецкай Арміі.



род кідаеш каменьчыкі? Ды што гаварыць, любіш ты ачарніць чалавека, хоць і не ведаеш яго... А Васю і я ведаю. Ён хлопец — што трэба!

Спрэчка гэтая зацікавіла мяне. Мы з Васілём Нікіценкам — даўнія знаёмыя. У 1958 годзе разам закончылі мінскае будаўнічае вучылішча № 1 і прыехалі будаваць Салігорск. Працуючы побач, я чуў пра яго толькі добрае і радаваўся гэтаму... А тут...

Калі я прыйшоў на аб'ект, дзе працуе брыгада Васіля Нікіценкі, то перш убачыў яго самога. Яшчэ здаля пазнаў яго па выцвілай сарочцы, па прысадзістай яго постаці і ўпэўненых рухах. Ён стаяў да мяне спіной і размаўляў з рабочымі.

— Роза, дык ты зразумела мяне? — гаварыў ён дзяўчыне. — Паднацісні там. Трэба як найхутчэй зрабіць...

— Добра, пастараюся.

— А ты, Валодзя, лезь вунь туды, — брыгадзір паказаў угару, дзе пад адным з акон былі зроблены падмосткі. — Лезь і закладвай праём. Толькі, глядзі, асцярожна...

Васіль накіраваўся ў будынак. Азірнуўшыся, ён убачыў мяне, ледзь прыкметна ўсміхнуўся, пайшоў насустрач. Першае, што мне кінулася ў вочы, гэта яго заклапочанасць. Ад гэтага і ўсмешка была нейкая пахмурая, невыразная. Мы павіталіся.

— Ты чаго тут? — спытаў ён.

— Прыйшоў паглядзець, як ты жывеш.

— Паглядзі. — сказаў ён мякка, і ў голасе яго я ўлавіў сум.

Яму не стаялася, ён як бы парываўся ісці і адначасова стараўся быць уважлівы.

— Ты чаго такі кіслы? — спытаў я.

— Ды-ы... вось сядзім на пераробках. Вясёлага мала.

— Я разумею. Але не вечна ж табе быць тут. Абяцаюць новы аб'ект?

— Абяцаюць. З месяц яшчэ пакалупаемся з недаробкамі... Тут таксама важны ўчастак. Самі пачыналі, самі і заканчваем. А перакінь сюды другую брыгаду, скажуць: «Нічога сабе перадавікі, сабе вяршочкі, а іншым...»

Мне зноў успомніўся той Міша, які назваў брыгадзіраў «каралямі». У нейкім сэнсе Васіль быў іменна каралём, нашым, рабочым каралём будоўлі, які душой хварэе за сваю справу.

— У цябе няма асаблівай прычыны, каб засмучацца, — заўважыў я. — План ліпеня брыгада выканала на сто трыццаць сем працэнтаў. На такім цяжкім участку не ўсякі столькі дасць...

— Але можна даць і больш — сто шэсцьдзесят, сто восемдзесят. Было ж такое, і зусім нядаўна. Чаму мы павінны круціцца вакол гэтых ста трыццаці працэнтаў?..

Мы хадзілі па будынку і ўсюды бачылі занятых нечым людзей: яны муравалі, тынкавалі, падчышчалі, выносілі і прыносілі... Я падумаў, што іменна ў такой абстаноўцы, калі брыгада «сядзіць» на недаробках, і праяўляецца яе боездольнасць. Іншыя брыгады (ведаю з вопыту) падаюць духам, звыкаюцца з думкай, што, колькі ні

**ПЕРШЫЯ ТВОРЫ**



За плячыма ў **Ігара КРАЎЧАНКІ** багаты жыццёвы шлях. Нарадзіўся ён у вёсцы Барысаўшчына Хойніцкага раёна.

Служыў у Савецкай Арміі, удзельнічаў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пачынаючы з 1948 года, працаваў мадэльшчыкам, мастаком-афармiцелем, прарабам, мастаком-рэдактарам.

Першая яго самастойная работа — скульптурная група «Партызаны». Мінскі фарфоравы завод выпусціў таксама статуэткі Ігара Краўчанкі: «Дзяўчынка з грыбамі», «Прыпеўкі», «Цымбалы», «Зубр», «Юнацтва». Яго дыпломная работа ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце — скульптура «Пераможца».



Міхаіл **МЕРАНКОЎ.** Год 41-ы.



Ніна **ГОЛЫШАВА.** Карагод.

Ігар **КРАЎЧАНКА.** Пераможца.




**Аляксандр САЛЬКОЎ.** З ілюстрацый да кнігі пра Георгія Скарыну.





**Аляксандр КРАЎЧУК.** З дэкарацый да оперы Рымскага-Корсакава «Залаты пеўнік».



**Галія ГАФУРАВА.** З дэкарацый да оперы Рымскага-Корсакава «Сказ пра нябачны горад Кіцеж і дзяўчыну Феўронню».



**Закончан працоўны дзень. А брыгадзір** (другі злева) **ніяк не можа расстацца з людзьмі свайго калектыву.**

працуй у такіх абставінах, усё адно нічога не заробіш. Я ведаў толькі два варыянты спатканняў брыгадзіраў з недаробкамі — старыя ваўкі-брыгадзіры іх, звычайна, абмінаюць, зрываючы «вяршочкі», другія, менш спрактыкаваныя, не могуць пераадолець настрой «упадніцтва» ў брыгадзе. Тут я сустрэў трэці варыянт — дружны штурм недаробкаў.

— Слухай, а ўсё такі, што ты тут робіш? — нечакана запытаў у мяне Васіль.

— Хачу напісаць пра цябе...

— Кінь ты!.. Пра што цяпер пісаць?

— Калі на дарозе цяжкасці... — усміхнуўся я.

— Пра ўсё ўжо напісана, — незадаволена сказаў Васіль.

Я зразумеў, што гэта адносіцца да газетчыкаў — надакучылі яны яму — і сказаў:

— Не бойся, я не буду пісаць пра твае ордэны і ўзнагароды. Так што-небудзь... пра работу...

Гаварылі мы з Васілём доўга. Увесь час хадзілі, я прыглядаўся, а ён расказваў пра ўсё проста і шчыра. Потым гэтак жа проста і шчыра сказаў:

— Забавіліся мы з табой Лёня. Работы вунь колькі.

Я глядзеў на яго, нібы зноў знаёміўся з ім, з радасцю пранікаючы ў душу гэтага чалавека. Работа ў брыгадзе складае сутнасць Васілёвага жыцця. Я пераканаўся ў гэтым.

Сакратар камітэта камсамола будоўлі Алег Гамановіч, парывісты і дзелавіты, неяк асабліва ажывіўся, калі гаворка зайшла пра Васіля Нікіценку.

— Ні адна брыгада не зрабіла б на прафілакторыі тое, што зрабілі Нікіценка і яго сябры. Аб'ект гэты важны і цяжкі. Недаробкі, сам ведаеш... Таму і паставілі туды такі згуртаваны калектыў, каб хутчэй закончыць работу.

Алег Гамановіч расказаў, што Васіль ужо даўно хварэе, дактары настойваюць, каб памяняў работу на больш спакойную, але ён адмаўляецца. Прапанавалі пайсці інструктарам райкома камсамола — таксама адмовіўся.

Васіль вучыцца завочна ў Магілёўскім будаўнічым тэхнікуме, перайшоў ужо на чацвёрты курс. Многія з Васілёвай брыгады таксама вучацца: хто ў тэхнікуме, хто ў школе. А Мікалай Раўтовіч, закончыўшы сярэднюю школу, паступіў у політэхнічны інстытут. Ва ўсім гэтым — жывы прыклад самога брыгадзіра.

Брыгадзір рупіцца пра кожнага і паможа ў бядзе таварышу, не лічачыся ні з чым. Людзе Таранавай, напрыклад, не было дзе жыць. Васіль памог ёй атрымаць месца ў інтэрнаце.

У брыгадзе Васіля Нікіценкі дванаццаць камсамольцаў і тры камуністы. Згуртаваўся дружны калектыў. А калектыву, як вядома, усякая задача па плячы! Многія ў брыгадзе працуюць з першага дня будоўлі, а хлопцы, якія былі прызваны на вайсковую службу, вярнуліся зноў у свой калектыў.



Па дарозе назад, з Васілёвай брыгады, мне сустрэліся дзве дзяўчыны.

— Вы з брыгады Нікіценкі? — спытаў я ў іх.

— Так.

— Кажуць, у вас брыгадзір дрэнны, крыўдзіць вас? Мяне во прыслалі справы прымаць, — пажартаваў я.

— Вы трапілі не па адрасе, — хітравата ўсміхнуўшыся, прыжмурыла вочы тая, што ішла наперадзе.

А другая, прайшоўшы некалькі крокаў, азірнулася і дадала не то жартам, не то ўсур'ёз:

— Дарэмна стараецеся. Не аддамо мы Васю нікому...

**Леанід ТРУХАНОВІЧ,**
**муляр будаўнічага**
**ўпраўлення № 122.**

# МІНСК ПЕРАДЮБІЛЕЙНЫ



***Уступіў у дзеянне Мінскі Палац спорту. На штучным ледзяным полі дэбютаваў ужо кіеўскі балет, адбылося шмат хакейных матчаў, многія аматары-канькабежцы ў гарачы жнівень здолелі прыгадаць хараство беларускай зімы — пакоўзацца ў выхадны дзень на каньках.***

***Палац збудаван у сучасных архітэктурных формах. У глядзельнай зале палаца месціцца адразу шэсць тысяч гледачоў.***

***Аўтары праекта — архітэктары Сяргей Філімонаў, Валянцін Малышаў, інжынер Валянцін Каржэўскі.***

***Фота В. ЖДАНОВІЧА.***



У Оршы да падножжа Кургана бессмяротнасці студэнты універсітэта ўсклалі вянок.

# МАРШРУТ ДРУЖБЫ

**Рэпартаж**

...Там, дзе ў бок ад лясной дарогі вяла сцяжынка, падарожнікаў сустрэлі пікетчыкі. Яны не патрабавалі дакументаў і не гаварылі, што далей ехаць нельга, а моўчкі і дакладна вызначалі чырвонымі сцяжкамі далейшы шлях. І вось тыя, хто ехаў у аўтобусах, і тыя, хто стаяў уздоўж лясной сцяжынкі, нарэшце апынуліся ў лагеры. А тут пачаліся размовы, рапарты і песні. І яшчэ спартыўныя гульні. Прытым вельмі захапляючыя і азартныя. Ды і не дзіва, бо, скажам, на футбольнай сустрэчы супраць гаспадароў лагера выступала зборная каманда свету. Вы можаце спытаць, як яна апынулася ў лагеры старшакласнікаў Магілёўскай вобласці? Вельмі проста — да магілёўскіх арлянят прыехалі ў госці студэнты трыццаці сямі краін свету, якія сёлета падарожнічалі ў аўтапоездзе «Дружба» па дарогах Беларусі і Украіны.



Удзельнікі аўтапоезда пабывалі ў партызанскай зямлянцы на востраве Зыслаў.

224 прадстаўнікі Кубы і В'етнама, арабскіх краін і паўднёвай Афрыкі, якія вучацца ў вышэйшых навучальных установах нашай рэспублікі, за трынаццаць дзён праехалі па маршруту: Мінск — Орша — Горкі — Магілёў — Гомель — Чарнігаў — Кіеў — Мазыр — Светлагорск — Бабруйск — Любань — Мінск. Яны наведалі заводы «Электрарухавік» і «Строммашына», пабывалі на камбінаце штучнага валакна ў Магілёве, у Гомелі — на трыкатажнай фабрыцы і на «Гомсельмашы», былі гасцямі на Аршанскім ільнокамбінаце, на Васілевіцкай ДРЭС і ў Светлагорску, а таксама ў калгасах імя XXIII партз'езда на Гомельшчыне і «Чырвоная змена» на Любаншчыне.

Аб тым, якія ўражанні на падарожнікаў зрабілі сустрэчы з рабочымі і калгаснікамі, лепш за ўсё гавораць самі ўдзельнікі аўтапоезда.

Вось некаторыя іхнія запісы.

«Горкі пакідаюць своеасаблівае ўражанне. Гэты горад нагадвае батанічны сад, цудоўны куток прыроды, створаны працай чалавека»,— так напісаў кубінскі студэнт Віктар Бартэлемі, які вучыцца ў БДУ імя У. І. Леніна.

«Мы, в'етнамскія студэнты, якія падарожнічалі ў аўтапоездзе «Дружба», з вялікай увагай агледзелі гэтае гераічнае месца. Нас вельмі кранулі і ўсхвалявалі подзвігі герояў-партызан Беларусі». Так выказаўся Нгуен Ван Дао пасля наведвання партызанскага вострава Зыслаў на Любаншчыне.

«Мы, замежныя студэнты, з вялікім задавальненнем ішлі на сустрэчы з рабочымі фабрык і заводаў, дзе проста ля станкоў маглі абмяняцца думкамі, пагутарыць з рабочымі людзьмі»,— запісалі ў кнізе водгукаў самалійскія студэнты.

Такіх запісаў можна прывесці дзесяткі. І сапраўды, хіба забудзецца хвалюючая сустрэча з баявымі паплечнікамі славутага камбрыга Канстанціна Заслонава ў Оршы, або з сакратаром былога Любанскага падпольнага райкома партыі А. Баравіком і камандзірам партызанскага атрада С. Карнеевым, або з калгаснікамі сельгасарцелі імя XXIII з'езда КПСС! Дарэчы, пра гэтую апошнюю сустрэчу хочацца расказаць крыху падрабязней.

...На ферму госці прыйшлі якраз калі даілі кароў. І вось студэнт Мінскага медінстытута з Руанды Аўгусцін Каліса папрасіў дазволу падаіць карову. Просьбу госця задаволілі, і будучы ўрач бліскуча справіўся з работай даяркі. А ўся справа ў тым, што на яго радзіме кароў дояць толькі мужчыны. Пасля таго як калгаснікі пачаставалі гасцей свежым малаком, аўтобусы з эмблемай «Дружба» і з кветкамі ў вокнах і на радыятарах зноў рушылі ў дарогу. І зноў над палямі і пералескамі Беларусі пачуліся гукі там-тамаў і песні на розных мовах свету. Маршрут аўтапоезда стаў маршрутам міру і дружбы.



*Самуэль Гітау (Кенія) пасябраваў з работніцамі Гомсельмаша.*



У калгасе «XXIII з'езд КПСС», на Гомельшчыне, студэнт Аўгусцін Каліса (Руанда) здзівіў усіх сваім уменнем даіць кароў.

Фота **Т. Старчанкі.**

**Аўгусцін ЮЗАФОВІЧ,**
**намеснік загадчыка аддзела Мінскага гаркома камсамола.**

# ЦЕНІ АЖЫВАЮЦЬ АПОЎНАЧЫ

Чорны «мерсэдэс» імчаўся па шашы з хуткасцю звыш дзевяноста кіламетраў у гадзіну. Шафёр, маўклівы і зацяты, пільна сачыў за дарогай, хоць не спаў ужо некалькі сутак запар. У яго строгі загад—а дзесятай гадзіне раніцы быць у Страсбургу ля атэля «Мэсон-Руж».

На заднім сядзенні, вольна адкінуўшыся, ехаў адзіны пасажыр—пан сярэдніх гадоў. На твары яго блукала самазадаволеная ўсмешка, падкрэсленая элегантнасць дарожнага касцюма выдавала ў ім камерсанта сярэдняй рукі, які рыхтуецца заключыць выгадную здзелку з салідняй і паважанай фірмай. Так, ён сапраўды мог ганарыцца і сабою, і гэтай паездкай. Ён, кіраўнік пятага аддзела ў імперскім міністэрстве гаспадаркі, і раней быў прыкметнай фігурай сярод тых, хто варочае мільёнамі. Але гонар прадстаўляць гэтыя колы за адным сталом з Крупам, з паўнаўладнымі гаспадарамі фірм «Месэршміт», «Рэхлінг» і яшчэ добрага тузіна не менш значных прадпрыемстваў—такое здараецца не часта. Прыўзняты настрой не маглі сапсаваць нават трывожныя загалоўкі ў «Фолькішэр-беабахтэр». «Цяжкія баі на граніцах райха», «Англійскія бамбавозы скідваюць свой смертаносны груз на Гамбург і Мюнхен!»

Што ж, развязка надыходзіць хутчэй, чым меркавалася. Толькі няхай не думаюць янкі і тыя, хто ім падпявае, што, зламаўшы хрыбет Германіі, яны аднойчы не пашкадуюць аб гэтым. А калі так здарыцца, пад сцягамі са свастыкай супраць бальшавізму і яго прыхільнікаў узднімецца ўжо не адна Германія, а ўвесь свет. Пан дастаў з саквояжа пляшку каньяку, глынуў і стомлена прыжмурыўся: не шкодзіла б гадзіну-другую паспаць...

...Нацысты любілі пратакаліраваць падзеі. З канцылярскай педантычнасцю стэнаграфаваліся сходы ў галоўнай стаўцы Гітлера. «Нашчадкам у навучанне» рыхтаваў Гебельс свае дзённікі, неапублікаваныя пры жыцці аўтара толькі таму, што шэф фашысцкай прапаганды да апошніх хвілін баяўся, як бы не прадаць іх занадта танна.

Аб нарадзе ў «Мэсон-Руж» не захавалася ніякіх пратаколаў. Сапраўдныя гаспадары райха—банкіры і прамыслоўцы—лічылі за лепшае не пакідаць пасля сябе ніякіх слядоў. Аднак праз дзесяць месяцаў такія-сякія звесткі пра страсбургскую сустрэчу з'явіліся. У лістападзе 1945 года камісія па расследаванню нацысцкіх злачынстваў зрабіла паведамленне. Яно было такое ашаламляльнае, што калі адзін заходні журналіст назваў сустрэчу ў Страсбургу «сустрэчай у доме вар'ятаў», шмат хто далучыўся да гэтай ацэнкі.

Мяркуйце самі. Злачынцы, зразумеўшы, што вайна прайграна, разважалі не пра тое, як зберагчы скуру, а... пра зброю, патрэбную для стварэння чацвёртага райха. Як сцвярджалася, гэтую зброю павінны былі вырабіць у глыбокай канспірацыі спецыяльныя навукова-даследчыя цэнтры, размешчаныя ў Германіі і іншых еўрапейскіх краінах. І яшчэ адно пагадненне было дасягнута ў «Мэсон-Руж»: нацысцкая партыя перадае прамыслоўцам вялікія сумы грошай, якія павінны быць скарыстаны для стварэння тайных фашысцкіх арганізацый, пераважна за мяжой.

Прайшло дваццаць з лішнім гадоў ад заканчэння другой сусветнай вайны. Таму, хто займаецца даследаваннем вытокаў фашысцкай змовы супраць чалавецтва, сёння не цяжка здагадацца, чаму крах «вялікай германскай імперыі» так званымі «вар'ятамі з «Мэсон-Руж» быў успрыняты з падазроным аптымізмам. Шырока вядомыя сталі факты «традыцыйнага» супрацоўніцтва паміж капіталамі германскай прамысловасці і іх заакіянскімі сябрамі. Калі палалі нашы гарады і вёскі, калі на франтах Айчыннай вайны лілася кроў савецкіх салдат, калі на галовы жыхароў Лондана і Ковентры падалі фашысцкія бомбы, паміж багамі міжнароднага капіталістычнага Алімпа ішоў ажыўлены гандаль сакрэтамі, як лепей забіваць, як удасканаліць машыну смерці, каб яна пры малых выдатках прыносіла салідныя дывідэнды. Пры такім шчыльным супрацоўніцтве не так цяжка было заснаваць «навукова-даследчыя цэнтры», дзейнасць якіх сёння расцвітае пад пільным вокам бонскіх гаспадароў ФРГ. Такім чынам, грошы Гітлера, своечасова перапраўленыя ў замежныя банкі, былі выкарыстаны як належыць. Іменна яны садзейнічалі адраджэнню палітыкі рэваншызму ў Заходняй Германіі, стварэнню арганізацый неанацысцкага руху.

А як удалося здзейсніць другую мэту нацысцкіх главароў—разгарнуць дзейнасць канспіратыўных арганізацый за мяжой? Уявім, што гэтае пытанне мы задалі радавому жыхару адной з краін «вольнага свету», які, зразумела, «не совае нос у вялікую палітыку» і наогул прытрымліваецца «разумнага нэйтралітэту ва ўсім, што яго не датычыць». У адказ мы пачуем прыблізна наступнае: «Паміж хлопцамі Мослі ці Рокуэла і недабітымі гітлераўцамі няма ніякай сувязі. Гэта камуністычная прапаганда. Па-першае, ну якія з іх фашысты? Кажаце, яны малююць на будынках свастыку, распяваюць «Хорст Вессель», перакладзены на англійскую мову? Так, але, выхаваныя ва ўмовах «дэмакратычнага грамадства», яны не пераступаюць мяжы дазволенага, яны не пасягаюць на ўладу, гэтыя юнакі ў экзатычным адзенні штурмавікоў.

Па-другое (тут наш субяседнік хітра прыжмурыцца), дзе доказы сувязі, дзе фотаздымкі Ота Скарцэні ў абдымку з амерыканскім генералам Уокерам, дзе копіі чэкаў, якімі аплачваецца дзейнасць нашых хлопцаў? Няма?»

Ёсць нешта большае. Неабвержныя факты сведчаць, што існуе добра скардынаваная сетка неанацысцкіх арганізацый, што агульнае кіраўніцтва гэтымі арганізацыямі належыць цэнтру, які ўзначальваюць мацёрыя гітлераўцы, і што мары аб стварэнні фашысцкага рэжыму ў некаторых замежных краінах маюць рэальную аснову.

Непадалёку ад сталіцы Злучаных Штатаў, на ціхай вуліцы мястэчка Арлінгтон, знаходзіцца невялікі драўляны будынак. На таблічцы побач з увахадам напісана: «Штаб-кватэра нацыянал-сацыялістаў». Калі б кіраўніку нацыянал-сацыялісцкай партыі Лінкальну Рокуэлу задалі пытанне, хто яго пасадзіў у крэсла «фюрара», ён бы не без гонару адказаў: «Воля лёсу і любоў да нябожчыка, чый дух лунае над намі».

«Верым,—запісана ў праграме нацыянал-сацыялістаў,—што Адольф Гітлер быў дарам вышэйшай боскай сілы для зямнога шара, які знаходзіўся на краі яўрэйска-бальшавіцкай катастрофы. Толькі дух гэтага героя можа даць нам сілу і натхненне для адраджэння». Няцяжка здагадацца, што гэтая лексіка запазычана з прамоў Гебельса і з падручнікаў іншых фашысцкіх галаварэзаў. Тыя таксама трубілі аб «пагрозе з усходу», аб «волі лёсу», які вызначыў «расе гаспадароў» выключнае месца ў свеце. Але падабенства не канчаецца на духоўнай «блізкасці». Як у свой час за спіной «фюрара вялікага нямецкага райха», так і за спіною яго прарока з абліччам гангстара, быццам бы ўзятага напракат у Галівудзе, стаіць капітал.

Многія амерыканскія прамыслоўцы шчодра ўкладваюць грошы ў фашысцкі рух, чакаючы «крытычнага моманту». Але Рокуэл не хоча чакаць. Яго юнакі ў экзатычным адзенні штурмавікоў імкнуцца да ўлады. Была названа дата 1972. Іменна тады Рокуэл збіраецца ў выніку выбараў стаць... прэзідэнтам Злучаных Штатаў. «Як гэта вам падабаецца?»—хочацца запытаць ліберала, прыхільніка гарантаваных канстытуцыйных свабод. «Гэта яшчэ не Амерыка». Ах, вось як? Гэта яшчэ не Амерыка? Амерыцы сапраўды не страшна, што тыпы ў карычневых кашулях па ўсёй краіне распаўсюджваюць сваю атруту?

«Калі я атрымаў пісьмо са штампам нацысцкай партыі Амерыкі,—кажа ветэран вайны з Нью-Йорка,—у мяне пацямнела ў вачах. Папера ўся ў свастыках і падпісана—«Зіг хайль!»

Усё больш амерыканцаў пачынае задумвацца, як магло здарыцца, што нацысцкая прапаганда распаўзлася па Злучаных Штатах. Тых, каго пакуль што не знайшлі лістоўкі з нацысцкім прывітаннем, прымусіць задумацца дзейнасць так званага «таварыства Джона Бэрча».

Калі лідэра «таварыства» містэра Роберта Уэлча журналісты спыталі, ці не ведае ён Рокуэла, былы фабрыкант цукерак, які пад канец жыцця рашыў стаць «фюрарам», здзівіўся:

— Хто? Вы, прабачце, сказалі—Рокуэл?.. Не, такога не ведаю. Узначальвае нацысцкую партыю? Але такой партыі не існуе. Ёсць партыя Джона Бэрча, які загінуў у барацьбе з камунізмам.

«Нацысцкая партыя» па ўплыву, мяркуе Уэлч, знаходзіцца паміж такімі арганізацыямі, як «Крысчэн крузэйд», Ку-клукс-клан, «Дочкі Амерыканскай Рэвалюцыі» і дзесяткамі іншых. А яго арганізацыя мае сваіх хлопцаў нават у кангрэсе!

Як усякі фашысцкі рух, «бэрчызм» валодае тымі ж дэмагагічнымі прыёмамі, што і агітатары Рокуэла, толькі выкарыстоўвае іх з нахабствам, да якога амаль ніколі не ўздымаўся нават іх супольны патрон звар'яцелы Адольф. У сваіх прамовах містэр Уэлч сцвярджае, што ўрад Злучаных Штатаў на пяцьдзесят працэнтаў набраны з камуністаў. Што Эйзенхаўэр, а потым Кенэдзі былі платнымі агентамі Крамля, а з імі заадно працавалі на Саветы былы шэф амерыканскай разведкі Ален Далес і яго брат Фостар, той самы, што акружыў Савецкі Саюз кальцом ваенных баз. Гэтае апошняе сцверджанне было на-

столькі бязглуздае, што ўладальнік каліфарнійскага часопіса ў Санта-Барбара ахвяраваў псіхіятрычнаму аддзелу аднаго з універсітэтаў 2500 долараў узнагароды, калі яго супрацоўнікі дакажуць, што Роберт Уэлч душэўна хворы.

А між тым, Уэлч—дзейнічае... Дзейнічае ў абход канстытуцыі і іншых гарантый, дараваных бацькамі сённяшняга амерыканскага грамадства. Гэта ўжо не толькі пераход праз мяжу дазволенага, гэта—адкрытая крымінальшчына.

На вуліцах гарадоў Каліфорніі, дзе актывізуе сваю дзейнасць Уэлч, часта пачалі з'яўляцца знакі свастыкі. Былі падпалены яўрэйскія сінагогі. «Стыхійны рух натоўпу»,—разводзіў рукамі стары фабрыкант цукерак. Пісьменнік, якому давялося быць сведкам гэтых падзей, запісаў: «Калі мы даведваемся, што нехта штурмаваў Бастылію ці вешаў на ліхтарах ахвяр тэрору, трэба, каб прыйшоў гісторык і выявіў патаемныя пружыны».

Дзе ж яны знаходзяцца, гэтыя «патаемныя пружыны»? Адзін з падначаленых Рокуэла яшчэ ў 1961 годзе з павагай заявіў: «У Арлінгтоне размяшчаецца не толькі кіраўніцтва нацысцкай партыі, але і галоўны цэнтр міжнароднага руху». Фанабэрыя, пыхлівае жаданне ўзняць прэстыж у канкурэнцыі, якая павінна выразіць, чый «фюрар» лепшы. З такім жа поспехам на лідэра можа прэтэндаваць «Такуара» ў Бразіліі, «Чорная рука» ў Калумбіі ці саюз фашыстаў Освальда Мослі, які патрабуе, каб яго называлі «сэрам».

Давайце крыху памяркуем. Калі Гітлер узарваў Веймарскую рэспубліку, ён выкарыстаў лозунгі «бальшавіцкай пагрозы» і «яўрэйскага засілля». Нямецкая буржуазія «клюнула». Пачаўся масавы прыток у нацысцкую партыю. У Злучаных Штатах Амерыкі, у Англіі, Бельгіі, Францыі нацысты таксама трымаюцца на платформе антыкамунізма і расізма. Гітлер заклікаў немцаў, каб тыя адракліся ад прагрэсу. Карэспандэнт амерыканскай «Юнайтэд прэс» пішa пасля размовы з Бэрчам: «Ён фактычна хацеў бы адмяніць XX век. Ён хацеў бы адмяніць усе сацыяльныя і эканамічныя законы, прынятыя за апошнія трыццаць год».

Такім чынам, у якіх бы спецыфічных умовах ён ні вырастаў, не гледзячы на межы часу і на дзяржаўныя граніцы, нацызм захоўвае ідэалагічнае адзінства. Аб'яднаныя ў міжнародны саюз, былыя эсэсаўцы Гімлера складаюць ядро кіраўніцтва дзеючых нацысцкіх партый.

Варта было Ота Скарцэні—кіраўніку мадрыдскага аддзела ХІАГ—з'явіцца ў Злучаных Штатах, як амерыканскія нацысты зараз жа пераймалі ад гітлераўцаў нарукаўныя павязкі са свастыкай і іх прывітанне. Калі ў заходненямецкіх гарадах пачаліся антысеміцкія выступленні, арганізаваныя рэваншысцкай «Райхспартыяй», хваля такіх выступленняў, як па сігналу, пракацілася па Аўстрыі, Бельгіі, Англіі, ЗША, Італіі, Швецыі. Як толькі арганізацыя «ААС» пад назвай «Чорная рука» пачала сваю тэрарыстычную дзейнасць у Алжыры сярод «добраахвотнікаў», аднекуль адразу ж з'явіліся тыпы з прыкметным тэўтонскім акцэнтам, якія быццам толькі гэтага і чакалі.

У чым жа прычына гэткай шчырай падтрымкі?

«Калі мы створым еўрапейскую імперыю,—кажа лідэр фашыстаў Бельгіі Тэйхман,—вось тады мы пачнем размаўляць з СССР. Трэба выратаваць Еўропу ад неграў. У нас ужо ёсць адпаведныя планы. Мы створым арыстакратычнае грамадства. Наша дэмакратыя будзе прамой, містычнай і аўтарытэтнай. Наша ідэя—чацвёрты райх».

Досыць. Круг замкнуўся. Ядавітая змяя, што выпаўзла з падзямелля разгромленага райха, вяртаецца па абсечаны хвост. Памятаеце нашага пасажыра з «мерсэдэса»: «Калі гэта здарыцца пад сцягамі са свастыкай, уздымецца не адна Германія, а ўвесь свет»?

Дайшла да нашага часу сярэдневяковая містэрыя. У глыбокую поўнач, калі ўсе даўно паснулі, выходзяць на запаветнае месца цені мерцвякоў і пачынаюць гутарыць пра ўсялякія цёмныя справы. Адзін абрабаваў сям'ю небаракі-даўжніка, другі хваліцца, што забіў свайго роднага брата, каб не дзяліцца з ім бацькавай спадчынай.

Палітычныя мерцвякі больш агідныя. Яны мараць пра будучыню. Пра карычневую чуму, якая паглыне свет. Пра печы новага Асвенціма, якія пажыраюць мільёны ахвяр, на гэты раз—з усіх пяці кантынентаў.

Яны збіраюцца на засакрэчаных яўках і адкрыта. Яны нецярпліва пазіраюць на гадзіннік, каб не прапусціць умоўнага сігналу. Позна, панове, ваш час даўно прабіў. Вам не дачакацца поўначы.

Уладзімір **ЕЛІСЕЕЎ**.

## Свет у вобразах



*Заплюшчыш вочы толькі на хвіліну —*
*і галава закружыцца ад шчасця:*
*нібы з вяршыні*
*бачыш ты даліну,*
*дзе ўсе пуціны,*
*дзверы й сэрцы — насцеж!*

*Анатоль* ***ВЯЛЮГІН.***

*Фота В.* ***ЖДАНОВІЧА.***

Размова пра майстэрства

**Алесь ЯСКЕВІЧ**

# САМЫ ЛЁГКІ ЦІ САМЫ ЦЯЖКІ?

*Здаецца, што можа быць лягчэйшым за лірычную прозу. Сядлай сваё лірычнае я і, як некалі маладнякоўцы, пішы, захліпаючыся ад захаплення, кідай рваную, ліхаманкава-канвульсіўную фразу, узвінчвай пачуцці да крайняй экзальтацыі і можаш быць упэўнены, што ў такім разгарачаным настроі ўсё, што ні ўзбрыдзе ў галаву, будзе плавіцца ў тваім лірычным тыглі. Праўда, потым з прыкрасцю заўважаеш, што ад гэтага пачуццёвага перахлёсту эмоцыі атрымліваюцца бясколерныя, бляклыя, кніжныя, адбываецца як бы дэвальвацыя іх. Як далёка гэта ад таго, што хацелася сказаць.*

Існуе думка, што арнаменталізм, голая паэтычнасць, праблізнасць стылю лірычнай прозы 20-х гадоў — гэта толькі спецыфічная афарбоўка часу, вынік некрытычнага стаўлення да жыцця маладнякоўца, грудзі якога распіраў «захлёб» рэчаіснасцю. У гэтым ёсць доля ісціны, але, мне здаецца, вытокі лірычнай прозы ляжаць усё ж у больш ранніх традыцыях, і *наша проза ў сваім станаўленні рана ці позна* абавязкова павінна была б прайсці гэтую стадыю.

На пачатку лірычная проза вельмі цяжка давалася бытавой літаратуры. Слова прастамоўнае, бытавое, дыялектнае — не надта каб падатны матэрыял для выказвання музыкі настрою, лірычнага ўзлёту пачуццяў. Яно яшчэ не развіло ў той час адцягненых, пераносных, а значыць, і «лірычных» адценняў.

Адчуваючы недахоп у тонкіх, адценневых сродках выяўлення, маладнякоўская лірычная проза пайшла па шляху інтэнсіўнага, амаль механічнага запазычання сродкаў у паэзіі і асабліва ў песенна-народнай творчасці, шырокага выкарыстання штучных прыёмаў так званай арнаментальнай прозы, замест распрацоўкі мілагучных пластоў нашай мовы, авалодання майстэрствам лірычнай дэталі, павышэння творчай культуры.

Сярод некаторых сучасных літаратуразнаўцаў распаўсюджаны погляд, што пошукі маладнякоўцаў наогул былі памылковыя і, як узор, маладнякоўскай прозе супрацьпастаўляецца проза бытавая. Вядома, значная частка прозы маладнякоўцаў — гэта сапраўды малазмястоўная бурапень, якую толькі і выратоўвалі лірычныя прыёмы і канструкцыі. Але сёння яе трэба ацэньваць больш дыферэнцыявана, з улікам гістарычных умоў і, што немалаважна, стылёва-літаратурных задач, якія стаялі перад ёю.

Лірычная проза мела права на існаванне не толькі таму, што захапленне рэвалюцыяй, успрыманне жыцця дзейсна, горача патрабавала свайго стылю, а і таму, што аналітычная проза адчувала патрэбу ў насычэнні сокамі паэзіі, у інтэнсіўным узбагачэнні сродкамі сумежных відаў і жанраў мастацтва.

Пакаленне празаікаў 30-х гадоў вельмі добра адчувала гэта і сур'ёзна вучылася творчай і ў першую чаргу стылёвай культуры. Творы такіх маладзейшых па тым часе пісьменнікаў, як Э. Самуйлёнак, Б. Мікуліч, В. Каваль, Я. Скрыган і іншыя, нават у неспрыяльных умовах панавання вульгарызатарскай крытыкі ўяўлялі сабой новы сур'ёзны крок у параўнанні з творамі маладнякоўцаў. Дасягненні іх прозы — не толькі вынік высокай прыкладной стылістыкі, дакладнасці слова, а перш за ўсё — вынік пэўнай псіхалагічнай культуры.

Лірычная проза яшчэ толькі фармавалася, а ўжо час паставіў перад ёю сур'ёзныя даследчыцкія задачы. Ён патрабаваў, па сутнасці, перафармавання яе, як жанра: яна павінна была глыбока асвоіць свет чалавечага інтэлекту, пашырыць эмацыянальны дыяпазон, паглыбіцца ў псіхалогію сучасніка, выпрацаваць свае спецыфічныя сродкі выяўлення.

Гэтыя задачы яна вырашала ўжо ў пасляваенны час.

Вельмі шмат зрабіў для развіцця лірычнай прозы Янка Брыль. Пачынаючы ад самых першых твораў («Марыля», «Праведнікі» і «зладзеі»), ва ўсёй яго творчасці побач з бытавой жыццёвай асновай суіснуе лірычнае ўспрыманне жыцця, што ідзе ад вялікай замілаванасці светам, жыццём, чалавекам.

Янка Брыль — лірык па характару свайго таленту, хоць пачынаў ён наогул з эпічных твораў. Магчыма, тут не абышлося без уплыву тых класікаў, пераважна эпікаў, якіх ён выбраў сабе ў настаўнікі, і, вядома, не без «рэкамендацый» тагачаснай крытыкі, якая кваліфікавала лірызм як нездаровую рэфлектыўнасць. Яму нялёгка было тады, у першыя пасляваенныя гады: крытыцы здавалася, што гэты пісьменнік ідзе як бы ў баку ад магістральнага літаратурнага працэсу, і яна патрабавала калі лірызму, дык накшталт маладнякоўскага. Вось чаму сёння ў аповесці «У Забалоцці днее» знаходзіш сляды ружовенькага «захлёбу» жыццём.

Што ж уяўляе сабою лірычная проза, якая мае столькі прыхільнікаў сярод чытачоў? У большасці выпадкаў з лірычнай прозай у нас звязваюць усё, што напісана ад першай асобы. Вядома, сама форма лірычнага «я» дае магчымасць найбольш непасрэдна выказаць тое трапяткое, інтымнае, эмацыянальнае, што вярэдзіць душу. Нездарма вопытныя мастакі раяць маладым аўтарам на пачатку, як найбольш лёгкі шлях, апавяданне ад першай асобы. Але сама па сабе гэтая манера яшчэ далёка стаіць ад сапраўднай лірычнай прозы, якая, дарэчы, вельмі часта выступае і не ад першай асобы.

Гаворку пра спецыфіку лірычнай прозы трэба, мабыць, пачынаць з праблемы чалавечага ідэалу. Лірычная проза найбольш адкрыта выяўляе ідэал — тую праграму дасканаласці, да якой павінен дайсці чалавек.

Узаемадзеянне рэальнага з ідэальным, інтуітыўнае адчуванне ідэалу, пакліч мары нараджае паэзію. Не сагрэты чалавечым пачуццём, не ахутаны «воблакам» настрою навакольны свет, прырода застануцца для літаратуры мёртвымі, нецікавымі, якімі б велічнымі самі па сабе яны ні былі

Лірызм — адзін з самых дзейсных, магічных сродкаў літаратуры. Нездарма сёння мы з'яўляемся сведкамі росквіту лірычнага жанру прозы.

Некалі У. Караленка пісаў Н. Міхайлоўскаму: «Сёння ўжо «гераізм» у літаратуры калі і з'явіцца, то абавязкова «не з галавы», калі ён вырасце, то карані яго будуць... у той глыбокай псіхалагічнай глебе, дзе фарміруюцца наогул чалавечыя тэмпераменты, характары і дзе лагічныя пагляды, пераконанні, пачуцці, асабістыя схільнасці — зліваюцца ў адно псіхічна непадзельнае цэлае, што вызначае паводзіны і дзейнасць жывога чалавека. Мы навучымся разбірацца наогул у душэўных рухах, навучымся не хлусіць у гэтай галіне, не скажаць чалавечую прыроду, а потым ужо з гэтым веданнем дабярэмся і да вышэйшых творча істотных матываў. Мы прызнаем і гераізм. І тады з сінтэзу рэалізму з рамантызмам узнікне новы напрамак мастацкай літаратуры». Распрацоўку культуры выяўлення псіхалагічнага жыцця чалавека Караленка ставіў перадумовай новага мастацтва («сінтэз рэалізму з рамантызмам»), надыход якога ён добра адчуваў.

Лірычная проза прарабіла знешне, можа, не зусім заўважную, але ўвогуле істотную «рэканструкцыю» эпічнага твора, з якога яна вырастала. Яна перанесла цэнтр дзеяння са знешніх паводзін героя ў свет чалавечага інтэлекту, на глыбіннае даследаванне чалавечай псіхікі. Проза ўсё больш і больш звяртаецца да паслуг такіх сродкаў раскрыцця псіхалагічнага жыцця чалавека, як унутраны маналог і няўласна-простая мова. Многія героі Я. Брыля, М. Стральцова, А. Адамовіча, В. Адамчыка жывуць увесь час у напружаным роздуме. Такі Лагацкі («Блакітны вецер») і стары халасцяк Жэнька («Свет Іванавіч, былы Дон Жуан») у Міхася Стральцова, Грыневіч у рамане Уладзіміра Караткевіча «Нельга забыць», Дубовік і Вікторыя ў аповесці Алеся Адамовіча «Вікторыя» Увесь у барацьбе і роздуме, у пошуках адказу на складаныя пытанні, якія ставіць перад ім жыццё, і Алесь Руневіч у рамане Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды».

Былі спробы роздум над жыццём аб'явіць нездаровай рэфлексіяй, капаннем у псіхіцы. Дзіўна адмаўляць літаратуры ў праве выконваць сваю асноўную функцыю — чалавеказнаўства. Рэалістычнаму мастацтву, тым больш мастацтву сацыялістычнага рэалізму, не толькі не супрацьпаказана, а проста неабходна даследаваць глыбінныя праявы духоўнага свету чалавека. Праўда, ёсць істотная розніца паміж даследаваннем псіхікі з улікам вышэйшай задачы, якую заўсёды ставіць перад сабой мастацтва сацыялістычнага рэалізму, і «патокам свядомасці» ў некаторых замежных аўтараў, дзе заведама прадвырашаецца непазнавальнасць псіхічнага жыцця.

У сучаснай прозе распрацаваны прыёмы і сродкі выяўлення дыялектыкі чалавечай душы. Псіхічныя рухі з першага найбольш відавочнага круга («ад нечаканасці пераняло дыханне», «ад гневу твар наліўся чырванню» і г. д.) сёння лічацца безнадзейным штампам. Звярніце ўвагу, як Міхась Стральцоў прасочвае найтанчэйшыя змены ў характары, якія, па сутнасці, ствараюць псіхаграму чалавечага адчування, і як неабходны яму ўсе гэтыя нюансы для выяўлення дыялектыкі чалавечай душы:

«Яна зрабілася нейкай другой, непрыемна і нават нецікава лянівай. Вочы не смяяліся больш, яна жмурыла іх, але яны не смяяліся, і можа ад таго ў яе моршчыўся лоб...

Яна памажнела, але нейкай той знябытлівай, сіратлівай памажнеласцю, што кладзе на чалавека адбітак незразумелай нават яму трывогі і разгубленасці. І яшчэ гэтае плацце — пляжнага крою паласатае плацце з расклёшаным нізам, з каўнерыкам на манер, як у жакецікy. Плацце было трохі зашырокае і неяк па няўклюднаму апрошчвала, зблажала яе».

У цікавым лірычным апавяданні Уладзіміра Мехава «Песня Сольвейг», у якім аўтар спрабуе паказаць багаты свет дзяўчынкі ў тым мілым узросце, «калі арганізм пачынае набрыняць таямнічымі сокамі дарослаці», калі сэрца трывожна стукае ў чаканні першага вялікага пачуцця — у гэтым творы з-за таго. што аўтар не заўсёды валодае дакладным словам, прыкра ўспрымаюцца псіхалагічныя і эмацыянальныя недакладнасці накшталт: «Белы свет адкрываецца чалавеку чароўна-загадкавымі, яркімі фарбамі» або «Яна абурана ірванулася... Але ў яе ўсё роўна перахапіла дыханне і пакутлівай чырванню загарэліся твар, шыя, вушы».

Лірычны настрой вельмі цяжка бывае стварыць толькі праз унутраныя рэаліі псіхікі, і класічная літаратура вучылася паказваць псіхічныя і эмацыянальныя рухі праз знешняе: паводзіны герояў, іх успрыманне навакольнага, у супастаўленні, кантрасце ці гармоніі з прыродай. Сучасная лірычная проза асабліва развівае гэты бок, ператварыўшы, па сутнасці, усё — быт, дзеянне, пейзаж — у свет чалавечага настрою, у якім і праяўляецца чалавечы інтэлект. Пісьменнік разам з асноўным дзеяннем падрабязна выпісвае нейкі рад жыццёвых падрабязнасцей, якія, здавалася б, асаблівага дачынення да дзеяння не маюць. Але яны вельмі дарагія яму, гэтыя дробязі.

«Ён добра помніць: паўцёмны калідорчык, пах сухога спарахнелага дзерава — гэтак пахне заўсёды нежылая хата, а потым нейкая шумліва-радасная нерашучасць перад дзвярмі, а потым яна — нечакана-разгубленая, сарамлівa пачырванелая ў твары. А потым яе разумна-ласкавая ўвага, гаворка шэптам, даўно перагледжаныя часопісы, а потым позні вечар, вільготны пах роснае травы, белае неба на захадзе, гаворка пад акном, шорах матылёў аб шкло — у хаце ціхі позні агонь. І скрып дзвярэй — не спалася ўсё ей, гаспадыні» (Вячаслаў Адамчык «Белы снег»). Погляд на навакольнае, на мілыя дробязі жыцця і выклікае адчуванне паўнаты жыцця. Нішто так не саграваe душу, як вось гэтыя дробязі.

Асабліва ўдаецца перадаць рытм жыцця Янку Брылю. У многіх яго творах паказана, здаецца, зусім эпічная, бытавая плынь, але, асветленая аўтарскім настроем, апавяданне гучыць праніклёна, лірычна. Жыццёвы рытм якраз і ствараецца бытавымі дробязямі, якія набываюць сэнс.

У многіх творах Івана Навуменкі таксама ёсць падрабязнасці, здаецца, не абавязковыя і далёкія ад сюжэта. Але яны носьбіты эмацыянальнага рытму жыцця, настрою, і таму такі ашчадны да іх пісьменнік.

Часам здаецца, што пейзаж у нашых мастацкіх творах стаў нейкі іншы. І сапраўды, самамэтныя замалёўкі прыроды знікаюць са старонак лірычнай прозы як недаравальная раскоша. Пейзаж у літаратуры ўсё больш становіцца «ўмяшчальняю» чалавечага настрою, тыповымі абставінамі для выяўлення чалавечага інтэлекту, «станам чалавека».

К. Паустоўскі ў «Неспакойным юнацтве» пісаў: «...У маім адчуванні прыроды было нешта большае, чым здзіўленне перад яе дасканаласцю...

Гэта было не бязмэтнае замілаванне, а ўсведамленне асяроддзя, без якога чалавеку нельга працаваць на поўную меру сіл. Людзі звычайна ўваходзяць у прыроду, як у адпачынак. Я ж думаў, што жыццё ў прыродзе павінна быць заўсёдным станам чалавека».

Сапраўды, у сучаснай лірычнай прозе пейзаж, прырода неадрыўныя ад чалавечага настрою, чалавечага інтэлекту.

«Спаў горад, нязвыклая таямнічасць панавала наўкол. І такі даступны і недаступны цяпер адзіноце, Лагацкі глядзеў і слухаў — і цішыня, і ноч цяклі паўз яго. Ляцелі на ліхтар сняжынкі, нячутныя і ціхія, бы начныя матылі. Сіпеў і чухкаў недзе ў шэрых прыцемках паравоз. Трапяткі і тонкі праменьчык спускаўся з неба: міргала над горадам зорка. І многае, многае адкрывалася тады і сэрцу, і зроку, і здавалася Лагацкаму, што ён чуе, як вастравата і скупа пахнуць снег пры дарозе і лядок на ёй, і як асабліва густы халадок ідзе ад цэглы, панакіданай ля дома, і як зусім

іншы, скразняковы ветрык дзьме з праёмаў пустых вокан. Сасновай свежасцю патыхала ад штабелю заінелых дошак. І было адчуванне, што вось яшчэ трошкі, варта толькі захацець і напружыцца, як адкрыецца недаступная раней і ніколі яшчэ нязведаная пранізлівасць думкі, як прыйдуць небывалы спакой і яснасць. І ён тады неяк па-новаму гляне на сябе, на людзей» (М. Стральцоў «Блакітны вецер»).

Пісьменнік здолеў улавіць праяўленні чалавечага настрою ў знешнім руху прыроды.

Пры пільнай увазе да псіхічнага жыцця лірычная проза аддае перавагу сюжэту характараў перад сюжэтам падзей, у ёй дзеянне разгортваецца, як правіла, у тэмпе «запаволенай здымкі», персанажы многа сузіраюць, раздумваюць над рэчаіснасцю.

У героя рамана Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды» Алеся, не гледзячы на страшэнную віхуру вайны і палону, з'яўляецца «дзіўнае і недарэчнае» жаданне «спыніцца, паляжаць, падумаць». Гэта яшчэ раз даказвае тую простую ісціну, што актыўнае дзеянне павінна ісці поруч з роздумам, сузіраннем, інакш яно будзе бяздумнай і безразважнай актыўнасцю, якая не заўсёды прыводзіць да мэты. К. Паустоўскі аднойчы сказаў: «Я думаю, што свет у аднолькавай ступені варты павольнага і палоннага сузірання і разумнага магутнага дзеяння. Сузіранне — адна з асноў творчасці і любві да зямлі, у першую чаргу да сваёй, айчыннай».

Лірычная проза шырока карыстаецца такім мастацкім прыёмам, як успамін. Важнасць успаміну хочацца падкрэсліць не толькі ў той сувязі, што для таго, каб скласці правільную канцэпцыю сённяшняй сучаснасці, павінны прысутнічаць усе вымярэнні жыцця, у тым ліку і мінулае, а яшчэ і таму, што гэта адзін з самых экспрэсіўных сродкаў лірызацыі і стварэння настрою.

Усё, што мінула — добрае, дрэннае, цяжкае, трагічнае — за даўнасцю ўспрымаецца эмацыянальна. Мінулае — гэта ўжо нейкая новая рэчаіснасць, яна ў выніку сваёй аддаленасці і, можа, незваротнасці ў нечым падобна на тую рэчаіснасць, якую стварае літаратура.

Мы зусім не за культ успамінаў, успамін цікавіць нас, як прыём шматпланавага пісьма. Дастаткова падаць падзеі праз успамін, як апавяданне набывае дадатковае лірычнае асвятленне, проза становіцца эмацыянальнай, аб'ёмнай, пазбягае аднафарбнасці.

Многія падзеі ў творах Вячаслава Адамчыка, асабліва ў апошнім зборніку «Міг бліскавіцы», пададзены праз прызму ўспамінаў, і адно ўжо гэта напоўніла яго апавяданні дзіўным мігатлівым настроем.

Возьмем хоць бы зачыны некалькіх яго апавяданняў:

«Было трывожна, адзінока і хараша. На свеце быў май, быў гэты моцны гром — першы за доўгую вясну» («Міг бліскавіцы»).

«Быў іншы свет, было маё дзяцінства. Было яно даўно — перамяшанае вайною і страхам» («Раяль з адламаным вечкам»).

«Ятранка... Яна плыве праз маё сэрца: плыткая — вераб'ю па калена — улетку, шырокая, як мора, на згоне зімы. Помню вечар, жоўтае радкавае святло месяца, шум вады за вёскаю на балоце і трэск алешніку — ідуць крыгі...» («Жывая вада»).

Патрабавальны стыліст, Адамчык нават не звяртае ўвагі на аднатыпнасць зачынаў. Яму вельмі важна як мага больш натуральна ўзяць «гук», настрой, і тады падзеі паўстануць ва ўсёй сваёй аб'ёмнасці і шматзначнасці.

Дарэчы, прыём успамінаў служыць зручным сродкам размеркавання матэрыялу ў некалькі планаў, спосабам раскрыцця складанай структуры жыццёвых пластоў. Шматпланавым, аб'ёмным з'яўляецца раман Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды»: тут пакутлівыя блуканні галоўнага героя па акіяне вайны пераплятаюцца з успамінамі дзяцінства, з асэнсаваннем усіх гэтых кровапралітных падзей сучаснікам, які зрабіў крок на парог Сусвету.



Шматпланавае пісьмо патрабуе высокага майстэрства, бо вымагае паказу розных станаў чалавека, розных ракурсаў фабульнага матэрыялу. Вячаслаў Адамчык у апавяданні «Белы снег» не ўсюды спраўляецца са складанай двухпланавай кампазіцыяй. Асноўным планам падаецца прыезд з горада хлопца да сваёй дзяўчыны, якая пасля заканчэння інстытута працуе бібліятэкаркай у мястэчку, другарадным планам — ранейшыя сустрэчы каханых. Але ў абодвух гэтых выпадках псіхалагічны стан герояў застаўся амаль што нязменны. Аўтару не да канца ўдалося прасачыць статычнасць, «застыласць» пачуцця, калі яно на нейкі час перастала развівацца і выклікала ў паводзінах герояў нейкую адчужанасць і нездаволенасць сабой. Значыць, трэба было больш прасвятліць нейкую псіхалагічную грань паміж двума кампазіцыйнымі планамі.

У лірычнай прозе асабліва адчувальна пазбаўленне ад умоўнасці прыёмаў, імкненне да натуральнасці і асабліва да дакладнасці слова ў перадачы сэнсавых нюансаў. Яшчэ Леў Талстой выступаў супраць мастацкай прыблізнасці і патрабаваў перайсці ад паказу крыклівай, перабольшанай красы да дакладнага паказу натуральнасці адценняў: «Бірузовыя і брыльянтавыя вочы, залатыя і срэбраныя валасы, каралавыя губы, залатое сонца, срэбраны месяц, яхантавае мора, бірузовае неба і г. д. сустракаецца часта. Скажыце, сапраўды бывае што-небудзь падобнае?..

Я ніколі не бачыў губ каралавага колеру, але бачыў колеру цэглы,— вачэй бірузовага, але бачыў колеру разведзенай сінькі...»

Лірычная проза мае справу не так з асноўнымі колерамі, як з адценнямі: не толькі асноўнае святло, а і водсвет, светацень, не толькі бляск, а і водбліск, адлюстраванне, калыханне, пераходы, пералівы, бо вельмі ўжо тонкі матэрыял, якім яна аперыруе.

Асаблівую, я б сказаў, бунінскую, дакладнасць мы знаходзім у апавяданнях Вячаслава Адамчыка. У яго вострая памяць на дэталі, зрокавае, адчувальнае ўспрыманне свету, неяк да ілюзіі рэальнага і яркага. Пісьменнік так добра адчувае ўнутранае жыццё слова, яго магчымасці, выяўляе такую смеласць у рабоце з моўным матэрыялам, што яму ўдаецца паказаць найтанчэйшыя сэнсавыя адценні і — што вельмі важна — паказаць памастацку і па-беларуску.

«Дробна і весела званілі ў белай царкве», «на дварэ стаяла рэдкая і халодная віднота — усходзіў месяц: за хатамі трывожна, як на пажар, чырванела неба» або «У тлустых, зеленаватых плямах мазуту, рэдка прыцярушаныя сенам, гладкія камяні мутна блішчалі, як падталы лёд».

У лірычнай прозе існуе складаная ўзаемазалежнасць адчувальнага, слыхавога, зрокавага ўспрымання свету і настрою чалавека. Гэтую настраёвую сувязь колеру і гуку вельмі добра адчувае лірычны герой апавядання Івана Навуменкі «Раман з эпілогам».

«На раз'ездзе пуста і ціха. Цягнік хвілін пятнаццаць як прайшоў. Наступны — у дзве гадзіны ночы. Настрой мой панылы і маркотны. І, мабыць, ад гэтага здаецца змрочным усё наваколле. Будка, у якой жывуць брыгадзір пуцейцаў і абходчык, пафарбавана ў недарэчны жоўты колер. Чаму ў жоўты? Чаму будка не карычневая, не зялёная, не каштанавая? І наогул, што такое колер? Сіняе сутонне вечара заўсёды навявае лёгкую маркоту. Як і цяпер. А сінеча летняга марыва вабіць, хочацца ісці і ісці.

На Сашы была сіняя безрукаўка, дзяўчына стаяла ў белым. Ёсць цесная сувязь настрою, які валодае чалавекам, і колеру...»

Паустоўскі аб прозе Буніна пісаў: «Ёсць нейкая моцная сувязь паміж такімі найтанчэйшымі з'явамі, як святло, пах, гук і колер... Фарба дае пах, святло дае фарбу, а гук узнаўляе шэраг на дзіва дакладных малюнкаў. Усё гэта разам нараджае асаблівы душэўны стан — то засяроджанасці і смутку, то лёгкасці і жыцця з яго цёплымі вятрамі, шумам дрэў, бязмежным гулам акіяна, мілым смехам дзяцей і жанчын».

Сам Бунін у «Жыцці Арсеньева» прызнаваўся, што ён «назаўсёды пранікся пачуццём сапраўды вышэйшага сэнсу і значэння зямных і нябесных колераў. Падводзячы вынікі таму, што дало мне жыццё, я бачу, што гэта адзін з важнейшых вынікаў. Гэтую ліловую сінечу, што свеціцца ў вецці і лістоце, я і паміраючы ўспомню».

Лірычная проза рэзвіваецца па законах асацыятыўнага мыслення. Тая густая метафарычнасць, якую мы сустракаем у таго ж Адамчыка («суха мільгаючы, адсвечвала сонца», «рэдкая і халодная відната», «гладкія камені мутна блішчалі, як падталы лёд», і г. д.), гэтыя скупыя, але трапныя напамінкі вобразаў, па сутнасці, пераходзяць у суцэльны вобразны ток, святло якога ўзнаўляе ў нашых вачах навакольны свет.

Асацыятыўна густая, складаная, нервовая ад таго, што імкнецца паспець за дакладнасцю сэнсу, перагружаная недзе ў нюансах, фраза ў «Птушках і гнёздах» Янкі Брыля. Паліфанічнае ўспрыманне моманту, зближэнне розных, часам далёкіх жыццёвых вымярэнняў задало сваю структуру ўсяму твору, нават у самай малой яго ячэйцы — перыядзе, сказе:

«Увесь сённяшні дзень высока і недасягальна над усім, што давялося перажыць,— ішоў з ім вобраз яго заплаканай маці.

Яна прыходзіла ноччу, знайшла свайго хлопца ў пустым, яшчэ не засыпаным бульбай склепе нямецкага пана, на ласкавым ахапку саломы. І ўсе яе думы, усе пачуцці сышліся ў адным толькі слове:

— Сынок!..

І гэта было так многа — якое там! — Гэта было тады ўсё, што ён мог бы хацець ад жыцця, і ніхто ва ўсім свеце — ён ведае цяпер, такім вялікім — не змог бы даць яму больш».

Мы бачым, як змагаюцца, узаемапранікаюць тут некалькі сэнсавых стыхій. У пекле безнадзейна цяжкага палону, на чужыне Алесю дае сілы ў барацьбе ўспамін святога дзяцінства, заплаканай, у адвечнай журбе па сынах маці.

І яшчэ адзін не менш важны вобразны пласт лірызму — мелодыя прозы. Гэта сапраўдны «механізм» стварэння настрою, па словах Фадзеева, адзін з самых магічных сродкаў сучаснага мастацтва. Мы часта гаворым: добрая проза пабудавана па законах дыхання. Сапраўды, рытм прозы базіруецца перш за ўсё на вымаўляльнай прыродзе натуральнай гаворкі. Паводле фізіялагічных даследаванняў вядомага мовазнаўцы праф. Багародзіцкага, сказ з нармальным аб'ёмам патрабуе па магчымасці аднаго выдыхання. Паветра выдыхаецца за час вымаўлення сказа некалькімі штуршкамі, што і прыводзіць да распадзення яго на некалькі інтанацыйна рытмічных кавалкаў.

«І яно прыходзіла [і шчымліва кралася ў сэрца, [то нечым голасам], [пачутым з карыдора], то скразнячком, [што біўся ў фортцы], то шчодрым пахам вады, [невядома кім распырсканай па падлозе]. Гэта блукаў недзе і трывожыў Лагацкага блакітны вецер». (Міхась Стральцоў, «Блакітны вецер».)

Інтанацыйныя кавалкі, на якія распадаецца сказ пры вымаўленні (коланы), як гэта мы маглі заўважыць на прыкладзе, імкнуцца да раўнамернасці, аднолькавай працягласці. Гаворка ідзе не аб строгай раўнамернасці, а толькі аб тэндэнцыі. Прычым, зусім не ў яе графічнай працягласці, а ва ўспрыманні, пры чытанні.

Так, у сказе «Быў гэты гарадок»: [маленькі, [ціхі], пусты], з вузкімі кароткімі вуліцамі], з нізкімі драўлянымі домікамі [за шчыльнымі і высокімі платамі, [за вішняком], за бэзам... (В. Адамчык «Белы снег») — коланы «ціхі», «пусты» — двухскладовыя, а наступны «з вузкімі кароткімі вуліцамі» — адзінаццаціскладовы, але інтанацыйна яны пастаўлены ў такія пазіцыі, што першы чытаецца надзвычай працягла (узыходзячая інтанацыя), другі з паскоранай спадаючай інтанацыяй і ў выніку ўспрымаецца калі не аднолькава, то не з гэткай розніцай, як графічна. У гэтым сэнс элементарнага інтанацыйнага рытму ўсялякай прозы.



Радзіма **Аляксандра САЛЬКОВА** — вёска Дзяругіна Ясенаўскага раёна Курскай вобласці. Вучыўся ў Новачаркаскім суворўскім вучылішчы, потым скончыў ваеннае вучылішча і стаў афіцэрам Савецкай Арміі. У 1960 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Яго дыпломная работа — ілюстрацыі да кнігі пра Георгія Скарыну.

**ПЕРШЫЯ ТВОРЫ**



Нарадзіўся **Анатоль АРЦІМОВІЧ** у 1940 годзе ў мястэчку Куранец пад Маладзечнам. У інстытут паступіў у 1960 годзе.

Удзельнічаў у конкурсах на праект помніка абаронцам Брэсцкай крэпасці.

Скульптурна-дэкаратыўная група «Юнацтва» выканана Анатолем Арцімовічам. (Гл. 3-ю стар. вокладкі).

Маладая мастачка **Галія ГАФУРАВА** нарадзілася ў 1940 годзе ў горадзе Пскове. Вучылася ў Ялецкім мастацкім вучылішчы, пасля ў мінскім. У 1960 годзе паступіла ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, які закончыла сёлета. Яе дыпломная работа — афармленне да оперы Рымскага-Корсакава «Сказ пра нябачны горад Кіцеж і дзяўчыну Феўронню».



**ПЕРШЫЯ ТВОРЫ**



**Аляксандр КРАЎЧУК** вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, потым — у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Першая яго самастойная работа — афармленне спектакля «Чатыры крыжы» па п'есе А. Дзялендзіка. Гэты спектакль пастаўлены ў Брэсцкім драматычным тэатры імя ЛКСМБ. Дыпломная работа маладога мастака — афармленне оперы Рымскага-Корсакава «Залаты пеўнік».

Нарадзіўся Аляксандр Краўчук у 1936 годзе ў горадзе Брэсце.

Даследаваннямі А. Пяшкоўскага, Б. Тамашэўскага і іншых вучоных устаноўлена, што празаічны рытм імкнецца да больш буйных рытмічных адзінак, чым склад, стапа ў паэзіі. Рытм прозы, як слушна зазначае А. Пяшкоўскі, вагаецца вакол нейкіх іншых цэнтраў, іншых норм, значна больш гнуткіх, з межамі менш пэўнымі. Як мы сказалі вышэй, гэта і ёсць інтанацыйныя кавалкі, на якія дзеліцца пры вымаўленні сказ.

У лірычнай прозе гэтыя інтанацыйныя кавалкі імкнуцца да большай вымаўляльнай ізахроннасці, і, што асабліва важна, інтануемыя словы (блізкія да слоў пад лагічным націскам), якія з'яўляюцца як бы націскнымі цэнтрамі інтанацыйных кавалкаў сказа, адстаяць адзін ад другога прыблізна на аднолькавую колькасць складоў. Так узнікае рытм прозы.

Мелодыя прозы, што стварае эмацыянальную таніраванасць і выяўляе настрой у творы, ёсць, па-першае, сістэма мілагучнасці (чыстаты фону) тэкста, да якой мае схільнасць той ці іншы пісьменнік, па-другое, своеасаблівы інтанацыйна-сінтаксічны малюнак, уласцівы аўтару, і, самае галоўнае, той знойдзены для адпаведнага зместу «гук» (Бунін), г. зн. той рытм, тып інтанацыі, што адбіваецца ў пабудове коланаў. Рытм, які надае апавяданню аўтар,— гэта рытм аўтарскага настрою, рытм аўтарскага ўспрымання жыцця.

Хоць мелодыя па сваёй рытмічнай сіле ў лірычнай прозе вельмі слабая, ледзь адчувальная, усё ж яна адыгрывае сур'ёзную эмацыянальна арганізуючую ролю. На хвалях рытму (вядома, у зрочшанасці са зместам) пранікае ў нашу вобразную памяць танчэйшы лірычны аўтарскі настрой, што так захапляе нас у творы. У рытмічным радзе слова настройваецца на тое адценне, што хацеў задаць яму аўтар. Мелодыя настрою ў спалучэнні з іншымі вобразнымі «пластамі» стварае эмацыянальную танальнасць, так характэрную для лірычнай прозы.

Наогул, тое, што мы называем даволі ўмоўна лірычнай прозай, не што іншае, як пошукі найбольш эканомных і паэтычных форм даследавання багатага жыцця сучаснага чалавека, раскрыцця яго складанай псіхікі, яго настрою.

● ● ●

## Кнігарня „Маладосць“




**СЕНА НА АСФАЛЬЦЕ.** Ужо сама назва другога зборніка апавяданняў Міхася **СТРАЛЬЦОВА** раскрывае тэму кнігі. Герой твораў пісьменніка — інтэлігент-гараджанін, у нядаўнім мінулым жыхар вёскі. Пісьменнік даследуе «ўжыванне» чалавека ў гарадскую атмасферу жыцця, яго складаны і глыбокі ўнутраны свет.



Дакументальная аповесць **А. ЗУБАР, С. САДОЎСКАЙ, Б. СТРАЛЬЦОВА «АПЕРАЦЫЯ «ЗОРАЧКА»** — гэта старонка чалавечай мужнасці і адвагі ў дні Вялікай Айчыннай вайны. Каля двухсот дзяцей, выхаванцаў Полацкага дзіцячага дома, партызаны вывелі, гаворачы словамі аўтара прадмовы Героя Савецкага Саюза У. Лабанка, «літаральна з-пад самага носа ў фашыстаў» і пераправілі самалётамі на Вялікую зямлю. Пра гэтыя падзеі і расказана ў аповесці.

Усе гэтыя кнігі выпусціла выдавецтва «Беларусь» у 1966 годзе.








# ПРАДЧУВАННЕ ПАЭЗІІ

**Хведар ЧЭРНЯ. Добрай раніцы, людзі! Выдавецтва «БЕЛАРУСЬ». Мінск 1966.**

Звычайна чытач пачынае перагортваць новую кнігу спачатку, старонка за старонкай. Бываюць, вядома, і выключэнні. Мне хацелася б, каб выключэнне было зроблена і для кнігі маладога паэта Хведара Чэрні, якая носіць светлую назву «Добрай раніцы, людзі!»

Хацелася б, каб чытач адгарнуў адразу старонку семдзесят восьмую. На гэтай старонцы надрукаваны верш «Галубы». Вось яго пачатак:

Гэтак кажуць спрадвеку:
калі пад страхой
Галубоў завядзецца пара,
Аніколі ўжо самай грознай парой
Перуны ў гэты дом не ўдараць.

Каментарыі тут непатрэбны. Можна толькі падзівіцца дзіцячай наіўнасці нашых не такіх ужо і далёкіх продкаў, якія чым толькі не спрабавалі адкупіцца ад грознай стыхіі. Пра гэта і піша паэт далей:

Ды, бывала, ускочыць чырвоны
клубок,
Палятае пад лавай, ля печкі,
І, аглушаны, біўся ў агні галубок,
І да хмараў жыллё ішло свечкай.

Для мілагучнасці ў двух апошніх радках дзеясловы лепш было б ужыць у цяперашнім часе. Ды справа, аднак, не ў гэтым. У прыведзеных радках — простых, ясных, сціплых — гаворыцца пра спрадвечную трагедыю сялянскай хаты. Слова «трагедыя», магчыма, здасца не да месца хіба што для ўладальніка каменнага дома, але дакладна перадасць адчуванні чалавека, які жыве пад саламянаю страхою.

Але паглядзім далей, як развівае аўтар ужо вызначаную тэму:

А вы чуеце? Чуеце?
Б'юць перуны
Не над вёскай, над цэлай планетай,
І у матак становіцца больш сівізны,
Што дзяцей не прыклічуць з паўсвету.

Тут зроблены плаўны пераход

да другой, па сутнасці, тэмы — да тэмы вайны: ад трагедыі аднаго да трагедыі ўсіх. Пераход адбываецца без нацяжкі, ён натуральны і заканамерны, і, побач з вельмі і вельмі многім другім, гэта якраз і з'яўляецца прыкметай паэтычнага мыслення.

Я знарок прапускаю наступную страфу, у якой гаворыцца пра тое, што ў чаканні матак няма мальбы і нараканняў на лёс — гэта няпраўда. Я пераходжу да апошняй страфы, у якой, як чытач ужо здагадваецца, гаворка зноў пойдзе пра галубоў, таму што яна намецілася ў самым пачатку:

Я ўстаю, і буджу, і кармлю галубоў,
Прывучаю да ласкавых рук чалавека.
Я хачу, каб вялікая мудрасць вякоў
Стала праўдаю нашага веку!

Думка зразумелая: нягледзячы на тое, што народнае павер'е далёка не заўсёды адпавядала таму, што было на самай справе, герой верша не перастае верыць у яго, працягвае замілавана даглядаць галубоў — сімвалаў міру; у вершы, праўда, яны занадта рэальныя, і патрэбна некаторае намаганне чытацкай фантазіі, каб убачыць у іх сімвалічных галубоў. Гэта ды яшчэ тое, што няхітрае павер'е названа «вялікаю мудрасцю вякоў», зніжае ўзровень заключнай страфы ў параўнанні з папярэднімі.

Але справа зноў-такі не ў гэтым.

Чым характэрны верш «Галубы»? Канкрэтнасцю, сур'ёзнасцю і — калі хочаце — патрэбнасцю думкі, выразнасцю мовы, стройнасцю кампазіцыі, гэта значыць усім, што характарызуе сапраўдную паэзію. Карацей кажучы, верш гэты напісаны чалавекам, які валодае бясспрэчнымі паэтычнымі здольнасцямі.

І верш «Галубы» — не адзінкавы. Па-свойму цікава задуманы і напісаны вершы: «Трыснягі» (за выключэннем слабай, надуманай канцоўкі), «Як чакаюць прасторы дажджу штодзень...», «О, незямны гіпноз аэрадромаў!..», «Пад ёлкаю прыземістай, шырокай...» і «Твае вочы — маленькія дзве планеты..» У кожным з вершаў, як верабей у далонях, б'ецца жывая думка, якая ператварае ў паэзію самі па сабе і не вельмі значныя словы.

На жаль, пра вельмі і вельмі шмат якія вершы зборніка «Добрай раніцы, людзі!» нельга сказаць, што яны бясспрэчна належаць паэзіі.

Галоўная, агульная іх бяда — адсутнасць думкі. Тая самая адсутнасць думкі, якая прымушае ўспомніць злосныя словы Гётэ, прыведзеныя Ю. Тынянавым у кнізе «Праблемы паэтычнай мовы»: «Каму ж сказаць няма чаго, той яшчэ можа пісаць вершы і падбіраць рыфмы, прычым адно слова падказвае другое, і нарэшце быццам нешта і атрымліваецца; і хоць яно нічога не азначае, але здаецца, быццам нешта і азначае».

Гэтая заварожанасць магіяй рытму, рыфмы, напеўнасцю паэтычнай мовы вельмі характэрна для Хведара Чэрні. Ды і ці толькі для яго! Усе мы часам думаем, што хвацкае слоўца, моцна закручаны моўны зварот здольны зрабіць сваю справу незалежна ад таго, што іменна яны азначаюць. А падыдзі да іх па-радзішчаўску, перакладзі іх на звычайную, празаічную мову, і стане зразумела, што гэта былі не больш як мыльныя бурбалкі.

Паэзія не церпіць прыблізнасці, недакладнасці ў думках, якія складаюць сутнасць яе; паэзія — галіна матэматычна дакладна выказаных думак. Забыццё гэтага (правіла, ці што) прыводзіць да таго, што многія вершы ў зборніку Х. Чэрні рассыпаюцца на страфы, ніякім чынам адна з другой не звязаныя. У якасці прыкладу прывяду толькі адзін верш, які называецца «Святлана»:

Адтуль, напэўна, з глыбінь часоў,
З далёкіх свят першароддзя
На тоненькіх ножках дажджоў,
На цёплых руках вятроў
Неслі цябе стагоддзі.
Цалавалі мяцелі белыя,
Абнімалі вёсны туманам.
І таму твае косы светлыя,
І таму твае вочы ветлыя,
І названа таму Святланай.

Думка тут, як бачыце, афармлена больш-менш зразумела, хоць афармленне яе прымушае жадаць лепшага: тонкія ножкі дажджоў, цёплыя рукі вятроў, пацалункі мяцеліц, — за ўсім гэтым, па сутнасці, няма ніякага рэальнага зместу.

Але пры жаданні з гэтым яшчэ можна неяк згадзіцца. Прачытаем цяпер другую палову верша:

Грэе сонца прасцяг гадоў,
Толькі людзі не ўсе сагрэты.
Значыць, новае сонца вякоў —
Непагасную нашу любоў —
Трэба нам запаліць над планетай.
Хай трывожны суровы наш век
Шчодрасць сэрцаў нясе пакаленням,
Каб харашэў чалавек,
Каб трывогі не знаў чалавек,
Каб планета ўся цяплела.

Верш на гэтым і заканчваецца. Думка другой яго часткі таксама дастаткова выразная. Калі не звяртаць увагі на празмерна вялікія, проста такі касмічныя маштабы любві, можна згадзіцца з думкаю і ў гэтай частцы верша. Але ніяк нельга згадзіцца з тым, што другая частка хоць як-небудзь суадносіцца з першаю. Касмічная любоў-сонца ніякіх адносін да «радаслоўнай» гераіні верша не мае.

Гэтак жа цяжка знайсці адну злучальную, цэласную, выразную думку ў вершах: «Сахара», «Арлы жывуць пад аблакамі...», «Дамы», «На паўстанках...» і ў многіх іншых.

Хведар Чэрня пакуль што аперыруе абстрагаванымі паняццямі, а не канкрэтнымі рэчамі, прадметамі, з'явамі; ён загіпнатызаваны словамі, а не рэальным жыццёвым зместам, што заключаны ў словах. Як і належыць маладому чалавеку, ён закаханы ў свет, поўны здзіўлення перад ім; але ён яшчэ не здольны паказаць гэты свет так, каб чытач, убачыўшы яго ў канкрэтных вобразах, адчуў бы тое ж самае, што адчувае і паэт. Так, у даволі вялікім «заводскім» цыкле ёсць як быццам бы вершы і пра сяброў па рабоце, і пра родны цэх, і пра абедзенны перапынак, і пра прахадную, але нічога гэтага, па сутнасці, мы не ўспрымаем канкрэтна. Ёсць слова «прахадная», але няма самой прахадной, няма нейкай дэталі, якая характарызавала б іменна тую прахадную, што вяла на завод героя верша. А ўдачы аўтар кнігі «Добрай раніцы, людзі!» дасягае толькі там, дзе ў аснову верша пакладзена нешта вельмі добра яму знаёмае, вывучанае, асэнсаванае («Галубы», «Пад ёлкаю прыземістай, шырокай...»).

Відаць, няма сэнсу ў кароткай рэцэнзіі закранаць так званыя «чыста тэхнічныя» пытанні майстэрства. Пра майстэрства ў поўным сэнсе слова гаварыць яшчэ зарана, а калі ўсё ж такі трэба нешта сказаць, дык першае, што кідаецца ў вочы, гэта — беднасць рыфм, нядбайнасць у адносінах да рыфмоўкі, якая нekaлькі здзіўляе, таму што пачынаючыя паэты звычайна ў гэтай галіне якраз і вызначаюцца стараннымі пошукамі і «наватарствам».

Падсумоўваючы ўражанні ад кнігі «Добрай раніцы, людзі!», магу абсалютна шчыра сказаць, што яна дае падставу спадзявацца на новыя цікавыя сустрэчы з яе аўтарам, і што ўся яна напоўнена праднучваннем паэзіі, а не самой яшчэ паэзіяй. Але няхай, аднак, ніхто не думае, што гэтага мала.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**




# АД БІРКІ ДА АЗБУКІ

**М. А. ПАЎЛЕНКА. Кароткі нарыс гісторыі пісьма. Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1965.**

Усё мае сваю гісторыю. Самыя звычайныя рэчы, якімі мы карыстаемся штодзень, напрыклад, нож, лыжка, відэлец — рэчы гістарычныя. Старэй за ўсё — нож, ён быў яшчэ ў каменным веку. Лыжка з'явілася

толькі тады, калі чалавек навучыўся гатаваць страву. А відэлец нарадзіўся ў Італіі пад канец XVI стагоддзя. Тады была мода насіць высокія каляныя каўняры, якія падпіралі падбародак. Пакласці кавалак ежы ў рот рукой было амаль немагчыма і прыдумалі відэлец, які на першым часе меў два зубцы.

Але ж не адным хлебам жыў чалавек. Некалі ж узнікла ў яго патрэба пашыраць свае зносіны на вялікую адлегласць. А калі? Калі ўзнікла і як развівалася пісьмо, як яно стала, нарэшце, магутным рухавіком чалавечай культуры? На гэтыя і іншыя, звязаныя з імі пытанні і дае адказ кніга Мікалая Паўленкі.

Аўтар пачынае свой цікавы, нават займальны расказ з самых дальніх подступаў. У першым раздзеле «Перадгісторыя пісьма» ён спрабуе высветліць дарысавальны перыяд гісторыі так пашыранага сёння сродку людскіх зносін. Абапіраючыся на зробленыя ўжо даследаванні вучоных, аўтар кнігі прыводзіць шэраг прыкладаў таго, як чалавек на ранніх стадыях свайго існавання арыентаваўся па слядах, па рэчах, што сустракаліся яму на дарозе. Так узнікалі падарожныя знакі — камені, надламаныя галінкі дрэў. Потым замест галінак з'явіліся пакладзеныя на дарозе стрэлы. «Магчыма, — робіць вывад аўтар кнігі, — гэта было адной з першых спроб чалавека перадаць некаторыя свае думкі другім».

Цяжка, вядома, рабіць катэгарычныя сцверджанні. Ды іх у кнізе і няма. Ёсць меркаванні, прадпасылкі, гіпотэзы, абгрунтаваныя пошукамі археолагаў, этнографаў, народнымі паданнямі, даследаваннямі вучоных-філолагаў. Складанае прадметнае пісьмо, вядомае яшчэ задоўга да н. э., калі плямёны ўстанаўлівалі сувязь пры дапамозе асобных сімвалаў, захавалася аж да нядаўняга часу сярод жыхароў Афрыкі. Таму нельга не паверыць англійскім этнографам, напрыклад, што «пісьмо», адпраўленае адным палонным афрыканцам сваёй жонцы ў выглядзе каменя, вугалю, сухога коласа і анучы, чыталася так: «Хаця я целам здароў і моцны (як камень — **У. Ю.**), мае надзеі на будучае змрочныя (як вугаль), маё цела высахне (як колас) ад трывогі і пакут, мой знешні выгляд (як ануча) ужо цяпер сведчыць пра гэта».

А потым было пісьмо кіпу (сістэма шнуркоў з завязанымі на іх вузламі), пісьмо вампум (ніткі з нанізанымі кружочкамі), з'явіліся зарубкі на бірках, на жэзлах вестуноў...

І пачаўся якасна новы этап у гісторыі людскіх зносін — рысавальнае пісьмо, звязанае з выкарыстаннем графічных (рысаваных) знакаў — малюнкаў, літар, лічбаў. Апісанне асноўных этапаў развіцця рысавальнага пісьма і вызначэнне яго тыпаў — піктаграфічнага, ідэаграфічнага, гукавога — і складае асноўны змест кнігі.

Бясспрэчна, што найбольшую цікавасць для нас складае апошні падраздзел «Славянскае і рускае пісьмо». Хіба абмінеш увагай гісторыю распрацоўкі асветнікамі Кірылам і Мяфодзіем першага ўпарадкаванага славянскага алфавіта, дзякуючы чаму «з канца IX ст. славянская славеснасць і культура дасягаюць свайго росквіту», каб потым, у канцы наступнага стагоддзя, перамясціцца «паступова ў Кіеўскую Русь».

Мікалай Паўленка не абмінае ніводнай, выказанай да яго, гіпотэзы пра паходжанне глаголіцы і кірыліцы і пагаджаецца з вывадамі В. Істрына аб тым, што ў славян яшчэ ў перыяд фармавання племяннога ладу (першая палавіна I тысячагоддзя) існавала якоесьці пісьмо тыпу «рысак і рэзаў» — протакірыліца ці протаглаголіца.

Аўтар прыводзіць адзін за другім яркія доказы таго, што задоўга да прыняцця хрысціянства на Русі звярталіся да пісьма з бытавымі мэтамі самыя розныя слаі насельніцтва. А доказы гэтыя — археалагічныя і этнаграфічныя помнікі, многія з якіх узноўлены ў кнізе графічна.

Побач з высвятленнем гісторыі пісьма аўтар звяртае ўвагу на тое, што аж да XIV ст. на Русі асноўнымі пісчымі матэрыяламі былі пергамент, дрэва, бяроста, камень. Пісалі чарнілам — наварам з альховай і дубовай кары ці разведзенай сажай. А размалёўвалі рукапісы рознымі фарбамі і золатам. Толькі ў XIV стагоддзі пачалі прывозіць з-за мяжы паперу, самі ж пачалі яе рабіць яшчэ праз два стагоддзі.

Падрабязна апісаны ў кнізе тыя дзяржаўныя рэформы пісьма, якія праводзіліся ў Расіі, пачынаючы з XVIII стагоддзя. Спачатку была Пятроўская рэформа 1707—1710 гг., калі Пётр I увёў новую грамадзянскую азбуку. Многія непатрэбныя літары былі скасаваны, а астатнія набылі прасцейшую і зручнейшую для друкавання форму. З повяду гэтай рэформы Ламаносаў жартаўліва заўважыў, што «пры Пятры Вялікім не адны баяры ды баярыні, але і літары паскідалі з сябе шырокія футры і ўбраліся ў летняе адзенне».

Руская грамадзянская азбука была пакладзена ў аснову балгарскага і сербскага алфавітаў, пад яе ўплывам сфармаваліся ўкраінская і беларуская пісьмовыя сістэмы. І тое, што аўтар так зацікаўлена прасочвае шлях беларускага пісьменства, які бярэ свой пачатак з сярэдзіны XIII стагоддзя, робіць кнігу з'явай вельмі важнай.

Мікалай Паўленка бярэ за аснову даследавання вытокаў пісьмовай творчасці нашага народа слушную думку аб тым, што «беларускае пісьмо, прайшоўшы шлях, як і рускае пісьмо, ад уставу да скорапісу, крыху **адрознівалася ад рускага** ў палеграфічных адносінах». Пэўнае месца ў кнізе адведзена падрабязнаму аналізу тых асаблівасцей у напісанні асобных літар, якія лішні раз пацвярджаюць імкненне беларускай народнасці да фармавання **сваёй мовы** з уласнымі граматычнымі законамі (напрыклад, карыстанне літарай «э»).

Адметным шляхам ішло развіццё беларускага пісьма. Паўустаў рана саступіў месца скорапісу (XIV ст.), і скорапіс быў інакшы, чым усходнерускі: больш закругленняў, выразнейшая манернасць і адвабочная дэкаратыўнасць у аздабленні хвастоў літар.

Аўтар акцэнтуе ўвагу на той акалічнасці, што фармаванне беларускай мовы было працяглым працэсам і заняло некалькі стагоддзяў, бо вельмі ж ужо неспрыяльныя ўмовы меў народ Беларусі для развіцця сваёй культуры. Нацыянальная культура цкавалася польскімі ўладамі, якія ўмацоўвалі свае пазіцыі на тэрыторыі Беларусі, а пасля раздзелу Польшчы царскі ўрад Расіі таксама не прызнаваў беларускую мову за самастойную.

Праз незлічоныя перашкоды прабівалася беларускае друкаванае слова да свайго народа, карыстаючыся спачатку польскай графікай (творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, газета «Мужыцкая праўда»). Пад канец XIX ст. рускі шрыфт пачынае выцясняць польскую графіку. Хоць, як адзначае аўтар, «у выданнях, надрукаваных рускім шрыфтам, часта не перадаваліся рысы, уласцівыя жывой беларускай мове» («ц» і «дз», нескладовае «у»).

Найбольш плённае прыстасаванне кірыліцы да патрэб беларускага кнігадрукавання прыпадае на пачатак нашага стагоддзя, калі «ў сувязі з рэвалюцыйнымі падзеямі 1905—1907 гг. нараджаецца беларускі легальны друк, ствараюцца першыя беларускія выдавецтвы і канчаткова выцясняецца друкаванне польскім шрыфтам».

Шчыра кажучы, хацелася б мець у кнізе, напісанай беларускім аўтарам, глыбейшае даследаванне ўсіх паваротаў на тым цяжкім шляху, які прайшло беларускае пісьмо, пакуль пасля перамогі Вялікага Кастрычніка не заявіла аб сваім раўнапраўі з іншымі графічнымі сістэмамі славянскай культуры. Зусім абмінуты тыя асаблівыя ўмовы, якія скласіся былі ў Заходняй Беларусі падчас яе дваццацігадовай белапольскай акупацыі. Нічога не сказана аб тых працяглых спрэчках, якія вяліся ў 20-я—30-я гады наконт змен беларускага правапісу, а значыць і графічнай удакладненняў. Успомнен толькі вынік гэтых спрэчак — пастанова СНК БССР 1933 года.

Увогуле, гісторыя развіцця пісьма ад прымітыўных, мнеманічных сродкаў да скарыстання самых дасканалых графічных форм прасочана аўтарам добрасумленна і з навуковай дасведчанасцю. Кніга «Кароткі нарыс гісторыі пісьма» паслужыць не толькі студэнтам філалагічных факультэтаў, але і шырокім колам цікаўных чытачоў.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

# АКАДЭМІК З ВЁСКІ ЛАША

Было гэта гадоў сорак назад. На возе сена ехалі двое — бацька і сын. Дарога з сенажаці да вёскі Кунцаўшчына ідзе праз вёску Лаша. Уязджаючы ў Лашу, бацька прыпыніў на хвіліну каня і сказаў:

— Адсюль, сынку, выйшаў вельмі вучоны чалавек. Кніжак шмат напісаў. Усё пра Беларусь, пра беларусаў.

Бацька назваў і прозвішча вучонага, толькі яно не ўтрымалася ў дзіцячай памяці. Ішлі гады. Хлапчук не бачыў сапраўдных вучоных. Аднак ён стварыў у сваім уяўленні вобраз вучонага: высокі і мажны, з светлымі валасамі і прыгожаю барадою, з вачыма светлавасільковымі... Другое, што не выходзіла з галавы хлапчука, гэта неўразуменне: бедная Лаша, бедна жывуць у ёй людзі, яна бяднейшая за навакольныя вёскі,— і каб з Лашы ды вялікі вучоны?!

Хлапчук з вёскі Кунцаўшчына Гродзенскага раёна пры ўладзе польскіх паноў не змог атрымаць асветы. Атрымаў яе пасля, хоць і са спазненнем, у сталым узросце, ужо ў Гродзенскім педінстытуце імя Янкі Купалы. Тут Апанас Пятровіч Цыхун пачуў і кароткія звесткі пра славутага вучонага — акадэміка Яўхіма Фёдаравіча Карскага. А. Цыхун быў шчасліва здзіўлены: акадэмік Карскі сапраўды быў высокі, статны, прыгожы, з светлым тварам і светлымі валасамі...

Па ініцыятыве і стараннямі А. Цыхуна ў Лашанскай школе, якой прысвоілі імя Я. Карскага, у 1964 годзе створаны музей нашага вялікага суайчынніка. Музей наведваюць штогод тысячы школьнікаў Беларусі і суседняй Літвы. А ініцыятар яго стварэння памагае школе збіраць і папаўняць музей новымі матэрыяламі.

Школьны інспектар Гродзенскага раённага аддзела народнай асветы Апанас Цыхун любіць сваю працу. Наведваючы школы, бываючы ў вёсках, ён абавязкова занатуе ў сваёй запісной кніжцы і народныя песні мілай яму Гродзеншчыны, і тапанімічныя назвы, і дыялектную лексіку, і трапныя народныя выслоўі.

Гадамі збіраў Апанас Цыхун звесткі з біяграфіі свайго вялікага і славутага земляка, вывучаў яго навуковыя працы, лісты, расшукваў фатаграфіі вучонага. Гэтыя матэрыялы і склалі змест альбома «Я. Ф. Карскі. Жыццё і творчасць». Фрагменты альбома і падаюцца тут ніжэй.

**Фёдар ЯНКОЎСКІ.**

*«Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по воздуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобныя боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имеють».*

(*Георгі Скарына.* З прадмовы да кнігі *«Юдзіф»*).

Сярод вучоных, якіх даў свету беларускі народ, цяжка назваць другое імя, якое так цесна было б звязана з гісторыяй і культурай самога беларускага народа, як імя акадэміка Яўхіма Фёдаравіча Карскага. Заснавальнік беларускага мовазнаўства і філалогіі, Карскі ў сваіх працах глыбока даследаваў мову і славеснасць свайго народа і ўсёй сваёй навуковай дзейнасцю садзейнічаў росквіту яго культуры.

Вялікае месца ў працах Я. Ф. Карскага займаюць пытанні этнаграфіі. Этнаграфічная дзейнасць вучонага праходзіла ў напрамках вывучэння межаў этнічнай тэрыторыі беларускай мовы, вырашэння этнагенезу беларусаў у сувязі з фармаваннем беларускай мовы, вывучэння беларускай вуснай паэтычнай творчасці.

За сорак восем гадоў сваёй творчай дзейнасці Я. Ф. Карскі напісаў болей шасцісот прац у галіне роднай мовы, дыялекталогіі, палеаграфіі, старажытна-славянскай мовы, беларускага фальклору і археалогіі...

«Па вывучэнню беларускай мовы і яе гаворак, — піша прафесар П. А. Растаргуеў, — акадэмікам Я. Ф. Карскім зроблена вельмі многа, можа больш, чым па вывучэнню іншых сучасных гаворак рускай мовы». Кожны беларус, які любіць сваю мову, павінен з вялікай удзячнасцю адносіцца да Я. Ф. Карскага, які аддаў усё сваё жыццё вывучэнню беларускай мовы».

За дваццаць пяць кіламетраў на паўднёвы ўсход ад Гродна, з левага боку шашы, якая злучае Гродна з Ваўкавыскам, раскінулася вёска Лаша. Невялічкая рэчка раздзяляе яе на дзве часткі — Малое і Вялікае Сяло.

Вось у гэтай самай вёсцы Лаша 1 студзеня 1861 года ў сям'і вясковага настаўніка і нарадзіўся будучы выдатны вучоны Яўхім Фёдаравіч Карскі.

Дзяцінства Карскага нічым не адрознівалася ад дзяцінства іншых сялянскіх хлапчукоў: сям'я была вялікая, сродкаў для існавання не хапала. У 1874 годзе Карскі скончыў Ятранскую школу. Бацька не меў сродкаў, каб аддаць здольнага сына ў гімназію, і таму аддаў яго ў «бурсу» (духоўнае вучылішча) у г. Мінск.

Пасля заканчэння «бурсы», а потым — духоўнай семінарыі Карскі паступае ў 1881 годзе ў Нежынскі педагагічны інстытут. Яго таварышы па інстытуту ўспаміналі, што ён усіх здзіўляў сваёй выключнай працавітасцю: займаўся да лекцый, пасля лекцый і засынаў з кніжкай у руках.



**Акадэмік Я. Ф. Карскі.**

У 1885 годзе Я. Ф. Карскі выдатна заканчвае гісторыка-філалагічны факультэт Нежынскага педінстытута і атрымлівае пасаду выкладчыка ў Віленскай гімназіі. Адначасова з педагагічнай дзейнасцю ён праводзіць вялікую работу ў рукапісным аддзеле Віленскай бібліятэкі па вывучэнню мовы старажытных беларускіх помнікаў.

У 1891 годзе Я. Ф. Карскі выдатна вытрымаў магістарскі экзамен пры гісторыка-філалагічным факультэце Варшаўскага універсітэта і быў назначаны выкладчыкам універсітэта, а ў 1894 годзе ён ужо — экстраардынарны прафесар Варшаўскага ўніверсітэта па кафедры рускай і славянскай моваў і гісторыі рускай літаратуры.



**Хата, у якой нарадзіўся Карскі.**
Мал. **В. Губара.**



Дванаццацігадовы Яўхім Карскі.

Будынак гімназіі ў Вільнюсе, дзе працаваў Карскі.



У 1905 годзе Яўхім Фёдаравіч Карскі выбіраецца рэктарам Варшаўскага ўніверсітэта і працуе ў ім да 1910 года. Адначасова ён рэдагуе «Русский филологический вестник», які праіснаваў да 1917 года і прынёс вялікую карысць у справе развіцця рускай філалагічнай навукі.

У часе першай сусветнай вайны Я. Ф. Карскі эвакуіраваўся з Варшаўскім універсітэтам у Растоў-на-Доне, а ў 1916 годзе ён выбіраецца ардынарным акадэмікам імператарскай Акадэміі навук.

Карскі любіў просты беларускі народ, багатую родную прыроду. Асабліва падабаўся яму сіні Нёман, яго стромкія берагі з магутнымі асілкамі-дубамі, гонкімі соснамі, стройнымі елкамі, белымі бярозамі. Летні адпачынак ён праводзіў звычайна разам з сям'ёй у вёсках Панямунь і Мігова, якія знаходзяцца недалёка ад Гродна.

Навуковая дзейнасць Карскага пачалася яшчэ ў студэнцкія гады. Ён праявіў вялікую цікавасць да жыцця, побыту, мовы, паэтычнай творчасці беларускага народа. Першай яго навуковай працай было даследаванне «Беларускія песні сяла Бярозаўца Навагрудскага павету Мінскай губерні». Малады даследчык бываў у Гродна, у яго ваколіцах, вывучаў вусную народную творчасць у мястэчках Малая Бераставіца, Свіслач, быў у Навагрудку, Ваўкавыску, Слоніме і іншых мясцінах Беларусі. Вынікам гэтых і іншых паездак з'явілася даследаванне «Агляд гукаў і форм беларускай мовы» (1885), потым з'явілася і другая праца — «Да гісторыі гукаў і форм беларускай мовы» (1893).

9 лістапада 1896 года ў Маскве Я. Ф. Карскі абараніў дысертацыю «Заходне-рускія пераклады псалтыра ў XV—XVII ст.», і яму была прысвоена вучоная ступень доктара. Ён камандзіруецца ў Сербію, Балгарыю і Турцыю для заняткаў у бібліятэках. Вынікам гэтай паездкі з'явіўся «Нарыс славянскай кірылаўскай палеаграфіі» (1901) — выдатны дапаможнік для славістаў і ўсіх, хто цікавіцца эвалюцыяй кірылаўскага пісьма. За гэтую працу Карскі быў удастоены Малой ламаносаўскай прэміі





Яўхім Фёдаравіч з сям'ёй — жонкай Зосяй Мікалаеўнай, дачкой Наташай, сынамі Сяргеем і Яўгенам.

і выбраны членам-карэспандэнтам Пецярбургскай Акадэміі навук.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Я. Ф. Карскі прадаўжаў працаваць з падвоенай энергіяй. Ён быў выбраны прафесарам Ленінградскага ўніверсітэта і членам навукова-даследчага інстытута пры ўніверсітэце. У Акадэміі навук Яўхім Фёдаравіч працаваў у якасці члена праўлення і прэзідыума, дырэктара Музея антрапалогіі і этнаграфіі, старшыні Слоўнікавай камісіі і Камісіі па рускай мове, рэдактара «Известий Отделения русского языка и словесности АН СССР», «Известий по русскому языку и словесности» і «Известий комиссии по русскому языку».

Самымі буйнымі даследаваннямі Карскага гэтага часу з'яўляюцца яго працы «Руская праўда па старажытнаму спісу» і «Нарыс навуковай распрацоўкі рускай мовы ў межах СССР».

У 1924 годзе Яўхім Фёдаравіч быў камандзіраваны Акадэміяй навук на I з'езд славянскіх географаў і этнографаў у Прагу. Ён старшынстваваў на з'ездзе ў першы дзень яго работы і зрабіў даклад на тэму: «Навуковыя дасягненні ў галіне этнаграфіі ў Расіі з 1915 па 1924 год». На рауце ў прэзідэнта савецкага вучонага пасадзілі побач з прэзідэнтам. У 1929 годзе Карскі быў выбраны правадзейным членам чэшскай Акадэміі навук.

Я. Ф. Карскі намеціў шырокую і глыбока прадуманую праграму навуковай дзейнасці ў галіне мовазнаўства. Ён указваў на неабходнасць складання дыялекталагічнага атласа жывых беларускай і ўкраінскай моваў, распрацоўкі гістарычнай дыялекталогіі і гісторыі літаратурнай мовы, складання гістарычных слоўнікаў беларускай і ўкраінскай моваў, поўнага слоўніка жывых сучасных рускай, беларускай і ўкраінскай моваў, указваў на неабходнасць складання поўнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў.

Цікавую старонку гісторыі адкрываюць асабістыя ўзаемаадносіны Карскага з іншымі збіральнікамі і даследчыкамі беларускага



**З'езд славянскіх этнографаў у Празе.** Злева направа — **чэшскія акадэмікі Мурка, Паліўка і беларускі вучоны Карскі.**

фальклору і этнаграфіі, такімі, як М. Я. Нікіфароўскі, Е. Р. Раманаў, М. А. Янчук, У. М. Дабравольскі, М. В. Доўнар-Запольскі, А. Я. Багдановіч і іншымі. Гэтыя даследчыкі былі блізкія па сваіх навуковых і грамадска-палітычных поглядах, любілі Беларусь і яе народ і займалі віднае месца ў беларускай этнаграфіі свайго часу.

Працай усяго жыцця Карскага, якая прынесла яму найбольшую славу, было шматтомнае даследаванне «Беларусы». Збіраючы беларускі фальклор, вывучаючы жывую мову народа, Яўхім Фёдаравіч аб'ездзіў амаль усю Беларусь. Ён лічыў беларусаў карэнным насельніцтвам, якое займае тэрыторыю, заселеную з даўнейшых гістарычных часоў славянскімі плямёнамі, і правільна з пункту гледжання сучаснай гісторыі абгрунтаваў палажэнне аб тым, што беларуская народнасць склалася ў перыяд літоўскага панавання.



**Уладзімір Мікалаевіч Дабравольскі.**



**Мікалай Андрэевіч Янчук.**



**Павел Васільевіч Шэйн.**



У 1902 годзе ў «Могилевских губернских ведомостях» быў надрукаваны артыкул Карскага «Да пытання аб этнаграфічнай карце беларускага племені». Устанаўліваючы межы беларускай мовы, даследчык улічваў не толькі яе фанетычныя, але і марфалагічныя, сінтаксічныя асаблівасці, а таксама лексіку. Летам 1903 года Я. Ф. Карскі арганізоўвае яшчэ адну паездку па Беларусі: ён аб'язджае, пачынаючы з паўночна-заходняй Беларусі, паўночную, усходнюю, паўднёвую і заходнюю межы беларускай мовы са спецыяльнай мэтай — акрэсліць больш дакладна этнаграфічную тэрыторыю беларускага народа і яго мовы, устанавіць па магчымасці мясціны розных беларускіх гаворак.




Аб паспяховасці яго працы можна меркаваць па першым томе даследавання «Беларусы», які быў надрукаваны пасля паездкі на аснове сабраных і правераных матэрыялаў. Першы том «Беларусаў» уяўляе сабой уступ да ўсёй шматтомнай працы. Гэтую выключную ў гісторыі славянскіх моваў працу вядомы лінгвіст І. В. Ягіч назваў у пісьме да Карскага надзвычайнай. У томе дадзены звесткі аб гісторыі беларускага народа, яго тэрыторыі, мове, прыведзены дадзеныя па этнаграфіі, археалогіі, разгледжаны гаворкі беларускай мовы.

Вялікую каштоўнасць уяўляюць раздзелы «Нарыс вывучэння беларускай мовы і народнай паэзіі» і «Нарыс паступовага азнаямлення вучоных з помнікамі старажытнай заходнерускай мовы. Вывучэнне самой мовы». Тут дэталёва разглядаецца гісторыя навукі аб беларускай мове. Даследчык спыніўся літаральна на ўсіх працах, якія ў той ці іншай ступені закраналі беларускую мову.

Ва ўмовах дарэвалюцыйнай Расіі, калі афіцыйныя колы не прызнавалі, што існуе беларускі народ і беларуская мова, калі ў Беларусі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, асаб-



**Еўдакім Раманавіч Раманаў.**



**Адам Ягоравіч Багдановіч.**



**Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі.**

ліва паказальны выбар Я. Ф. Карскім эпіграфа для сваёй працы, узятага з прадмовы Георгія Скарыны да кнігі «Юдзіф». У ім выказваецца мара вучонага бачыць сваю радзіму адукаванай, шчаслівай.

У 1908 годзе ў Варшаве выйшаў першы выпуск другога тома «Беларусаў», у 1911 — другі выпуск другога тома, а праз год — і трэці выпуск другога тома. У гэтым томе даследуюцца старажытныя беларускія помнікі, дадзены жывых гаворак, ёсць раздзелы, прысвечаныя палеаграфіі і сінтаксісу беларускіх гаворак. Акадэмік Б. М. Ляпуноў адзначаў, што другі том «Беларусаў» па дакладнасці апрацоўкі з'яўляецца працай бясспрыкладнай. Другі том, акрамя вялікага навуковага, мае яшчэ і чыста практычнае значэнне. Пазнейшыя складальнікі школьных граматык беларускай мовы шырока карысталіся як навуковымі тлумачэннямі, так і прыкладамі, прыведзенымі ў гэтым томе.

Трэці том «Беларусаў» прысвечаны беларускай літаратуры і змяшчае «Нарысы славеснасці беларускага племені». Першы яго выпуск выйшаў у Маскве ў 1916 годзе, два апошнія выпускі ўбачылі свет пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі (былі надрукаваны ў Петраградзе). Выпуск другі «Старажытная беларуская славеснасць» выйшаў у 1921 годзе, а выпуск трэці «Мастацкая літаратура на роднай мове» — у 1922 годзе.

Карскі даследаваў развіццё беларускай літаратуры, пачынаючы ад яе вытокаў і канчаючы 1921 годам. Што ж датычыць наступнага пакалення беларускіх літаратараў, то даследчык агаворваўся, што для характарыстыкі іх творчасці ў яго не было поўных дадзеных. Але, нягледзячы на гэта, трэці том «Беларусаў» і сёння з'яўляецца найпершым дапаможнікам для тых, хто вывучае беларускую славеснасць.

Я. Ф. Карскі меў намер пасля заканчэння трэцяга тома звярнуцца да праблем беларускай мовы. Ён гаварыў, што «па мове яшчэ прадстаіць велізарная задача складання поўнага беларускага слоўніка, у якім было б указана пры слове — сваё яно ці запазычанае, ці ёсць яму адпаведнае ў асобных гаворках рускай мовы, ці вядома яно было старажытнарускай мове і г. д.»

Вялікае навуковае значэнне маюць працы Карскага па гісторыі рускай мовы, у асаблівасці яго даследаванні па сінтаксісу Лаўрэнцеўскага летапісу, па пісьму і мове Архангельскага евангелля, і іншае, а таксама яго артыкулы, прысвечаныя пытанням развіцця рускай літаратуры.

Яўхім Фёдаравіч Карскі быў чалавекам выключнай працавітасці і сціпласці, ён не любіў гаварыць пра сябе. Калі яму прапанавалі аднойчы напісаць аўтабіяграфію, ён адказаў словамі Ф. М. Дастаеўскага з рамана «Падростак»: «Одно знаю наверно: никогда уже больше не сяду писать мою автобиографию, даже если проживу до ста лет. Надо быть слишком подло влюблённым в себя, чтобы писать без стыда о самом себе...»

У альбоме змешчаны таксама ўспаміны пра Я. Ф. Карскага, з якіх вырысоўваецца вельмі сімпатычны чалавечы воблік вялікага вучонага. Дачка Яўхіма Фёдаравіча ўспамінае, што яе бацька быў душэўна шчодрым чалавекам і нікому са сваіх калег не адмаўляў у дапамозе. І яшчэ ён быў вялікім дэмакратам. Адзіным яго багаццем была вялізная бібліятэка, але і з тым багаццем ён расстаўся без жалю, падараваўшы яе Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту.

Вельмі жывыя ўспаміны захавала пра свайго дзядулю яго ўнучка Тацяна Сяргееўна Карская...

«Усе гавораць пра дзядулю, як пра чалавека вельмі вытрыманага, які ўмеў валодаць сабою. Паходка і ўсе рухі ў яго былі не вельмі хуткія, мова выразная, спакойнага тэмпу.

Рытм жыцця ў доме быў строга падпарадкаваны яго рабоце, як вучонага. Уставалі рана, снедалі, дзядуля браўся за работу. Абед быў у дзве гадзіны, у сем гадзін вечара — вячэрні чай.

Дзякуючы клопатам бабулі, штодзённы стол быў вельмі добры і разнастайны. Часта падаваліся беларускія стравы: бульбяная бабка, аладкі і вараная бульба з кіслым малаком. Кожны дзень к абеду ў маленькім чыгунку варылі



Магіла Карскага на Смаленскіх могілках у Ленінградзе.

кашу: дзядуля лічыў, што без кашы няма абеду. Наогул, у яго захаваліся некаторыя народныя звычаі. Так, напрыклад, я запамятала, як ён рэзаў хлеб у часе абеду. Ён уставаў на ўвесь свой рост і, прыціскаючы да грудзей бохан, кроіў вялікім хлебным нажом роўныя лусты, якія пасля дзяліліся на часткі...

Мой дзядуля ганарыўся сваёй прыналежнасцю да «беларускага племені» і на ўсё жыццё захаваў многія народныя звычаі».

Памёр Яўхім Фёдаравіч Карскі ў 1931 годзе і пахаваны ў Ленінградзе на Смаленскіх могілках.

Беларускі народ свята шануе памяць свайго славутага сына. Імем Я. Ф. Карскага названы школа на яго радзіме, бібліятэка. Штогадзе з дня яго нараджэння ўрачыста адзначалася ўсёй навуковай грамадскасцю Беларусі ў 1961 годзе.

Але найлепшая памяць аб вучоным — гэта штодзённыя сустрэчы сённяшніх землякоў вялікага вучонага з яго цудоўнымі творамі, якія сталі неабходнай духоўнай патрэбаю кожнага адукаванага, культурнага чалавека.




**У ЛІСТАПАДАЎСКІМ НУМАРЫ**

*саракагадовы ШЛЯХ ТЭАТРА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА аглядае тэатразнаўца Анатоль Сабалеўскі.*

**З успамінамі пра МІХАСЯ ЧАРОТА выступае пісьменнік ЮРКА ГАЎРУК.**



# БУЙНЕЙШЫ ГУМАНІСТ АДРАДЖЭННЯ

## 1466—1536

**Да пяцісотгоддзя з дня нараджэння Эразма Ратардамскага**

Шумны гарадскі пляц у Ратардаме. Гандляркі бойка расхвальваюць свае тавары—гародніну, пірагі з мясам, ткацкія вырабы. З усіх бакоў пляц абселі крамы купцоў, яны стаяць усутыч адна каля другой. У крамах важна сядзяць гаспадары, мітусяцца прыказчыкі, прапануючы пакупнікам і дарагія шаўковыя тканіны, і сукны, і чай, і вострыя прыправы для страў. Тут жа, на пляцы, манахі прадаюць індульгенцыі. Індульгенцыі рознага кошту, у залежнасці ад таго, хто ў якой ступені грэшны. Можна купіць індульгенцыі, якія адпусцяць грахі толькі мінулыя, ёсць і такія, якія адпускаюць іх нават у будучым. Грашы, колькі хочаш,—заўсёды можна адкупіцца, было б толькі чым. Кожны заняты сваёй справай, маленькай, надзённай—даражэй прадаць, танней купіць.

Тут жа, на пляцы, паўз доўгія рады крам праходзіць юнак. З выгляду яму гадоў шаснаццаць. Ён нічога не купляе і нічога не прадае. Гэта Дэзідэрый Эразм.

Даўно ўжо вядомы Эразму нягоды жыцця. Яшчэ ў раннім дзяцінстве ён страціў бацькоў, чый шлюб не асвяціла царква. У вачах сытых, тупых гандлярак і абмежаваных бюргераў ён—чалавек ніжэйшай пароды. Эразм часта лавіў на сабе цікаўныя позіркі знаёмых, іх перашэптванні. Ён разумеў, пра што яны гавораць,—ад гэтага станавілася балюча і крыўдна. Адзіным месцам, дзе, як яму здавалася, ён меў магчымасць схавацца ад цікаўных позіркаў, быў манастыр. І Эразм стаў прыслужнікам. Не апошнюю ролю тут адыграў той факт, што Эразму, па прычыне яго «незаконнага» паходжання, нельга было заняць пэўнае становішча ў грамадстве.

У манастыры Эразм меў адносна шмат вольнага часу. Ён з галавой акунуўся ў старыя рукапісы, вывучаў з аднолькавым стараннем «святое пісанне» і творы «айцоў царквы», лацінскую і грэчаскую мовы, гістарычныя хронікі і апісанні іншых далёкіх зямель.

Перад юнаком адкрыўся велізарны свет—далёкі і адначасова такі блізкі. Паводзіны герояў антычнай Грэцыі і Рыма былі Эразму больш блізкія і зразумелыя, чым паводзіны яго сучаснікаў, дзе было столькі несправядлівасцей і крыўд.

Эразм вырашыў сур'ёзна заняцца вывучэннем класічнай філалогіі. Але зрабіць гэта, на яго думку, нельга, не пабываўшы ў бібліятэках Італіі, краіны, якая з'яўляецца прамой пераемніцай антычнай культуры. У Эразма настойлівае жаданне—паехаць у Італію, каб не толькі заняцца вывучэннем старадаўніх рукапісаў, але і быць далей ад тупых, тлустых бюргераў Ратардама, ад іх сытай самазадаволенасці і фанабэрлівасці.

1506 год. У Парыжы ў кнігавыдаўца Бадзіуса спыніўся па справах саракагадовы мужчына. Мужчына гэты—Эразм Ратардамскі, ужо не той ціхі, задуменны юнак, а вядомы ўсёй Еўропе філолаг, вучоны-гуманіст. Ён ужо дамогся прызнання, пакінуў сцены манастыра, двойчы пабываў у Англіі, наведаў некаторыя гарады Францыі, Нідэрландаў, Германіі. Нарэшце пачала збывацца і яго даўняя мара—ён едзе ў Італію і па дарозе спыняецца ў Парыжы, каб выправіць карэктуры сваіх перакладаў з грэчаскай мовы на лацінскую твораў Лукіяна і Эўрыпіда.

Эразм Ратардамскі цяпер ужо ведае, што на свеце няма справядлівасці, што адны жывуць за кошт другіх, што тыя, хто найбольш фанабэрыцца сваёй дабрачыннасцю, з'яўляюцца самымі хцівымі і распуснымі. Тым не менш, дзесьці ў душы было яшчэ спадзяванне, што ў Італіі лепш, чым на яго радзіме, на берагах Рэйна, што там можна знайсці больш справядлівасці.

Знаёмства з Італіяй расчаравала Эразма. З аднаго боку—веліч і прыгажосць палацаў і сабораў, багатая паўднёвая прырода, з другога—такі кантраст багацця і беднасці, які яму не даводзілася бачыць нідзе на поўначы ад Альпаў. У часе падарожжа Эразм увесь час бачыў жабракоў на дарогах і касцельных цвінтарах. Даваць ім хлеб не было каму, сяляне і гарадская бедната самі яго не мелі, а багацеі не хацелі «апусціцца» да таго, каб падаць кавалак хлеба калеку. Больш таго, многія гарады і вёскі ляжалі ў руінах. Справа ў тым, што час падарожжа Эразма ў Італію быў адзначан пажарам вайны, які ахапіў яе паўночныя і сярэднія вобласці. Па краіне праходзілі войскі Францыі, Венецыі і «намесніка Хрыста на зямлі»—рымскага папы. Пастаянныя кантрыбуцыі, грабяжы салдат разаралі і спусташалі цэлыя вобласці.

Эразму сумна было глядзець на чорныя руіны пажарышчаў, глыбокае расчараванне ахапіла душу гуманіста. Але імкненне да ведаў бярэ верх над роспаччу, і ён бачыць свой ідэал у антычнасці, антычнай філасофіі і філалогіі. У Турыне Эразм атрымаў дыплом доктара багаслоўя і падаўся ў Балонню. Пасля Балонні вучоны-гуманіст часова жыў у Павіі, Фларэнцыі, Венецыі, Падуі і Рыме. Вучоныя-гуманісты і багатыя мецэнаты ўсюды яго сустракалі надзвычай ветліва, усюды Эразм знаёміўся са старадаўнімі рукапісамі, вывучаў іх; перад ім была раскрыта нават бібліятэка Ватыкана.

Эразму прапанавалі застацца ў Італіі, займацца класічнай філалогіяй. Ён, у прынцыпе, быў згодзен. Жыццёвыя буры былі для яго, чалавека стрыманага і асцярожнага, не па душы. Ціхая работа кабінетнага вучонага больш імпанавала гуманісту. Але нечакана справы павярнуліся так, што Эразм апынуўся на другім канцы Еўропы, у Англіі, куды яго запрасілі сябры-гуманісты.

Вялікі вучоны-гуманіст бачыў навокал падман і крывадушнасць, зайздрасць і хцівасць. І ў часе падарожжа з Італіі ў Англію, пасля глыбокага роздуму над лёсам чалавецтва, з'явіўся бессмяротны сатырычны твор Эразма—«Пахвала Дурасці», які назаўсёды ўвайшоў у гісторыю сусветнай літаратуры. У сваім творы Эразм паказаў усе заганы тагачасных пануючых класаў, раскрыў усю непрыгляднасць іх дзейнасці. Асабліва дасталося ад яго манахам, тым людзям, жыццё якіх ён добра пазнаў яшчэ ў гады юнацтва. Не абмінуў Эразм у сваім творы каралёў і пап, сказаў пра іх тое, чаго яны варты. Сатыра атрымалася бязлітасная і рэзкая, бескампрамісная ў сваёй крытыцы. Менавіта гэтая сатыра зрабіла яго імя сусветна вядомым, менавіта гэтым творам ён заняў віднае месца сярод буйнейшых сатырыкаў Еўропы.

І хаця прайшло больш за 450 гадоў, як з'явілася ў свет «Пахвала Дурасці», яна не страціла сваёй актуальнасці, надзённасці. Чаго варта выкрыццё Эразмам тупасці, якая абвешана вучонымі тытуламі і падпіраецца высокім становішчам у грамадстве, той тупасці, якая прэтэндуе, што менавіта яна павінна выступаць у судзейскай мантыі! А што значыць выкрыццё Эразмам вучоных-шарлатанаў, якія прэтэндуюць на абсалютную гегемонію ў навуцы, імкнуцца груба, рознымі недазволенымі метадамі прымусіць замаўчаць тых, хто не збіраецца «танцаваць пад іх дудку»! Чаго варта таксама крытыка тых дзялкоў, людзей часам з цёмным мінулым, якія, прыкрываючыся гучнымі, траскучымі фразамі, імкнуцца давесці, што менавіта іхнімі вуснамі «глаголет истина»! Усе гэтыя заганы і сёння бязлітасна бічуе сатыра Эразма—і ў гэтым яе бессмяротнасць, у гэтым яе сусветнае значэнне.

Па сваёй форме твор «Пахвала Дурасці» з'яўляецца пародыяй на панегірыкі. Панегірык самой сабе і розным чалавечым заганам гаворыць

Дурасць, і гэта робіць твор жывым і дасціпным.

Сёння цяжка сказаць, ці чуў Эразм Ратардамскі пра другога свайго вялікага суайчынніка, які жыў у адзін час з ім, пра мастака Іеранімa Босха (1450—1516). Яго карціны на тэмы сучаснасці, і ў першую чаргу «Карабель дурняў», маюць шмат агульнага з творам Эразма. І тут і там высмейваюцца чалавечыя заганы, асуджаюцца адмоўныя рысы ў чалавеку.

Тыя, на каго была разлічана сатыра Эразма, яе не зразумелі або зрабілі выгляд, што не зразумелі. «Пахвалу Дурасці» ўспрынялі за бяскрыўдны жарт. Твор шмат разоў перавыдаваўся ў перакладзе на розныя мовы.

Англія сустрэла Эразма з трыумфам. Віднейшыя вучоныя-гуманісты шукаюць з ім знаёмства. Эразм становіцца выкладчыкам грэчаскай мовы ў Кембрыджскім універсітэце, займаецца вывучэннем твораў «айцоў царквы», каменціруе святое пісанне. Аднак хутка ў Англіі пачаўся палітычны тэрор, загінуў на эшафоце блізкі друг Эразма Томас Мор.

Эразм Ратардамскі зноў шмат падарожнічае па Францыі, Германіі і Нідэрландах, пакуль нарэшце не асталёўваецца ў Базелі. Тут ён прадаўжае займацца класічнай філалогіяй. Тут і памёр у 1536 годзе.

Сёння многае ў Эразма здаецца нам дзіўным і незразумелым. Так, вельмі цяжка растлумачыць яго касмапалітызм, поўную абыякавасць да лёсу роднай зямлі і роднага народа, пагарду да жывой народнай мовы. Дзіўнай здаецца і яго празмерная насцярожанасць, імкненне быць у баку ад надзённых пытанняў сучаснасці. І ўсё ж, Эразм Ратардамскі—адзін з тых волатаў, якія былі неабходны для эпохі і якіх параджала эпоха.

Мікола **ПРАШКОВІЧ.**

# ДЗЕКАБРЫСТЫ НА БЕЛАРУСІ

У Цэнтральным Дзяржаўным гістарычным архіве БССР захаваліся дакументы, звязаныя з імем Міхаіла Іванавіча Пушчына, брата Івана Іванавіча Пушчына, дзекабрыста і сябра А. С. Пушкіна.

У фондзе Мінскага губернскага дэпутацкага сходу захоўваецца прашэнне Міхаіла Іванавіча Пушчына, у той час адстаўнога калежскага сакратара. Ён просіць, каб яго ўнеслі ў радаслоўную кнігу дваран Мінскай губерні. Для ўнясення ў радаслоўныя спісы дваран трэба было прадставіць звесткі аб службе, дваранскім паходжанні, аб наяўнасці маёнткаў і іншае. Такія дакументы Міхаілам Пушчыным былі прадстаўлены. З іх мы даведваемся, што дзед Міхаіла і Івана Пушчыных — адмірал Пятро Пушчын у 1808 годзе завяшчаў маёнтак Парычы Бабруйскага павету свайму сыну Івану — бацьку Міхаіла і Івана, маёнтак Стужкі — Паўлу, маёнтак Качай Балота — дачцы Аўдоцці. Іван Пятровіч і Павел Пятровіч былі ў той час генерал-лейтэнантамі, сенатарамі.

Міхаіл Пушчын, як і яго бацька, быў ваенны. Яго служба пачалася ў 1816 годзе пасля заканчэння кадэцкага корпуса.

У справах Мінскага губернскага дэпутацкага сходу ёсць дакументы, якія пацвярджаюць прыналежнасць Міхаіла Пушчына да дзекабрыстаў, а таксама яго ўдзел у паўстанні. Па прыгавору Вярхоўнага крымінальнага суда 10 ліпеня 1826 года ён быў «пазбаўлен капітанскага чыну і дваранства і сасланы ў Краснаярскі гарнізонны батальён».

Дакументы расказваюць пра тое, што Міхаіл Пушчын прымаў удзел у руска-іранскай вайне 1826—1828 гадоў пры ўзяцці крэпасцей Ерэвана, Нахічавані і іншых. У руска-турэцкай вайне Пушчын быў сярод салдат, якія штурмавалі крэпасці Карс і Ахалцых. За храбрасць ён быў узнагароджаны ордэнамі святой Анны 3-й і 4-й ступеняў. 4 лютага 1831 года Міхаіл быў звонлены з ваеннай службы з «забаронай выязджаць у абедзве сталіцы імперыі».

Жывучы ў еўрапейскай частцы Расіі, Міхаіл Пушчын выконваў даручэнні свайго брата і другіх дзекабрыстаў, якія ў той час былі ў Сібіры.

Па амністыі 1856 года Міхаіл Пушчын быў вызвалены ад паліцэйскага нагляду. У 60-я гады XIX стагоддзя ён жыў у маёнтку Парычы. Потым быў камендантам Бабруйскай крэпасці. На гэтую пасаду яго назначылі ў маі 1865 года, калі яму было шэсцьдзесят сем год і ён меў чын генерал-маёра.

**Елізавета БРАВЕР,**
**старшы навуковы супрацоўнік архіва.**



*Старты і фінішы*

# БЕЛАРУСКІ ПРЫЗ— МАСКВІЧАМ



На ўрачыстым адкрыцці гульняў выступілі спартсмены «Працоўных рэзерваў».

**У пачатку жніўня горача было на мінскіх стадыёнах: тут праходзілі пятыя Усесаюзныя студэнцкія гульні.**

**Беларусы гасцінна сустрэлі спартсменаў з братніх рэспублік. Але ў спорце гасціннасць не азначае**



Аспірантка з Ленінграда Лена Захарава. Мастацкая гімнастыка — яе спецыяльнасць.



Упартая барацьба за секунды ў бегу з перашкодамі на дыстанцыі 3 000 метраў.



Спаборніцтва закончана. Студэнтка з Віцебскага педінстытута Ала Ітсан — абсалютная чэмпіёнка па спартыўнай гімнастыцы.

**сашупаць першынство. Гэта добра зразумелі нашы барцы класічнага і вольнага стыляў, фехтавальшчыкі, штангісты, гімнасты. І быў момант, калі, дзякуючы ім, каманда Беларусі ішла на трэцім месцы. Але нашы іграві кі, легкаатлеты, плыўцы выступілі горш. У выніку беларуская каманда аказалася на сваім «стандартным» пятым месцы, пасля масквічоў, спартсменаў Расійскай Федэрацыі, украінцаў і ленінградцаў. Масквічам быў прысуджаны прыз Савета Міністраў Беларускай ССР. Затое па залатых медалях нашы хлопцы і дзяўчаты выйшлі на трэцяе месца.**

**Студэнцкія гульні называюць яшчэ ўніверсіядай. На жаль, студэнты БДУ на ўніверсіядзе выглядалі горш, чым «вузкія» спецыялісты з Інстытута фізкультуры, БПІ, Мінскага радыётэхнічнага інстытута. Сваёй камандзе яны прынеслі ўсяго сорак ачкоў.**

**Цяпер на чарзе шостыя гульні. Яны адбудуцца ў 1968 годзе. Не варта было б думаць загадзя пра выніі наступнай універсіяды. Але ж у студэнтаў час бяжыць з касмічнай хуткасцю. Беларусам трэба многа зрабіць за два гады, каб урэшце зрушыцца са свайго «стандартнага» месца. У гэтым сэнсе лічба «5» выдатнай ацэнкай быць не можа.**

Фота **В. Ждановіча.**



Самыя няўрымслівыя балельшчыкі.



# ХАКЕЙ СЁННЯ І ЗАЎТРА

Да маразоў яшчэ далёка, а ў новым Палацы спорту — зіма... Самы сапраўдны лёд. А на лёдзе шайба стукаецца і стукаецца аб борт пляцоўкі. Люстраную паверхню лёду пакрэслілі мудрагелістыя ўзоры і лініі. Як тая схема броўнаўскага руху малекул.

Калі б не чэмпіянат свету па футболу, хакей сёлета стаў бы амаль самай папулярнай гульнёю. Тэлебачанне далучае да яго таямніц мільёны людзей. Нават заядлыя дамаседы, якія ніколі не паспыталі, што значыць мерзнуць на трыбунах хакейнага матча, і тыя цяпер ведаюць Рагуліна і Старшынава і, як знаўцы, спрачаюцца пра перавагі шведскай каманды «Трэ крунур» ды канадскай дружыны «Кляновага ліста».

Так, ёсць у хакея свая, асаблівая прывабнасць. Яна і ў незвычайным выглядзе «лёдавых рыцараў», з ног да галавы закаваных у пластмасавыя латы, цяжкіх і няўклюдных з выгляду, але спрытных і імклівых на лёдзе. Яна і ў велізарнейшых хуткасцях, на якіх вядзецца гульня, і ў імгненнасці сітуацый: толькі што варатар адбіў шайбу, а глянеш — атака ўжо ідзе на другія вароты. Але, мусіць, больш за ўсё сімпатый і павагі хакей выклікае адной сваёй абсалютна абавязковай асаблівасцю — мужнасцю ігракоў. Успомніце, як грымяць барты пляцоўкі пад ударамі тых, хто літаральна ўрэзваецца ў іх, успомніце гарачыя схваткі ля варот, прыгадайце, нарэшце, з якой вытрымкай і як бясстрашна кідаюцца абаронцы вобзем, прымаючы шайбу «на сябе». І заўважце, гэта не подзвігі нейкіх хакейных Гераклаў. Гэта — норма паводзін спартсмена на лёдзе, пашыраныя, нават абавязковыя, тэхнічныя прыёмы гульні. А між тым, нават недасведчанаму чалавеку вядома, што хакеіст пры гэтым не надта прыемна сябе адчувае.

Вось чаму ў хакеі не можа быць ігракоў маладушных або баязлівых, ім наогул няма месца на лёдзе, але хоць трохі меней стойкіх, чым таго патрабуюць жорсткія законы гэтай гульні. І здаецца таму, хакейны «балельшчык» адрозніваецца ад футбольнага значна меншай самаўпэўненасцю і большай стрыманасцю ў ацэнках. Калі ідзе футбольны матч, усе робяць выгляд, што ўсё разумеюць, і крытыкуюць ігракоў аўтарытэтна, бязлітасна, а ў хакеі тыя, хто сядзяць на трыбуне, заўсёды памятаюць пра некаторую сваю недасведчанасць у параўнанні з тымі, хто вядзе бой на лёдзе. Між іншым, пра ўсё гэта мінчане да апошняга часу маглі меркаваць толькі адносна. Таму што ніякі, нават самы вялікі тэлевізійны экран не можа замяніць жывога ўражання ад гульні.

Гэтая зіма ўсё пераменіць. Мы далучаемся да хакея на самым вышэйшым узроўні. Мы сваімі вачыма ўбачым развакліваае майстэрства армейскай тройкі «акадэмікаў» на чале з Аляксандрам Альметавым, нястрымную імклівасць і азарт старшынаўскага звяна маскоўскіх спартакаўцаў, мужнасць і сілу Аляксандра Рагуліна,

стойкасць і вытрымку непрабіўнога варатара Віктара Канаваленкі. І за ўсё гэта мы павінны дзякаваць мінскім тарпедаўцам. Сваёй перамогай у мінулагоднім турніры малодшай лігі яны прынеслі цяпер да нас у сталіцу радасці і хвалявання «вялікага хакея».

Мінулы чэмпіянат быў вельмі цяжкі для мінскіх аўтазаводцаў. У самы рашаючы момант турніру яны былі пазбаўлены «родных сцен» — адліга прымусіла перанесці шэраг матчаў з Мінска на штучны каток у Рыгу. І ўсё ж нашы выстаялі! Цяпер такой пагрозы не можа быць. Арэнаю хакейных баталій чэмпіянату краіны будзе новы цудоўны Палац спорту ў Мінску: там лёдавая пляцоўка гатова прыняць спартсменаў заўсёды, нават у самы гарачы летні дзень.

Каманда «Тарпеда» ў мінулым сезоне паказала сябе дружным, згуртаваным калектывам, які здольны вырашаць складаныя і сур'ёзныя задачы. І тым не менш, склад каманды сёлета значна абноўлены. Шмат ігракоў запрошана з другіх гарадоў краіны. У большасці гэта — вопытныя майстры, якія ведаюць, што такое спаборніцтвы ў вышэйшай лізе. Такі метад камплектавання каманд сустракае ў некаторых пярэчанне. Празмерна старанныя прыхільнікі «чысціні» беларускага хакея дакараюць кіраўнікоў каманды за схільнасць да прывозных ігракоў. Але трэба цвяроза ацэньваць свае магчымасці і глядзець праўдзе ў вочы. Зразумела, што камандзе «Тарпеда» яшчэ не пад сілу сапернічаць на роўных з асамі з ЦСКА або маскоўскіх «Спартака» і «Дынама». Перад аўтазаводцамі стаіць іншая задача: замацавацца ў першай групе класа «А», а для гэтага трэба апярэдзіць нямала вопытных калектываў. Многім хакеістам ранейшага складу каманды не хапала майстэрства, вопыту і іншых якасцей. Каб захаваць у вышэйшай лізе месца за беларускай камандай, прыйшлося пайсці на такі вымушаны, але пакуль што неабходны сродак, як запрашэнне вопытных ігракоў з Падмаскоўя і Сібіры.

Хочацца верыць, што сённяшняе «Тарпеда» ўвайшло ў першую групу не на адзін год. Першыя кантрольныя гульні, якія адбыліся пад канец лета, і наступныя матчы паказалі боездольнасць калектыву і яго асобных звенняў, упэўненае майстэрства, працаздольнасць і самаахвярнасць большасці ігракоў. Бясспрэчна, што з мінчанамі давядзецца лічыцца не толькі іх непасрэдным сапернікам, але і некаторым «старажылам» вышэйшай лігі.

Аднак, калі сур'ёзна весці гаворку пра будучыню беларускага хакея, трэба зазіраць наперад не на адзін дзень, а значна далей. Разлічваць і далей толькі на запрашэнне моцных майстроў з іншых рэспублік нельга. Калі мы хочам, каб поспехі нашага хакея былі трывалыя і працяглыя, для яго трэба рыхтаваць рэзервы, каб забяспечыць добрае папаўненне. Такія рэзервы рыхтуе масавы юнацкі і дзіцячы хакей. Шчыра кажучы, раней яго не было. Бытавала доўгі час думка, што зімовыя віды спорту не могуць развівацца ў Беларусі з прычыны неспрыяльных кліматычных умоў. Такая думка была вельмі зручная для некаторых нядбайных спартыўных кіраўнікоў, якія не жадалі абцяжарваць сябе лішнім клопатам. Але ж з беларускіх спартсменаў прабіваліся на шырокую арэну і моцныя лыжнікі, і выдатныя канькабежцы, і нават чэмпіёны па саскоках з трampліна. Яны былі адзінкамі, але вельмі прыкметнымі.

Старты трэцяй зімовай Спартакіяды народаў СССР у нас у рэспубліцы былі сапраўды масавыя, а ў фінальных спаборніцтвах многія беларускія спартсмены выступілі на дзіва ўдала. Адной з самых вялікіх нечаканасцей турніру па хакею было з'яўленне беларускай каманды ў шасцёрцы фіналістаў. Нашы тарпедаўцы апярэдзілі каманду Маскоўскай вобласці, прадстаўленай хакеістамі васкрасенскага «Хіміка» — вопытнага калектыву, які ўжо даўно выступае ў вышэйшай лізе. І гэта нягледзячы на тое, што ў хакейным турніры выступалі маладзёжныя каманды. Майстры мінскага «Тарпеда» маюць, такім чынам, нядрэнны рэзерв, ужо выпрабаваны ў адказных спаборніцтвах. З ігракоў маладзёжных каманд у калектыў майстроў прыняты варатар Е. Акрайка і нападаючы К. Юфа.

Вялізную папулярнасць набыў хакей за апошні час у падлеткаў. Хлапчукоў, узброеных саматробнымі клюшкамі, можна цяпер сустрэць у кожным двары. Сотні каманд домакіраўніцтваў прынялі летась удзел у розыгрышы прыза «Залатая шайба». Але вось трывожны сігнал: рэспубліканскія спаборніцтвы так і не былі давезены да канца, і беларуская каманда не выступала ва ўсесаюзным фінале. Вялікая віна кладзецца тут на арганізатараў — камсамольскія арганізацыі і федэрацыі хакея на месцах. Гэтай зімою памылка не павінна паўтарыцца.

Вельмі важна цяпер накіраваць масавае захапленне дзяцей хакеем у арганізаванае рэчышча. У дваровых камандах дзеці могуць набыць толькі самыя пачатковыя веды пра гэтую складаную гульню. А далейшае ўдасканаленне навыкаў і асваенне майстэрства павінна ісці ў дзіцячых спартыўных школах і секцыях. Такіх жа ў нас у рэспубліцы пакуль што адзінкі. Тут дае сябе адчуць некаторая сіла інерцыі органаў народнай асветы і спартыўных таварыстваў прафсаюзаў. Трымаючыся старых звычак, яны ніяк не адважацца даць хакею тыя ж правы, што і ўсім астатнім відам спорту, асабліва летнім.

У зімовых пейзажах нашых гарадоў, нават там-сям у вёсках, усё часцей і часцей з'яўляецца новая дэталь — хакейная пляцоўка. Лёдавыя пляцоўкі будуюцца ў садах і парках, каля заводаў і на школьных сядзібах. Але калі гаварыць сур'ёзна пра значны рост майстэрства, дык чатыры барты, што абмяжоўваюць лёдавую паверхню, — гэта яшчэ далёка не ўсё, што трэба хакеісту. Патрэбен хоць бы мінімальна неабходны інвентар, каб падтрымліваць лёд у належным стане і прыбіраць снег зімою. Неабходна электрычнае асвятленне, каб пляцоўка не пуставала доўгімі зімовымі вечарамі. Спартыўныя ж арганізацыі часта імкнуцца толькі да павелічэння колькасці пляцовак, каб бліснуць у справаздачы эфектнай лічбаю, і значна менш клапоцяцца пра якасць і абсталяванасць пляцовак.



Атака.

Мінулай зімою ў часе ўсесаюзных юнацкіх спаборніцтваў у Мінску мне давялося гутарыць з кіеўскімі юнакамі і іх трэнерам. Дынамаўцы ўкраінскай сталіцы другі год выступаюць у вышэйшай хакейнай лізе, і, натуральна, праблема рэзерваў іх таксама хвалюе. Аднак на турніры ў Мінску каманда юных кіяўлян выглядала зусім не на вышыні, калі не сказаць — бездапаможна. У Кіеве пабудаваны цудоўны Палац спорту, ён нават больш прасторны, чым мінскі. Створаны балет на лёдзе, сфармавана каманда майстроў-хакеістаў. А вось хлопцаў туды не пускаюць. Арандаванне лёдавага поля не па кішэні шэфам дзіцячай каманды. Вельмі хацелася б, каб не здарылася так у Мінску.

Хакей даведў свае правы лічыцца круглагадавым відам спорту. Два-тры месяцы на лёдзе — гэта вельмі мала, каб авалодаць сапраўдным майстэрствам. Між іншым, лепшая савецкая каманда ЦСКА штогод атрымлівае цудоўнае папаўненне са сваіх юнацкіх груп таму, што на штучным катку, які належыць армейскаму клубу, падлеткі карыстаюцца роўнымі правамі з майстрамі.

З'яўленне Палаца спорту ў Мінску было вялікай радасцю для спартсменаў. Умовы для развіцця хакея ў нашай рэспубліцы значна

паленшыліся. Але ці не час падумаць пра стварэнне штучных катkoў і ў іншых беларускіх гарадах? Калі адкінуць нікчэмнае пражэкцёрства, не імкнуцца будаваць раскошныя харомы, а выбраць праекты больш рацыянальныя і танныя, задача будзе зусім рэальнаю.

Беларускі хакей ужо справіў дзень свайго нараджэння. Перад ім адкрываюцца вялікія перспектывы. І вельмі хацелася б, каб заўтрашні дзень прынёс яму сапраўдную сталасць і высокае майстэрства.

**Міхаіл СУПАНЕЎ.**

# РАТАМСКАЯ КАВАЛЕРЫЯ

**Фотанарыс Валянціна ЖДАНОВІЧА**



— Фосфар! Фосфар! Ай, Фосфар... Дрыжыць зямля, дрыжаць храпы, трапечуць літыя мускулы пад цёмнай глянцавітай скурай, а вочы блішчаць. Радасны вокліч вырываецца ў цёплую бездань неба!

Яму пяшчотна гладзяць шыю, яго чысцяць і мыюць, і ад кожнага дакранання, ад кожнага струменьчыка вады ён уздрыгвае і весела фыркае. А яго, моцна трымаючы за повад, песцяць і лашчаць, прыгаворваючы:

— Ну ты, маленькі! Ай, малы! Ай, Фосфар!..

І Фосфар у адказ б'е капытом зямлю, заліваецца гучным іржаннем.



Бахра адмовілася браць перашкоду.

Фосфару два гады, і ніхто яшчэ не сядзеў на яго спіне. Ён высокі і стройны, дужы, — два конюхі ледзь трымаюць яго. Хто ні гляне, адразу скажа: гэта сапраўдны скакун, і быць яму добрым спартсменам.

У Фосфара шэсцьдзесят калег — прыгожых спартыўных коней. Вось славутая Экстра, якая бярэ перашкоды вышынёй 170 сантыметраў; на ёй у 1965 годзе майстар спорту Юры Зябраў заваяваў кубак краіны. Вось Бастыён. Разам з Іванам Смародзіным ён стаў чэмпіёнам рэспублікі...

Конскія мянушкі вельмі дасціпныя, і толькі на конных заводах вядома, па якіх асацыяцыях яны ўтвараюцца. У адной стайні знаходзяцца два «літаратурныя» імёны: Бумага і Эпіграф. Побач «імя матэматычнае» — Сінус. І як іронія над аўтарам гэтых радкоў — гнядая Дыяфрагма ды бялюткі жарабец Пазітыў.





Спуск з гары.

У кожнага каня свая гісторыя (і ў адпаведнасці з гэтым адна кабыла нават завецца Гісторыяй), у кожнага каня свой нораў, тэмперамент, густ, звычкі, гэта значыць — плюсы і мінусы.

Спартсмены і трэнеры тыя плюсы і мінусы павінны ведаць выдатна і дакладна ўзважваць. Бо гэта вам не веласіпед і не футбольны мяч, а жывая істота. Поспех да конніка прыходзіць толькі тады, калі ён зразумее каня, а конь будзе добра разумець свайго гаспадара. І як толькі ў конна-спартыўную секцыю трапляе навічок, перад трэнерам паўстае праблема: якога каня яму падабраць? Стрыманаму наезніку даюць гарачага каня, спакойны конь дастаецца тэмпераментнаму хлопцу. Такім чынам дасягаецца раўнавага двух жывых істот — чалавека і каня.

Але ўзаемадзейнічаць яны не скора яшчэ пачнуць, бо конны спорт здаецца прыгожым і джэнтльменскім толькі звонку, а на самой справе гэта цяжкая і марудная праца. Не на адзін тыдзень праца, а на доўгія гады. Трэба мець і сілу, і розум, і спрыт, і адвагу, і яшчэ нейкую якасць, каб адчуваць каня тонка і дакладна, адчуваць ягоную магчымасць і любое яго жаданне.

Калі пабыць на трэніроўцы не вельмі вопытных коннікаў ды паслухаць каманды трэнера, і яго каментарыі, а потым і самому паспрабаваць паездзіць на якім-небудзь Сінусе ці Лаку, то стане зразумела, што магчымасці каня трэба як мага пашыраць, а яго жаданні, як правіла, падаўляць. Праўда, пачынаючы наезнік



Трэнер Яраслаў Сарнацкі са сваім любімцам Пламенным.

атрымоўвае ўжо абучанага каня, і пакуль чалавек зразумее тую «адукацыю», якую прайшла жывёла, усе шышкі падаюць на яго галаву. Конь толькі «пасмейваецца» і імкнецца зрабіць па-свойму.

...Ходзіць па кругу дзесятак коней: то крокам, то рыссю, а ў сёдлах — хлапчукі год па 14—16. Стараюцца хлопцы з усяе моцы правільна трымацца ў сядле, аж успацелі, аж пара валіць з іх (коням хоць бы што!), а трэнер Рэспубліканскай конна-спартыўнай базы Яраслаў Сарнацкі ўсё не задаволены:

— На Бахры, стрэмя папраў!

— На Сінусе, сядзі прама! Прагні паясніцу!

— На Бумазе, адпусці повад! Нагамі трымайся!

— Ізіда, не адставай!

— Увага! Вольт... налева! Вольт... направа!

— На Бахры, не страляй стрэмем! На Сінусе...

Так цэлую гадзіну. А наогул заняткі ў манежы — гэта дзіцячая гульня, гэта яшчэ кветачкі.

У полі намнога цікавей, затое цяжэй. Спачатку коні ідуць рыссю па мяккай дарозе, па вузенькай сцяжынцы. Тут глядзі, каб Сінус блізка не падышоў да Хрустальнай, бо тая можа ўбрыкнуць, ды правільна трымайся ў сядле. Коні з ахвотай праходзяць праз ручай і падымаюцца на круты ўзгорак. Тут і пачынаецца: як толькі коннік з'едзе ў нізіну, конь затанцуе на месцы, а няўмелыя яшчэ рукі цягнуць повад на сябе, і конь ўпіраецца, ніяк не ідзе ўніз.

— Шэнкелі, шэнкелі Сінусу!

З сядла ўзгорак здаецца яшчэ вышэйшым. Каню не страшна, страшна конніку, рухі яго становяцца разгубленымі, і конь гэта добра разумее. І натурыцца.

— Трымай повад! Шэнкелі! — настаўляе Яраслаў.

Ну, урэшце, спусціліся. А з боку чыгункі нарастае гул і грукат. — коні падтулілі вушы, нервуюцца: электрычка іх нервуе. І толькі крыху супакоіліся, як на табе: з-за лесу выскачыў матацыкліст! Зноў амаль паніка, зноў пайшлі ў ход самыя надзвычайныя меры. Вось што такое язда ў полі!

Характар чалавека і характар каня пасапраўднаму праяўляюцца на канкуры. Канкур — гэта комплекс штучных перашкод. Навічку такое выпрабаванне не пад сілу.

Юра Крывіцкі, вучань 8-га класа Ратамскай сярэдняй школы, на сваім Старце бярэ перашкоды даволі прафесіянальна. Ён займаецца конным спортам ужо другі год. А вось Валодзя Парахневіч, таксама школьнік, адчувае сябе няўпэўнена. Валодзя спрабаваў скакаць на Гісторыі, на Хрустальнай, на Бахры, урэшце трэнер даў яму Бумагу, а Бумага, падыходзячы да перашкоды, рэзка кідаецца ўбок і... нумар не ўдаецца. Валодзя спрабуе і так, і гэтак, трэнер махае ззаду бізуном, каб падняць каня на перашкоду, а Бумага ніяк не ідзе, кідаецца ўбок, і нясе Валодзю ў стайню. Цяпер слова за Яраславам. Бумагу сілком вяртаюць на канкурнае поле. Сарнацкі лёгка ўскоквае ў сядло. Моцным шэнкелем штурхае Бумагу да перашкоды. Бумага спрабуе зноў схітраваць, але на другім заходзе здаецца. Адзін за другім яна выконвае пяць скачкоў, і ўсе выдатна.

— Не трэба каню перашкаджаць. І каб ніякай няўпэўненасці! Зразумеў, Парахневіч?

Яшчэ цяжэй зразумець сэнс вышэйшай школы верхавой язды — вальтыжыроўкі. Наезнік павінен адчуваць самы нязначны рух спецыяльна выезджанага каня. Трэнер Васіль Рыгоравіч Турык — вялікі знаўца ў гэтай справе. Да вайны ён быў кавалерыстам, удзельнічаў у буйнейшых конных прабегах і спаборніцтвах, выездзіў не аднаго каня. Цяпер ён суддзя ўсесаюзнай катэгорыі.

Дзве вучаніцы Турыка — аператар аднаго з мінскіх заводаў Зоя Капылова і ратамская школьніца Святлана Шамак — падаюць ужо вялікія надзеі. Святлана першаразрадніца. Разам з Васілём Рыгоравічам яна марыць аб тым, каб стаць майстрам спорту. Тэрмін кароткі — год.

Наогул, планы ратамскіх коннікаў вельмі шырокія. Нядаўна ў Ратамцы заклалі падмурак для вялікага манежа. У манежы будуць фехтавальная зала, цір, плавальны басейн. Такім чынам, не толькі коннікі, але і пяціборцы атрымаюць добрую спартыўную базу.

Мясціны пад Ратамкай надзвычай маляўнічыя. Неўзабаве прыйдзе той час, калі Ратамка стане месцам буйнейшых міжнародных спаборніцтваў па коннаму спорту. Пашырацца магчымасці для тых, хто бярэ коней на пракат. І цяпер ужо Ратамку наведвае многа пракатчыкаў. За невялікую плату трэнер вучыць правільна трымацца ў сядле і кіраваць канём. Некаторыя з пракатчыкаў потым трапляюць у вучэбныя групы. Тут нічога дзіўнага няма: хто адзін раз паездзіў вярхом, хто адчуў у сабе жылку кавалерыста, таго за вушы не адцягнеш ад коней, ад коннага спорту.



Ён будзе коннікам...



Юра Крывіцкі на кані Старт бярэ «трайнік».

# ПАМЯЦІ ПАРТЫЗАН




Вялікія міжнародныя турніры ў Югаславіі сталі добрай традыцыяй. У апошнія гады яны прысвячаюцца гераічным юбілейным датам, звязаным з барацьбою югаслаўскага народа супраць фашызму. Такімі былі ў мінулым годзе: міжнародны турнір у Загрэбе, турнір Міру, і міжнародны турнір у Сараеве, дзе прымаў удзел і аўтар гэтых радкоў.

І вось нядаўна мне і маскоўскаму гросмайстру Ю. Авербаху зноў давялося ўдзельнічаць у вялікім міжнародным турніры ў Югаславіі. Роля гэтага турніру далёка выходзіла за межы 64-х клетак шахматнага поля. Ён быў як быццам бы часткаю вялікага ўсенароднага свята — 25-годдзя партызанскай вайны з фашызмам.

Наш прыезд у Цітова-Ужыцэ 4 ліпеня супаў з усенародным святам. Якраз у гэты дзень і пачаўся міжнародны турнір, на якім прысутнічала дзесяць гросмайстраў, тры міжнародныя і тры нацыянальныя майстры — прадстаўнікі ад сямі краін Еўропы.

Сярод удзельнікаў былі такія вядомыя шахматысты, як дзесяціразовы чэмпіён Югаславіі С. Глігарыч, чэмпіён Чэхаславакіі Л. Пахман, чэмпіён Балгарыі малады і вельмі перспектыўны гросмайстар Г. Трынгаў, югаслаўскія гросмайстры Б. Парма, А. Матановіч, Д. Чырыц. Цікавасць выклікаў і ўдзел аднаго з маладых шахматыстаў свету — Х. Рэе (Галандыя).

З масавых мерапрыемстваў найбольш запомніўся сеанс адначасо-

вай гульні, праведзены некалькімі гросмайстрамі на ста дошках. Ён адбываўся пад адкрытым небам на плошчы Партызана. З'ехаліся самыя моцныя шахматысты з усіх бліжэйшых гарадоў, прадстаўнікі зборнай юнацкай Югаславіі з Белграда. Тыя, хто выйграў у гросмайстраў, атрымалі каштоўныя ўзнагароды. Гэта быў сапраўдны шахматны бой, які пачаўся пасля паўдня і закончыўся, калі на плошчы было ўжо зусім цёмна.

У Югаславіі адчуваюцца сяброўскія, добрыя адносіны да нас, савецкіх людзей. Многія прасілі нас перадаць прывітанні беларускім партызанам, братам па барацьбе з гітлераўцамі. Трэба было бачыць, як шчыра перажывалі нашы югаслаўскія калегі за савецкіх футбалістаў на першынстве свету па футболу, якое адбывалася ў тыя ж дні і якое глядзелі па тэлевізару і ў Югаславіі!

Барацьба на турніры была вельмі жорсткая. У выніку — першае і другое месцы падзялілі аўтар гэтых радкоў і югаслаўскі гросмайстар Аляксандр Матановіч, набраўшы 10 ачкоў з 15 магчымых. Усяго толькі на паўачка ад нас адсталі лідэр югаслаўскіх шахматыстаў С. Глігарыч і Г. Трынгаў (Балгарыя). Потым ідуць: Ю. Авербах (СССР) і Б. Парма (Югаславія), Л. Пахман (Чэхаславакія) — па 8 ачкоў; Д. Чырыц (Югаславія) і Г. Фарынташ (Венгрыя) — па 7 ачкоў. Першыя дзевяць месц заваявалі галоўным чынам гросмайстры і толькі міжнароднаму майстру Г. Фарынташу ўдалося ўключыцца ў лік пераможцаў сярод майстроў. Аднак у турніры не было апошняга: кожны з чатырох удзельнікаў, якія атрымалі аднолькавую колькасць ачкоў, можа лічыць сябе на трынаццатым месцы, а не на пятнаццатым і шаснаццатым...

Правесці турнір без паражэнняў удалося мне і Б. Парму. Рашаючай была, здаецца, партыя з С. Глігарычам. Але калі спартыўныя вынікі мяне больш чым узрадавалі, творчым бокам гульні я задаволены значна менш. У партыях з гросмайстрамі А. Матановічам, Б. Пармам, майстрам А. Іоўчыцам я не давёў перавагу да канца.

Трэба сказаць, што турнір быў вельмі добра арганізаваны, і тут перш за ўсё заслуга энтузіястаў шахмат раёна Цітова-Ужыцэ, а сярод іх перш за ўсё прафесара Нікітавіча. Турнір і ўсё свята былі прысвечаны памяці партызан — барацьбітоў супраць фашызму.

Я свае дасягненні на турніры прысвячаю памяці беларускіх партызан, змагароў за лепшую будучыню Радзімы.

Прыводжу вельмі павучальную партыю гэтага турніру.

**А. Суэцін — Б. Парма.** Абарона Уфімцава.

1. e2—e4 d7—d6
2. d2—d4 Кg8—f6
3. Кb1—c3 g7—g6
4. Сc1—g5 c7—c6
5. Фd1—d2 b7—b5

Характэрны план абароны чорных у гэтым дэбюце: яны не спяшаюцца развіваць свой каралеўскі фланг і імкнуцца стварыць актыўную пазіцыю на ферзевым фланзе, думаючы тут захапіць «лакальную» прастору. Заўважым, што на 5. Сg7 белыя збіраліся прадаўжаць 6. Сh6, разменьваючы важнага чарнапольнага слана чорных.

6. Сf1—d3 Кb8—d7
7. Кg1—e2 Кd7—b6
8. 0—0 h7—h6?

Хоць гэты пралік цяжка заўважыць, але ён вельмі істотны. Чорныя, як відаць, менш за ўсё лічыліся з наступнай разменнай аперацыяй, а разглядалі толькі розныя адыходы слана, што дало б ім у выпадку 9. Сh4, або 9. Сf4, пасля 9. ... g5, 10. Сg3 Кh5, размен важнага чарнапольнага слана белых, захаваўшы яго «апанента».

Правільна было б, як відаць, 8. ...a6, умацоўваючы пункт b5 і намячаючы падрыў у цэнтры шляхам c6—c5. 9. Сg5 : f6!

Толькі так у сувязі з наступнай атакай у цэнтры.

9. ... e7 : f6
10. d4—d5! b5—b4

Лепшага няма. Інакш чорныя неслі матэрыяльныя страты.

11. Кc3—d1 c6—c5
12. Сd3—b5+

Развіццё адзінага плана. Белым выгадна выклікаць размен белапольных сланоў. Чорным цяжка ажывіць дзейнні свайго чарнапольнага слана, а пры дадзенай пешачнай структуры белыя коні вельмі моцныя.

12. ... Сc8—d7

Вядома, зусім не прываблівае 12. ... Кd7, 13. Сc6, і чорныя надоўга звязаны.

13. Сb5 : d7+ Фd8 : d7
14. Кd1—e3 Сf8—g7
15. a2—a3

Правільнае рашэнне. Гуляючы так, чорныя павінны былі лічыцца з падрывам 15. ... f5. Тады белыя збіраліся ахвяраваць якасць шляхам 16. ef! С : b2, 17. ab! С : a1, 18. Л : a1. У белых — пешка за якасць і мацнейшая ініцыятыва. Вельмі цяжка знайсці надзейнае сховішча чорнаму каралю. На 18. 0—0 вельмі моцна 19. Кg4, а ў выпадку 18. ... cb, 19. Фd4, і пагрозы белых адбіць нельга.

15. ... b4 : a3
16. Лa1 : a3 0— 0
17. Кe2—c3 Лf8—e8
18. Фd2—d3 h6—h5
19. b2—b3 Фd7—c7

Тут, на маё здзіўленне, Б. Парма прапанаваў нічыю. Я, вядома, адмовіўся, таму што не бачыў хоць крыху здавальняючай контргульні за чорных.

20. Лa3—a6!

Перад чорнымі вельмі цяжкія канкрэтныя задачы абароны. Як сказаў пасля партыі Б. Парма, ён недаацаніў гэты манеўр (які, дарэчы, выцякае з сутнасці самой пазіцыі).

20. ... Лa8—d8

Пагражала 21. Кb5 або 21. Кc4. У чорных не было карысных ходаў, і яны лічаць за лепшае праз ход аддаць злашчасную пешку на a7, толькі б атрымаць хоць якую-небудзь контргульню.

21. Кc3—b5! Лd8—d7
22. Кb5 : a7

Самае простае, хоць вельмі заманліва было і 22. Кc4 К : c4, 23. Ф : c4, не спяшаючыся з матэрыяльнымі заваёвамі. І тут у чорных было б нездавальняючае становішча.

22. ... c5—c4

Дасціпны і ўдалы контршанс. Чорныя ахвяруюць яшчэ адну пешку дзеля абвастрэння гульні.

23. b3 : c4?

Толькі адзін ход белыя зрабілі машынальна, і гэта касуе ўсё, што было зроблена перад гэтым!

Не цяжка пераканацца, што пасля 23. К : c4! К : c4, 24. Кc6 Ф : e4, 25. bc у белых заставалася ў эндшпілі лішняя пешка пры пераважаючай пазіцыі, і справа была б толькі ў рэалізацыі перавагі.

Пачынаючы з гэтага моманту перавага белых паступова меншае. Б. Парма абараняецца вельмі вынаходліва.

23. ... Лd7 : a7
24. Лa6—b6 Лa7—c7
25. Лf1—b1 Сg7—h6
26. Лb6—b8

Заслугоўвала ўвагі 26. g3.

26. ... Кpg8—g7
27. Лb8 : e8 Фe7 : e8
28. Фd3—d4

Б. Парма канчаткова выпускае перавагу з сваіх рук. А між тым, рэальныя шансы на выйгрыш захоўвала 28. g3, не пускаючы слана на f4.

28. ... Лc7—e7
29. f2—f3 Фe8—a4!

Энергічны выпад, які служыць сігналам да контратакі чорных.

30. c2—c3 Фa4—a2
31. Лb1—b4 Лe7—a7
32. Кe3—f1

Белыя павінны быць асцярожнымі: іх кароль пры выпадку можа трапіць пад матавую атаку.

32. ... Сh6—f4
33. Фd4—d3 Лa8—a3!
34. Лb4—b1 Сf4—e5
35. Лb1—c1 Сe5—f4

У цэйтноце белыя паўтараюць хады. Зрэшты, тут ужо няма рэальнай перавагі.

36. Лc1—b1 Сf4—e5
37. Лb1—c1 Сe5—f4
38. Лc1—d1 Фa2—b2

Прасцей было 38. ...Сe5.

39. Лd1—b1 Фb2—a2
40. g2—g3 Сf4—e5
41. Лb1—c1

Цяпер пагражае 42. f4. Але наступны адказ чорных разраджае напружанне.

41. ... Фa2—b2!

І мы згадзіліся на нічыю. На 42. Лc2 будзе не 42. ...Фb1?, а 42. ...Фa1, і, адыгрываючы пешку c3, чорныя поўнасцю ўраўнаважваюць шансы.

**Аляксей СУЭЦІН.**

# *Усмешкі маладосці*

Пятро СУШКО

## ЗВАРОТ АТЭІСТА ДА БОГА

Бог ты бог,
чаму ж ты даў мне цешчу,
Што так моцна верыць у цябе.
Як я жонку і дзяцей ні пешчу,
А яна ж
усё мяне скубе.
— Каб магла б,—
гаворыць,—
рэмнем секла,
Бо цябе прызнаць я не хачу.
Цешыць раем,
Пагражае пеклам.
Я знямогся
і ў адказ—маўчу.
Цяжка мне,
нібыта шматпудовы
Мех
я на плячах сваіх
цягну.
Што казаць,
калі мой кожны довад
Цешчы, бы гарох той
аб сцяну.
Я ёй пра рэлігію тлумачу,
Як узніклі храмы і крыжы.
А яна:
— Ты ж сам таго не бачыў,
А не бачыў, значыць—
не кажы.
Я ў яе пытаю:
— Ну, а самі
Бачылі хоць рай ці пекла вы!
Кажа:
— Так гаворыцца ў пісанні.
Я ж не выдумляю з галавы...
Я ёй пра пісанні не такія,
Пра мільёны
ненабожных кніг.
Уздыхае:
— Ох, грахі людскія...
Як жа бог пакутуе ад іх!
— Ды яго ж няма
і быць не можа,—
Ледзь не плачу.
Толькі ўсё дарма:—
—О, магутны,
справядлівы божа!
Ну скажы ёй,
што цябе няма.



## ШПАРГАЛКІ



Міхась СКРЫПКА

Мал. А. Чуркіна

І пры цары Гароху,
І пры Міколу Палкіну
Студэнт дружыў патроху
З праклятаю шпаргалкаю.

І ў век дваццаты, атамны,
Не расстаемся змалку мы
Усё з тымі ж распраклятымі
І... зручнымі шпаргалкамі.

## КРЫТЫЧНЫ МОМАНТ



Тупее пад раніцу памяць:
У дзевяць адказны экзамен.
І медзь не брынчыць у кішэні,
І ў тумбачцы, як на калене.

## ІЛЖЫВЫЯ ПАКАЗАННІ

Клянецца на каленях
Лене:
— Ты самая родная,
Зорка пуцяводная!
Клянецца Тамары:
— Ты мая мара!
Пасля па тэлефоне
Штурмуе сэрца Соні:
— Прыходзь, мая любімая,
Нікім не замянімая!
Клянецца перад Зінаю:
— Ты ў мяне адзіная!

Такое вось каханне
Кваліфікуюць людзі,
Як дачу ілжывых паказанняў, —
За што, на жаль, не судзяць.






**ВЯРБА Вера** нарадзілася ў 1942 годзе ў Талачыне, на Віцебшчыне. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Аўтар зборніка вершаў «Вочы вясны».

**СТАВЕР Алесь** нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Маргавіца Докшыцкага раёна. Закончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Мае два зборнікі вершаў: «Золак над Бярозай» (1959) і «Касцёр не гасне» (1961). Аўтар тэкстаў многіх песень.

Раман «Пад канвоем» першы буйны празаічны твор пісьменніка.

**ВАСЬКО Уладзімір** нарадзіўся ў 1937 годзе ў Шчучынскім раёне. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты.

Скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут імя Янкі Купалы. Працуе дырэктарам сярэдняй школы рабочай моладзі.

**ГРОДНЕЎ Мікола** нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Старая Алешня Рагачоўскага раёна. У 1953 годзе скончыў Гомельскі педінстытут імя В. Чкалава.

Працаваў некаторы час настаўнікам на Вілейшчыне, пасля — у радашковіцкай раённай газеце, у газеце «Літаратура і мастацтва». Цяпер — супрацоўнік часопіса «Вожык».

Першыя празаічныя творы з'явіліся ў друку ў 1956 годзе. Выйшлі з друку кнігі прозы «За бацькоўскім парогам» і «Цяжкае шчасце».

**СЕРБАНТОВІЧ Анатоль** нарадзіўся ў 1941 годзе на Шклоўшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Бярозка».

Сёлета выйшаў з друку яго першы зборнік вершаў «Азбука».

**МАЕЎСКАЯ Ніна** нарадзілася ў 1938 годзе ў г. п. Любань.

Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Цяпер працуе ў шматтыражнай газеце на адным з мінскіх прадпрыемстваў.

**ЛОЙКА Алег** нарадзіўся ў 1931 годзе ў Слоніме. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна, дзе і чытае цяпер курс беларускай літаратуры.

Аўтар кніг «На юначым шляху», «Задуменныя пералескі», «Дарогі і летуценні», «Новая зямля», «Максім Багдановіч» і іншыя.

**АГНЯЦВЕТ Эдзі,** якой у гэтым месяцы споўнілася пяцьдзесят год, нарадзілася ў Мінску ў сям'і служачага.

Скончыла Мінскі педінстытут імя А. М. Горкага. Аўтар паэтычных зборнікаў «Маё пакаленне», «Вясновай раніцай», «Край мой родны», «Дарога ў будучыню», «Ля піянерскага кастра», «Беларуская рабіна» і кніжак для дзяцей.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 10**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАЎЧАНКА.**
Карэктары **Лідзія ТАЎЛАЙ** і **Ніна КУЛАКОЎСКАЯ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1.IX.66 г. Падпісана да друку 27.IX.66 г.
АТ 08824. Тыраж 7770 экз. Зак. 494. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.**



Анатоль **АРЦІМОВІЧ.** Юнацтва.